Іван Грамовіч



# Чатыры сантыметры надзеі



ІВАН
ГРАМОВІЧ

# Чатыры сантыметры надзеі

Аповесць,
апавяданні

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

ББК84 Бел7
Г 76

*Рэцэнзент Алесь Масарэнка*

**Грамовіч І.**

Г 76 Чатыры сантыметры надзеі: Аповесць, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 256 с.: іл.

У аповесці «Чужога поля...» праўдзіва і яскрава адлюстраваны падзеі трыццатых гадоў — калектывізацыі і індустрыялізацыі краіны. Ідзе непрымірымая барацьба новага са старым, аджыўшым. У гэтых нялёгкіх, а часам і драматычных абставінах дзейнічаюць героі аповесці — старшыня калгаса Вароніч, яго намеснік Саковіч, камсамольцы Дубовік, Бортнік і іншыя. Няпроста даецца ім перамога над класавымі ворагамі Савецкай улады.

Цікавым жыццёвым матэрыялам насычаны і апавяданні.

Г $\frac{4702120200-076}{M302(03)-87}$ 12—87 ББК84 Бел7

## I

Зімою, у самым пачатку новага тысяча дзевяцьсот трыццаць... года, начным цягнікам Стась Вілюевіч вяртаўся ў Мінск. Даўно ўжо вось так не пад'язджаў ён да горада з боку Калодзішчаў. Нецярпліва шкрэбаў пазногцем марозную шыбу, дыхаў на шкло і ўсхвалявана разглядаў праз выхуканае вочка бляск зарыва над Сляпянкай.

Ён не зайшоў у памяшканне вакзала, а, узяўшы свае чамаданы, падаўся ў хвост цягніка. Мінуўшы перон, па сцежцы, вытаптанай узбоч насыпу — тут ліхтароў не было і хадзіць цераз чыгуначную каляю забаранялася,— накіраваўся назад, да Свярдлоўскага пераезда.

Калючы вецер сляпіў вочы. Ногі мясілі сыпучы снег.

Стась Вілюевіч ведаў тут усе хады і выхады, вуліцы і завулкі. Ад пераезда, калі ісці Чэрвеньскім трактам, па правай старане за рынкам жыў яго сябра Юзік. Некалі яны разам ездзілі кандуктарамі на прыгарадных паяздах. Бывала, пасля змены ён прыходзіў сюды і да наступнага рэйса жыў як дома. Па сутнасці, Вілюевіч бясплатна кватараваў у бацькоў Юзіка. Ад іх ён мог хадзіць на гулянкі ў сад «Прафінтэрн», у кінатэатры, на вячэрнія сеансы і вяртацца калі хацеў.

Адчыніўшы калітку ў браме, якая для пабочных хітра замыкалася, ён апынуўся на знаёмым гарадскім дворыку. Нават сабака пазнаў Стася, гаўкнуў, а потым вінавата завіляў хвастом.

— Хто там? — на стук пачулася ў сенечках.

— Я-а, Стась Вілюевіч. Помніце, да Юзіка прыходзіў? Ваш Юзік дома?

— Няма Юзіка, у Маскве Юзік,— нездаволена адказала гаспадыня, але ўсё ж, грукнуўшы засаўкай, дзверы адчыніла.

Юзікаў бацька, былы чыгуначнік, крыху глухаваты, панура прывітаўся. Каб не турбаваць старых, позна ўжо,— Вілюевіч сказаў, што на вакзале заходзіў у буфет,— ад кубка чаю ўдзячна адмовіўся.

Да сну гаварылі пра Юзіка, што ён паехаў на вучобу і скора закончыць. Гаспадыня засцілала канапку. Закрануць у размове пра свой намер, пра сваю мару — усю дарогу Вілюевіч думаў: знайсці ў горадзе якую-небудзь працу, хоць бы куточак і прапісацца,— неяк не асмеліўся.

На гэтай канапцы Стась, помніцца, адпачываў. І цяпер, пасля жорсткай голай полкі ў вагоне, як прыемна было яму з холаду адчуць утульнасць і цяпло пад коўдрай, як у раскошнай пасцелі.

«От бы тут кватарантам застацца,— думалася Вілюевічу.— Не трэба лепшага. Адразу, калі не знайду талковай работы, буду як-небудзь туляцца на Чэрвеньскім рынку. Балазе ён блізка».

На чыгунцы дзесьці каля пажарнай гукнуў паравоз. Змардаваны, знябыты доўгімі начамі ў дарозе, Стась Вілюевіч як заплюшчыў вочы, дык і праваліўся ў сон.

Разбудзіла яго гаспадыня. Напалоханая.

— Праверка пашпартоў, уставайце!

Стась Вілюевіч, у кашулі і споднiках, спусціў ногі з канапкі, дастаў з кішэні пінжака, павешанага

на спінку крэсла, усе свае дакументы і працягнуў участковаму міліцыянеру, які сядзеў за сталом. Той марудна пералістаў, перачытаў лісткі пашпарта і ў сваю чаргу працягнуў яго гаспадару кватэры:

— Чыталі? — і строга звярнуўся да Вілюевіча: — Даўно жывяце?

— Толькі во гэту ноч,— адказаў за яго Юзікаў бацька.

— Вам без прапіскі пражываць у Мінску нельга. Неадкладна прапісвайцеся. Праз тры дні зайду, праверу.

Вілюевічава мара і просьба да Юзікавых бацькоў вырашалася неяк сама сабой.

— Што, калі я ў вас прапішуся? — снедаючы, пачаў прасіцца Стась.— Часова пакуль!.. Вы ж мяне ведаеце. Разам з Юзікам ездзілі. А як мы дружылі?!.

— Не,— пакруціла галавой гаспадыня.— Мы чакаем сынавай сям'і. Ён ажаніўся. З жонкай, з унукам на вясну сюды прыязджае. Мы ім дакляравалі гэты пакойчык. У доме, выбачайце, будзе цесна.

Стасю не верылася, што ў доме будзе цесна. Колькі яму, адзінокаму, трэба месца?!. Напэўна, пашпарта яго спалохаліся. Што ж, прымусам у людское давер'е не паселішся.

Два дні шукаў работы і кватэру Стась Вілюевіч. І не напытаў.

Панылы настрой апанаваў Вілюевіча. Тэрмін, вызначаны ўчастковым, скончыўся. Куды цяпер яму падацца?

У марозным паветры церушыўся рэдкі іней — дробныя срэбныя сняжынкі. Хоць хмар над Мінскам не было, свяціла сонца. Свяціла — ды не грэла...

## II

Прыгарадны цягнік, які адпраўляўся на Пухавічы, стаяў на трэцяй каляі, падрыхтаваны да пасадкі. З бляшанай чорнай трубы ў хваставым вагоне над тэндарам цадзіўся дымок, дзе напальвалі печку.

Пасадку яшчэ не абвяшчалі, толькі Стась, як бывалы чыгуначнік, абышоў вакзал і паявіўся на платформе са сваім ладным чамаданам і маленькім падчамаданікам.

Невысокія кароценькія прыгарадныя вагоны, з вузенькімі вокнамі, пафарбаваныя ў зялёны, а іншыя — проста ў няпэўны колер,— чакалі штурму пасажыраў. Чакалі паравоза.

Здаралася, што састаўшчыкі пры ўкамплектаванні прычэплівалі да цягніка ў рэйс адзін стары вагон або два, з кур'ерскага. Такі, што адбегаў свой век, але на блізкую адлегласць яшчэ мог каціцца па рэйках. Вось такі вагон, з шырачэзнымі вокнамі, колерам пад мораны дуб, угледзеў Вілюевіч пасярэдзіне саставу, дзе меўся стаяць той, што з шыльдачкай: «Для маці і дзіцяці». Ён і прывабіў Стася. Нібыта свой, ён прыняў на прыступкі чамаданы; Стась штурхнуў дзверы — самі адчыніліся.

Вілюевіч зайшоў, адшукаў надзейнае купэ,— калі наб'юцца, то не больш шасці чалавек,— паставіў пад адкідны столік рэчы і ўздыхнуў. Потым паківаў галавой: якія безгаспадарнікі! Хіба можна так давесці першакласны вагон? Усё абдрыпана, паламана. Дзверы са скрыпам адчыняліся і зачыняліся. Сярэднія полкі наглуха прыбіты да сценак, што адгароджвалі купэ ад купэ. Цяпло, мабыць, тут не начавала. Вокны пабіты.

Але Стась, задаволены сваёй удалай пасадкай, сеў ля заканапачанага фанеркай акна і локцямі

ўспёрся на плацкартны столік. У такім закутку, можа, не ўсякі яго заўважыць. Ён не жадаў ні з кім ні сустракацца, ні бачыцца. А ў гэты бок, на радзіму едучы, усяго можна было спадзявацца.

Вілюевіч выцягнуў з кішэні пакуначак у газеце, разгарнуў звараныя ўкрутую яйкі, соль і скібку чорнага хлеба, купленыя на вакзале ў буфеце для прыгараднікаў. Увесь гэты харч старанна разлажыў перад сабой — у жываце ныла і смактала,— Стась нечакана абрадаваўся: вось дзе можна яму смела і вольна распачаць перакуску.

Толькі цюкнуў яйцо аб край століка, як раптам уваліўся пасажыр у футры, стомлена дыхаючы, ён гэпнуў на паліцу пузаты баул і цяжка ўсеўся на лаўку перад Вілюевічам.

Цяпер ужо, бач, лепшыя месцы ля акна былі занятыя і ўсе, хто заглядваў у іх купэ, праходзілі далей. Два першыя пасажыры раскашаваліся адны і цікавалі: што ў яго за сусед?

— Здаецца, ці не Бранiслаў, братко?

— Вілюевіч.

— Здароў, братко!

— Здароў!

У размове Стася была прывычка: да таго, з кім ён гаворыць, звяртацца са словам «братко», з націскам на «ко», і вельмі часта ўжываць «калі ласка», якое выходзіла суцэльна «кальласка». Яго сусед — наадварот, відаць, быў не такі ласкавы і гаваркі, прывітаўся аднаслоўна, са здзіўленнем. Аднак, штосьці ўспамінаючы, пачаў насупліваццa, моршчыць лоб і сваю шапку, пашытую з шэрага зайца, нібы між іншым (тэмпература ў купэ гэтага не вымушала!) сцягнуў з галавы, быццам ушаноўваючы сустрэчу.

— Колькі ж гэта мы з табою не бачыліся? — павольна працадзіў ён.

Тады і Стась Вілюевіч паспяшаўся не адстаць — скінуў сваю скуранку-кубанку. Думаў: балазе, што зусім не расчаўся са снеданнем, толькі носік яйка разлушчыў... Стась тут жа загарнуў усё ў паперу, сарамліва пасунуў яе да акна і накрыў кубанкай.

— Даўно, даўно, братко, не бачыліся,— радасна адказаў Стась.— Ну, ты, братко, выглядаеш салідна. Як вараціла. Я цябе адразу не пазнаў. Багаты будзеш.

У адказ Браніслаў неяк мыкнуў ці гмыкнуў.

— Думаю, хто ж гэта такі ўваліўся? Нейкі ўпаўнаважаны. Не-е, думаю, бяры яшчэ вышэй...

Абодва засмяяліся.

Стась Вілюевіч і Браніслаў Хутаранскі калісьці добра сябравалі, вялі хаўрус. Некалі яны ўдвух, разам, уладжваліся на мінскі мясакамбінат. І ўладзіліся... А што трэба было чалавеку з вёскі? Застацца ў горадзе, выбраць работу, каб капейка ішла і каб было казённае забеспячэнне. Як казалі: хоць не ўлежна, але ўежна. Яны тады бегалі худыя, падгалістыя, апранутыя па-вясковаму. Хутаранскі, праўда, выглядаў крыху заможней і ростам выдаваў на гады чатыры старэйшы.

Уладкаванне ў Мінску іх пазнаёміла і зблізіла. Хутаранскі, хоць меў на руках станоўчыя даведкі, дома не ўпадабаў новага калгаснага ладу. Больш таго, ён знелюбіў гэту перамену і ў душы прасіў ад бога якога-небудзь вяртання былых правоў на зямлю. Звычайна насуплены, ён нікому такіх думак не выказваў. Ні на кога нічога благога не гаварыў, але Стась адчуў патаемную незадаволенасць Браніслава Хутаранскага, яго нараканні зведаў асабліва тады, калі яны зблізіліся. Пасябравалі не адразу, але моцна.

У Стася таілася іншая прычына адыходу ў горад. Ён пакідаў свой Дубовы Гарадок не без болю

ў сэрцы. Гісторыя яго, маладога вясковага хлопца, вясёлага гаваруна, была далёка не вясёлая. Але аб гэтым пазней.

На мясакамбінаце абодвум пашанцавала. Тут яны дасягнулі таго, чаго хацелі. Вядома, службу неслі бездакорна і спраўна. Ніякіх работ не цураліся. Хутка ім даручылі ездзіць па кантрактацыі — нарыхтоўцы сыравіны. Тыдзень адпакутуюць, а ў суботу — вольныя казакі. Ехалі ў сёлы, дзе завялі знаёмства. А там — вечарынкі, кірмашы... Бывалі не раз і ў Стасевым Дубовым Гарадку. І калі дубаўчане цікавіліся, дзе працуюць, Стась з гонарам выхваляўся: «Мы ў Мінску пастаўляем дэфіцытныя прадукты ў сталоўку Саўнаркома». І яму нельга было не даць веры: па вуліцы шпацыравалі гладкія фарсуны, якія ўмелі браць па поўнай шклянцы... Значыцца, было за што!..

Потым — разлучыліся. Стася прызвалі ў армію — падаспеў год,— а сябра застаўся на мясакамбінаце... З таго часу яны і не бачыліся...

— У свой Дубовы Гарадок кіруешся ці куды?

— Пагляджу, братко. Можа, і туды загляну. Але спярша еду ў Навасёлкі. Там жа цётка мая, помніш, Пагуляйская? Просіць, каб я праведаў яе.

Тут была і праўда і няпраўда. Стась і хацеў схлусіць і не хацеў. Што ён намерыўся ехаць у Навасёлкі — гэта так, але што цётка запрашае яго да сябе — не зусім так. Як жа цётка Пагуляйская магла запрашаць да сябе ў госці, калі яна ніколі не знала: дзе, у якім горадзе жыве яе пляменнік Стась? І ён ні разу не пасылаў ёй ліста, а яна — яму... Вілюевічу карцела выпытаць у Хутаранскага, куды ён накіроўваецца і хто ён такі зараз?

— А ў цябе, братко, білет дакуль?

Хутаранскі, расшпіліўшы футру, сядзеў змора-

на і надта важна. Ого, як ён разбыўся, раздаўся, памажнеў! Зрабіліся пульхныя шчокі, залысіны пабольшалі. А вопратка — куды тут Вілюевічу... У яго — кубанка-набіванка з карычневым скураным верхам і адваротам на аплічках, а ў Браніслава — бухматая заечая шапка — няйнакш з двух зайцоў-шаракоў. Яе насунуў — што пад страхой, як у цёплай хаце, а ў Стасевай кубанцы ў мароз, каб затуліць вушы, па баках трэ было адшпіліць два аплічкі і апусціць сценкі тоненькага, вынашанага каракуля. У яго футра з каўняром, ці то з мядзведзя, ці то з янота — чорт яго разбярэ! — вязаная кашуля хамутом пад горла, а на Стасю — асенняе бобрыкавае паліто і на шыі — шаўковае кашнэ, як звітая жаночая панчоха. У аднаго на нагах — белыя фетравыя буркі, у другога — стаптаныя ботыджымі. Праўда, наваксаваныя да бляску, і, наогул, Вілюевіч увесь, па-былому, як элеганцік-франт — па модзе!..

— Білет да Ціханавіч,— па-сяброўску, падабрэўшы, прызнаўся Хутаранскі.— У Ціханавічы па мяне прышлюць фурманку. Калі хочаш, давай паехалі...

Вілюевіч разгубіўся, адразу не ведаў, што адказаць на гасціннае запрашэнне. Толькі на душы ў яго стала цяплей. Былыя дружбакі паразумеліся... Як Стасю зараз хацелася спаткацца, разгаварыцца, параіцца з кім-небудзь даўно знаёмым, але каб шчырым, добразычлівым, не якім-небудзь брахуном, плеткаром, кляўзнікам, які потым разнясе па ўсёй мясцовасці: «Во, я бачыў Вілюевіча. Хоць, як раней, модны, але незавідны, нейкі пакамечаны...» Хацелася спаткаць блізкага па сэрцы, каму можна было адкрыцца і паскардзіцца. Такога, хто не толькі паспачуваў бы — парадзіў бы, памог. Вілюевічу зараз было вельмі горка і крыўдна. У Мінску яго

не прапісалі. Надалей — ніякіх планаў. Хоць ты — пад колы вагонаў...

— Дзякуй, братко, дзякуй! — міргаючы, матляў галавой Стась.— Гэта ж я тут, братко, збіраўся ліквідаваць свае запасы. Гаспадыня мая, дзе я кватарую... казаў жа ёй... не трэба!.. Не, напхала поўныя кішэні. Кальласка! Каб ужо, прабач, сякое-такое скаромнае, а то — інтэлігентнае, братко, гарадское... Во, яйкі!

Ён, як фокуснік, падняў кубанку.

— Э-э, камароўскія бабы,— буркнуў Хутаранскі.— Усё з рынку.

Бранілаў расшпіліў баул, дастаў у тлустай газеціне штосьці важкае... Загорнутая ахлапіна кумпяка!

— На!

— Ого-го! — абрадаваўся Вілюевіч.— А помніш, братко, як мы ў Дудзічах на кірмашы гулялі? От дзе было каўбас! Смажаных, колцамі, на ўсю скавародку... А вянгліны! Во папілі гарэлкі, помніш?

Паклаўшы на адкідны столік разверчанае любовае мяса і нож-складанчык, які знайшоўся ў бауле, Браніслаў загадаў:

— Рэж, сілкуйся! А яйкі гаспадыні вернеш.

— Хе-хе-хе, дзякуй!

Вілюевіч адмаўляўся, робячы выгляд, што ён не галодны, сыты.

— Не саромейся, бяры! Я ўжо здаволіўся, не хачу...

— Дзякуй, братко!

Тут падагналі паравоз. Састаў калыхнуўся назад, быццам для разгону.

— На гарэлку выбачай!.. Няма. І пячонка пабольвае. Не магу!.. Ну, калі выпадак які... Заедзеш да мяне, кульнём па маленькай... Як жывеш?

— Дзякуй, братко!..

— Ты не дзякуй, а еш!.. Выгляд у цябе такі, я сказаў бы, нягеглы...

— Ночы не спаў, здарожыўся... Камандзіроўка!

— Куды пасылалі? Хто?

— А ты ў саміх Ціханавічах працуеш? Можа, у сельпо? Калі не сакрэт, братко?..

Цягнік крануўся і паплыў.

— Перакусі! Прыедзем у Ціханавічы, пабачыш.

Вілюевіч адрэзаў лустачку, пакаштаваў, штосьці памеркаваў і стаў загортваць пачастунак Хутаранскага.

— Не падабаецца вянгліна?

— Не, братко, смачная. Але я сабе мяркую, дзеля чаго перабіваць апетыт? Я, братко, не галодны, дальбог! Гэтыя яйкі, хе-хе, кішэню мулялі... Я от думаю, няхай ужо, як ты раіш... Дачакаюся абеду ў цябе!

— Ну, вядома. Ваапшчэ, як хочаш.

— Дзякуй, дзякуй, братко!

Далей пад грукат калёс, нідзе не дзенешся,— сяброўская сустрэча! — павінна была пайсці адкрытая размова, якой Вілюевіч хацеў і баяўся.

— Тут нікога няма,— здагадаўся заспакоіць Хутаранскі,— я цябе, як ты некалі выражаўся, з дарагой душой, слухаю.

Вілюевіч уздыхнуў і пачаў:

— Я, братко, так скажу...

...Расказаць, але што расказаць? Усё, што было пасля іх расстання? Не, усяго не раскажаш. Аб усім расказаць немагчыма. Ёсць такое, аб чым прызнацца не хацелася б... Хто гэта хоча прызнавацца,— калі гэта не суд,— як ён зрабіў недарэчнасць, дапусціў памылку або, нарэшце, ганебны ўчынак? Гэта не ў натуры Вілюевіча!.. Што ён хоча раскаяцца ці гэтым прасіць парады?.. І непрыемна і позна... Не, такое Вілюевічу не хацелася ўспамінаць.

Але, калі не прызнацца таму, каго раней лічыў лепшым сябрам, каму тады раскажаш, з кім падзелішся скрухай? Мо стане мякчэйшы боль?.. Цётцы, да якой ён ехаў,— тая ўжо старая, бездапаможная. Бацьку — што бацька?!

...Дык от так: пасля службы ў арміі, дзе Стась служыў у гаспадарчым узводзе спачатку радавым, а потым — старшым кладаўшчыком на прадуктоварэчавым складзе, ён прыехаў у Мінск. Дадому, у родны Дубовы Гарадок, нават не паказаўся, бо бацька ў сям'і абняславіўся, як кажуць, запляміў сваю рэпутацыю. Па Мінску Стась хадзіў, як і сёння, блукаў. Хутаранскага не знайшоў: дачуўся, што той звольніўся адтуль, дзе разам працавалі. А трэ было думаць пра кавалак хлеба. Да вучобы яго не цягнула. Работа на заводзе «Ударнік» здалася цяжкой. Сярод аб'яў па набору рабочай сілы ён шукаў лягчэйшай вакансіі. Як-ніяк — дэмабілізаваны чырвонаармеец. Гэта штосьці значыла... І ён уладкаваўся на чыгунцы. Скончыў кароткатэрміновыя курсы і стаў правадніком. Месца, як казалі, з перспектывай. Ездзіў на прыгарадных, на такіх, як вось гэты — пухавіцкі... Праз год, атрымаўшы павышэнне,— у нейкай меры яго жаданню суджана было збыцца,— ён уладкаваўся на экспрэс «Стоўбцы — Манчжурыя». У вагоне «СВПС» — што азначала: спальны вагон прамых шляхоў зносін...

Экспрэс «Стоўбцы — Манчжурыя»! Імчышся цераз усю краіну з захаду на ўсход — туды і назад,— мінаючы розныя раз'езды і паўстанкі. Нават не на ўсіх буйных станцыях прыпыняешся. Толькі адчыніш дзверы і сцяжок высунеш...

А які гонар маеш, едучы з замежнымі пасажырамі! «Пардон!..», «Фаркартэ...», «Қальласка!» Заграніца, усё замежнае, як магнітам, заўсёды прыцягвала Вілюевіча. Ён захапляўся адзеннем з-за

мяжы, замежнымі модамі, рэчамі... Прыкладна, мыдлярка — і тая нейкая люстраная, бліскучая, пахучая. І мыла, і зубная шчотачка пахлі нечым прывабным. Не сваім!.. Свойскае нічым не пахне. Ведама, сваё — таму і не пахне, не прываблівае... Ого, як яму хацелася зазірнуць у свет па той бок мяжы, пабываць за граніцай, мінуць Стоўбцы і паехаць далей... аж у Парыж! Мара такая ў Стася мільгала, але яна здавалася недасягальнай. Чаго табе ў Варшаву? У Парыж? З якой рады? Ты — просты хлопец, дубаўчанін, скончыў няпоўную сярэднюю школу, да арміі працаваў нарыхтоўшчыкам на мясакамбінаце. У арміі служыў у батальёне абслугоўвання на аэрадроме — вось і ўся біяграфія. А туды ехалі дыпламаты з партфелямі, камерсанты, багатыя пасажыры. Вілюевіч прыблізна, на вока, мераў вагу кожнага свайго пасажыра і ведаў мэту паездкі. Вілюевіч любаваўся імі, іхняй вопраткай і дарожнымі рэчамі. Ён старанна памагаў унесці чамаданы, пакласці на верхнюю полку. Прыслужлівасць, пакланенне перад старэйшым, перад начальнікам, калі быў у арміі, выпрацаваліся ў характары не толькі згодна дысцыплінарнага статута. Такое жыло ў ім і раней. Наогул, прыслугоўваць каму-небудзь — паслухацца, выканаць, прынесці, аднесці — заўсёды падабалася Стасю. А калі ўжо Вілюевіч стаў правадніком, дагадзіць замежнай асобе — дыктаваў абавязак. Вядома, не так сабе, не задарам. Гэта само сабой разумелася. За пасцель, якую ён навучыўся з манжэтамі гладка засцілаць, за прынесены ў пару гарачы салодкі чай, за ветлівасць — а Вілюевіч, як ніхто, умеў ласкава абыходзіцца,— за ўладкаваныя чамаданы, за ўсё, усё — шыкоўныя пасажыры не скупіліся пакінуць гаспадару вагона сёе-тое... У Вілюевіча неўзабаве завялася немалая капейка. Ды каб толькі

капейка! З'явіліся некаторыя каштоўныя рэчы, пакінутыя праезджымі «на памяць» або забытыя няўцям.

І вось, аднойчы, нібы змрок у тунелі, як едзеш ля Байкала, ясны дзень Вілюевічу засланіў цемрай адзін выпадак. Замежная пасажырка, да якой Стась дасціпна звяртаўся і яна ўсю дарогу да яго, здаецца, гарнулася, тулілася, заявіла начальніку поезда, што ў яе здарылася прапажа. Прапаў рыдыкюль з кракадзілавай скуры. «Наліха мне ён, дамскі! Хіба я стаў бы яго насіць?» — перад начальнікам апраўдваўся Вілюевіч, калі прапажа выявілася ў яго службовым купэ... Адхілілі Стася ад абавязкаў праваднiка. У Новасібірску аддалі пад суд... А прыгожы вакзал у Новасібірску! Якія каштоўныя лыжкі, відэльцы і нажы ў рэстаране! Дзесьці ў чамадане Вілюевіча захавалася некалькі. Ён непрыкметна іх сцібрыў сабе на ўспамін... Не, ён не сказаў пра гэта Хутаранскаму і не паказваў свае трафеі. Стась толькі сам сабе ўспомніў...

— Братко, не браў я яго, дальбог! Сама, шлюха, падкінула... Каб ашальмаваць! — закончыў ён сваю цяжкую гісторыю, якая, здаецца, аж сагнула Вілюевіча.

— Падклала яна табе свінню,— пакруціў галавой Браніслаў Хутаранскі. Ён спачуваў сябру, бо ведаў, што разам яшчэ не такія свавольствы і фартэлі выраблялі.— Дык, кажаш, прысудзілі на цэлы год?

Вілюевіч, расказваючы, не ўнікаў у дробязі, як ён напісаў пакаянне і скаргу ў абласную юрыдычную калегію. Тая разглядзела прысуд, але ў памілаванні адмовіла. Вілюевіч, праўда, не сядзеў у турме, ён працаваў. І за старанную працу, за дысцыплінаванасць датэрмінова адбыў пакаранне. Адно, што ў пашпарце стаіць непрыемная клякса.

— Маўчы, братко! — сумна паскардзіўся Вілюевіч.— Я цяпер нібы пад зямлёй хаджу...

У Ціханавічах, як спыніліся, сябры выйшлі з вагона. Вілюевіч зірнуў у белую далечыню, на сінюю палоску лесу. Яму трэба з чамаданамі ісці туды па тарфяным балоце, якое цяпер пад глыбокім снежным покрывам. Брысці пятнаццаць, а па бездарожжы і ўсе дваццаць кіламетраў да Навасёлак.

А Бранііслава Хутаранскага, сапраўды, чакала фурманка. Стаяў чырвоны конь, запрэжаны ў развалкі. Сена было пацярушана на снезе перад мызай стаенніка.

— Дык паехалі да мяне? Сядай, пагасцюеш! — загадаў Браніслаў.

Што мог адказаць Стась Вілюевіч?

— Дзякуй, братко.

— Паганяй, Саўка!

Едучы ў развалках, больш ні пра што такое асабістае не гаварылі. Прысутнічаў трэці чалавек, фурман. Адно толькі, нібы па сакрэту, ціха запытаўся Браніслаў у Стася:

— Бабы не маеш? Хто тая, што ў кішэню яек наклала?

— Так, адна,— няпэўна адмахнуўся пальчаткай Стась.— Жаніцца, братко, трэба мець грунт. А ў мяне яго няма. На чужы не хачу... Так і жыву. Ды гэтага шчасця, братко, спадніц, усюды хапае.

Хутаранскі сурова нахмурыўся. І чаго ён нахмурыўся? Што ён не так сказаў? Гадаў сабе: чым пакрыўдзіў? Чаго той надзьмуўся і маўчыць? А можа, сівер насустрач б'е і холадна ехаць? Але ж ён у футры... Гэта ж не яго, Стасеў, бобрык, які пранізвае халодны вецер...

І толькі прыехаўшы на месца, агледзеўшыся, Вілюевіч пачаў здагадвацца, чаму не спадабаўся

яго закід пра жанчын і чаго насупліваўся Браніслаў.

Сябра яго, Хутаранскі, прыстаў у прымы да ўдавы-леснічыхі. Вось дзе ўся прычына!.. Клаўдзя — светлавалосая, ружовашчокая кабета, крыху старэйшая і тоўстая. Але чаго тут саромецца, крыўдзіцца ці насуплівацца за прымачы хлеб?

Дай бог кожнаму такі дом у лесе, велізарны, на дзве палавіны і з двума комінамі на страсе!

— Мая кантора,— паказаў на адны дзверы Хутаранскі.— А там я жыву... З сям'ёй,— перадаючы баул у рукі Клаўдзі, якая выйшла на другім ганку сустракаць мужа.

Хутаранскі навучыўся камандаваць. Фурман Саўка мігам панёс Вілюевічавы чамаданы ў хату. Жонка таксама пайшла рыхтаваць на стол.

— Мядком цябе пачастую, вунь пчолы.

На фоне цёмных елак, у садзе, Вілюевіч угледзеў нейкія тоўстыя кулі — гэта ўкутаныя акалотам вуллі. Сад і агарод займаў шырокую палянку, пакрытую цяпер глыбокім снегам. Навокал суцэльнай сцяной насупіўся лес, які расступаўся толькі дарозе, па якой яны прыехалі са станцыі. Сцежкі да хлява, да адрыны як траншэі. Стась у адрыну не пайшоў. Досыць таго, што падзівіўся ў хляве на каровы, авечкі, свінні... Ён, ходзячы, адубеў. Хутчэй у цёплую хату! Але гаспадар не змаўкаў:

— Галоўнае, я не маю лішніх клопатаў, адгарадзіўся ад усяго на свеце. Жыву спакойна. Радыё ё!.. Больш нічога слухаць не хачу. І ведаць не ведаю. Выконваю абавязкі ляснічага, і — кропка!

Вілюевіч хваліў яго маёмасць і багацце. Сёння Хутаранскі ад лясніцтва ездзіў у горад па службовых справах. У яго выгадная і адказная пасада.

— Сам сабе начальнік. Не ты каму-небудзь кла-

няешся, а табе яшчэ шапку скідаюць. Усе, нават з Мінска!.. Разумееш, Стась? Дазволіў дзядзьку пяньчук паваліць — не задарма. І не за дзякуй, а — на! Адпусціў воз дроў — на!.. Усё прыбытак. Дваццатка да дваццаткі. А бывае за дзень сотня. Даход расце!

Вілюевіч пагаджаўся:

— Як кажуць, братко, дурны даход!

Хутаранскі крыху насцярожыўся: як так «дурны»?

— Не, Стась, ты разбярыся! Рабіць трэба ўсё з розумам і спрытам.

— Братко, дык я і хацеў сказаць, што калі робіцца з розумам, то гэта дармовы даход. Ну, кажуць жа так?..

— На Клаўдзю маю няма чаго наракаць. Памагае. От сам пабачыш... Толькі з выгляду — не фарсуха!..

Вілюевіч, як паглядзеў, што гаспадыня зрыхтавала на стол, сліну глынуў...

— Будзь жыў! — узняў чарку Хутаранскі.

Вілюевіч разгубіўся.

— На мілае здароўечка і табе, братко!.. За шчасце тваё і Клаўдзі!

Але Клаўдзя не піла. Да губ не паднесла. І была нейкая маўклівая. Такім часамі адчуваў сябе і Браніслаў. Сапраўды, падабралася пара.

Вілюевіч, калі выпіў гранёную чарку, твар яго ўвесь пабіла на плямы, зрабіўся чырвоны, пачаў хуценька жаваць і глытаць.

Закусілі, а тады пайшла разважлівая размова.

— А хто ў Навасёлках цябе чакае?

— У Навасёлках цётка мая. Ты ж помніш, Пагуляйская! Матчына сястра. Яна мяне любіць, як маці. Жыве адна. Яе дочкі павыходзілі замуж... Ну, братко, на першай пары пабуду ў яе. Адпачну!..

Можа, у калгасе ўладжуся. Я ж усё магу... Ты ж, братко, мяне ведаеш. Я з дарагой душой...

— А чаму табе ў свой Дубовы Гарадок не падацца? Там жа сельсавет, цэнтр!..

— Не хачу з бацькам ні бачыцца, ні знацца!..

...Рэпутацыя бацькі, Уладзіслава Вілюевіча, узаемаадносіны яго з сынам, Стасем,— адзін, як кажуць, і смех і грэх. У Дубовым Гарадку старога Вілюевіча празвалі «качар». Калі ўдумацца ў гэту прыкладзеную мянушку, то гучыць яна зняважліва. У сяле дражнілі так мужчыну, які пішчом прыставаў да чужых жонак. Не раз Вілюевічу рабілі «цёмную», каб адвадзіць. І маці, помніцца, яго біла. Яе таксама праз бацьку насмешліва звалі: «То па локцях, то па каленях». Яна як залавіла мужа з чужой бабай, дык потым хвалілася суседкам: «Я іх таўкачом!.. Баюся, каб не скалечыць, дык то па локцях, то па каленях...» Словы, як ветрам, разнесла па сяле. Непрыстойная пагаласка! Маці страшэнна пакутавала. І не вытрывала, памерла ад сухотаў і пахавана на могілках у Дубовым Гарадку. Яна шкадавала Стася... А бацька? П'яніца! Сварыўся, крыўдзіў сына. Пасля смерці жонкі прывёў у дом мачыху. Потым памяняў на другую. З кім ён цяпер жыве? Стась ведаць не хоча. Вікця, родная сястра, служыць на торфапрадпрыемстве. Што ў Стася ёсць сёстры і браты ад няродных матак, ён ведаў, але ні з кім не хацеў нават бачыцца. Асабліва з бацькам... Хутаранскі крыху чуў пра тое і, калі Стась зараз катэгарычна адмаўляўся ехаць у Дубовы Гарадок, дзелавіта разважыў:

— У Навасёлках калгас малады. Зусім бедны. Сама распачаў будавацца.

— Ну і што? Хіба я сякеры ці рубанка не ўмею трымаць? Я ўсё магу! Можа, й лепш... Хто там старшыня?

— Вароніч. У грамадзянскую ваяваў... Кавалерыст!

— А ён, братко, што... думаеш, не любіць, каб яму дагадзілі?

— Ён-то любіць, калі яму па шэрсці гладзяць. Хто гэта не любіць? Але ты са сваёй здатнасцю не вельмі старайся.

— Чаму, братко?

— Я табе скажу як сябра — сябру, па-свойску, шчыра!.. Такім чынам уладзіцца на цёпленькае месца цяжка. Зараз пільнасць кругом!..

Вілюевіч перастаў жаваць. Здзіўлена паглядзеў на сябра.

— Я ж не збіраюся ў Навасёлках старшыню спіхаць. Я еду з дарагой душой. Я да любога начальства заўсёды гатоў, як піянер.

— Стась, ты не зразумеў мяне. Твая струнка дагадзіць, падладзіцца ўстарэла. Не ў модзе. Я ж помню, ты некалі на камбінаце дзяўбаў адно. Не падмажаш — не паедзеш!.. Ласкавае цяля ды ласкавае цяля...

— Я і цяпер такой стрункі. Ласкавае цяля дзве маткі ссе, а гордае ніводнай!

— Цяпер на такой струнцы не сыграеш. От ты прыкінь мазгамі! Табе, Стась, даўно трэба за мазгі ўзяцца. Ты будзь хітрэй! Актыўна выступай, змагайся з недахопамі. Будзь пільны! Не асмелішся выступіць — напішы...

— Дзеля чаго, братко?

— Каб паказацца... і каб цябе заўважылі.

— Я не ўмею гарладзёрыць.

— Чаму ты думаеш, што трэба толькі гарладзёрыць?

— Я хілюся да сваёй ранейшай лініі... Ласкаваму цяляці заўсёды перападае...

— Цыцка! — засмяяўся Браніслаў, паглядзеў-

шы, ці Клаўдзя спіць.— Ну, як сабе хочаш. Я пасяброўску раю. Цяпер час такі. Па-сучаснаму падказваю. На прымаўку была пара́, а цяпер — час!

Яны яшчэ выпілі.

За акном стаяла зімовая ноч. Свяціў месяц. Цішыня. Як быццам яны адны ў леснічоўцы і больш нікога няма на свеце, як у дрымучым лесе.

Хмель апанаваў Вілюевіча. Нібы цвёрда і нібы пераконваючы сябе, ён паўтараў:

— Братко, не смейся, ласкавае цялятка ссе дзве маткі...

— Я табе лепей жадаю,— казаў Браніслаў, абняўшы рукой Стася.— Я цябе люблю. Сумаваў без цябе. Давай заставайся ў мяне пры лясніцтве.

— Застануся! — згадзіўся Вілюевіч.

Ён заначаваў. Пабыў яшчэ дзень і яшчэ адну ноч. Пагасціў як мае быць. Добра адпачыў. Выспаўся. І ўсё ж без людзей, хоць Браніслаў усюды яго вадзіў, усё паказваў, у лесе, сапраўды, Вілюевічу здалося маркотна.

Аднае раніцы ён прачнуўся, устаў і пачаў ладаваць свае чамаданы. Шукаць брытву, галіцца.

— Паедзеш у Навасёлкі? — запытаўся Браніслаў.

— Братко, там жа цётка чакае...

— Ну, што ж?! — развёў рукамі гаспадар.— Цябе з гэтымі чамаданамі Саўка падвязе. Саўка, запражы ў развалкі!

На развітанні Вілюевіч і Хутаранскі — яму такі адзінока жылося — абняліся.

— Прыязджай, калі будзе нявыкрутка,— сказаў сябра.— Чым магу памагу.

Едучы па лясной дарозе, Стась Вілюевіч, быццам падсумоўваючы ўсё ў галаве, думаў: «На чорта мне гарладзёрыць! Мне — дзе не служыць, абы дагадзіць...»

## III

Пасля снедання Пагуляйская надумалася адамкнуць куфар. Чорны, з выпуклым векам, ён стаяў каля ложка. Пагуляйская яшчэ накрыла яго саматканай пасцілкай з узорамі.

Гаспадыня дастала з-пад абразоў прадаўгаваты важкі ключ і акуратна сцягнула пасцілку. Замок са звонам унутры скрыні адамкнуўся. Каб было чаго спакованага, гук быў бы глухі, ледзь чутны... Але што там цяпер засталося?

Куфар у яе, канешне, быў не пусты, але і не поўны. Трох дачок Пагуляйская выдала замуж: Маню, Валю і Гэлю. Для кожнае збірала пасаг, прала, ткала, набывала, берагла, а разляцеліся па свеце дочкі — і скарб у куфры паменшаў.

Раніца выдалася ясная. Шыба ў акне з паўднёвага боку крыху адтала. Сонечны праменьчык таксама скіраваў свой позірк у куфар... Некалі такі агляд багацця рабіла ўлетку. У вольны час, пасля дасевак, калі стаяў гарачы дзень. Кожная дбайная гаспадыня перабірала абрусы, сурвэткі, прасціраддлы, даставала сувоі палатна кужэльнага, выбеленага, каб развесіць на плоце і прасушыць. Тут прасушка і пералік, і проста жаночае жаданне пацешыць вока з вышыванага, сатканага ўласнымі рукамі!.. А ў каго з бяднейшых на сяле не было ні куфра, ні палотнаў, таго думка такая не турбавала. У Пагуляйскай жа было аб чым клапаціцца, што агледзець і прасушыць...

— Гэля, ідзі сюды! — паклікала яна.

Гэля, дачка старэйшай дачкі Гэлі, у якой з восені Пагуляйская забрала дзяўчынку — няхай пажыве ўнучка, усё старой, адзінокай весялей будзе зіму зімаваць,— вучылася ў чацвёртым класе Навасёлкаўскай пачатковай школы. Прыйдзе вясна,

яна закончыць вучобу і вернецца да маці ў Русілавічы. Дзяўчынка была паслухмяная. Памагчы прынесці дроў, вады — рабіла хутка, як найлепшая памочніца. Зараз, адарваўшы позірк ад кніжкі — яна вучыла ўрок, збіраючыся на заняткі ў другую змену,— Гэля падбегла да Пагуляйскай.

— Што табе, бабуся?

Баба, у думках нешта мяркуючы, паказала пальцам у куфар. Ціха!.. Гэля прыгледзелася. Здымкі, розныя малюнкі, наклееныя на адкінутым вечку і ўнутры скрыні, здзівілі дзяўчынку. На іх красаваліся модныя паненкі ў капелюшах, нейкія панічы з кіёчкамі. У нос Гэлі біў востры пах нафталіну.

— Во, бачыш!

У куфры, з левага боку, уверсе, на ўсю шырыню скрыні быў карытцам прыкуфэрачак. Пагуляйская прыўзняла дошчачку-вечка — там больш дзіўнае кінулася ў вочы. У прыкуфэрачку ляжалі брошкі, мацісовыя гузікі, прыколкі, люстэрачка і розныя каштоўныя цацкі. Сярод іх у шкатулцы зіхацеў медальён на залатым ланцужку, а побач — пярсцёнак. Таксама залаты, шырокі.

— Як вырасцеш — табе! — неяк таямніча сказала баба і пачала прымяраць дзяўчынцы на шыю жоўты віты ланцужок з дарагога металу. Унучка стаяла спакойна і слухала.

— І гэта табе,— ласкава ўзяўшыся за руку Гэлі, прымерала пярсцёнак. Пальчык у дзяўчынкі быў маленькі, запэцканы ў чарніла.— Яго трэба насіць на сярэднім,— павучала Пагуляйская.— Мне яго купіў твой дзед, вечная яму памяць...

Усё, што ўгледзела ў прыкуфэрачку і прымерала на сябе Гэля, ёй здалося дзіўным, як нікому не патрэбныя забаўкі. Унучка запыталася:

— А вы, бабуся, чаму не носіце?

— Я ўжо старая,— адказала Пагуляйская.— Мае рукі — на чорную работу. Бачыш, як граблі... От ты расці, вучыся... Усё табе, унучка, аддам.

— Нашто мне?

— Малое ты, нічога не разумееш.

У час такой размовы на двор уз'ехала фурманка. Шыбы ў вокнах на поўнач зацягнуліся марознымі лапамі, і бабуля, і ўнучка нічога не прыкмецілі. Яны схамянуліся, калі пачулі, як на ганку загрукацела і хтосьці адчыняў дзверы ў сенцах. І тут жа з белымі клубкамі марознай пары ў хату ўкаціўся ружовы Стась Вілюевіч, у бобрыку, у шапцы-кубанцы, з чамаданамі.

— Добры дзень, цётачка! — весела ўсміхаючыся, прывітаўся ён.— Прымайце гасцей!

Пакінуўшы каля парога чамаданы, ён сцягнуў чорныя скураныя пальчаткі, падышоў да Пагуляйскай, абняў і тройчы пацалаваў.

— Стасік, дзіцятка маё!— пазнала цётка.— Дзе цябе насіла такім холадам?

— Па свеце, цётачка. І да вас наведаў. Не чакалі?

— Распранайся, грэйся! Чакалі не чакалі, а дарагі госць у хаце!.. Балазе, што я печ сёння, як чула маё сэрца, да чырвана напаліла...

Цётка ад радасці замітусілася, нават куфар не зачыніла, пакінула адкрытым.

— Гэля, апраніся, схадзі ў варывеньку, прынясі агуркоў і капусты!.. Хто ж яшчэ з табою? Чаму не заходзіць пагрэцца?

— То мой фурман. Я яго адпусціў.

— Хіба ён не азяб? Мог бы на хвіліначку зайсці пагрэцца, перакусіць з дарогі... Здалёк едзеш?

— Ён накормлены...— бесклапотна махнуў Вілюевіч.

Стась Вілюевіч ехаў у развалках цераз Нава-

сёлкі, як які-небудзь важны начальнік. Ва ўсякім выпадку, ён хацеў, каб так аб ім падумалі на сяле. Такі ж намер не пакідаў яго і ў цёткі. У наглянцаваных джымі, ён ступаў па хаце бадзёра і стройна. Паліто і кубанка віселі на кручку ля акна.

Стасю падабалася, як цётка рыхтуецца яго прыняць. Здаецца, адпачынак у Навасёлках, на які спадзяваўся і пахваляўся Хутаранскаму, удасца... Госць пачаў распакоўваць вялікі чамадан.

— Цётачка, ці не выстаўку вы збіраецеся рабіць? — кінуўшы позірк на раскрыты куфар, жартам запытаўся Вілюевіч.

— Забылася, Стасік... Як ты зайшоў, усё вылецела з галавы. Закрый! — даверліва і таксама дабрадушна ўсміхаючыся, папрасіла Пагуляйская, трымаючы чапялою скавародку, на якой ужо сквірчэлі скваркі сала і шпокала на агні яешня.— Гэта ж я хацела свой вязаны жакет дастаць і адамкнула... Маруся просіць прыйсці ўвечары на радзіны.

Вілюевіч бліжэй угледзеўся на прыкуфэрачак, яго прывабілі залатыя рэчы, але ён не крануў іх, нават не закрыў вечка куфра. Расшпіліўшы чамадан, дастаў з самага дна зялёную кофту і працягнуў цётцы:

— Адзенеце, цётачка, во гэту. Кальласка!

Вілюевіч дэманстраваў шчодрасць свае натуры. Перад тым як сесці за накрыты па-святочнаму стол, ён раздаў свае падарункі. Гэлі, вучаніцы,— тры тоўстыя сшыткі і хімічны аловак. Цётцы, апрача кофты, па пары пасярэбраных лыжак, відэльцаў і нож — памятка аб новасібірскім прывакзальным рэстаране, дзе Стась любіў пасядзець. Раздаў цукеркі, што ў сяле, як у дарослых, так і ў малых, лічыцца найбольшым ласункам. Госць яшчэ выцягнуў з чамадана расфарбаваную ў розныя яркія ко-

леры такую рэч, якой цётка не магла прыгадаць ні прыстасунку, ні ўжытку.

— Веер,— растлумачыў Стась і з гонарам дадаў: — Кітайскі!

Пстрыкнуў — разгарнуў яго, як паўлінавы хвост, пстрыкнуў — зноў згарнуў.

Пажылой кабеціне вельмі па густу і даспадобы прыйшлася цёплая шарсцяная адзежына. З плячэй скідаць не хацелася. І не ведала, як аддзячыць шчодраму сваяку.

Усяму, што Стась распакаваў з маленькага падчамаданіка, цётка знайшла месца. Дарожны ручнічок павесіла ў парозе, дзе ўмываліся. Мачалку, мыдлярку з землянічным мылам, зубную шчотачку, вазелін, бутэлечкі адэкалону і «рапейнага» масла — усё паставіла і паклала на паліцу. А веер асцярожна ўзяла, беражліва схавала ў прыкуфэрачак і чамусьці толькі цяпер з лёгкім звонам замкнула куфар. Што ключ хавае за абразікам, не таіла...

Гаворцы Стася, як сеў за стол ды глынуў чарачку самагонкі (цётка не ўзяла, а Гэля — малая), канца не было. Ён апавядаў пра Уральскі хрыбет, такія горы, якія пераязджаў кур'ерскім цягніком, едучы на Далёкі Усход, пра гарады і рэкі ў Сібіры, пра розныя тавары і цэны на іх, там, на рынку, пра тамашнюю яду, якая называецца «акрошка», пра ўсё-ўсё, дзе ён шмат разоў бываў. Пагуляйская пачціва ківала галавой. А ў Гэлі — яна чула пра тыя гарады, што вучыла па геаграфіі,— вочы рабіліся круглыя... Як шкада, трэба бегчы ў школу.

Калі Стась застаўся адзін на адзін з цёткай, ён сказаў, што хацеў бы крыху пажыць у Навасёлках, памагчы ёй. Пагуляйская была не супраць, наадварот, яна абрадавалася.

— А дзе мне пакурыць? — запытаўся ён, нібы просячы дазволу.

— Тут і куры, Стасік! — аж заспявала цётка.— У хаце ў нас хоць нарэшце мужчынам запахне...

Даўно аўдавела Пагуляйская... Сапраўды, з той даўняй пары мужчын у доме, па сутнасці, не было — сыноў бог не даў, адны дочкі раслі. Павырасталі, павыходзілі замуж. Пагуляйская радавалася зяцям, калі яны, прыязджаючы ў госці, курылі. Ад'язджалі зяці — паветра ў хаце, здаецца, рабілася прэсным... От, схадзі да каго ў сяле, вярніся дамоў і адчуеш... Няма тытунёвага дыму, не так, як у людзей. Няма гаспадара ў хаце...

Стася яна яшчэ маленькага хваліла. І ён гэта помніў. Чаму Пагуляйская любіла хлопчыка? Ён быў вельмі падобны з твару на маці, яе родную сястру Вікцю, з якой яна калісьці ў юнацтве моцна дружыла. Яны дзяліліся сваімі думкамі, сакрэтамі, шкадавалі адна адну. Не стала сястры — не стала гэтай дружбы. Але сын, бялявы Стасік, нос такі, як у маці, нагадваў ёй штосьці далёкае, роднае. Пагуляйская рада была прыняць у хату пляменніка.

У сенцах певень залапатаў крыламі і закукарэкаў.

— О, на перамену! — сказала цётка.

— Пара, пара хіліць на вясну,— пагадзіўся сваяк і патушыў папяросу, але недакурак не выкінуў у падпечнік, культурна схаваў у партабак «Памяць з Каўказа».

— Чаму не ясі, дзіцятка маё? Ты ж здарожыўся.

Але Вілюевіч пры знаёмстве заўсёды стараўся падкрэсліць сваё выхаванне і далікацтва. Ён не спяшаючыся і не прагна, як у Хутаранскага, з'еў яешню з вяндлінай, спрытна арудуючы адначасова нажом і відэльцам.

## IV

Навасёлкаўцы канчалі будаваць канюшню. Пасярэдзіне сяла, за гумнамі, вырастаў шырокі і доўгі будынак. Палова яго была ўжо накрыта.

Як пацяплела, будаўнічая брыгада выйшла на знадворныя работы. Пасля посвісту зімовых завірух ля рыштаванняў ажыла дружная гамонка. Дзёўбанне сякер, звонкі шоргат падоўжнай пілы чуліся на ўсю ваколіцу. Гукі будоўлі, рыканне кароў, брэх сабак, кукарэканне пеўняў асабліва далёка разносяцца напрадвесні.

Пакуль стаялі халады, працавалі ў накрытай палавіне хлява. Цяпер цеслі, страхары ўвіхаліся каля недабудаванага паўднёвага крыла. Ад поўначы завяршылі аддзелкі яшчэ пры ранейшым брыгадзіру. Ён у снежні прастудзіўся — тэмпература, колкі ў грудзях,— адвезлі яго ў бальніцу. Прызначылі другога. Па разліках новага брыгадзіра выходзіла, і з ім пагаджаўся старшыня калгаса Вароніч, што на рымарню, якую таксама рашылі прыбудаваць, не хопіць драўніны. За пралікі, перапланіроўку нічога не возьмеш з хворага чалавека ў бальніцы. Усё гэта вельмі непакоіла старшыню. Кожную раніцу ён прыходзіў на будаўніцтва: мераў, раіўся.

— Бюракраты! Пні яловыя! — сварыўся ён.

Сапсаваўся настрой старшыні, відаць, канчаткова. Уся бяда была ў тым, што лясніцтва, адкуль Вароніч учора атрымаў нечаканую паперу, абяцала аформіць будаўнічы матэрыял Навасёлкам толькі ў чацвёртым квартале, а Вароніч хацеў закончыць будоўлю да Першага мая.

Вось якраз у той самы момант да брыгадзіра і Вароніча смела падышоў Вілюевіч. Ён, Стась, тут

працаваў. Сваяк Пагуляйскай з'явіўся ў брыгадзе пасля таго, як цётка ўсім на сяле расхвалілася, што пляменнік прыехаў, каб ёй, старой, памагчы.

— Няхай папрацуе за мяне, хворую,— прасіла Пагуляйская старшыню.— Стасік такі добры-добры. Ён як нябожчыца мая сястра. І масцеравы на рукі, як бацька, пабачыце!

Што праўда, то праўда. У брыгадзе сталяроў Вілюевіч адразу вызначыўся. Сякерай, сапраўды, ён махаў спрытна. І гэблік яго слухаўся. Рукі Стася, як кажуць сельскія людзі ў такіх выпадках, глядзелі туды, куды трэба. Умеў дакладна разлічыць і падлічыць. Брыгадзіру ён пасобіў зрабіць разлікі, і той, канешне, застаўся ўдзячны сваяку Пагуляйскай.

На ўсіх надта прыкметнае ўражанне пакінуў навічок сваім характарам — вельмі гаваркі, вясёлы. Ён умеў захапіць цікавымі ўспамінамі і смешнымі анекдотамі. Ён адразу спадабаўся навасёлкаўцам. Ёсць людзі, якія зачароўваюць гурт, цэлы калектыў, з першага позірку. З'явіцца — усім неяк весялей стане... Можа, пасля сустрэчы, далей-болей, меркаванне ў некаторых пераменіцца, але перш-наперш пры знаёмстве чалавек здасца проста — душа.

Вілюевіч сам выхваляўся:

— Я хлусіць не буду. Я з мілай душой... Паслухайце, я вам з дарагой душой...

На кожны выпадак у яго знаходзіўся жарт або якая-небудзь гісторыя. А смешных гісторый у Стася хапала на цэлы перакур. Да Вілюевіча пачалі ставіцца з пашанай нават пажылыя цесляры. Як да бывалага чалавека, які свет прайшоў, шмат пабачыў.

Амаль ўсе зналі, што ён «курсіраваў» на экспрэсе ў вагоне «Стоўбцы — Манчжурыя»... Не кожны такога дасягне! Забаўна было паслухаць пра за-

межных пасажыраў, пра далёкія паездкі, гарады. Стась нават помніў назвы вуліц у Іркуцку, Омску, у Чыце! І там ёсць такія, як вядомыя вуліцы Мінска: Энгельса, Карла Маркса. Вілюевіч апавядаў пра Манголію, быццам пра Дубовы Гарадок. Што там грошы называюць «тугрыкі». Што там, у мангольскім стэпе, ёсць «даліны смерці». Гэта ж здараецца такое! І страшна, і дзіўна...

— А чаму цябе з таго спальнага вагона прамога сапшчэння зволілі? Ці ты сам зволіўся? — пыталіся вяскоўцы.

— Цётка пісьмо напісала,— адказваў Вілюевіч,— каб я прыехаў да яе... Адпачну, пабуду і зноў паеду... Толькі я не магу сядзець без работы. Люблю калектыў, люблю гурт, працаваць у гурце... І цётцы зараблю.

Неяк перад палуднем сваяк Пагуляйскай, нібыта старэйшы, прапанаваў:

— Хопіць ужо, канчай! Абедаць пара.

Мужчыны, не зважаючы на брыгадзіра, які ўвішна махаў сякерай, нібыта па камандзе спынілі работу. Пра што гэта сведчыла?.. Ці не пра аўтарытэт, які рос у Вілюевіча... Брыгадзір, праўда, нічога не запярэчыў, як не заўважыў, сам пакінуў. Пярэчыць Вілюевічу не хацеў, бо з ім і са старшынёй калгаса Варонічам сваяк Пагуляйскай меў адносіны вельмі пачцівыя.

Зараз ён, Стась Вілюевіч, пачуўшы на будаўніцтве разгневаны голас Вароніча: «Бюракраты!»— хуценька падышоў да іх, старшыні і брыгадзіра, запытаўся:

— Што здарылася, Апанас Іванавіч? Хто такія?

Вітаючыся са старшынёй, Стась моцна паціснуў яму руку, трасянуў так, што ў яго з кішэні выпаў на трэскі сталярскі метр-складанчык. Хмуры старшыня хацеў быў паслаць сваяка Пагуляйскай да

пакінутага тапарышча, але, пабачыўшы ў яго далоні партабак — папяросы вышэйшага гатунку «Казбек»,— палагаднеў. Вілюевіч усюды быў хват, ніколі не губляўся. Не паспеў Вароніч нагнуцца, падняць метр, як Вілюевіч вобміг укленчыў: правай падняў, працягнуў інструмент, а ў левай — тут жа расчынілася «Памяць з Каўказа», сярэбраны партабак.

— Кальласка! — паслужліва, у адно слова прапанаваў Стась.

У Вароніча — гарбінка на носе. Зіркаў на ўсіх пранізліва, хутка, рашуча. Сам калісьці служыў у конніцы легендарнага маршала. З таго часу не скідаў вайсковую гімнасцёрку і насіў пышныя вусы. Ён працаваў у Навасёлках старшынёй ад пачатку заснавання калгаса. Землякі абіралі яго, ведаючы гарачую, але дбайную натуру. Ён звычайную прамову на пасяджэнні праўлення пра тое, што трэба закончыць касьбу або пераараць бульбу на полі, падгрэбці капу, гаварыў усхвалявана, у такт гаворкі сек даланёй, як шабляй, прыстукваў па стале кулаком. Усе ніякавата апускалі галовы, але чулі ў гэтым неспакойнае сэрца свайго кіраўніка, які клапоціцца за кожную дробязь. Чаго ж тут усміхацца, пакепліваць ці ганьбаваць ім? Вароніч не цярпеў выскаляк і не любіў, калі яго загад марудна выконваўся. Яму падабаліся тыя, хто слова, як кажуць, лавіў на ляту, па-вайсковаму. Таму, хто хутка ўпраўляўся і спраўна дакладваў, ён па-сяброўску ляпаў па плячы і задаволена казаў, уздыхаючы:

— Э-эх, каб гэта нам з табой скамандаваў алюр наш баявы маршал... Адзін пыл! Дым!

Хітры Стась Вілюевіч адразу ўлавіў такую рысу ў натуры Вароніча. Ён пачаў выконваць заданні старшыні. Дзеля гэтага імкнуўся бываць у яго на віду, часцей наведваць кантору калгаса.

Каб спадабацца старшыні, ён засведчыў сваю пашану падобнай, як у таго, вонкавасцю. Адшукаў дзесьці і адзеў зялёную рубашку з кішэнькамі на грудзях і падперазаў яе армейскай папругай, як у Вароніча. Шкада, не было галіфэ. Але трэ будзе раздабыць... Гэтым перайманнем Вілюевіч хацеў падкрэсліць прэстыж старшыні. Маўляў: «Вы, братко, выглядам — найвялікшы прыклад для мяне! І я хачу так, па-будняму, апранацца». У паходцы і ў выпраўцы Вілюевіч таксама пераняў манеры Вароніча. Даручэнне выслухае — прыстукне абцасамі... (Бяда, абцасы ў джымі Стася мяккія, шырокія — не чутно стуку). Спрытны Стась Вілюевіч нікога не саромеўся, паказваючы свае рухі. Наадварот, чаго таіцца? Глядзіце ўсе, як трэба абыходзіцца з шаноўным чалавекам! Я ўвесь свет прайшоў. Бач, як трэба выконваць загад начальства! Калі навасёлкаўцы звалі Вароніча «старшыня» або прасцей «Панас», то сваяк Пагуляйскай пачаў звяртацца да яго: «таварыш старшыня» або «братко, Апанас Іванавіч». Пры сустрэчы Вілюевіч даставаў з-за пазухі партабак, дзе шчыльна, радочкамі ляжалі гарадскія пахучыя папяросы «Казбек». Зіхатлівае вечка партабака, як люстэрка, з размалёўкай і надпісам «Памяць з Каўказа» — збоку пальцам націсні на бародку — сама адчынялася... Але не для ўсіх. (У кішэні штаноў меўся яшчэ кісет з тытунём — для іншых.) А партабак пстрыкаў перад Варонічам. Перад брыгадзірам...

— Кальласка! — працягнуў ён казбечыну.

Вароніч сапеў носам, пакуль прыкурваў ад Вілюевічавай запальнічкі. (І такая рэч была ў запасе і напагатове.) Як закурыў, старшыня ўсё ж незадаволеным тонам адказаў, пускаючы дым праз нос:

— Ф-у-у! Нявыкрутка, от што!..

— Канкрэтна? — пацікавіўся Вілюевіч.

— Канкрэтна, канкрэтна!.. А што з таго? Усё роўна ж ты не паможаш. І ніхто не паможа, позна.

— Як так, братко, Апанас Іванавіч?

Варонічу, закурыўшы Вілюевічаву казбечыну, адмаўчацца, не выказаць свой клопат, было няёмка.

— Бачыш, чалавеча, тут такая справа... Ты, прыкладна, хацеў бы закончыць будоўлю хутчэй?.. Ну, скажам, завяршыць гэту хароміну да свята?

— З дарагой душой, Апанас Іванавіч.

— Ну, вось! А будаўнічага матэрыялу няма. Дзесяткаў пяць круглякоў, хоць плач, трэба...

— Дастанем у лясніцтве.

— Ну, ты — мудрэц. І як мне самому гэта ў галаў не стукнула?..

Вароніч любіў пацвельвацца, але Стась ніколькі не пакрыўдзіўся.

— Пашліце мяне, братко. Я паспрабую.

— Паспрабую?!. Хадатай знайшоўся!.. Яны, бюракраты, абяцаюць даць у чацвёртым квартале.

— А я з'езджу, і ў гэтым месяцы атрымаем.

Варонiч зацягнуўся прыемным дымам.

— Як жа ты зробіш такі фокус?

— Знайду хады-выхады... Толькі спачатку дазвольце з імі, бюракратамі, унакрыжкі схапіцца.

— Я хапаўся — нічога не выйшла.

— А ў мяне выйдзе. Іду аб заклад! — узгарэўся Вілюевіч.— Калі дастану — паўлітра!..

Старшыня руку аб заклад не падаў, толькі зыркнуў позіркам. Смеласць гэтага сваяка Пагуляйскай яму па нутру.

— Я і кварту паставіў бы!.. Мне шкада цябе, што ты прайграеш...

— Ну што ж, дзе наша не прападала... Пішыце адносіну! Дзе ваша паперка? Давайце, братко, афіцыйна! Каб усё як след напісана, з пячаткай.

«Дарэмна,— падумаў Вароніч.— Але чым я рызыкую? Я нічым не рызыкую. І нічога не трачу».

Вароніч глянуў на неба. Хмары пабіліся на грады. Падняліся ўгору. Свет, здаецца, зрабіўся празрысты і высокі.

— Хадзем у кантору. Іх адпіска з лясніцтва там, у канторы...

У канторы калгаса паўторна напісаная адносіна была гатова. Вілюевіч запатрабаваў пячатку ўнізе.

— Хопіць штампа! На адносінах пячаткі не ставяць.

— Не, братко, стаўце пячатку! Дзеля большай актуальнасці... Няхай не думаюць, што я самазванец...

Пячатка знаходзілася ў старшыні дома. Трэ было ісці ў хату Вароніча. А Стась Вілюевіч ужо даўно марыў аб гэтым.

Пайшлі дахаты.

## V

Лора Вароніч канчала медыцынскі тэхнікум, які знаходзіўся ў раённым гарадку, і вось прыехала на пабыўку.

Зіма сёлета выдалася зацяжная. Мяцеліцы заносілі сумётамі вуліцы і дарогі. Хіба пройдзеш такім надвор'ем, у лютую сцюжу, васемнаццаць кіламетраў? Ларыса пайшла б і прыйшла ў Навасёлкі, але што сказалі б дома на яе самадумства? Ад маці пахвалы не чакай. І ад бацькі таксама.

Учора зранку выглянула сонца і мароз аслабеў. У паветры зрабілася ціха.

Яна рашыла збегаць на рынак. Казалі, дарогу ў бок Навасёлак працёрлі. Сумёты пратралявалі.

Машыны ўжо ходзяць здалёк. Можа, каго знаёмага ўбачыць. І, як сэрца чула, каля нафтабазы — стаіць Андрэй Дубовік і яго паўтаратонка.

Ларыса подбегам вярнулася ў інтэрнат па свае рэчы. Яна так спяшалася, так загортвала і завязвала сшыткі і кнігі ў клунак, што аж пальцы дрыжэлі, не слухаліся. Гэтая ўзрушанасць апанавала яшчэ і таму, што чакаў не хто-небудзь, а яе Андрэй. Лора ўжо чула: ён вярнуўся з курсаў. Вось дык спатканне!..

— Я ўсё роўна заехаў бы па цябе,— сказаў Андрэй, калі яны селі ў кабінку.— Думаў спачатку забраць каністру, бочку, а потым — у ваш інтэрнат... Усю зіму не бачыліся.

Сёння Ларыса дома. За сталом, перагортваючы свае канспекты, сядзела нібыта спакойна. Але сэрца кудысьці спяшалася. Вачыма схопіць некалькі радкоў у сшытку і глядзіць у адталую шыбу. Хто там ідзе па вуліцы? Можа, Андрэй?

Яна перабрала ў памяці ўсе моманты, усе словы, сказаныя ў дарозе. І яго і свае. Спачатку гаварылі пра вучобу. Ён — пра сваю. Яна — пра сваю. Голас у Андрэя стаў нейкі басавіты. Пасля курсаў у Мінску зрабіўся «аўтарытэтны», як яна жартавала. Пажартавала і з вопраткі, у якой Андрэй выглядаў надта мажна.

— Табе не холадна? — паказваючы на яго камбінезон, запыталася Лора.— Ты як бухматы чмель...

— Дык жа пад ім ватнік,— смеючыся, адказаў ён.— Хутка вясна... Бачыш, рыхтуемся да сяўбы. Запасаемся гаручым.

Машына імчалася па глыбокіх каляінах. На пратталых мясцінах, што сустракаліся на грэблях, суцішвала бег і неяк паслухмяна прысядала ды зноў, вуркочучы, набірала хуткасць. Лоры, помніц-

ца, было прыемна ехаць, гойдацца на пружыністым сядзенні. Часамі Андрэй крута браў баранкам у адзін, у другі бок, тады Лора міжволі дакраналася да яго плячом, а ён — да яе. Аж здзівіліся абое, як хутка з-за гары паказаліся навасёлкаўскія дрэвы і хаты.

Андрэй спыніўся каля яе дома.

— Заўтра хлопцы ладзяць вечарынку. Ты прыйдзеш у клуб?

Лора, вядома, кіўнула галавой.

Сёння, гартаючы канспекты, дзяўчына думала і чакала, каб хутчэй настаў вечар. Ад трапяткіх адчуванняў імкліва білася сэрца. І сонца свяціла. Яшчэ ні разу не бывала яно такім чулым, ласкавым пасля гэтай сярдзітай зімы. У вокнах верхнія шыбы зусім адталі. Прамень падае на Ларысу.

Думкі яе абарваліся ад брэху Босага на двары. Босы — іх чорны сабака з белымі лапамі — аж заходзіўся. Хто там? Яна зірнула ў праталіну шыбы і ўбачыла бацьку з мужчынамі. Яны спыніліся ў варотах. Сярод іх быў адзін незнаёмы, у кубанцы. Бацька, відаць, сказаў яму ісці ў хату, бо крыкнуў на Босага, паказаў рукой на ганак, а сам яшчэ затрымаўся з мужчынамі. Далей яна не разгледзела. Незнаёмец у кубанцы, відаць, ішоў, не зважаючы на брэх (яна гэта чула па груку ў сенцах). І вось ужо ён у хаце.

— Добры дзень, Ларыса Апанасаўна!

Дзяўчына збянтэжылася. Адкуль ён, гэты нявясковы чалавек, яе ведае?

— Добры дзень,— адказала яна.— Але я вас не ведаю.

— Як гаворыцца, папа ўсе знаюць, а поп нікога...

— А хто з нас поп? Вы — поп?

— Ні поп, ні дзяк, проста так,— засмяяўся не-

знаёмец.— Кальласка, вы мяне можаце зваць папросту — Стась... А можаце — Стась Уладзіслававіч Вілюевіч!

Ён выпраміўся перад ёю навыцяжку. Лоры было ніякавата. Можа, бацька яму расказваў пра яе? Нечага ж прывёў яго сюды, у двор...

— Сядайце,— прапанавала яна. А сама стала пільна глядзець у сшытак. Лора, хоць панурыла позірк, усё ж бачыла, як Вілюевіч зняў кубанку і, удзячна пакланіўшыся, сеў на табурэтку. Дзяўчына яшчэ прыкмеціла рэдкія валасы ў яго на макаўцы і больш збянтэжылася, як перад старэйшым і надта мажным чалавекам. Як яна магла да яго звярнуцца: «Хто з нас поп?..»

Вілюевіч — тактоўны, сам парушыў маўчанне:

— Што ў раёне цікавага?.. Якая карціна ў кінатэатры?

— Ведаеце, у нас цяпер, перад выпускам, многа заняткаў,— нясмела прызналася Лора.— Хадзіць у кіно няма калі.

Тут Вілюевіч пасмялеў. Устаў, падышоў да сцяны, дзе ў зашклёных рамках віселі сямейныя фатакартачкі.

— Гэта вы? — паказаў ён пальцам на адну.

— Я... На студэнцкі білет здымалася.

— Цудоўна выглядаеце, Лора Апанасаўна... Калі б у хаце нікога не было, дальбог, украў бы... Каб хаваць во тут! — і ён мякка прыціснуў далонь да сваіх грудзей.

Дзяўчына зачырванелася.

— У вас, Лора Апанасаўна, фотагенічнае аблічча, чароўнае...

Ён хацеў яшчэ штосьці пахвальнае выдумаць, але ў святліцы паявіўся бацька. Вілюевіч умомант зноў выпраміўся, як вайсковец.

Тут Ларыса пачула між імі размову:

— На! Паперка з пячаткай. Толькі ведай, што на такіх дакументах пячатка не ставіцца.

— Братко, Апанас Іванавіч, маслам кашу не сапсуеш.

— Не-е, бывае, каша выходзіць ёлкая. Агорклая!

— А ў мяне выйдзе як трэба. Будзьце ўпэўнены.

— Ну, калі будзе ўсё, як кажаш, то... От што, каб меў на ўвазе! Ты прасі пабольш. У нас на чарзе лазня, а там... будаўнічы матэрыял заўсёды спатрэбіцца. Ты зразумеў мяне, Вілюевіч?

— Ясненька... Усё, што змагу, зраблю. Будзьце ўпэўнены, я за грамадскае... з дарагой душой! (Кубанка ўжо сядзела на галаве.) Прыеду, далажу!.. Да пабачэння, Лора Апанасаўна!

Варонічу, як былому конармейцу, падабаліся выхадка і спрыт гэтакага ўвішнага, ужо немаладога чалавека.

— Пачакай! — затрымаў ён Вілюевіча на парозе.— У Ціханавічы ідзе наша машына. Яна падкіне... Хадзем, Дубовік цябе падвязе.

І яны выйшлі.

Лора засталася адна з быццам патухлай радасцю і нейкай незадаволенасцю. Ці ад таго, што пачула, ці што недарэчна размаўляла з гэтым Вілюевічам. Незразумеласць і нават прыкрасць пакінулі ў яе на душы абедзве нечаканыя гаворкі: яе — з незнаёмым Вілюевічам і загадкавая — яго з бацькам. Толькі адно было вядома, што бацька пасылае Андрэя ў Ціханавічы. А ў клубе — вечарынка! Ці вернецца ён да тае пары?..

Лора не глядзела на двор. Яна чула, як Босы там аж залiваўся дробным брэхам. А Вілюевіч пры думцы, што на яго, мабыць, дзяўчына глядзіць праз акно, ідучы, далікатна кланяўся сабаку: «Свой, цю-цю, я — свой!» На вуліцы ён патрапіў у нагу старшыні — пакрочыў, як і начальства.

## VI

Па дарозе ў лясніцтва Вілюевіч быў у гуморы. Сам сабе ўсміхаўся. Як ён абяцаў Варонічу схапіцца «ўзагрудкі» з бюракратамі?! Нават унакрыжкі! Гэта — з Хутаранскім?!

Вілюевіч аж заспяваў пад нос:

— Лям-па-па! Дры-та-та! Лям-па-па!..

«...А хто такі Андрэй Дубовік, які сядзеў з ім побач і вёў машыну?»

Размова пайшла, калі яны выехалі за сяло.

— Ты з Дубовага Гарадка?

— Ага,— адказаў Андрэй.

— Дубовік?

— Ага.

— Твой бацька не Піліп?

— Піліп.

— І я з Дубовага Гарадка. Але ты, мусіць, не помніш мяне. Я даўно адтуль паехаў.

— Не, я крыху чуў пра вас.

— Ты тут, у Навасёлках, у каго жывеш?

— У цёткі.

— І я ж у цёткі. У Пагуляйскай!.. Просіць, каб працадзён з паўсотню зарабіў... А як ты сюды папаў?

— Навасёлкаўцы машыну во гэту купілі, а вадзіць не было каму. Ну, Вароніч, як спаткаліся, і запрасіў мяне... Я і трактарыстам яшчэ магу...

— За якую аплату?

— Што ўсім, тое і мне.

— Надоўга падрадзіўся?

— Пакуль свае кадры не навучаць... Трактарыст ужо ёсць. Разам з ім курсы канчалі.

— Дык мы, братко, можна сказаць, раўня! Аднасельцы! І жывём у цётак.

Нібыта ў згодзе, памаўчалі.

Вілюевіч успомніў пра дачку старшыні калгаса

Лору Вароніч. Добра, што ён напярэдадні ў цёткі распытаў пра яе. Бач, ашаламіў дзеўку! «Я вас не ведаю!..» Зачырванелася! Сарамяжая... З ёю пасябраваць — бацька будзе больш спагадлівы...

— У цябе тутака дзеўка ёсць?

— Ёсць,— адказаў Андрэй.

— І ты з ёю гуляеш?

— Гуляю.

— Які поспех?

Андрэй на гэта пытанне нічога не мог адказаць. Сціпла здзівіўся. Пацепнуў плячыма.

— Ты нейкі, братко, як гляну, нехлямяжы? — уедліва, каб да самай душы дацяць, пачаў Вілюевіч.— Да дзеўкі, братко, трэба мець падыход. Адразу! Каб яна мусіла на цябе зірнуць. А для гэтага, канешне, трэба вывеска... Ну, выгляд! Фізіяномія... Калі не маеш чым звярнуць на сябе ўвагу, умей далікатна падкаціцца... Так падысці, каб выслухала цябе... Але галоўнае, стройны выгляд. Паходка!.. На танцах, каб ногі не чапляліся адна за другую! На танцах трэба адзін другога разумець нагамі... гаварыць без слоў. Ты не ўсміхайся!.. Я праўду кажу, братко.

— З практыкі?

— З уласнай практыкі, братко, дальбог жа! — па-сяброўску, як роўны з роўным, прызнаўся Вілюевіч.— Ты думаеш, калі будзеш сядзець, маўчаць, сапці носам, дык дзеўка прыліпне да цябе? Не, ніколі! Устане і ўцячэ!.. Падумае, што ты — недарэка. Нейкае цяля... Ёй трэба расказаць, хоць лухту плясці, выдумваць, каб заслухалася. Туман пусці ў вочы! Нагавары ёй шмат сяго-таго. Не маўчы!.. Няхай яна здзівіцца, як ты многа ведаеш... Што? Хіба з табой не здаралася такое?

Бадай, штосьці падобнае перажыў Андрэй. Хлапец сціплы, ён не ўмеў выстаўляцца, як некаторыя,

і пакутаваў за сваю маўклівасць і сарамлівасць. Спавяданне Вілюевіча яго зацікавіла. Паўтаратонка імчалася з гулам, але Андрэй разборліва чуў усё, што гаварыў Вілюевіч. Старыя халасцякі любяць павучаць. Ён моўчкі згаджаўся, часамі ўсміхаўся.

— Што, няпраўда, братко? Не здаралася?

Андрэй аж уздыхнуў:

— Праўда, здаралася.

— Ты раскажы, братко, як першы раз пацалаваўся з ёю. Ну, раскажы! — прыставаў Вілюевіч.— Дзеўцы, братко, трэба адразу прызнацца ў каханні. Сама яна ніколі да цябе не прытуліцца. Асабліва маладая... Ты павінен першы пачаць!.. Дзеля гэтага, я ж казаў, падыход!.. Трэба задобрыць, залагодзіць... Прызнавайся, што любіш. Хвалі яе. Не палохайся! Струсіш адзін на адзін — усё прапала!.. Праўда. Ну, раскажы, як ты першы раз...

«Першы раз», — падумаў Андрэй. Ён помніў усё. Ён не мог забыцца... Але калі расказваць, то трэба было называць імя дзяўчыны. А Лора... Ды не — усё, што ёсць між імі, святая таямніца. Гэты сакрэт нікому, нават бацьку і маці, ён расказаць не пасмее...

Яму ніколі, ні з кім, не здаралася дзяліцца гэтым. А цікава наогул пагаварыць, паслухаць... Наогул паразважаць на гэту тэму. Андрэй быў хлопец сур'ёзны, лішняга слова не кіне. Хіба што-небудзь дазволіў бы з найблізкім дружбаком, які яму прыяе. Як усё ж умеў Вілюевіч глыбока крануць пачуцці юнака і выклікаць да сябе давер!

Калі расказваць, дык яно пачыналася прыблізна так, як гаворыць Вілюевіч. Андрэй, сапраўды, сярод дзяўчат адчуваў сябе нясмела. Асабліва ў тым гурце, дзе прысутнічала Лора. (Вілюевічу ён не назваў дзявочага імя і прозвішча.) Андрэя ахоплівала разгубленасць, калі заставаўся з ёю. І рухі

рабіліся скаванымі, і слоў патрэбных не знаходзілася. Здаецца, капітальна адрамантаваць трактар ці паўтаратонку самастойна ён згадзіўся б ахвотней, чым гадзіну пабыць адзін на адзін з дзяўчынай. Той, якая яму падабалася. А пабыць з Лорай, застацца з ёю пасля вечарынкі надта хацелася. У снах бачыў яе... Праз сваю такую ціхманасць, ці баязлівасць, або, як кажа Вілюевіч,— няўмельства хлопец дужа мучыўся. Проста пакутаваў. Каяўся, злаваўся, ідучы з танцаў... І так цягнулася з паўгода. Праз паўгода, канешне, атрымаліся сякія-такія зрухі. Ён ужо хадзіў з Лорай на круг пад гармонік. Вальсаваў сяк-так. Але ж пры гэтым ён і абнімаў Лору. Вядома, пры ўсіх. Перад усімі...

І вось аднойчы, каб перамагчы сваё сарамлівалапяткое адчуванне, ён рашыўся правесці дзяўчыну пасля гулянкі. І абавязкова пацалаваць. Толькі раз!.. Хваляваўся: «З чаго пачынаць? Што гаварыць, калі застанемся ўдваіх? Што, як не знойдзецца трапных слоў? Некаторыя, праўда, могуць бясконца малоць языком, а я?.. Пытаць у яе дазволу браць пад руку ці не?.. Я пачну з таго, што скажу: «Не ўмею пераліваць з пустога ў парожняе...»

Андрэй, як толькі Лора пераступіла парог, ідучы з вачарынкі, у цемнаце хапіў дзяўчыну пад руку і нахіліўся ў процілеглы ад яе бок.

Лора спачатку сілілася вызваліцца, але Андрэй яшчэ мацней прыціснуў руку да сябе. Паспрабуй вырвацца!

Свяціў месяц, помніцца. Пакуль ішлі загуменнямі, Андрэй маўчаў. Угледзеўшы лаўку пад ліпай, ля хаты Вароніча, сказаў: «Сядзем». «Сядзем»,— згадзілася Лора... «Я такі чалавек, што не ўмею пераліваць...» — завучаныя словы прагучалі недарэчна, нейкім не ягоным голасам. І тады — што будзе, то будзе! — абхапіў яе і пацалаваў...

І трэба ж на гэты момант каты ўзнялі страшэнны лямант... Блізенька. Зусім побач... Аж расказваць няёмка цяпер той смешны ўспамінак...

— Дык ты, братко, спалохаўся катоў,— рагочучы, перабіў Вілюевіч.

Слова зляцела ў Андрэя з языка — не зловіш.

— Не-е,— сарамяжна адмахнуўся ён.— Мы ўсталі і пайшлі.

— Куды, братко? — дапытваўся цікаўны Вілюевіч.— Чаго ўставаць?

— Ну, я ж кажу... Каты пачалі мяўчыць...

— Дзе, на страсе?

— У агародчыку... за плотам.

— Блазан, братко!.. Сорамна стала? Ад нявопытнасці, хе-хе-хе! М-я-я-ў, хе-хе-хе!

Андрэю зрабілася ніякавата ад таго, як Вілюевіч дражніцца. Ён збавіў хуткасць, прыслухаўся. Хацеў зразумець, з якой прычыны такі смех разбірае суседа? Чаго той аж захлынаўся? Нічога брыдкага Андрэй ні калісьці, ні цяпер не адчуваў. Ім было крышку сорамна. А Вілюевіч дражніўся. У яго атрымлівалася нейкае паскудства... Круглы бялявы твар Вілюевіча прыкра выскаляўся, відаць былі рэдкія зубы, дзве залатыя каронкі. Адна працерлася.

— Чаго, братко, саромецца? Сарамлівасць, што забабоны. А забабоны?.. Чуў лекцыю пра забабоны?.. Перажытак! Ён, братко, не дае сапраўднай волі чалавеку... Губіць асалоду жыцця... Псуе прыемнасць!

Але ж і балбатлівы гэты сваяк Пагуляйскай!.. Гаворыць — і не чырванее. Ды ён, напэўна, не ўмее чырванець...

— Досыць, змоўкні! — спыніў яго Андрэй.

— Не, братко! Ты — блазан. Ты не меў прыгод з дзеўкамі. Але, братко, нідзе не дзенуцца, пачакай,

яшчэ будуць. Спаткаеш! Запомні, не саромейся!.. От, на адным паўстанку да мяне прычапілася дзяўчо... Як прыстала, як прыстала, хоць ты што хочаш рабі з ёю, але ўпусці ў вагон... «Пазнюся ў горад». Маладзенькая. (Вілюевіч успомніў Лору Вароніч.) А мой класны вагон. Экспрэс!.. Пабочных каб і духу не было! Ну, я ўпусціў. У маім куточку ўся гаспадарка, чайнікі, матрацы, павярнуцца няма дзе... Яшчэ на той час, халера, раматус скруціў — прастудзіўся!..

— Зараз налева будзе дарога, гэта ў лясніцтва! — перабіў яго Андрэй Дубовік.

Хіба неўгамоннага Вілюевіча спыніш? Ён ужо завёўся:

— Давай не балбачы!

Вілюевіч толькі насцярожыўся.

— Ясна... Усё ясненька! — згадзіўся ён і лёгка, нібы ніякай пагрозы ў голасе Андрэя за бессаромнасць не адчуў, змяніў тэму гаворкі: — І я магу вадзіць машыну. Толькі па роўненькай дарозе. Па шасэйцы. На гэта націсну. Гэта — на сябе! Як завурчыць, тады гэта сюды. Пайшло-паехала!.. Дзе трэба направа — круці налева. Дзе трэба налева — круці направа...

Андрэй спыніў машыну, сказаў:

— Налева, метраў пяцьсот і лясніцтва.

— Ведаю... Братко, падай мой багаж,— папрасіў Стась, вылазячы з кабінкі.

«Трапло,— падумаў Андрэй.— Навошта я з ім звязаўся?» Ён падаў Вілюевічу маленькі чамаданік. Андрэй і падумаць не мог, што ў ім запакаваны бутэлькі першаку, якія Стась выпрасіў у цёткі.

## VII

Вілюевіч пагаліўся, папырскаўся адэкалонам, потым, нацадзіўшы ў далонь з гранёнай бутэлечкі лопухавага алею — «рапейнага» масла, як ён зваў,— жменяй нацёр свае рэдкія валасы. Стась, калі хацеў прыхарошыцца, то стараўся грабеньчыкам акуратна пакласці русявыя пасмы так, каб яны выглядалі гусцейшымі і закрывалі або хоць звужалі шырокую залысіну. Роўненька, папярок, яны ляжалі на ёй вільготнымі ад масла радочкамі. А калі звісалі або разбэрсваліся, Стась даставаў грабеньчык і зачэсваў злева-направа. Асабліва перад жанчынамі, скідаючы шапку-капітанку.

Гальштук Вілюевіч папырскаў духамі з другой бутэлечкі, якую цётка ў першы дзень паставіла на паліцу. Духі прыемным водарам расплыліся па хаце. Стась круціўся перад люстэркам з паўгадзіны.

З кішэні, што ў пінжаку на грудзях, ён выцягнуў невялічкі краёк хустачкі, каб вытыркала пярэстым ражочкам.

Вось зараз франт! Элеганцік у шэрым, даволі новым касцюме пад бутэлечнае галіфэ. Такая цяпер мода! Можна ісці да Вароніча!

— Куды ты, Стасёк? Да Панаса? — запытала Пагуляйская.— Гляджу не нагляджуся!.. Як у сваты.

— Быў жа ў камандзіроўцы,— адказаў Стась.— Трэба далажыць старшыні. З чым прыехаў, што зрабіў. Учора яго не было. А сёння — дома.

— Але, але! Ён любіць, каб яму дакладвалі.

— Кожны начальнік на свой загад патрабуе даклад. Як рапарт!

Стась узяўся за клямку, далікатна адчыніў дзверы і — на вуліцу. Знарок пайшоў з перавалачкай. Блішчасты шырокі брыль у шапцы-капітанцы гля-

дзеў у неба. Гэтым Стась хацеў падкрэсліць: вось, ва ўсіх яшчэ цёплыя, зімовыя стаўбуны, а ён — першы чуе вясну. Праўда, увечары, калі прыцісне марозік, ён таксама нахлабучыць бывалую кубанку, але зараз трымае фасон! У доме Вароніча яго ўгледзіць Ларыса...

Пра тое, што пазаўчора адбылося ў лясніцтве, Вілюевіч мог «адрапартаваць» Варонічу ў любы час, але яму самому карцела зайсці ў дом старшыні, каб пабачыцца з яго дачкой. Развітацца!..

Лора сабрала ўсё і ўжо задуменна стаяла пасярод хаты. Чаго не забыцца? Што яшчэ зрабіць?.. Ага, маці прасіла памяняць лямпачку над сталом. Перагарэла.

Дзяўчына ўзяла ў шуфлядзе новую электралямпачку і паклала на абрус. Потым падставіла табурэтку да стала, узлезла і пачала выкручваць з патрона тую, якая свяціла дзяўчыне ўсе вечары невялічкіх канікулаў. У гэты момант ля ганка на двары забрахаў Босы.

Ішоў нехта чужы. Лора чула, як «госць» ласкава загаварыў да маці, якая была на кухні. Вілюевіч! Ён нібы віхор уляцеў у святліцу. Скінуў шапку-капітанку, прывітаўся, прычасаўся. Бачачы, што дзяўчына дастае лямпачку, кінуўся памагаць. Культурнае абыходжанне з дзяўчынай і зручная хвіліна рукамі дакрануцца да яе... Спакусліва змераў дзявочую постаць і затрымаў позірк на спадніччы, якая закасалася вышэй каленак.

— Я патрымаю вас, Лора Апанасаўна.

— Не трэба! — яна саскочыла з табурэткі і сказала Вілюевічу, каб уключыў святло.

Стась пстрыкнуў уключальнікам, выгукнуў:

— О-о! Ёсцека!.. Гэта ж я прыйшоў да Апанаса Іванавіча, далажыць аб паездцы. Дзе ваш бацька?

— Паклікалі ў кантору,— адказала дзяўчына і, успомніўшы мінулую сустрэчу з Вілюевічам, прапанавала яму, як шаноўнай асобе: — Сядайце!

— Дзякуй, Лора Апанасаўна... Значыць, у дарогу?

— На вучобу.

Ён сеў. Лора пайшла ў спальню, дзе стаяў засланы ложак з падбітымі падушкамі, а побач — шафа з адзеннем. Вярнулася адтуль з паліто.

Вілюевічу хацелася затрымаць дзяўчыну хоць на хвілінку. Каб хоць яна звярнула ўвагу на яго, апранутага па-летняму. На яго шэры пінжак і ражок пярэстай хустачкі, што вытыркаў з кішэнькі, на моднае галіфэ. Ён устаў.

— Як шкада, што вы ад'язджаеце, Лора Апанасаўна. Ведаеце, я хацеў з вамі параіцца. Можна сказаць, не параіцца, а паскардзіцца... Паскардзіцца як доктару. Вы не паможаце мне, Лора Апанасаўна?..

Лора спынілася ля парога.

— Мне кепска, Лора Апанасаўна. Баліць галава. Я ледзь трымаюся на нагах. Водзіць у бакі, як п'янага. Ніхто гэта не прыкмячае, ніхто. Толькі вам прызнаюся як будучаму высока таленавітаму медыку. Таму і звяртаюся да вас як да будучага энтузіяста ў справе аховы людского здароўя...

— Калі вы сябе кепска адчуваеце, ідзіце да доктара,— параіла дзяўчына.

— Я да работы прывязаны... Мая натура такая: калі ўжо ўзяўся за гуж, адарвацца не магу... Ведаеце, сумленне не дазваляе. От трымаеш сякеру ці фуганак — рабі!.. Пакажы, чаго варты!.. Гэта ж, ведаеце, грамадскае, а не якое-небудзь... Спяшацца трэба! Закончыць да свята!.. А хваробы твае на рабоце ніхто не бачыць.. Зранку — нішто, а пад ве-

чар вочы ад болю зліпаюцца. Учора вярнуўся ў хату, да цёткі і месца сабе знайсці не мог.

Сапраўды, учора пасля выпіўкі ў лясніцтве, дзе Стась наладзіў банкет у Хутаранскага, у галаве яго гудзела, як у млыне. Рукі дрыжалі. І сёння на паголеным твары можна заўважыць мяшкі пад вачыма. Лора са спачуваннем наблізілася да Вілюевіча. Неяк шкода стала. Ніводзін медык не стане добрым лекарам, калі нарадзіўся натурай чэрствы, жорсткі і не мае спагады да хворага, а ў Лоры былі і чуласць і старанне памагчы чалавеку.

— І часта ў вас такое здараецца? — запытала яна Вілюевіча.

— Каб вельмі часта, Лора Апанасаўна, я не сказаў бы. Яно праходзіць!.. От разнервуюся, расхвалююся, тады і хапае во тут, дзе скроні.

— Вам трэба ў бальніцу. Праверыцца!.. Можа, гэта павышаны ціск. Крывяны ціск!

— А чым яго лечаць?

— Лякарствамі! Доктар выпіша. Паглядзіць, можа, параіць памяняць работу.

— Ды не, гэта не ціск... Магчыма, пазаўчора скразняком прадзьмула. І пасяліўся ў вуха які прастрэл — стукае, коле!.. Ведаеце, Дубовік імчаў мяне на машыне, як шалёны. Такі ліхач!

Лора ведала, як водзіць машыну Андрэй. Штосьці ўспомніўшы, яна ўсміхнулася, нібыта жартам спытала:

— Дык я не разумею. Ваш боль у скронях заўсёдашні ці з учарашняга дня? Моцна баліць?

— Бывае заўсёдашні... бывае моцны. А бывае перагонамі!.. Так, пабаліць-пабаліць і сціхне.

— Таблеткі ад гэтага ёсць. Я сама прымала. У аптэцы іх можна купіць.

— А дзе аптэка?

— У раёне.

— Як жа мне дастаць іх, Лора Апанасаўна?

З кухні пачуўся голас маці:

— Павел Змітракоў прыехаў. Конь на двары чакае.

Лора хуценька прышпіліла шалік прыколкай і стала апранаць паліто. Вілюевіч кінуўся памагаць. Яму хацелася пачуць яшчэ хоць некалькі слоў ад яе.

— Якая цудоўная прыколка!.. Вы паважаеце дарагія рэчы?

— Што значыць «дарагія»?

— Ну, розныя!.. З каштоўным каменем, напрыклад, залатыя!.. Не хацелі б насіць залаты ланцужок з медальёнам?

— Не,— адказала дзяўчына.

— Як шкада! — скрывіўся Вілюевіч ад болю.— Калі вы прыедзеце? Прывезлі б мне, Лора Апанасаўна, тых таблетак.

— Разводдзе распачнецца. Потым — практыка пойдзе... Не ведаю.

— А практыка будзе там, у раёне? Што, калі я да вас у наступную нядзелю знянацку заскочу. Ну, наконт галавы. Палячыцца. Дзе вы жывяце?

— У інтэрнаце медтэхнікума,— адказала дзяўчына. І пайшла ў сенцы.

— Ларыса Апанасаўна! — выгукнуў наўздагон Вілюевіч.— Калі ўдасца прыехаць — буду спачатку вас шукаць. Вы не супраць? Акажаце хуткую дапамогу! Век буду дзякаваць.

Што магла адказаць яна?.. У сенцах стаялі бацька, маці, Павел Змітракоў...

Вілюевіч хацеў яшчэ на развітанне паціснуць ёй руку, але позіркам спаткаўся з маці і стрымаў свае памкненні.

Лора хуценька сышла з ганка, села ў вазок, напакаваны сенам і зверху яшчэ пакрыты клятчатай

посцілкай. Маці захінула ёй ногі, паправіла клунак з харчамі... Босы бегаў навокал вазка і віляў хвастом.

— Ты куды так выфранціўся? — басавіта запытаў старшыня ў Вілюевіча, калі палазы саслізнулі са двара.— Чаму не на рабоце?

— Да вас прыйшоў. Вы ж самі, Апанас Іванавіч, казалі. Далажы! Я ўчора хацеў зайсці...

— Ну-ну, хадзем у хату!.. Раскажы, як цябе прынялі ў лясніцтве...

— Усяго было. Пачаў з просьбы — дайшло да грозьбы. У Мінск, кажу, паеду!.. У Лесбел дайду! Што, кажу, вам цяжка паперку перапісаць?.. Валакітчыкі вы! Знарок бюракратычную цяганіну разводзіце.

— Бюракраты,— пакруціў галавой Вароніч і дадаў, як бывала ў такіх выпадках, сваё любімае слаўцо «безумоўна».— Безумоўна, валакітчыкі!

— Вярніце мне, кажу, навасёлкаўскую адносіну, і я з ёю — на поезд. У Мінск! Няхай Лесбел разбярэцца. Хто зрывае будаўніцтва маладому калгасу!.. То гэты Хутаранскі са сваім намеснікам, не адразу, братко, Апанас Іванавіч, але сюды-туды... Пасля назад-назад... Дзе ваша адносіна? Братко, не на таго нарваліся!.. Бачуць, што я не здамся! Здужаю!

У Стася Вілюевіча была яшчэ такая адметная здольнасць, якая заключалася ва ўменні сваю выдумку, нейкую версію ці прыдуманае здарэнне апавядаць так цікава, з такім перакананнем, што тут жа сам мог паверыць у гэта непраўдападобнае становішча. Ну, хіба іншыя маглі паставіць пад сумненне яго поспех ці ўдачу? Вароніч толькі паківаў галавой:

— Правільна. Правільна, таварыш Вілюевіч!

— Адным словам, Апанас Іванавіч, вы, братко,

ужо ў канторы, у бухгалтара, напэўна, азнаёміліся з прывезенай паперай. Я прымусіў іх напісаць рэзалюцыю як трэба, і паставіць яшчэ пячатку. Пячатку на пячатку! Колькі вы мне наказвалі, столькі яны і далі! Яшчэ з надбаўкай. Сёння ж, братко, Апанас Іванавіч, пасылайце падводы ў лес!.. Я сам дзялянку выберу... Можа, нават гатовыя, акораныя круглякі...

— Малайчына, таварыш Вілюевіч!

— Ваша слова, братко, свята. А я, калі паабяцаў, будзьце ўпэўнены!

— Не думаў, не чакаў,— здзіўляўся Вароніч.— Я прайграў! Здаюся.

— Глупства, братко! Ёсцека чаго здавацца?!.. Я не такі, Апанас Іванавіч. Хіба не разумею грамадскай справы? Я заўсёды з дарагой душой памагу. Вялікі клопат... той заклад!

— Як гэта?

— Ну, братко...— Вілюевіч тут пачаў заікацца: — Вы-вы-вы-піць, вам жа няможна?

— Хто мне забароніць? Усё можна, толькі галаву губляць няможна...

— Братко, Апанас Іванавіч, а вы... выпілі б чарачку? — нясмела намякнуў Вілюевіч. Яму самому дужа хацелася пахмяліцца. Ды са старшынёй! Учора пакутаваў, цярпеў у цвярозасці, каб Варонічу на вока не паказацца. Твар яго расплыўся ад радасці, шчырасці і ласкі да начальства.

— Выпіў бы. Раз прайграў, пагарэў, стаў на стол! А чаго там? Хіба мы святыя? Звычайныя людзі. Толькі ў хаце ў мяне гэтага зелля ні кроплі.

— То ў мяне ёсцека,— прагаварыў Вілюевіч, баязліва дастаючы з кішэні галіфэ паўлітровую бутэльку.

Старшыня здзівіўся і збянтэжыўся.

«Не палохайцеся, Апанас Іванавіч,— казаў вы-

гляд пабялелага Вілюевіча.— Братко, я да вас з дарагой душой».

— Аднак жа ты, бачу, добры жулябін,— жорстка, прама ў вочы Вілюевічу буркнуў старшыня.— Умееш, як гавараць, пад'ехаць!.. Маці, падай кілішкі! — гукнуў старшыня.— Ды яшчэ сяго-таго закусіць!

Вілюевіч ажывіўся, асмялеў, сваёй пярэстай хустачкай прамакнуў пот на твары. Вароніч задаволена засмяяўся:

— Ха-ха-ха! Бач, выфранціўся! Усё ж ты малайчына, Вілюевіч! Ты не мне, ты — усім зрабіў добрую справу. Я, разумееш, люблю дзелавы запал, люблю парадак і толк у рабоце.

Апанас Іванавіч Вароніч сапраўды працаваў самаадцана і добрасумленна. Ён заўсёды стараўся і — вось цікавая рыса ўласціва такому, як ён, чалавеку,— хацеў, каб гэта бачылі і прыкмячалі ўсе. Хто ў размове з ім адзначаў, падкрэсліваў яго заслугі, падхвальваў, з тым Вароніч абыходзіўся, як з сябрам, які адамкнуў тайнік яго натуры.

Дасціпны Вілюевіч гэта сабе кемна падмеціў.

Больш, як палову бутэлькі, яны не пілі: старшыня для прыстойнасці і аўтарытэту, а Вілюевіч сабе думаў: «На першы раз і столькі добра».

Калі Стась Вілюевіч сабраўся ісці, старшыня дастаў грошы і паклаў перад госцем. Вілюевіч пры гэтым зрабіў выгляд, быццам ён выканаў сумленны абавязак. Ні больш ні менш!..

— Апанас Іванавіч, схавайце грошы! — пакрыўджана сказаў ён.— Мы людзі, братко, простыя і давайце будзем па-простаму. Навошта ж лічыцца?

— Бяры, бяры, таварыш Вілюевіч!

Настойлівы тон старшыні зноў кінуў у пот Вілюевіча. І вось, нібыта ратуючыся, ён довадамі ўхапіўся за тую рысу ў душы Вароніча, якую разгадаў.

— Братко, таварыш Апанас Іванавіч! — развёўшы рукі, загаварыў з просьбай ён.— За каго мяне прымаеце? Я зусім іншае думкі аб гэтым. Так сказаць... не спадзяваўся, каб вы скарэдна лічыліся... Фармальна ставіліся, як тыя крыхаборы ў лясніцтве... Я, братко, на свеце розных людзей сустракаў. І скажу, што такіх, як вы, мала!.. Ёсцека, але мала! От кладу руку на сэрца. На вашых жа плячах уся гаспадарка вісіць. Многія ў сяле гэта не заўважаюць ці не разумеюць... А я, як прыехаў у Навасёлкі, паглядзеў і адразу ўбачыў гэту ношу. Вашу лінію!.. І я з дарагой душой узяўся памагаць. Братко, колькі ў вас буду, на ўсё паслужыць гатоў! От якой я думкі, братко, пра вас... Ну, а прыказка і тая вучыць, што лепш з добрым чалавекам прапіць, чым з дурнем знайсці...

Вілюевіч, адыходзячы, быў рады. Старшыня не прымусіў забраць грошы са стала.

Вароніч пасля адчуў, што ўзяў на сябе нейкі ліпкі і цяжкі доўг.

## VIII

Нецярплівы, але акуратны Стась Вілюевіч сказаў: няма чаго адкладваць! І ў наступную суботу ў райцэнтр прыехаў не без дай прычыны — прывёз паперу ў райза: звесткі аб падрыхтоўцы да сяўбы.

Такую паперу Вароніч мог бы і поштай паслаць, але апошнім часам Стась зрабіўся ў яго нібыта даручэнец. Паслаць, перадаць, атрымаць, выхадайнічаць — старшыню здавалася: лепш за Вілюевіча ніхто не зможа. На ўсе такія тэрміновыя, спрытныя даручэнні сваяк Пагуляйскай падахвочваўся і выконваў хутка і дакладна.

— Братко, Апанас Іванавіч, давайце мне,— казаў ён.— Я маланкай! Адна нага тут, другая там!..

Вось і сёння яго джымі, сціснутыя гармонікам, ступалі па тратуары ў раённым гарадку. Ішоў ён асцярожна, бо мокрыя дошчачкі, невядома калі пакладзеныя — аполак да аполка,— былі слізкія, гнілыя. Пасярэдзіне вуліцы расплываліся лужыны з глыбокімі калдобінамі. Стасю, ідучы, даводзілася ледзь не за плот брацца, калі па лужынах імчала якая-небудзь машына.

Вясна дыхнула раптоўна. Гэта адчувалася яшчэ па дарозе з Навасёлак. Тут, на вулачках райгарадка, сонца ўжо добра прыгравала. На небе — ніводнай похмаркі.

Вілюевіч каторы раз, крадучыся, падыходзіў да інтэрната медыцынскага тэхнікума. Стукаў, адчыняў дзверы, у вестыбюлі нясмела падыходзіў да століка, за якім, нешта вяжучы тонкімі пруткамі, сядзела бабулька.

— Няма. Шчэ ідуць заняткі,— адмоўна ківала яна галавой.

Стась Вілюевіч зноў выходзіў на вуліцу, зноў ішоў да рыначнай плошчы. Ішоў, разглядаў, успамінаў...

Калісьці, яшчэ да таго, як застацца ў Мінску на мясакамбінаце, юнаком вось тут ён блукаў, шукаў свайго шчасця, лёсу. Пытаўся ў людзей, каб параілі сякую-такую службу... Вось будынак пошты і тэлеграфа. Стась тады дазнаўся, што на тэлеграфе ёсць вакантнае месца. Яму так захацелася стаць тэлефаністам, каб гучна размаўляць у тэлефонную трубку, што, зайшоўшы на тэлеграф, пачаў, ледзь не плачучы, прасіцца на работу. Але яго не прынялі. Перавагу мелі дзяўчаты.

Райгарадок, калі прыгледзецца, які быў, такі і

ёсць. Адміністрацыйныя ўстановы на месцы. Розныя крамы, магазіны, база... Канешне, шмат з'явілася новага. Але цэнтральныя ўстановы, як і раней, знаходзяцца на двух гарбатых узгорках. Між імі — шырокая рыначная плошча. На ўскраінах гарадка, а там па лузе агінае і цячэ на поўдзень рэчка, стаіць млын, крыты шэрым гонтавым дахам. Побач з ім — крупарушка. З боку рыначнай плошчы Стасю добра ўсё відаць. І мост каля млына, і набухлы, зялёна-пачарнелы лёд на возеры.

Стась спусціўся ўніз, на мост.

Вунь, за млынам, бандарны заводзік і засолачны пункт, куды Стась наймаўся на работу. На гэтых прадпрыемствах даўней грунтавалася ўся мясцовая прамысловасць. Цяпер жа сярод старажытных саматужных майстэрняў і хібарак разбудавалася МТС, узняліся будынкі аўтарамонтнай станцыі, трохпавярховая сярэдняя школа і медыцынскі тэхнікум з інтэрнатам.

Гістарычна райгарадок ўтварыўся з былога мястэчка. Ёсць і царква, і касцёл, і сінагога. Толькі самае важнае па значэнню калісьці займаў рынак — бойкае месца — сюды, на кірмаш, з'язджаліся багатыя купцы і пакупнікі. Ведама, гарадок знаходзіўся на скрыжаванні дарог. Штодня гудзела тут на пляцы, як у вуллі.

Цяпер, як даведаўся ў краме Вілюевіч, базар бывае толькі ў нядзелю.

Гарадок вядомы. І сваю знакамітасць ён набыў, як ні дзіўна, праз вось той засолачны пункт. Смакоўны водар з яго памяшканняў разносіцца наўкол і далёка. Не толькі на ўвесь гарадок, а на ўвесь раён. Калісьці мястэчка славілася квашанымі агуркамі, яблыкамі, капустай, якую квасілі здольныя тутэйшыя засолачнікі. «Здольныя» — не тое слова. Знакамітыя майстры!

Умовы тут, канешне, выгодныя і спрыяльныя. На ўскраінах гарадка вясной сады пеняцца цветам. А як надыдзе залатая восень, гаспадары збіраюць ураджай. Зямля тут урадлівая. З прысядзібных агародаў галоўка капусты — па пуду. Агуркі, антонаўкі стагаваць можна!.. Колькі хочаш на рынку яблыкаў, а заходзіш да дзядзькі на двор — так абірай. І еш!..

Вось якраз у канцы жніва і прыступаюць да сваіх абавязкаў славутыя засолачнікі. І прыватныя, і рабочыя майстры на дзяржаўным пункце. Бочкі вырабляе па суседству бандарня. Рэчка — побач. Перад млынам яна разліваецца, як возера. Засолачнікі квасяць і соляць — дзень у дзень — садавіну і гародніну. Пакуль сезон! Умела квасяць, з рознай прыправай. Напаўняюць пасудзіны. Потым мочаць. Наглуха забітыя днішчы бочак, зашпунтаваныя паўбачонкі з агуркамі, з антонаўкамі, з шаткаванкай апускаюць у ваду. Няхай марынуецца пад лёдам цэлую зіму! Дбайна апускаюць. Кожную бочку навокал абгароджваюць. Каб не знесла рачная плынь або вясновая паводка. Бывалі выпадкі, што хітрая рэчка абводзіла пільных засолачнікаў. На бочку, дзве!.. Напрадвесні, якраз у такую, як сёння, пару, абсячы лёд, дастань з-пад лёду бочачку, адчыні яе — ад смаковага паху аж слінкі глытаеш... Налітыя круглыя яблыкі бурштынавага колеру! Зялёненькія, нібы толькі што з грады, пеpазімавалыя агурочкі! А са смачным расолам квашаная капуста белымі галоўкамі і дробненька пашаткаваная, перасыпаная кменам і кропам, перамешаная з чырвонымі крышанчыкамі моркаўкі!.. Закуска — царская!

Помніцца, калі Вілюевіч шукаў месца ў гарадку, ён наняўся засолачнікам. Але папрацаваў нядоўга. З тыдзень. Кінуў. На засолачным пункце цяжка.

Гнуцца, рачкаваць трэба! За адзін дзень ён нашпыляў дзесятак мазалёў на далонях.

Вілюевіч задуменна пастаяў на мосце, паглядзеў на штабялі бочак за возерам. Наздраваты, з прагаламі сіні лёд ляжаў толькі перад млыном. Унізе па рэчцы, куды праз адчыненыя застаўкі шугала вада, яго ўжо не было, сплыў. Пад мостам вадапад грымеў, аж калаціліся парэнчы.

Вяртаючыся ў інтэрнат, Стась Вілюевіч угледзеў афішу кіно.

— «Партбілет»,— прачытаў ён.

У гарадку нядаўна адкрыўся кінатэатр. Невялікі, на сотні дзве месц. Кожную суботу там паказвалі новы фільм.

«Партбілет»! Гэту карціну Стась бачыў. Сур'ёзны сучасны фільм аб пільнасці. Стась любіў кіно. Але каб камедыя, напрыклад, «Свята святога Ергена» з удзелам Ігара Ільінскага!.. «Умей упару змыцца»,— жартаваў і ён... Або каб фільм пра каханне...

Ён падышоў да касы. Запытаўся, ці ёсць білеты і на які сеанс.

— Ёсць. На пяць трыццаць,— адказала касірка.

Ён падумаў.

— На пяць трыццаць... два!

З білетамі ў кішэні Стась Вілюевіч адчуў нейкую адказнасць ці то ўзрушанасць. Але выгляду не паказваў. Смела, вольнай паходкай, уразвалачку падышоў да інтэрната. Там ужо ўнутры будынка чуўся ажыўлены рух. Стась зноў, як і тыя разы, папрасіў бабульку паклікаць Лору Вароніч.

Ларыса выйшла ў вестыбюль. Яна была ў той самай сукенцы, у якой стаяла на табурэтцы, мяняючы дома лямпачку. Дзяўчына разгубілася, спалохалася, здзівілася...

— Вы?.. Што здарылася?

— Я... я, Лора Апанасаўна. Дома нічога не здарылася, не хвалюйцеся! — загаварыў Стась Вілюевіч.— Я прывёз звесткі ў райза, з калгаса... Рыхтуемся, Лора Апанасаўна, пракласці першую баразну... Выбачайце, да вас зайшоў павітацца. Помніце, вы мне казалі... абяцалі... Не, я вам казаў, галава мая не перастае балець. Пакутую, Лора Апанасаўна!..

— І цяпер баліць? — запытала дзяўчына.

Навокал іх пачалі збірацца студэнты. Стась Вілюевіч засаромеўся.

— Баліць, Лора Апанасаўна. У ваш пакой пабочнаму заходзіць не дазваляецца?... І не трэба! Я разумею, так усюды. То, можа, вы, кальласка, яшчэ ж холадна, каб не прастудзіліся... Адзеньцеся. Выйдзем... Вы не забыліся, як мне казалі пра сваё лякарства? Лора Апанасаўна, памажыце яго дастаць. Я вас тут пачакаю...

Лора адразу шмыгнула ў калідор. Праз нейкі момант выйшла апранутая.

— У доктара былі?

— Не, Лора Апанасаўна! Калі ж было? Я толькі прыехаў і — у райвыканком! Адтуль — да вас... Кальласка, ідзеце вы паперадзе. Дзянёк удаўся цудоўны... Сёння ўжо вясна. Лёд на рэчцы восьвось кранаецца...

— Пачакайце, дык куды ж мы? — спынілася дзяўчына.— Трэба спачатку да доктара. Хай паслухае, паглядзіць і выпіша рэцэпт...

— Лора Апанасаўна, а хіба вы не доктар? Я ўжо казаў, што давяраю вам як самаму ўсемагутнаму доктару. Вядзіце ў аптэку па лякарства або — хоць куды... Я за вамі!

— Але ж у мяне рэцэпта няма. І хто яго выпіша?..

— Нашто выпісваць?.. Навошта рэцэпт?!. Вы ж,

Лора Апанасаўна, казалі, што ў вас ёсць гатовае лякарства ад болю ў галаве. Тое, што прымалі самі. Ёсць тыя таблеткі ў вас? Можна папрасіць іх, калі засталіся?.. Чаго вы здзіўляецеся? Вам — памаглі і мне памогуць... Толькі давайце спачатку паходзім, адпачнём. Прагулка таксама галаву лечыць. Бачыце — вясна!..

Дзяўчына толькі ўсміхалася. Яны стаялі пасярод вуліцы. Лора не згаджалася, а Вілюевіч упрошваў пахадзіць, пагуляць, паглядзець... Не, яна не можа бадзяцца па гарадку. Ёй няма калі. Упартая, Лора вярнулася ў інтэрнат, сказаўшы «Ну, пачакайце». Разгублены Вілюевіч мусіў паслухацца. Калі прайшло хвілін дзесяць, ён ужо думаў, што дзяўчына не вернецца. Але яна не схлусіла. Вярнулася з карабочкам у жмені. Мабыць, думала, што, даўшы гэты карабочак, адвяжацца ад яго.

— Ідзіце да доктара, абавязкова! — загадала дзяўчына.— Гэтыя таблеткі могуць не прынесці ніякай карысці. Яны не падыходзяць да любога арганізма. Але не шкодныя.

— Дайце, дайце іх, Лора Апанасаўна!

Ён узяў і тут жа сыпнуў з карабочка некалькі белых аладачак сабе на далонь, а потым кінуў іх у рот і праглынуў.

— Што вы робіце? — зжахнулася дзяўчына.— Ці ж можна столькі адразу?! Ды вадой трэба запіваць.

Вілюевіч нават не зморшчыўся, наадварот, нібыта пасля цыркавога фокуса, абрадаваўся. Развёў рукамі і сказаў:

— Дзякуй вам, Лора Апанасаўна! От цяпер будзе... ці тое, ці сёе!.. Чаго ж мы стаім на месцы?.. Пройдземце да рынку, Лора Апанасаўна! Не адмаўляйцеся, прашу вас! Будзьце сведкай!.. Павалюся — памру... Не памру — папраўлюся!..

Лора неяк вінавата засмяялася:

— Не паваліцеся!

Але пакідаць і ўцякаць не адважылася, як думала яшчэ нядаўна.

Наогул, калі Стась Вілюевіч намерыўся, як мухалоў, злавіць у сетку маладзенькую дзяўчынку, то выкруціцца ад яго было немагчыма. Бывала, у Мінску, шпацыруючы па алеі ў парку «Прафінтэрн», нагледзіць якую-небудзь сарамяжную, прыезджую з вёскі і ступае па пятах... Тая адбіваецца, пагражае плюнуць у вочы, а ён хоць бы што!.. Усё-такі пазнаёміцца!.. Праз гадзіну настырнага прыставання ён — ідзе пад руку з ёй. Дзяўчына брыкалася, гневалася — цяпер нават усміхаецца...

Вядома, Лора — не такая, адчувала назойлівае прыставанне пажылога хлопца, але не збаялася... Пайшла! Яна была таксама добрая гарэза. Магла смела пастаяць за сябе. Яна толькі думала: занятκі закончыліся ў тры гадзіны. Цяпер, напэўна,— чатыры... Ну, гадзіну можна яшчэ патраціць, каб правесці гэтага ліпкага кавалера, а мо хворага, і пасадзіць на спадарожную машыну. Гадзіны хопіць — у шэсць гадзін сёння будзе званіць ёй Андрэй з Навасёлак. Праходзячы каля пошты, Лора яшчэ раз падумала аб гэтым, слухаючы, як Вілюевіч расказваў пра сваю кар'еру на кур'ерскім цягніку.

— У мяне, Ларыса Апанасаўна, ад раніцы яшчэ расінкі ў роце не было,— раптам прызнаўся Вілюевіч.— Зойдзем, можа, у сталоўку.— І з лагоднай усмешкай дадаў: — Трэба ж запіць таблеткі вашы, Ларыса Апанасаўна.

На шыльдзе пад словам «сталоўка» маленькімі літарамі яшчэ значылася «рэстаран». А ў рэстаран студэнты-камсамольцы не хадзілі. Пры медтэхнікуме была хоць небагатая, але ўласная сталоўка. Ка-

му там не хапала ежы, той яшчэ дадаваў прывезеныя з дому свае харчы.

— Дзякуй, я толькі што абедала!.. Перад вашым прыходам,— адказала дзяўчына.

— Яшчэ раз паабедаеце... Прашу, я з мілай душой! У мяне манеты ёсцека.

— Не, шчырае дзякуй,— адмовілася яна.

— Вы не аднеквайцеся. Ну, чаму?... Ну, чаго вы баіцёся?

— Я паабедала, ды яшчэ ўбачаць, што ў рэстаран пайшла, будуць толькі пальцам паказваць. Не!.. Я ўсяго на хвілінку адлучылася, пакінула там канспекты... Самі зайдзеце і паабедайце! Я не пайду.

— Ларыса Апанасаўна, не пакідайце мяне. Хадзем разам!

— Я не хачу есці!

— Там ёсць асобны пакойчык. Нас ніхто не ўбачыць. І не пачуе. А мне вам абавязкова трэба нешта сказаць... па сакрэту!

— Кажыце тут. Які сакрэт?

— Я хачу вам сказаць... ну, не толькі сказаць... Нават прапанаваць... І калі яно вам спадабаецца, падараваць. На вуліцы, выбачайце, няёмка... Нельга!..

Вілюевіч проста заінтрыгаваў дзяўчыну. Ларыса адчувала, што яна ад цікаўнасці ўсё больш і больш паддаецца на ўгавор гэтага заваблівага і хітрага дзецюка. Адначасова ён не пазбаўлены разумнай прыстойнасці і культурнай тактоўнасці. Пярэчыць, не згаджацца, адмаўляцца — значыць баяцца. Падумае: спалохалася. Што рабіць — зайшла!..

Як толькі яны ўселіся за столікам у куточку, Стась Вілюевіч прадоўжыў свае быліны пра службу правадніком на экспрэсе. Каму ён толькі гэта не апавядаў?! Якія адукаваныя пасажыры ездзілі.

Пераважна з-за мяжы. Як яны паслухмяна падпарадкоўваліся яму.

— «Панове, буфет і рэстаран адкрыты!» Ідуць абедаць. «Панове, позні час!» Кладуцца спаць... «Панове, поезд стаіць столькі-та мінут». Далёка не адыходзяцца. Слухаюцца... Культура!.. Афіцыянтка! — устрапянуўся Вілюевіч.— Нам, кальласка, адзін гарачы абед і... Можа, і вы, Ларыса Апанасаўна, лыжкай пабэрляеце? Не? Не?.. Дзве бутэлькі сітра. Адну мне, адну паненцы. Прашу — мамантальна!

У Стася смактала пад лыжачкай. Перад ядой някепска было б кульнуць чарачку белай, але барані цябе бог!..

— А жанчыны, якія жанчыны... Каб вы толькі бачылі! Ва ўсіх шыкоўныя фасоністыя плацці!.. Модныя, гжэчныя, ніводнага недалікатнага выразу. Заграніца, разумееце. Высокая адукаванасць... Паважалі мяне. Любілі пакінуць што-небудзь на памяць. Ну, часам не што-небудзь, а нават каштоўныя рэчы. За культурную паслугу...

— Дык што вы хацелі сказаць па сакрэту? — перапыніла дзяўчына.

— Ага! От якраз і пачынаю... Якая ў вас брошачка?!. Цьмяненькая, шкляная. Вясковая! Ці не пажадаеце паднавіць? Памяняць яе?..

Стась памкнуўся дакрануцца да брошкі на грудзях, але дзяўчына адхіснулася. Тады ён палез у кішэню, дастаў «Памяць з Каўказа». Там не было папярос. Казбечыны кончыліся!.. Але як звычайна вечка партабака, пстрыкнуўшы, адчынілася, і Лора ўбачыла залаты медальён на ланцужку. І пярсцёнак. Стась працягнуў партабак дзяўчыне.

— Давайце, Ларыса Апанасаўна, памяняемся! Майце ласку, вы мне сваю шкляную брошачку — на ўспамін, а я вам — вось, з медальёнам.

Ларыса адмоўна хітнула галавой.

— Ну чаму ж? Давайце! — нібыта пакрыўдзіўся ён.

— Якая вам патрэба да мае шкляной прыколкі?..— паглядзеўшы на немудрагелістую брошачку з ружовым каменьчыкам, здзівілася.— Не разумею. Вы ж мужчына!

— Вось, вось! Хіба гэта мужчынская рэч — медальён? Не адзенеш, не пачэпіш! А гэта калісьці багатыя пасажыры падаравалі як сувенір... за паслугі! А я яго — вам!

— Гэта няўдзячна з вашага боку. Хіба каштоўныя падарункі перадорваюць? Так няможна.

— Можна, Ларыса Апанасаўна. Адкінем забабоны! Мы сучасныя, новыя людзі. Ваша сэрца варта большага... Сэрца, я сказаў бы, чулага лекара... Дальбог, вы ўжо без экзаменаў доктар!..

— Няпраўда, я ніякі не доктар. Як скончу вучобу, усяго толькі буду сельскай фельчаркай...

— А я лічу вас не фельчаркай, а доктарам! Прашу!

— Вы хочаце, каб я выглядала як багацейка? Не-е, такія каштоўнасці да рэвалюцыі чаплялі на шыю багатыя паненкі. А мне навошта? У мяне во камсамольскі значок!

— Пакажыце!

— Значка на грудзях вы не прыкмецілі, а брошку — адразу,— упікнула Ларыса.— Наездзіліся з замежнымі панамі і паненкамі. Набраліся ад іх усялякіх манераў... Носіце розныя залатыя рэчы. Нібыта не ведаеце, што яны цяпер ужо ўстарэлі.

— Гэтая рэч, Ларыса Апанасаўна, ніколі і нідзе не ўстарэе. На векі вякоў!

— Магчыма. Але яна не для мяне. Калі ў вас ёсць лішняе золата, здайце ў таргсін. Ці вы газет не чытаеце? У «Чырвонай змене» ёсць паведамлен-

не? Дзяржаве вельмі неабходна золата. Для гандлю. Мы распачалі індустрыяльнае будаўніцтва, купляем на золата машыны, варштаты.

— Але ж... калі надзець на шыю, гляньце, паспрабуйце... Як вам да твару! — Стась хацеў, не зважаючы на з'едлівыя, калючыя словы, упрасіць яе прымераць залаты ланцужок.— Вы сталі б... каралевай!

— Не хачу быць каралевай! Не хачу быць буржуйкай! Ох, і нагледзеліся вы ў экспрэсным вагоне!.. Можа, за граніцай гэтыя прыгажосці і ў модзе. А ў нас як мінулае яны зніклі. І назаўсёды...

Вілюевіч асеў. Такую ўпартую дзяўчыну — як часамі ў гаворцы абзываў: «падкаваная агітатарка!» — Стась, бадай, сустракаў упершыню. Дальбог, разгубіўся.

— І гэта? — паказаў Вілюевіч на залаты пярсцёнак.

Ларыса грэбліва скрывілася і адмоўна паківала галавой.

— Пачакайце, хвіліначку! Дайце ланцужок,— нібы штосьці ўспомніўшы, сказала дзяўчына.— Я, здаецца, бачыла такі ў кагосьці на шыі. Дайце, дайце патрымаць!

Вілюевіч анямеў. Рот яго як адкрыўся, дык і не закрываўся. Відзён быў абручык залатой каронкі і ледзяніста-сіняе нутро зуба. Павекі вачэй хуценька мігалі. Нечаканы спалох страсянуў. Божухна! Што на залатым ланцужку распазнае Ларыса! Няўжо дзесьці яна бачыла медальён?.. Затаіўшы дыханне, Стась чакаў суровага прыгавору, як на судзе...

— Не,— нарэшце сказала Ларыса.— Мне здалося.

Вілюевіч цяжка перавёў дыханне, пстрыкнуў

партабаком і схаваў яго ў кішэню. Неахвотна глянуў на міску — есці перахацелася.

— Эх, Ларыса Апанасаўна! — засмучона прагаварыў ён.— Вы пакрыўдзілі мяне.

— Чым жа я пакрыўдзіла?

— А то як жа?!. Хацеў сюрпрыз прыпаднесці. За чуласць душы. А вы... вы, можна сказаць, ледзь не абразілі мяне. Выставілі цяжкія абвінавачанні...

— Якія?

— Ну, як жа?!. Вы балюча ўкалолі. І мой густ старамодны... І што дзяржаўныя інтарэсы ігнарую. Газет не ведаю і не чытаю!

— Няпраўда, я так не казала.

— Ларыса Апанасаўна... Я ад усяго сэрца... Хацеў быць удзячным за сённяшняе і, можа, за заўтрашняе... Я дзякую за лякарства і за клопаты пра маё здароўе. Вы паверыце, не сціхае балець галава...

— Няма за што дзякаваць,— са здзіўленнем загаварыла дзяўчына.— Я казала, калі баліць галава, трэба ісці да доктара!..

Вілюевіч пакрыўджана і дэманстратыўна дастаў Лорын карабочак, узяў адтуль таблетку і ўкінуў у рот. Наліў у шклянку сітра і запіў. Боршч ён не пакаштаваў, адсунуў ад сябе. Чулая па натуры дзяўчына за гэтым сачыла і адчула сябе вінаватай.

— Я, канешне, схаджу да доктара,— зрабіўшы пакутлівы глыток, засмучана прагаварыў Вілюевіч.— І, канешне, справа не ў гэтым дзяшовым карабочку з таблеткамі, за якія сапраўды з дарагой душой дзякую!.. Справа тут, Ларыса Апанасаўна, у чалавечых узаемаадносінах. Я такой абыякавасці ад вас не чакаў...

— Ну, прабачце! — сказала дзяўчына.— Больш не буду, прабачце!..

Вілюевіч штосьці падумаў і павесялеў.

— Я хачу, каб вы мяне больш не крыўдзілі. Не будзеце?

— Не,— засмяялася яна.

— Выканайце толькі адну маю просьбу.

— Якую?

— Не адкажыце схадзіць са мной у кіно. Я купіў вось два білеты. Сеанс пачнецца ў пяць трыццаць!..

«У шэсць гадзін будзе званіць Андрэй,— мільганула ў яе думка.— У шэсць гадзін трэба быць на пошце».

— У шэсць у нас камсамольскі сход,— нясмела запярэчыла дзяўчына. Яе твар загарэўся чырванню. Як гэта думаць адно, а гаварыць — другое?!. Немагчыма! Хлусіць яна не ўмела. Сорам!

— От бачыце, як я — да вас? І як вы — да мяне, Ларыса Апанасаўна? Дзе ж ваша чуласць? Хоць у кіно, думаў, згодзіцеся... Ці ж гэта не жорсткасць?..

— А якое кіно?

— «Партбілет»! Пра партыю. Абавязкова трэба пабачыць гэты фільм. Аб пільнасці!

Яна хацела сказаць, што бачыла фільм,— хоць, сапраўды, не бачыла! — далей хлусіць не магла. Вымушана была пайсці.

Калі праз нейкі час яны сядзелі ў кінатэатры, Вілюевіч задаволена і пераможна сказаў:

— Канешне, каб камедыя ці пра каханне, глядзелася б цікавей... Але і тут ёсць каханне, от пабачыце!.. Я растлумачу вам самыя хвалюючыя моманты... Там Павел Куганаў. У яго маладзенькая жонка... Не? Ну, будзеце бачыць, Ларыса Апанасаўна!

І спрытна прытуліўся, паклаў руку дзяўчыне на плячо.

* * *

Дарэмна чакаў Андрэй Дубовік каля тэлефона ў канцылярыі калгаса. Размова адкладвалася...

Калі ён ішоў у кантору, то абдумваў, што першнаперш скажа. Ён скажа, што бачыў шпака на іхняй ліпе. З цёплымі, паўднёвымі вятрамі прыляцелі шпакі. А на полі сёння чуў жаваранка. Грэбля раскісла. Ён прыедзе ў гарадок, як падсохне дарога...

Але Андрэю не ўдалося падзяліцца гэтымі навіннямі надыходзячай вясны. Калі ж пазваніў у райцэнтр, на пошце яму адказалі:

— Вароніч Лоры няма.

— Нічога,— запэўніў ён тэлефаністку.— Зараз прыйдзе.— І дадаў: — Яна такая ў паліто і ў чырвонай шапачцы... вязанай!

— Ну, чакайце, калі дамовіліся.

Тэлефаністка паклала трубку.

У канторы бабулька, шоргаючы дзеркачом, вымятала недакуркі. Глухаватая, яна не ўслухоўвалася ў размову. А на дварэ ўжо шарэла.

Андрэй сядзеў спакойна. Роўна цікалі ходзікі на сцяне. Паглядаў на іх, чакаў, думаў. Зараз пачуе Лорын любы, пявучы галасок.

Ён уяўляў сабе, як Лора ў палітончыку з набіваным пад каракуль каўняром, у шапачцы, якую сама звязала, спяшаецца па дашчаным тратуары. Прыбяжыць, возьме трубку, а ён запытаецца ў яе: чаму прыпазнілася?

Але і на другі званок з райгарадка яму адказалі са смяшынкай:

— Няма! Хі-хі!

За трэцім разам — стрэлка ходзікаў двойчы абабегла цыферблат — тэлефаністка ў трубцы сказала:

— Вашу чырвоную шапачку воўк з'еў.

Трубка зашыпела ад рогату, і ён асцярожна павесіў яе.

На дварэ ўжо зусім звечарэла. Андрэя пацягнула не дадому, да цёткі,— неяк душна зрабілася,— а да рэчкі. Там шумела паводка...

Ішоў загуменнямі. Непрыкметна наблізіўся да рэчкі і спыніўся.

Былі чутны ўсе гукі паводкі, якая разлілася да пачарнелага поля на тым баку. Толькі за дзень рэчка выйшла з берагоў і затапіла луг, сенажаці.

Андрэй стаяў, а перад ім усё бурліла. Мабыць, дзесьці так і ў райгарадку. Ат, не трэба думаць аб Лоры!

Узбубнены лёд крышыўся на крыгі. Яны рухаліся павольна, закружваліся на вірах. Сутыкаліся, стукаліся адна ў адну. З трэскам калоліся. Шуршэла друза па краях. Часам крыгу, што кантавала дужая плынь, лёгенька, як шырокую пласкадонку, выносіла на бераг.

Тоўстыя дрэвы на рэчышчы па пояс купаліся ў вадзе. А малыя і прыбярэжныя кусты алешнічку, лазы ледзь вытыркалі тоненькімі дубчыкамі.

Андрэй, задуменны, усё нечага прыслухоўваўся. На луках, дзесьці за «Наддаткамі», як здаўна празвалі ў Навасёлках сенажаці, на буграх, кнігаўкі шукалі свае гнёзды: «Кі-гі! Кі-гі!»

Андрэй зірнуў удалячынь і ўбачыў, як сярэбраны месяц доўгай дарожкай расплыўся, адлюстроўваецца ў разліве. А неба ўгары, вакол месяца, чыстае, як сама паводка. І раптам Андрэю пачало здавацца, што там, на небе, плывуць нейкія шэрыя, высокія похмаркі. Адна неспакойная закурлыкала і шустра пачала зніжацца долу. Знізілася на грудок, як на востраў за ракою, і села.

«Жураўлі»,— здагадаўся Андрэй.

Павадыр чарады, як толькі апусціўся, перамож-

на крыкнуў. Адзін момант ціша... І да пільнага слыху чалавека данеслася радасная гамонка ўсяе чарады. Прывітальны голас! Свойскі. Прылётны. Нібыта птушкі перамаўляліся між сабою: «Мы ўжо дома! Ці яшчэ не дома?.. Свае родныя мясціны!»

Бурліла імклівая паводка. А ў Андрэя маркотна было на душы.

## IX

Сустракаецца ў жыцці такі чалавек: ён выпадкова з'явіцца ў калектыве, нечакана пакруціцца сярод кіраўніцтва,— яго яшчэ мала хто ведае,— глядзіш, ідзе насустрач, нібыта які начальнік. Нават цябе, таварыша і даўно знаёмага, не пазнае. Учора пачціва звяртаўся, ведаў тваё імя, па бацьку, як кажуць,— «на вась-вась»,— сёння не прызнаецца. Ці то забыўся, якім надоечы сам быў, пытае з пыхлівай важнасцю: «Грамадзянін, вы хто, як прозвішча?..»

Калі на пасяджэнні праўлення калгаса канчаткова складалі спіскі паляводчых брыгад на летні перыяд, будаўнічую брыгаду паменшылі, частку рабочай сілы перакінулі на сяўбу, і фактычным намеснікам брыгадзіра, які павінен несці ўсю адказнасць па дабудове канюшні, стаў Вілюевіч. На гэтым жа пасяджэнні па прапанове старшыні — Вілюевіча яшчэ даабралі ў рэвізійную камісію. Асаблівых пярэчанняў не было, толькі член праўлення калгасны палявод Сцяпан Саковіч кінуў рэпліку:

— Няхай пакажацца, які ён з сябе... сваяк Пагуляйскай...

— Хіба ты не ведаеш, Сцяпан? — з усмешкай з-пад чорных вусоў пасарамаціў Вароніч.— Вілюевіч, устань! (Вілюевіч каля парога сядзеў — устаў, і ўсе азірнуліся.) От які!.. Немалады, але паварот-

ліvы, энергічны хлопец. Старанна ўнікае ў навасёлкаўскія мерапрыемствы.

Сапраўды, Вілюевіч на рабоце стараўся. У той дзень, як праўленцы рабілі агляд канюшні, ён «мабілізаваў» усіх будаўнікоў, каб нічога лішняга, ні аскабалка, ні трэсачкі, не відно было каля сцен. Надта ўжо навялі чысціню пры ўваходзе. І там, дзе стаяла жывёла.

Старшыня прайшоў, агледзеў і задаволена сказаў:

— Кругом выдатна. Люблю парадак. Усе разумелі б мяне от так!

— Зразумеюць, Апанас Іванавіч,— патрапляючы ў крок, сказаў Вілюевіч.— Адразу ўсё на мабілізацыю не даецца, братко...

Аўтарытэт Вілюевіча рос не толькі ў вачах старшыні. Яго ўпэўнены голас гучаў сярод вяскоўцаў паважна і ўнушальна.

Навасёлкі ж вялікія, і некаторыя людзі, не ведаючы Стася, прымалі прыезджага ў шапцы-капітанцы за адказнага таварыша. Галовы перад ім пры сустрэчы на вуліцы нехаця схіляліся: «Дзень добры!..» А ў канторы — у канторы таксама пачалі ставіцца да яго з большай увагай. Рахункавод, кладаўшчык неяк звыкліся са сваяком Пагуляйскай. Можа, што вельмі часта партабак «Памяць з Каўказа» пстрыкаў перад імі...

Як бы не ішло-было, Стась Вілюевіч палічыў сабе неабходным: прысутнічаць на сесіях сельскага Савета. Туды, на сесію, запрашаліся актывісты. А хіба ён не актывіст?.. На пасяджэнні Вілюевіч выступіць. У сельсавеце будуць з Дубовага Гарадка... Няхай дубаўчане паглядзяць, які іх аднавясковец!

На парадку дня стаяла пытанне: аб правядзенні веснавой сяўбы. Выявіліся недахопы: у гаспадар-

цы, дзе старшынёй Ціхон Грыб, палявыя брыгады яшчэ не складзены, не ўсё насенне пратруцілі, позняцца з рамонтам інвентару...

— Па-мойму, каб таварыш Грыб штодзённа клапаціўся пра сяўбу, гэту найважнейшую кампанію ў жыцці хлебароба, як, напрыклад, у нас, таварыш Вароніч, то, я думаю, пытанне ў іх не закульгала б,— папрасіўшы слова ў спрэчках, сказаў Вілюевіч.— Як Вароніч у Навасёлках арганізаваў усю рабочую і цяглавую сілу? А вось паслухайце...

І Вілюевіч перад прэзідыумам, перад прысутнымі прадстаўнікамі з усіх сёл сельсавета, загінаючы па пальцы на левай руцэ, пачаў пераглічваць, як было... Яшчэ снег ляжаў, а параконкамі вывозілі гной на кампосты. Дзень пры дні рамантавалі плугі, бароны. Пад непасрэдным кіраўніцтвам старшыні на пасяджэнні праўлення размеркавалі і замацавалі па брыгадах палеткі...

Вароніч у прэзідыуме моўчкі глядзеў на сцяну, дзе вісеў плакат пра бальшавіцкую пасяўную... Што было, то было!..

Ідучы назад па дарозе ў Навасёлкі, старшыня даверліва, як блізкаму сябру, рашуча — «у святле пастановы сесіі сельсавета» — сказаў Вілюевічу:

— От што... Ты, Вілюй, памагай мне! Правярай і дакладвай! Дзяліся думкамі і наогул... У нас у сяле можна, ведаеш, не толькі пасяўную завяршыць... горы перавярнуць!..

— Будзьце ўпэўнены! — казыраючы па-вайскоbаму, адказаў Вілюевіч.— Для вас з дарагой душой, Апанас Іванавіч... Я драмаць не буду. Вы, братко, здаецца, ужо зразумелі, дзе ў мяне во! — і ён сціснуў кулак, што значыць — сіла.

— Дзейнічай, Вілюй!

І Стась Вілюевіч, сапраўды, пасля сесіі

доўга не мог заснуць. Думаў пра Вароніча, пра яго сям'ю, пра Лору. (Дарэчы, вярнуўшыся тады з гарадка, непрыкметна,— ён ведаў, дзе ляжыць ключ,— ціхенька паклаў залаты ланцужок з медальёнам на месца ў прыкуфэрачак.) Вілюевіч думаў пра сваё жыццё. Успамінаў Браніслава Хутаранскага. Той калісьці, на мясакамбінаце, вучыў: «Што ты мяцеш? У жыцці мясці не трэба! На ліха табе скрэбці драпаком і прыціскаць венікам? Ты махай мятлою і рабі выгляд, што... падмятаеш. Ну, калі наблізіцца, падыдзе начальнік, якому ты служыш, тады ўжо нагніся, падымі што ці здымі павуцінку...» Вось такая паказуха раней на службе сыходзіла з рук. А цяпер? Цяпер у Навасёлках склаліся іншыя ўмовы. Тут трэба сур'ёзна і старанна ўзяцца. Без паліроўкі!.. Эх, за што ж цяпер узяцца?..

Вілюевічу, дзе ён ні бываў-працаваў, падабалася крытыкаваць каго-небудзь. А цяпер, калі яго кааптавалі ў рэвізійную камісію, ён з ахвотай мог разгарнуць сваю дзейнасць у гэтай галіне. І Вароніч (Стасю запомнілася) намякаў, ідучы з Дубовага Гарадка, менавіта пра гэта: «Правярай і дакладвай». У яго ёсць такая здольнасць. Во як тады ўзвысіцца ў вачах старшыні!..

Аднойчы партабак «Памяць з Каўказа», які адкрываўся, вядома, не для ўсіх, пстрыкнуў перад носам Вані Касавокага. Ваню Касавокага Вілюевіч не надта ведаў. Яго празвалі ў сяле «Цяго-сьто»,— бо так вымаўляў «чаго-што»... Даўно прайшла ў хлопца пара жаніцьбы, а ён усё соўдаўся па вуліцы з нейкай бязглуздай усмешкай на твары. «Цягосьто» аднойчы зацікавіў Стася. Можа, тым, што ў іх аднолькавы ўзрост, а можа, што з Ванем лёгка завесці хаўрус. Касавокі за адну самакрутку тытуню ўсё зробіць. А калі яшчэ паставіць шклянку са-

магонкі, то гатоў дзёгцем абмазаць браму, у каго на выданні дзяўчына.

— Хочаш запісацца ў лёгкую кавалерыю? — запытаўся ў Вані Стась Вілюевіч.— Правярацьl

— Сьто?

— Ну, мне памагаць кантраляваць, рабіць праверкі.

— Цяго?

— Усяго!

Вілюевіч мусіў растлумачыць «канкрэтныя» абавязкі, дастаўшы перад гэтым партабак. Яны адразу знайшлі агульны інтарэс. Па прапанове Касавокага тут жа пайшлі на скотны двор. Касавокі, у яго сапраўды касіла вока, з прыемнасцю згадзіўся ўдзельнічаць у рэйдзе «лёгкай кавалерыі». Павёў і паказаў, як трапны для праверкі аб'ект, кароўнік.

Абора ў Навасёлках стаяла, як і канюшня, наводшыбе. Толькі з другога канца сяла. За агародамі, бліжэй да лугу і рэчкі. Стась і Ваня прыйшлі туды і ўкрадкі схаваліся пад прыбудаваную павець. Сцен у прыбудове цесляры не выводзілі, адна страха. Зімой тут ставілі калёсы, а ўлетку — сані. Адсюль, як з укрыцця, можна кругом наглядаць. Яны селі на санкі. Курылі, разважалі між сабою пра нелады ў калгасе.

На двары фермы, бліжэй да пагонкі, па якой ездзілі і хадзілі ў сяло, віднеўся воз з бітонамі. Навокал — ні душы. Ніхто з кароўніка не выходзіў.

— Бітоны, бадай, з малаком?

— Канесьня,— адказаў Ваня.

— Напоўненыя сырадоем!.. От, бачыш, братко, хіба да толку гэта? Без вартаўніка, без нагляду пакідаюць малако на двары. Пры дарозе. Нядбайнікі! Грамадскае дабро пад адкрытым небам. Хадзем, братко, праверым! Калі бітоны з малаком, адзін — сюды!.. Схаваем пад павець. І папільнуем. Няхай

схамянуцца даяркі! Правучыць іх трэба! Будуць знаць! Паглядзім, братко, як яны забегаюць... Пракантралюем, а тады аддадзім.

З-пад павеці «лёгкая кавалерыя» накіравалася да воза. Толькі ўзяліся за ручкі аднаго бітона, як, адкуль ні з'явіся, загудзела палутаратонка. На двор фермы ўз'ехаў і затрубіў Андрэй Дубовік. Чаго ён трубіць?.. Даярка Анэта паказалася з варот і прыкмеціла мітусню ля воза. Хто там валтузіцца?.. «Цяго-сьто» яна пазнала, а другога ў шапцы-капітанцы — не. Анэта закрычала на ўвесь двор:

— Эй, Касавокі, ты што робіш? Што табе тут трэба?

Вілюевіч разгубіўся перад Дубовікам, які вылез з кабінкі, а потым згаварыў баском, строга:

— Прашу, без мянушак!.. Мы правяраем, як ахоўваецца калгасная маёмасць.. От скажыце, што ў бітонах?

— Ранішні ўдой.

— Правільна! Значыцца, калгаснае дабро. Дзе загадчык? Хто старшы? Хто тут вартуе?

Стась і Ваня злезлі з воза. Аднак Стась, узяўшыся ў бокі, не спыняўся гневацца, рабіў допыт:

— Я цікаўлюся, чаму малако кінулі-рынулі і пайшлі? Наводшыбе. Пры дарозе... Знімай бітон, нясі, і ніхто не бачыць!.. Прывітанне, таварыш Дубовік!..

— Дык я ж выйшла... Тут жа ўсе свае, навідавоку,— вінавата адказала Анэта, Андрэева цётка.— Сяло блізенька... Акуль злодзею ўзяцца? Хто на малако паквапіцца?

— Паквапіцца, цётачка! Яшчэ як пакваняцца!.. Вы самі ведаеце, час цяпер неспакойны. Глядзець трэба пільна, ва ўсе бакі!.. Мы, як «лёгкая кавале-

рыя»... ад рэвізійнай камісіі праўлення!.. Што ж гэта такое? Цэлую гадзіну прачакалі, а малако стаіць, і нічыйго нагляду няма. Хто за воз адказвае?

— Дзед Ермалай, Ермалай Ламака.

— Дзе загадчык МТФ?

— Загадчык Супрун пайшоў у кантору. Звесткі ўдою панёс. А дзед.. куды ён праваліўся?.. Недзе Жаўтабрушку шукае.

— А-я-яй! — ківаючы галавой, пачаў сарамаціць Вілюевіч.— Так уся ферма праваліцца можа... Расхлябанасць у вас, непарадак!.. Пайшлі! — звярнуўся ён да Вані.— Да пабачэння, таварыш Дубовік. Прыходзь сёння ў клуб, пагаворым. Культмерапрыемства сплануем.

Стась з Ванем пакінулі двор кароўніка.

— Што за начальнік? Хто такі? — запыталася Анэта ў Андрэя.

Задуменны Андрэй маўчаў. Вілюевіч ужо, бач, «культмерапрыемства плануе». Тое, што Вілюевіч панадзіўся хадзіць да старшыні, ён не мог не прыкмеціць. Асабліва калі была дома Лора. Заўважыў і насцярожыўся. Пры сустрэчы з ім рабілася прыкра. Аднак што адмоўнае пра сваяка Пагуляйскай ён мог Варонічу сказаць? Старшыня ўсюды хваліў яго за прывезеныя акораныя бярвенні. Цётцы Анэце Андрэй таксама нічога не сказаў, наадварот, сам запытаўся:

— Дзе ж Ермалай? Яму даўно пара везці малако.

— Я ж кажу, Жаўтабрушку, мусіць, шукае.

«Лёгкая кавалерыя» паўмежкам перасекла агароды і выйшла на вуліцу. Вілюевіч праявіў някепскую ініцыятыву. Яго мэта была неблагая, але ён штосьці не дадумаў, знянацку пайшоў правяраць і выпадкова трапіў на Ермалая. Хто такі дзед Ермалай? Стась крыху чуў пра яго, але добра не ўяўляў.

Пасля ён моцна каяўся. Каб ён бачыў яго, то, мабыць, не кратаў бы, ні яго воза, ні бітонаў. Няхай бы яны спрахлі, стоячы пасярод двара.

## X

Дзеду Ермалаю пісьманосец Тонька ўручыў ліст ад Паўла. Сын служыў на далёкаўсходняй граніцы. Дзед і пайшоў дахаты па акуляры. Пакуль шукаў «шкляныя вочы», пакуль чытаў пісьмо ад сына, час і набег. Вось чаму ён затрымаўся. Працаўнік дзед быў стaранны. Рана-раненька Ермалай запрагаў сваю Жаўтабрушку. У дождж, а часамі і ў спёку, апранаў брызентавы паношаны плашч з пакамечаным капюшонам, калі зімою — паддзяваў бравэрку, і дзень у дзень адвозіў малако на сыраварню за сем кіламетраў у Пецяўчыну.

Восем гадзін — дзед размаўляе, а то і сварыцца з Жаўтабрушкай; дзве гадзіны, абед,— звіняць-барабаняць пустыя бітоны — Ермалай вяртаецца з сыраварні... Па сонцы, па пеўнях і Ермалаю навасёлкаўцы звяралі час.

Ён быў з тых своеасаблівых людзей на сяле, якіх станавілася ўсё менш і менш. Дзед сам прызнаваўся:

— Нешта я мала пачаў сустракацца са сваімі сябрукамі-хлопцамі. Падзяндобрыцца б, закурыць, ды няма ўжо з кім. Адзін я застаўся...

І гэта без смутку, з гумарам. Ермалай да таго яшчэ быў жартаўнік. А калі яго што вымушала гневацца, перуны з яснага неба смалілі,— лепш з ім не заводзіцца. Сівая барада Ермалая, а калісьці яна была рыжая (рыжыя позна сівеюць!), аж трэслася, як ён крычаў на каго-небудзь за патраву або за ві-

лы, што не там, дзе трэба, паставіў — уткнуў на кароўніку.

Некалі ў Навасёлках на выгане пад галінастай вярбой тулілася маленькая лядашчая Ермалаева хатачка. Два акенцы па чатыры шыбкі — на вуліцу, адно — на капец смецця і гною ля хлява. У хаце — столь нізкая, падлога гліняная. Дзверы расчыніць — нагінайся! Тыя дзверы і вушакі паставілі знак у жыццяпісе Ермалая. Праўдзівей і дакладней: паставілі знак на лбе яго жонкі, Кацярыны. У час вяселля.

Было тое даўно. Яшчэ перад японскай вайной. Жаніўся Ермалай з Кацярынай. І ў самае вяселле выйшаў такі канфуз...

Прыехаў Ермалай з царквы, саскочыў з каламажкі, працягнуў руку маладой і вядзе будучую гаспадыню ў свой «палац». А «палац» Кацярыне — незнаёмы. Ён, Ермалай, тут рос, гадаваўся са сваімі братамі і сёстрамі. Вырас, як дуб, і, пераступаючы бацькаў парог, па звычцы сагнуўся ў дзвярах. Магчыма, ён папярэдзіў пакланіцца «палацу» і Кацярыне, ды тая не пачула за хорам дзяўчат, якія сустракалі маладых. Прывезеная з чужога сяла яна як ішла побач з Ермалаем, задумлівая, пад вэлюмам, што засланіў вочы, ды так і не сагнулася пры ўваходзе.

Казалі, хацеў пасекчы праклятыя вушакі ў дзвярах, якія нібы здзеклівай насмешкай спаткалі маладую. Але стары — яшчэ жыў быў бацька Ермалая — стрымаў раз'юшанага сына за рукі, сказаў:

— То ж на шчасце, не смяшы людзей! Няхай гузак Кацярыне на ўсё жыццё будзе першы і апошні. Сам новую хату пабудуеш. Уставіш дзверы высокія, філянговыя. З масенджнай ручкай, як у самавары.

Бацька Ермалая таксама быў чалавек не без гу-

мару. І, вядома, шчасця жадаў сыну. Яно так і выйшла. Пражылі яны з Кацярынай душа ў душу доўгае і нялёгкае жыццё. Пакаштавалі ўсяго. І гора, і радасці. Спаткалі адну вайну. Потым другую...

Вось, калі вярнуўся ён з першай, японскай, радасныя пайшлі яны да паповага сына ў Пяцеўчыну і сфатаграфаваліся. Вось картачка! З малымі дзецьмі. На ўспамін. Тут Ермалай, як удалы ваяка, стаіць «ва фрунт» і правай рукой Кацярыну трымае. Прыціскае да сябе, як вінтоўку... Шапка з цэшкай набакір. Вусы закручаныя. На грудзях — Георгіеўскі крыж. Навокал туляцца малыя дзеці... Паўла яшчэ не было. Павел народзіцца пазней, перад першай сусветнай. От, Ермалай вярнуўся з імперыялістычнай. З немецкага палону. Худы. Атручаны газам... Шмат-шмат картачак на сцяне, як у звычайнай вясковай хаце... Весялейшыя, канешне, тыя, што выйшлі нядаўна... Гэта Павел, лейтэнант, з двума квадрацікамі на пятліцах... Алена з мужам, дачка. Яна працуе ў Ціханавіцкай школе. Настаўніца. А гэта — асобая картачка. Зрабіў яе не папоў сын, як некалі, а Ермалаеў унук. Любіцельская. Цьмяная. Але дзед пазнае сябе з пацехай. Ермалай трымае на павадку калгаснага бугая. За рагатага неслуха навасёлкаўцы прэмію на выстаўцы атрымалі. Як бачна сцэна: яго сярдзіты гадаванец да сябе нікога не падпускае, толькі — дзеда! Ермалай яго чухае... Хоць здымак вучнёўскі, шэры, а дзеду любы. Ганарыцца, радуецца Ермалай здымкам, нібы тым жыццём, якое цяпер настала... Дом у Ермалая, як наказваў бацька. Толькі ў калгасе ён здолеў споўніць сваю мару. Разбудавацца. Паставіў хату на ясным баку вуліцы. Знадворку: лабастыя трохшыбныя вокны з пафарбаванымі аканіцамі. Унутры — чым не палац? Столь — рукой не дас-

таць. Кухня, святліца, спальня. Дзверы з шаляванымі вушакамі і з блішчастымі масенджнымі ручкамі. Не клямку, а ручку ўніз націскай!.. Эхе-хе!.. Дзверы і вокны ў хаце павышэлі, але ён сам — не расце ўгору.

— Стаптаўся... Халера — старасць, каб на яе прыпадкі! — кажа дзед.

Кацярыну, як былінку, сагнула.

Бадай, ужо было пад вечар, разглядаючы каторы раз картачку, якую з лістом у канверце прыслаў Павел, і дзед не заўважыў, як масенджная ручка ў дзвярах варухнулася ўніз. На парозе — Андрэй Дубовік.

Прывітаўся хлопец.

— Што скажаш? — спытаў дзед.

Ермалай з Андрэем размаўляў папросту. Між імі — дружба. Штодня сустракаюцца. Пакуль дзед з бітонамі праедзе, Андрэй чакае, каб не спудзілася Жаўтабрушка. Прыцішыць паўтаратонку. Падзяндобруюцца. Загавораць. Адзін аднаму пажадаюць удачы. І едуць далей.

Да ўпартага і незгаворлівага дзеда, якім лічыўся Ермалай, падаслаў хлопца настаўнік Гарасімчык, які ведаў пра гэту дружбу. Сакрэтная размова!

Андрэй з парога і хацеў, як кажуць, браць дзеда за бараду, каб Ермалай прыняў удзел у пастаноўцы спектакля, які моладзь рыхтуе да свята. Ролю даюць вельмі адказную. Ніхто яе не здолее, толькі дзед зможа выканаць.

Але Ермалай, не слухаючы хлопца, махнуў, перабіў рукой:

— Мой Павел пісьмо прыслаў. Не чуў? На, пачытай!

Старому яшчэ хацелася пачуць уголас тое, што ён ужо чытаў некалькі разоў. Ці мог адмовіцца Ан-

дрэй? Ён узяў з дзедавых рук складзены аркуш паперы і, сеўшы каля Ермалая, стаў чытаць.

Павел пісаў з Далёкага Усходу. Жыццё там трывожнае. Штодня варожыя правакацыі. Загінуў зямляк пагранічнік Васіль Баранаў. Бацька з Беларусі прыслаў на яго месца другога сына... Павел пільна служыць. Яны з Баранавым мужна ахоўваюць мяжу. Ён, Павел, узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі...

— Ну, бачыў, які герой?! — заганарыўся дзед. І пачаў успамінаць, як ён у штыкавым баі заслужыў Георгіеўскі крыж. Цяпер тая ўзнагарода нішто, а тады лічылася — ого! — высокай! Ермалаю вельмі хацелася растлумачыць Андрэю, што і ён, і сын яго, Павел, вызначыліся ўзнагародамі ў барацьбе з японцамі. На Далёкім Усходзе. Дзед шукаў нейкую сувязь між фактамі. Андрэй Дубовік уважліва слухаў, пакуль Ермалай не скончыў апавяданне.

Хто знае, дзе праявіцца ў чалавека гераізм?!.

Яны сядзелі і думалі.

Андрэй уздыхнуў, вярнуў дзеду прачытаны ліст і зноў пачаў з таго, з чым прыйшоў:

— Дык як вы наконт нашай просьбы? Мы хочам, каб вы... вы шмат бачылі, гераічна ваявалі. Былі ў партызанах!

Ермалай закруціў галавой.

— Не згодны? — спалохаўся Андрэй.— Чаму?

— Хочаце старога ў лапці абуць, выпіхнуць на сцэну і вышкаляцца. Ведаю вас.

— Выскаляцца ніхто не будзе. Ні мы, ні ў публіцы. Роля гераічная. Аднаму вам яна падыходзіць. На сцэну выйдзеце ў ботах, узброены, з гранатай!..

— Ого, з гранатай? Дзе ж вы баявую лімонку дастанеце?.. Што за п'еса?.. Той жа раз ставілі нейкі спектакль. Фізкультурнікі бегаюць. У трусіках.

Я ніяк не ўцяміў, што да чаго?.. Куды мне да вас, маладых?!

— Не, цяпер п'еса не такая... Пра партызан. І называецца — «Партызаны» Кандрата Крапівы.

— Андрэй, не дурэй!.. Не мароч галаву!

— Дык мяне ж прыслалі,— узмаліўся хлопец.— Усе просяць. І Герасімчык. Ён будзе суфлёрыць з будкі.

— Скажы, што Кацярына тады яго начаваць не пусціць. Прагоніць. Артыст — ідзі да артыстак!..

Андрэй бачыў: дзед жартуе. І як яго, упартага, сагітаваць, каб прыйшоў на рэпетыцыю? Мала ўжо засталося да Першага мая.

— Учора нехта прыходзіў на ферму,— азваўся Ермалай,— мне Анэта казала... бытта рэвізор. Правяраў з Ванем Касавокім. Што за начальнік? Ты яго бачыў?

— Выходзіць, начальнік, калі заявіўся правяраць,— таксама спакойна адказаў Андрэй.

— Гэта мяне?

— Ну, вас.

— Што ў мяне правяраць?

— Чаму на возе ў бітонах малако стаяла і ніхто не пільнаваў... Дзе, кажа, вартаўнік?

— Ох, бяда вялікая! Знайшоў агрэх, як тапор пад лавай.

— Час цяпер, кажа, строгі. Трэба быць пільнымі.

— Ды ўжо ж! Манжурыя, ці, як Павел піша... Манчжоў і Го!..

— Хацеў бітон адзін зняць. Што без нагляду. Але, як убачылі яны цётку Анэту, адступіліся.

— Дзіўлюся, які я разумнікі?!. А я, значыцца, хто? Халатны нядбайнік? Пасобнік ворагам? Хто ж такі пільны знайшоўся?

— Вілюевіч, што кватаруе ў Пагуляйскай.

— Вілюеўчык? — здзівіўся Ермалай.— Гэта яго Анэта не пазнала?

— Ён. З майго сяла. Мы, выходзіць, аднавяскоўцы.

— То які ж ён рэвізор, сваяк Пагуляйскай? Пагуляйская і яго маці — родныя сёстры. Знайшлося мне начальства!

Дзед Ермалай аж закурыў ад нахлынуўшага абурэння.

— Яго ж бацька, Уладзіслаў... Ну, гэты самы, Качар!.. З вашага сяла... пры мне ад спірту ледзь не згарэў... Ты яшчэ малы быў. Дзе табе помніць апошнюю вайну?!. Тут уцякалі белапалякі. Наша армія турыла іх на захад... Дык яны, легіянеры, усё, што маглі забраць, бралі, а астатняе — нішчылі. Глумілі! У Ціханавічах на рэйках стаяла цыстэрна спірту. Пасярод таварных вагонаў... Прастрэлілі — паліўся спірт!.. Лужа расплылася па зямлі, як ад дажджу... А Качар, гэты самы, яго бацька, як дарваўся!.. Ляжыць і бурбаліць. Счарнеў!.. Мы вызвалілі станцыю і знайшлі яго непрытомнага. Адцягнулі пад насып... А чалавек, можна сказаць, масцеравы... Стальмах — пашукаць, не знойдзеш! Толькі сабой — паскуднік!.. Падліза! Пражыў на хітрыках і п'янстве... Няўжо і сынок па бацьку пайшоў?.. Ну, пачакай жа! Сустрэну, будзе ён, рэвізор, помніць!.. Як дражняць: «І па локцях, і па каленях!..»

У вачах дзеда зыркаў няласкавы агеньчык.

— Дык жа ён у старшыні бывае,— нясмела заўважыў Андрэй.— Можа, яму Вароніч даручыў?

— А што мне Вароніч? — адразу павысіў голас Ермалай.— Бог, цар, воінскі начальнік?.. Я і старшыні скажу. Прама, у вочы!..

## XI

Навасёлкаўцы рыхтаваліся да Першага мая. Стараліся спаткаць свята працоўнымі перамогамі.

Палявыя работы ішлі ўдарна. Канчалі сяўбу збожжавых. Вароніч меркаваў: калі будзе час у запасе, распачне пасадку бульбы.

Рабочых рук не хапала. А тэхнікі — кот наплакаў. На ўсе палеткі гудзеў адзін трактар.

— Падвязі гаручае,— сказаў старшыня Андрэю Дубовіку,— а потым, можа, дасі падмену трактарысту? Стаміўся, небарака... У дзве змены пойдзе спарней. Раней усеемся.

Андрэй Дубовік ніколі не адмаўляўся, ішоў на любое заданне. А тым часам у Навасёлкі прыехала Лора. Яна, мабыць, адпрасілася дадому. Увечары прыбегла ў клуб.

Моладзь і старэйшыя вучні ставілі спектакль. Калісьці да вучобы ў медтэхнікуме і яна ўдзельнічала ў такіх пастаноўках, але, як паехала ў гарадок, адарвалася ад драматычнага гуртка і абарвалася яе артыстычная дзейнасць. Праўда, у тэхнікуме яна не пакінула самадзейнасць, удзельнічала ў хоры...

Прысутнічаючы на рэпетыцыі, Ларыса з цікаўнасцю сачыла за ўсім на сцэне. Адну ролю — камандзіра Чырвонай Арміі — настаўнік Гарасімчык, які быў за рэжысёра і за суфлёра, толькі зачытваў. Выканаўцы не было. Дзе ж ён? Хто гэта? Чаму адсутнічае?.. Ад Гарасімчыка потым даведалася: роля — Андрэя Дубовіка!..

Ціхенька села на краёчак лаўкі. Сачыла далей.

Клубам у Навасёлках лічыўся самы найбольшы клас пачатковай школы. У ім магло змясціцца чалавек сто. А калі што надта важнае склікалася ці

адбывалася ў Навасёлках, то ўмяшчаў каля ста пяцідзесяці з гакам. Летам вокны адчынялі: праз вокны, павісшы на падаконнікі, людзі слухалі, што ў клубе гавораць або чытаюць.

Будынак школы старадаўні, велізарны. Ён разгароджваўся на дзве палавіны. Класы, дзе навучаліся дзеці, займалі большую палавіну, туды быў свой уваход, настаўнікі нават мелі сваю баковачку — настаўніцкую, а меншая — адводзілася для розных грамадскіх мерапрыемстваў. Галоўным чынам для сходаў. Яна мела свой уваход. Яго прапілавалі на месцы аконнай рамы (вядома, не без дазволу сельсавета!) і прыбудавалі ганак. Здарылася гэта ў дваццаць дзевятым годзе. Калі пачыналася калектывізацыя. Навасёлкаўцам даводзілася ўдзень і позна ўвечары збірацца на сходы, а каб не перашкаджаць настаўнікам праводзіць школьныя заняткі, бацькі адгарадзіліся ад іх. Скразныя дзверы наглуха замкнулі і заканапацілі. Хоць у час рамонту або на канікулах, калі класныя памяшканні пуставалі, гэтыя дзверы адмыкаліся і адчыняліся.

Такі падзел, вядома, быў не самаўпраўствам, не ад раскошы і ненадоўга. Сельсавет дазволіў яго часова, памяшканне надта прасторнае, а калі будуць лепшыя ўмовы, калі разбагацеюць сяляне на грамадскія будынкі, спыніцца незвычайнае размежаванне. Нават моладзь, што адразу вельмі абрадавалася адкрыццю свайго клуба, пачынала незадаволена хныкаць. Не такі ўжо зручны і выгодны ён аказаўся. Кожны раз напярэдадні Кастрычніка ці Першамая занава з дошчачак майструй самаробную сцэну, нацягвай на дрот шырму... Танцы хочаш — узгадняй з настаўнікамі, сапраўднымі гаспадарамі... Калі ж будзе для моладзі самастойнае, адпаведнае месца для адпачынку?!.

Такія нараканні старшыня калгаса Вароніч, безумоўна, улічваў. Летась ён сумесна з праўленцамі, складаючы перспектыўны план будаўніцтва, запісаў пункт: пасля канюшні пабудаваць клуб, а таксама лазню.

А пакуль сходы, вечарынкі, спектаклі адбываліся тут.

Пасля рэпетыцыі як звычайна зайграў гармонік. На гармонік — толькі зарыпай — збіраліся хлопцы і дзяўчаты з усяго сяла. Дзе ні працавалі б яны, дзе ні хадзілі б ад ранку да цямна іх ногі — самі подбегам імчаліся ў клуб.

Хлопцы парасстаўлялі па баках доўгія лаўкі, што служылі радамі ў глядзельнай зале і падмосткам для сцэны. Запалілі святло з дзвюх лямпачак. На асветлены круг пайшлі пары адна за адной.

Ларыса перагаварыла ўжо ўсе навіны са сваімі сяброўкамі, з настаўнікам Гарасімчыкам і цяпер, як зайграла музыка, нецярпліва аглядалася кругом. Калі б хто прыгледзеўся, заўважыў бы ў позірку яе і лёгкі смутак, і нервовасць. Дзяўчыну непакоіла маруднае чаканне. Праз гэта здавалася: гармонік выцінае залішне тонкімі галасамі, неяк кратае сэрца. Чаму Андрэя няма? Ну дзе ж ён затрымліваецца?

І раптам яна пачула ветлівы галасок над вухам... Вілюевіч!

— З прыездам!.. Дазвольце з вамі, Ларыса Апанасаўна... Выбачайце, як ваша самаадчуванне?.. Можна развеяць ваш, мне здаецца, сумны настрой?

— А як ваша галава, ужо не баліць?

— Не баліць, Ларыса Апанасаўна, перастала!.. Вы найлепшы доктар ад маёй хваробы... Фокстротам можаце? Кальласка!

Далонькамі ўгору, далікатна, нібыта просячы на рукі малое, ён пацягнуўся да дзяўчыны. Дзяўчына

заўважыла ражок каляровага насавічка, што шыкоўна вытыркаў з кішэнькі на грудзях, мусіла прытуліцца. Факстротам дык факстротам!.. Выйшаўшы на круг, яна суладна імкнулася патрапляць яго зграбным, але па-гарадскому модным рухам. І ў райгарадку, калі сустракаліся, і цяпер тут, танцуючы, яна старалася, як магла, з пашанай аднесціся да гэтага старэйшага за яе, інтэлігентнага чалавека. Каб не збіць з панталыку, не пакрыўдзіць!.. Каб на яго культурныя выразы адказаць такімі ж далікатнымі словамі. Ён жа заўсёды — яна гэта бачыла і разумела — абыходзіцца з ёй ласкава... Але вось, прыхінуўшыся да яго пінжака, дзяўчына адразу ўлавіла пах духоў, а потым перагар самагонкі. Асабліва несла ад яго, калі размаўляў.

— Сёння тут, Ларыса Апанасаўна, была ў мяне работа, без праекта, але архітэктурная, калі можна так выразіцца... Вам ацаніць, як я спланаваў і выканаў... Агледзьцеся і ўгадайце!

— Вас частавалі за яе? — адразу насмешліва секанула дзяўчына.

— Не, што вы, Ларыса Апанасаўна! — не ўлавіўшы кплівасці, адказаў ён.— Які пачастунак ад Гарасімчыка? Дармова?.. Хіба на свята. Проста мой грамадскі абавязак штурхнуў у адказ на яго просьбу... На сцэну гляньце!

— А што?

— Па майму праекту. Падабаецца?

— Такую сцэну мы заўсёды самі рабілі. Камсамольцы і вучні. Кожнае свята.

— Але паглядзіце, якія прыступкі. Памост, нібы на гарадской эстрадзе. Няўжо вам не падабаецца?

— У Навасёлках даўно ўжо трэба мець новы клуб.

— Згодзен, Ларыса Апанасаўна.

— Тут жа цесна. Як было дапатопнае прыходскае вучылішча, так і засталося. Нічога іншага не прыдумаеш.

— Згодзен, Ларыса Апанасаўна.

Яны абышлі круг, і ён зноў задыхаў ёй у твар:

— Вы, Ларыса Апанасаўна, тут закончылі пачатковыя класы?

— Тут.

— Дзе ваш клас, у якім адбыўся выпуск?

— Там! — кіўнула дзяўчына на двухстворкавыя дзверы.

— Што вы кажаце?! Цудоўна! Можа, і парта яшчэ ёсць, дзе калісьці пісалі кантрольную... Не забыліся на ўласную парту, Ларыса Апанасаўна?

— Вядома, яна нідзе не дзелася.

— А можна паглядзець, дзе вы сядзелі?

— Навошта?

— Цікава зірнуць... Адкуль вы ўставалі і адказвалі на ўроках, на экзаменах.

«Дзіўна, што зацікавіла яго мая парта? Куды ён хіліць?» — падумала дзяўчына і адказала:

— Немагчыма дабрацца да яе... Трэба заходзіць аж з таго боку, дзе настаўніцкая... А гэтыя дзверы замкнуты.

— Не, не замкнуты. Я сюдою інструменты адносіў Гарасімчыку. Давайце зойдзем, паглядзім, Ларыса Апанасаўна. Я вас прашу.

Ларыса, танцуючы, трымалася далікатна. Сказаць яму, што ад яго нясе перагарам, здавалася нетактоўна. Не дазваляла сціпласць.

Як змоўк гармонік, хацела адысціся, але Вілюевіч пачаў прасіць Ларысу паказаць сваю парту. Яна гадала: адмовіцца — падумае, пабаялася; кінуць яго, адбегчыся — пакрыўдзіцца... Ці не будзе недарэчна з яе боку?..

А, падумаеш,— пераступіць парог свайго было-

га класа, калі ўваход адамкнуты — яна і без Вілюевіча ведала,— нічога страшнага!

— Там жа цёмна, што вы ўбачыце? — яшчэ паспрабавала адмовіцца дзяўчына.

— А мы запалім святло! — І Вілюевіч кінуўся да дзвярэй.

У клубе гудзела моладзь, граў гармонік, і ніхто на іх не звярнуў увагі.

Ларыса зайшла ў памяшканне свайго былога класа, калі Вілюевіч ужо ўключыў святло.

— Вунь мая парта, трэцяя! Бачыце, як новенькая.

У класе, як і раней, прывычна, у два рады з праходам пасярэдзіне стаялі знаёмыя школьныя парты. На сцяне вісела геаграфічная карта. Дошка пакрэмзана крэйдай, нейкімі лічбамі. Даўно не была тут Ларыса.

Вілюевіч застыў як зачараваны — зрабіў выгляд, быццам перад ім не класная лаўка, а нейкі рэдкі музейны экспанат. Потым, насцярожана азірнуўшыся, ён наблізіўся да дзяўчыны і паспрабаваў ласкава прытуліць яе да сябе.

— Што вы робіце? — уздрыгнула Лора, выстаўляючы перад сабою рукі ў абарону.

— Нас ніхто не бачыць. Мы тут адны, Ларыса Апанасаўна.

Вілюевіч умела, быццам толькі што танцуючы фокстрот, абхапіў Ларысу за талію і настырна пачаў прыціскаць да сябе.

— Не бойся, міленькая!

— Хіба так можна?!. Як вам не сорамна! — абурылася дзяўчына.

— Можна, усё можна...

Адбіваючыся, ёй было брыдка за свой давер калісьці ў гарадку пайсці з ім у кінатэатр, а цяпер сюды, у клас.

— Я пацалую...— лепятаў ён.— Даражэнькая, любенькая, не вырывайся.

Ёй удалося адштурхнуць яго. Але зноў ён, дарослы дзяцюк, дыхаючы смярдзючым перагарам, накінуўся, каб прыціснуць яе да сябе. Дзявочыя рукі ледзь стрымлівалі яго парывы. Ларысе зрабілася боязна.

— Я людзей паклічу, дзядзька Вілюевіч!

Гэта крыху ацверазіла кавалера, а словы — асабліва «дзядзька Вілюевіч» — засмуцілі яго.

— Ціха, ціха! Ну, навошта? Ты не бойся, толькі пацалую... Хіба вам самім не хочацца? Я ж ведаю, хочацца...

— Пусціце!

Яна рванулася што было сілы і пабегла праходам між партаў. Брошка шкляная, якую Вілюевіч мяняў у райцэнтры на медальён з залатым ланцужком, упала і пакацілася кудысьці пад лаўкі. Лоры не было калі шукаць. Хутчэй да гаманы ў клубе, схавацца між дзяўчат! Яе даганяў страх. І апякаў сорам. Не за сябе. Яе апанавала гідлівасць да чалавека, якога яшчэ да гэтай хвіліны лічыла прыстойным.

Вілюевіч застаўся адзін у асветленым класе. «Можа, трэба было спачатку патушыць гэтыя д'яблавыя лямпачкі, калі яна зайшла?» — гадаў ён, надзімаючы губы.

А яна ў зале хвалявалася: дзе Андрэй? Няўжо не прыйдзе? Хоць уцякай дадому...

І тут Лорын твар крышку пасвятлеў — яна ўбачыла Андрэя. Хлопец нерашуча таптаўся ў дзвярах з вуліцы, заглядваў у клуб. Лора сама кінулася да яго, але пры сваім душэўным узрушэнні нават не прывіталася, сказала з напускной злосцю:

— Дзе ты прапаў сёння?

Андрэя такая сустрэча здзівіла, калі не пакрыў-

дзіла. Ён і сам з дакорам мог запытаць, дзе яна прападала? Не давала аб сабе голасу больш за два тыдні. Ён некалькі разоў званіў ёй па тэлефоне... Але, заўважыўшы, што Лора ўстрывожана, змаўчаў. Ну, а чаму спазніўся, хіба не відно? Мурзаты, прапахлы газаю, ішоў ад трактара. У рабочай вопратцы ішоў дадому, каб памыцца і пераапрануцца, але не стрымаўся і зазірнуў сюды, дзе гарэла яркае святло, чуўся гармонік. Ён збіраўся толькі глянуць і подбегам да цёткі, мыцца...

Лора затрымала і не адпускала. Больш таго: учапілася за рукаў і пацягнула на танцавальны круг. На самую сярэдзіну. Андрэй аднекваўся і ўпіраўся. Ён паказваў на свае рукі, гаварыў нешта, яна — сабе, і, бадай, не разбіралі адзін аднаго.

Гарманіст зайграў вальс.

Тым часам Вілюевіч, прычэсваючыся навамоднай расчоскай — яна складалася, як нож-складанчык,— з'явіўся ў зале. З'явіўся, нібыта нічога не адбылося. Але ён адвык губляцца, бянтэжыцца або саромецца.

Лора прыкмеціла яго і з прыкрасцю адвярнулася. Яе мучыла: няўжо ў яго няма ніякага сумлення? Ён не адчувае адказнасці за свае ўчынкі! Гэта жахліва... Ідзе сюды. Вілюевіч, не зводзячы з яе позірку, праціскаўся між танцуючых.

— Хадзем танцаваць, Андрэй! Ну хутчэй жа, пайшлі!

Хлопец зноў сарамліва распасцёр нямытыя далоні, сваімі маслянiстымі пальцамі паказаў на яе кофтачку, белую, вышываную на плечуках: куды ў такім выглядзе?!.

І тут пачулася вуркатлівая, знаёмая скорагаворка:

— Прывітаннейка, землячок-аднаселец! Як жыццё маладое? Што так неважнецка прыбраўся?

Фэ, братко, вельмі пахнеш... Ларыса Апанасаўна, проша на вальс!

Дзяўчына, палахліва азіраючыся, шукала паратунку. І Андрэй яе зразумеў:

— Не бачыш, я сам іду танцаваць.

— Хе-хе, ад цябе газай пахне за вярсту. Прабач, твой від, братко, нікудышны. Партнёршу запэцкаеш. Эх, маладая сельская механізацыя! Прашу, Ларыса Апанасаўна!

Андрэй пачырванеў, разгубіўся. Але адчуў і зразумеў усё. Відаць, і Лоры не падабаўся гэты пажылы элеганцік, які падладжваўся, нібыта прыслужлівы лёкай.

Тут Ларыса, усміхаючыся, пацягнула Андрэя ў круг. Яна ў бялюткай кофтачцы, расшпіленай на грудзях (брошачка адарвалася пры валтузні ў класе), паклала абедзве рукі на плечы трактарыста. І ён, мурзатае цапільна, ступіў за ёй. Абняў...

Вілюевіч аслупянеў... Не, ён не паказаў, што яго спасцігла няўдача. Вы яшчэ кепска ведаеце Вілюевіча. Ён, як заўсёдашні весялун — а яму даводзілася кіраваць масоўкамі, рознымі танцамі ў карагодзе,— спрытна падхапіў другую дзяўчыну, першую, якая трапілася пад руку, з ходу пусціўся па кругу. Апынуўшыся поруч з Андрэем і Ларысай, закамандаваў:

— Перамена барышань!.. Кавалеры на месцы, барышні — уперад!

— Не слухай! — прашаптала Ларыса.— Танцуйма як танцавалі!

І яны, весела кружачыся, мінулі ўсіх, хто спыніўся. Зрабілі круг, другі. Лора расчырванелася, вочы яе зіхацелі ад радасці.

Спыніліся, калі змоўк гармонік.

Вось тут і адбылося штосьці неверагоднае. І магло б закончыцца непрыемнасцю на ўсю вечарынку.

Вілюевіч разгневаўся: чаму не ўсе падпарадкаваліся камандзе? Унутры Стася прачнуўся д'ябал і падштурхнуў: правучыць непаслухмяную пару! Большасць слухаліся, а гэта — не. Захацелася — дар за дар — зрабіць такое, як Андрэй і Ларыса яму. Ён умеў адпомсціць непрыкметна і балюча. Прычына была, а повад і спосаб знайсці лягчэй. Жартам можна разыграць, беспакарана. Усе ж бачылі: шчаслівая пара і ў клубе адшукала ўтульны куточак (маладыя стаялі якраз ля выхаду — знадворку дыхала вясновая прахалода), а самі яны, абсмяяныя, вядома, сарамліва будуць маўчаць — гэта ўжо будзь упэўнены!

— Цяпер усё ясненька, Ларыса Апанасаўна,— крыўляючыся да Андрэя, а Ларысе, нібы па сакрэту, загаварыў Вілюевіч.— Толькі вы яму не верце. От ён перад вамі — ціхоня, блазнам прыкідваецца, а сам малераўскі донжаан! О-о, такога яшчэ на спектаклях не спаткаеш... М-я-ў, хе-хе-хе! Дык гэта вы ўдваіх сядзелі на лаўцы, калі каты спраўлялі марац? М-я-я-ў, хе-хе-хе!.. Помню, братко, ты выхваляўся, кошкі, кажа, хе-хе, перашкодзілі. Значыць, вы ўдваіх былі. Пацеха! Мя-я-ў, хе-хе-хе!

Пагардлівы смех задаволенага Вілюевіча збянтэжыў Андрэя так, што ён не мог вымавіць слова. Здалося, галышом выставілі яго перад усім белым светам. Нідзе не дзенешся ад кпінак і здзеклівага рогату. Бацюхны!.. Дробязь, зусім нязначная дробязь, у вуснах гэтага яхіднага чалавекаператварылася раптам у страшэннае абвінавачванне. Нічога яму Андрэй не гаварыў, праўдзівей, не хацеў гаварыць, але гэты разбэшчаны выскаляка незразумела як выпытаў чужы сакрэт і цяпер пацяшаўся, яму прыемна было насміхацца. І гэта ў прысутнасці Лоры!..

Лора стаяла, апусціўшы вочы. Яна ўсё помні-

ла — і лаўку пад ліпай, і нясмелы, таропкі пацалунак. Была таямніца, адна на дваіх, а зараз таямніцы няма, аб усім даведаўся гэты смярдзючы распуснік, і заўтра чуткі паляцяць на ўсё сяло... Пасмешышча. Дазнаюцца бацька, маці... Божа мой!

Лора шмыгнула праз цёмны калідор на вуліцу, пакінуўшы Андрэя.

— Хе-хе-хе, м-я-я-ў! — наўздагон рагатаў Вілюевіч.

Ніхто з прысутных, якія тут стоўпіліся і глядзелі на ігрышча ў клубе, вядома, нічога не заўважыў. Што каму да смеху Вілюевіча? Рагатун!.. Ён і сам лічыў сябе гарадскім чалавекам, мабыць, не разумеў, які боль зараз прычыніў сваім учынкам Ларысе і Андрэю. Э-э, вясковая драбяза, блазнота!..

— Чаго развесіў вушы? — звярнуўся ён да Андрэя.— Я вучыў цябе, як брацца за дзеўку... Нахрапам! Так заўсёды рабілі, братко. Так было і будзе! На тым свет стаіць!

Андрэй, сціскаючы кулакі, дрыжаў як у ліхаманцы. Вось-вось нарастала жаданне: схапіць гэтага залатазубага выскальку за фасоністыя штрыфлі, падняць і стукнуць аб вушак, каб аж вылузаўся з моднага пінжака, што ўпрыгожаны пярэстым насавічком у кішэньцы. Ён раптам ступіў да Вілюевіча.

— Ну, ну! — адступаючыся ад яго ў залу, залепятаў сваяк Пагуляйскай.— Малакасос, марынаваны ў салярцы! Бяжы за ёй, даганяй, братко!

— Я вам яшчэ пакажу, на чым свет стаіць! — працадзіў скрозь зубы Андрэй.

Сапраўды, дзе знікла Лора? Ён яшчэ расквітаецца з гэтым Вілюевічам. Андрэй кінуўся ў начную цемень.

Ужо каля Варонічавай брамкі дагнаў.

— Пачакай, спыніся, Лора!

Яна спынілася, усхліпнула.

— Ну, чаго табе?

Як растлумачыць ёй, зняважанай і пакрыўджанай, усё, што адбылося?.. Сказаць — гэта выпадковая недарэчнасць. Не, нічога ён не мог растлумачыць. Лічыў сябе справядлівым, стрыманым, сумленным, а вось выбалбатаў. Зляцела з языка. Тады адчуваў. І адмаўляцца, вывіжоўвацца — не ў яго натуры. Які ж брыдота і падлюга гэты Вілюевіч!

Нейкі момант Ларыса чакала. Можа, Андрэй загаворыць? Можа, ёй самой расказаць, як Вілюевіч, бессаромны, пашляк, пішчом лезе, прыстае, чапляецца? Расказаць пра залаты ланцужок, пра паход у кіно, расказаць пра ўсё, каб знайсці абарону. Але ад каго? Каму расказаць? Хто заступіцца? Ларыса нават не ўяўляла, што Андрэй Дубовік хаўрусуе з ім, дзеліцца патаемнымі думкамі са сваім аднавяскоўцам, разам смяецца з яе. Як гэта крыўдна і брыдка...

— Прабач, Лора...— Андрэй вінавата буркнуў і больш — ні слова.

— Я не магла падумаць, што вы адзін аднаго вартыя... Ну, што ж, гэта ваша справа. Толькі мяне не чапайце!.. Адыдзі ад мяне!

Заплакаўшы, яна знікла за брамкай, а Андрэй адзінока застыў на вуліцы.

## XII

Колькі прыемных клопатаў дарослым і дзецям прыносіць Першамай. Свята вясны! Міжнародны дзень салідарнасці працоўных усяго свету!

Чырвоныя сцягі... Барвовыя палотнішчы... Зялёныя гірлянды, вянкі...

Для ўбранства школы, клуба ў хаце не знойдзеш нічога найлепшага, як галінкі сасны, яловыя лапкі, пляцёнкі дзеразы. Прыгожыя і багатыя фарбы роднага лесу. Як сугучна дапасуюцца яны да чырвані ўрачыстых сцягоў.

Асабліва любімая ў Навасёлках дзераза. Пасля маразоў і сыпучых мяцеліц яна выглядае з-пад снегу жывой, віецца, растапырваючы светла-зялёненькія пальчыкі. Куды там лаўровым вянкам да вянкоў з беларускай дзеразы. Яна, як плывун-мурава — шаўкавісты павой. Яе не цяжка назбіраць, толькі трэба ведаць месца, дзе расце і віецца...

Настаўнік Гарасімчык ведае такое месца: між елак, пад дубком, пад беластволай бярозкай каля Ступні.

Напярэдадні вучні схадзілі туды, пад Ступню, на баравы ўзгорачак. Колькі было радасці! Дзяўчаткі аберуч ірвалі дзеразу, чапляючы яе пяшчотныя пляцёнкі на шыю. Хлапчукі нарэзалі і прынеслі ў класы калючых лапак елкі і доўгаіглістых сасновых галінак.

І вось ужо над ганкамі будынка школы і клуба закалыхаліся сцягі.

У памяшканнях канчалі руплівую работу. Праўдзівей, не работу, а ішоў гаманлівы рух, прыемны, перадсвяточны, у якім ніхто — ні малы, ні дарослы — не заставаўся пабочным наглядальнікам. Кожны ўдзельнічаў і хацеў паказаць сваю вынаходлівасць. Каб прыдумаць упрыгожанне цікавей, яшчэ больш аздобней.

Дзяўчаткі ў дзве групы, у школе і ў клубе, плялі гірлянды. На доўгія пляцёнкі з дзеразы, каб ставала на ўсё памяшканне, прывязвалі рознакаляровыя сцяжкі, выразаныя з паперы. А хлопчыкі вешалі накрыж з кутка ў куток пад столлю.

Унучка цёткі Пагуляйскай Гэля на падлозе ля

сцэны ў клубе на чырвоным палотнішчы малявала: «Няхай жыве Першае мая!..» Яна асцярожна абмаквала пэндзлік у раствор мукі з крэйдай і пісала літары, выведзеныя алоўкам па матэрыі. Як высыхалі, яны рабіліся шырокія і яркабелыя.

У перадсвяточным руху Гарасімчык не стаяў на месцы ні хвіліны. То ў класах, то ля сцэны, ён усюды паяўляўся, раіў, памагаў вучням.

У такі мітуслівы момант з'явіўся Стась Вілюевіч. Хіба можна абысціся без яго! Учора тут ён з гэблікам шліфаваў рамштукі, дошкі, абсталёўваў памост для сцэны, а сёння хіба магло закончыцца мастацкае афармленне клуба без яго ўчэпістай помачы. Зайшоў з Ванем Касавокім.

Наглянцаваныя джымі Стася пераступілі палотнішча, над якім схілілася Гэля. Стась прачытаў напісаныя словы, потым прысеў на кукішкі перад дзяўчынкай і пахваліў.

— Гэлечка! — уважліва паглядзеўшы на яе, звярнуўся ён да пляменніцы.— Адкуль у цябе такая брошачка? Дзе ты яе ўзяла?

— Знайшла ў класе пад партамі. Гэта брошка Воранічавай Ларысы.

Вілюевіч здзіўлена вырачыўся.

— Воранічавай Ларысы? Гэлечка! — папрасіў ён.— Аддай мне! Я куплю і прывязу табе з Мінска залатога жука!.. Хочаш два сабачкі карычневыя... Ці слонікаў на ланцужку. А старшынёвай Ларысе Апанасаўне я сам вярну брошку. Аддай яе мне, Гэлечка!

Дзяўчынка даверліва адшпіліла брошку. Вілюевіч узяў немудрагелістую цацку-прыколку, устаў і тут якраз заўважыў Гарасімчыка — гаспадара перадсвяточнай падрыхтоўкі. Паклонам прывітаўся з ім.

4 Зак. 2883

— Хараша намалявана,— пахваліў ён Гэлін лозунг.— Дзе яго, братко, павесім?

— На бэльцы перад сцэнай.

— Перад сцэнай?.. Так, так! — гледзячы на столь, заспяваў Вілюевіч.— Добра, братко, добра!..

Гарасімчык яшчэ сказаў, што заўсёды да рэвалюцыйных свят намаляваныя лозунгі ён вывешвае над сцэнай, уверсе, а абапал — сцягі.

— Вось гэтым я і займуся,— падрадзіўся Вілюевіч.— Ваня, драбіну! Малаток!.. Цвікі... Зараз жа! Памажы стол паставіць на сярэдзіну!..

Ваня, які хадзіў цяпер, нібы цень, за Вілюевічам, пабег шукаць драбіну.

— Вы, братко, кіруйце там, у класах! — паказаў на двухстворкавыя дзверы Вілюевіч.— А я тут сам арганізую. Можаце не сумнявацца! Як учора, зраблю з дарагой душой. І лозунг павешу. Будзьце ўпэўнены!..

Настаўнік пайшоў. Клопатаў яму хапала. А ў клубе засталіся дзяўчынка, якая памагала Гэлі, і Вілюевіч з Ванем.

Ваня Касавокі ўзлез на драбіну і, па камандзе знізу, прымерваў, дзе ўбіваць цвікі ў бэльку. А Вілюевіч то адыходзіў ад драбіны, то набліжаўся, на вока прымерваў, разлічваў так, каб было на адным узроўні.

І трэба ж было ў час такіх клопатаў Вілюевіча зайсці сюды Ермалаю Ламаку. Дзед ішоў, як заўсёды, з пугай і, заўважыўшы сцягі над будынкам, з цікавасцю зазірнуў у памяшканне.

Быў ён у ботах, у суконным футраку і шапцы-аблавушцы. На яго яшчэ не падзейнічала ні цяпло, ні наогул вясна. З пугай ён нідзе не разлучаўся. Закурвае, бывала,— пугаўё ўткне ў халяву, быццам шаблю ў ножны. Гэта ёмкае пугаўішча калісьці ў

лесе сам выразаў з ядлоўчыку. Гладка выстругаў, адшліфаваў і начапіў на яго дратаванку — з пяцькі туга звітую і яшчэ павіваную пугу. Жаўтабрушка не баялася яе, бо дзед хутчэй палохаў ёю.

Дзед зараз, трымаючы ў руцэ пугаўё з сабранай у жменю пугай, разглядаў развешаныя гірлянды. Убачыўшы Ваню Касавокага і незнаёмага ў шапцы-капітанцы, успомніў штосьці і аж абрадаваўся.

— А-а, дык вось дзе яны, кантралёры-кавалерысты!

Ваня адразу скеміў: можа здарыцца штосьці нядобрае, схаваўся за драбіну, прыстаўленую да сцяны. А Вілюевіч бесклапотна і весела глядзеў на дзеда Ермалая, якога бачыў толькі здалёк, а размаўляць з ім — не размаўляў.

— Ты будзеш Вілюеўчык? — спытаў яго дзед Ермалай.

— Станіслаў Уладзіслававіч Вілюевіч! — паправіў Стась.— А што?

Дзед, бывала, перад сур'ёзнай размовай пачынаў гаворку «дыпламатычна». Але нарэшце не саромеючыся пераходзіў на «басы», ужываў грозныя салдацкія выразы. Яшчэ са службы яму запомнілася штодзённае, як ён казаў, «культурнае» слова «панімаеш».

— Панімаеш, я твайго бацьку добра знаў... Прызываліся разам... Я папаў у пяхоту, на перадавую, а ён на адыходны промысел у Дубовы Гарадок...

— Карацей, дзед! Я тут пры чым?

— Карацей?.. Панімаеш, я сабе думаю, няўжо і ты такі хітрэц-мудрэц, як твой бацька?

— Сын за бацьку не адказвае. Газеты чытаць трэба... Калі вы што хацелі па справе да мяне, гаварыце! Канкрэтна!

— Ага, газеты?.. Тады скажы мне, дзе ты з газет вычытаў, што дзеля сваёй выгады і каб самому выслужыцца, другога ўтапіць трэба?

— Я нікога не тапіў. Я вас першы раз у вочы бачу.

Дзед пераходзіў на «басы»:

— А «лёгкая кавалерыя»?!. Ты ж не кавалерыст, а кар'ерыст! Які з цябе начальнік?.. І хто, панімаеш, навучыў цябе такому пыху?..

— Паўтараю, я вас першы раз бачу... Прашу такімі словамі не кідацца!..

— А я цябе, панімаеш, не бачыў, але ведаю, Качараў сын!

— Толькі без абразы,— паглядзеўшы на Ваню, на спалоханую Гэлю, гнеўна агрызнуўся Вілюевіч.

— Падліза!

— Як вам не сорамна грубіяніць у прысутнасці дзяцей? У горадзе, ведаеце, у такіх выпадках міліцыю вызываюць. За абразу — да адказу! Для такіх там і месцайка ёсць,— Вілюевіч паказаў пальцамі краты.

— Што-о?! — голас у Ермалая сарваўся.

— Пара ўжо і ў сяле захоўваць правілы прыстойнасці! — пайшоў у наступ і Вілюевіч.— Людзі кроў пралівалі за Саветы, а некаторыя не навучыліся за дваццаць гадоў. Ні ўладу паважаць. Нават ні чытаць, ні лічыць...

— Уладу я паважаю! І лічыць умею. Вось табе — раз! — размахнуўшыся, стаў дзед лупцаваць Вілюевіча заціснутым у жмені пугаўішчам. Вочы Стася зрабіліся круглыя.— Во табе — два! — сцебануў раз'юшаны Ермалай.— Хто не паважае ўладу?! Можа, твой бацька праліваў кроў за Саветы? Прахвост, ён мяне робіць нядбайнікам, разгільдзяем і палохае міліцыяй! Вы чулі?

Вілюевіч нарэшце схаваўся пад стол.

— Ах ты, прайдзісвет! Думае там ад мяне схавацца?

Ермалай пачаў пароць пугаўём пад стол, дастаючы Вілюевіча.

Давялося мяняць тактыку. Парашыў прасіць прабачэння. Вілюевіч стаў вылазіць з-пад стала.

— Дзеду, дзед... братко, не каліся ты сваім штыкам... баліць! — Вілюевіч выхапіўся з укрыцця.— Давай, братко, па-добраму памяркуем. Нашто калоць і лаяцца? Чаго сварыцца?

— Маўчы! Я ў партызанах быў, а твой бацька пад насыпам спірт хлёбаў.

— Дзеду! Мы «лёгкая кавалерыя» і зайшлі на кароўнік. Мы стараліся як найлепш, каб злодзея не дапусціць.

— Якая ж гэта «лёгкая кавалерыя», калі яна бітон з воза цягне?

— Даруй, дзеду! Лічыце, мы пажартавалі.

— Добрыя жартачкі вашай самазванай кар'еры!.. З першага дня ў калгасе важу малако... Хто гэта мог дадумацца аб прапажы ў мяне? Я — спрыяю зладзеям? Я — разгільдзяй?!

Ваня Касавокі па-ранейшаму стаяў за пярочкамі драбіны. Вілюевіч лэпнуў па грудзях — «Памяць з Каўказа» ёсць! — выбачліва, як ён умеў, прапанаваў Ермалаю партабак з папяросамі.

— Прашу, братко-дзед! «Казбек», вышэйшы гатунак, пакаштуйце!.. Больш гэтага не паўторыцца. Мы прызнаёмся, вінаваты. Квіты! Навошта тая сварка, звяга? Свае людзі, у сваім калгасе... Прашу!

— Ты ка мне не падлізвайся,— буркатлівым тонам сказаў Ермалай.— Я табе не начальнік. І чыхаць я хацеў на твой хабарны «Казбек».

Аднак, паколькі сваяк Пагуляйскай прызнаў сябе вінаватым, папрасіў прабачэння, гнеў дзеда ма-

ла-памалу пачаў астываць. Характар Ермалая — запальчывы, але злосць адпускалася хутка. І няёмка было дзеду глядзець на расшпілены пінжак Вілюевіча і шапку-капітанку, якая, збітая з галавы пугай, валялася на падлозе.

— Дарэмна ўзлаваліся вы, братко-дзед! — не змаўкаў Вілюевіч.— Прамашка атрымалася ў нас... Конь на чатырох нагах, кажуць, і то спатыкаецца... Ну, і мы спатыкнуліся. Усяго бывае, дзед, выбачай!

— Ты мне надоўга запомніш гэту сваю прамашку... І ты! — пагрозліва паказаў Ермалай пугаўішчам у бок Касавокага.

— Ну навошта так, дзед?! Не трэба таіць у сабе крыўду! Я, братко, без закальца, з дарагой душой!.. Я цябе... вас!.. высока ацаніў. З сённяшняга дня дамовіліся. Па руках! Мір!.. Хочаце, сваю павагу дакажу на практыцы... Канкрэтна! От пабачыце...

Дзед штосьці забубніў пад нос, адвярнуўся і пакрочыў з клуба.

Гэля са сваёй сяброўкай стаялі за шырмай ні жывыя ні мёртвыя. Ваня Касавокі спалохана трымаў, як шчыт перад сабою, драбіну. А Вілюевіч сканфужана сербануў носам, нагнуўся, падняў капітанку, надзеў на галаву і варухнуў плечукамі тыя месцы, дзе пахадзіла дзедава пугаўё.

## XIII

Праўленне сабралася ў канторы. Выступаў Вароніч:

— Прэмій дадзім, на колькі дазваляе каштарыс. Прашу ўлічыць гэта, не абысці нікога, называць прозвішчы тых, хто стараўся і варты падзякі...

Калі павестка дня была амаль вычарпана, нібыта між іншым, у канцы, папрасіў слова Вілюевіч.

Без Вілюевіча, вядома,— запрашалі ці не запрашалі,— не абыходзілася ніводнае пасяджэнне або нарада, дзе кіраваў старшыня. Каб памагчы ў спрэчках, што-небудзь, хоць нязначнае, заўважыць, параіць, ён сціпла паднімаў руку: «Дайце, братко, сказаць». І Вароніч даваў слова, не адмовіў і на гэты раз.

— Нядаўна, таварышы, я пабываў на малочнатаварнай ферме. Знаёміўся, як працуюць нашы жывёлаводы. Вось таварыш Супрун, загадчык МТФ, якраз тут!.. Мне не ўдалося з ім пабачыцца. Але скажу свае ўражанні перад усімі... Справа ў яго, трэба адзначыць, таварышы, добра наладжана. Не прыдзярэшся! Усе працуюць бездакорна, проста на славу! Сумленна нясуць абавязкі нашы жывёлаводы. І я вось думаю, ці не даць прэмію Ламаку Ермалаю?.. Возіць ён бітоны з малаком у слату і ў навальніцу — чаго толькі не нацерпіцца ў дарозе. Вось я і прапаноўваю: адзначыць работу Ермалая Ламакі, купіць яму да свята новы плашч-дажджавік. Праўда, язык у яго, братко, як у сварлівай цешчы, але гэта ўжо не тычыцца яго станоўчай характарыстыкі па працы... Старасць — не радасць! Усе будзем старымі і языкатымі...

Хто ў сяле не ведаў Ермалая Ламаку? У каго з праўленцаў раскрыўся б рот супраць такой слушнай прапановы? Наадварот, усе неяк задумаліся: чаму, сапраўды, не заўважылі старога? Вароніч задаволена паправіў указальным пальцам вусы і хмыкнуў.

— Запішы,— сказаў рахункаводу.

Чутка, што некалькі гадзін таму назад Ермалай у клубе пугай «спавядаў» Вілюевіча, яшчэ не працілася па Навасёлках. Ды каму там было яе расказваць — дзяўчаткі-вучаніцы і Ваня Цяго-сьто, перапалоханыя, маўчалі.

Вароніч нават не ведаў, як рэагаваў дзед Ермалай на праверку. І калі пасля пасяджэння мімаходзь даведаўся ад самога Вілюевіча, паківаў галавой: маўляў, каму кантроль за парадкам падабаецца? Некаторыя пераносяць яго яшчэ больш балюча.

На праўленні быў Андрэй Дубовік. Яго паклікалі як прадстаўніка ад камсамольскай ячэйкі. Ён не падазраваў і не мог здагадацца, што сваёй прапановай Стась Вілюевіч спрабуе задобрыць дзеда, хочача, каб той стаў больш лагодным. Аднак усё ўсплыло на паверхню па часе.

З канторы Андрэй спяшаўся дадому, каб падрыхтавацца да ўрачыстага вечара, захапіць свой рэквізіт на спектакль. І, спаткаўшы дзеда, даведаўся пра «споведзь». Пасмяяўся і заадно выказаў здзіўленне: то Вілюевіч наладжвае строгі рэйд «лёгкай кавалерыі», сварыцца, абураецца, то цяпер хваліць дзеда, вылучае на прэмію. Ці не хітрасць тут якая?

— Прэмія? Ад Вілюеўчыка? — здзівіўся Ермалай.— Пачакай жа, я яго мірную махінацыю выведу на чыстую ваду. Перад усім народам!

У клуб, дзе ўрачыста ўзнагароджвалі пераможцаў-ударнікаў, Ермалай спазніўся, бо надта доўга збіраўся і прыбіраўся. Вялікае свята! Ён пагаліўся, расчасаў бараду, надзеў пасечаны моллю, нібы шротам, зялёны старамодны вайсковы фрэнч з кішэнямі на грудзях, як у былога афіцэра, абуўся ў юхтавыя боты. Нават Кацярына стамілася яму памагаць. Сама яна не пайшла ў клуб.

Маладыя ўступалі Ермалаю месца, але ён сеў на апошняй лаўцы.

Даклад настаўніка Гарасімчыка аб міжнародным становішчы набліжаўся ўжо да канца. Ерма-

лай, убачыўшы Вілюевіча, неяк насупліваючыся, набіраўся злосці.

І вось на сцэне за сталом прэзідыума ўстаў старшыня калгаса і коратка расказаў, з якой паловай работы (сяўба збожжавых!) управіліся навасёлкаўцы на вясенняй пасяўной (яшчэ садзіць бульбу трэба!), павіншаваў са святам. Потым пачаў чытаць спісак ударнікаў, каму праўленне выносіць падзяку, каму вызначае падарункі-прэміі.

Пасля кожнага прозвішча — галасы згоды і ўхвалення. Ермалай сачыў за Вілюевічам: ён сядзеў на першай лаўцы, якраз насупраць Вароніча.

Нарэшце дайшла чарга, і Варонiч аб'явіў, што яму, Ермалаю Ламаку, за добрасумленную работу выдзяляюць плашч-дажджавік. Выбухнулі воплескі. Стась Вілюевіч мацней за ўсіх пляскаў у далоні.

Дзед не сцярпеў, усхапіўся і крыкнуў:

— Не трэба мне дажджавіка! Я не вазьму.

— Чаму?

— Таму што... Хто гэта выдзяляе?

— Як хто? — насупіў бровы Варонiч ад здзіўлення.— Усе мы... праўленне калгаса.

У людзей быў перадсвяточны настрой. Усе ведалі дзеда, яго манеру гаварыць, што адразу і не зразумееш — сур'ёзна ён гаворыць ці пакеплівае над кім-небудзь. Сёння ўсіх апанавала фацэтная цікаўнасць. І цяпер навасёлкаўцы, агляну ўшыся на заднія рады, чакалі, што зараз ад Ермалая пачуюць штосьці забаўнае.

А Вілюевіч скеміў, што можа здарыцца. У гэты момант, калі ўсе глядзелі на ўзбунтаванага старога, ён ступіў да чырвонага пакрывала на стале, за якім сядзелі праўленцы, нахіліўся да старшыні і нешта пацяху паведаміў.

Варонiч у знак згоды кіўнуў галавой.

— Што ён табе шэпча? — крыкнуў Ермалай, і

ўсе зноў павярнуліся да сцэны.— Хто мне прэмію дае?.. Ты ці ён?

— Хто ён?

— Ну, гэты, самазваны начальнік, што шэпча.

— Калгас. Праўленне калгаса вызначае прэмію,— спакойна адказаў старшыня.

— Панімаеш, калі калгасам, тады іншая рэч... А калі гэты «кавалерыст» (дзед пальцам паказаў на Вілюевіча), калі ён хоча мне падсунуць хабар... то дзякуй вам у шапачку! Няхай сам у свае рэйды апранае той плашч.

Дружны рогат пракаціўся па зале.

«Які кавалерыст?» — у душы абурыўся Вароніч. Ён, будзёнавец, ганарыўся сваім вайсковым мінулым. Чаго ўзнялі рогат? Вароніч кіўнуў пальцам Вілюевічу. Той хуценька растлумачыў:

— Апанас Іванавіч, я ж вам нядаўна сказаў. Дзед са мной на нажах. Мы «лёгкай кавалерыяй» правяралі ферму. Зачапілі яго бітоны, вот ён і гневаецца на мяне.

— Ага, ага! — усміхаючыся, задаволена ўшчыпнуў свой вус Вароніч, нават пажартаваў: — Не сярдуй, Ламака!.. Мы ўсе павінны быць напагатове, час такі. І кожнага з нас няблага праверыць. А дажджавік забірай, не адмаўляйся. У дождж, у непагадзь як знойдзеш... Насі на здароўе.

Падбадзёраны, дзед сеў на месца, а воплескі, нібыта чарада галубоў, лапочучы крыламі, напоўнілі клуб.

...Пакурылі падчас перапынку на двары, а там, у класе, сталы, накрытыя па-святочнаму, чакаюць ударнікаў.

«Спектакль перад спектаклем,— думаў пра Ермалая Андрэй Дубовік.— Каб дзед сеў побач са мною, я стрымаў бы яго, падказаў, як выступаць. Але стары спазніўся. Ермалай хацеў высмеяць Ві-

люевіча, а атрымалася наадварот: сам апынуўся ў ролі камедыйнай асобы. І ніхто гэта не заўважыў, не зразумеў — ні Вароніч, ні члены праўлення».

Аднак дарэмна так разважаў Андрэй. Не ўсе праўленцы былі аднае думкі з Воронічам і не ўсе фацэтна ўспрынялі выступленне Ермалая. Які тут смех?!.

Старшы палявод Сцяпан Саковіч, а ён у такім калгасе, як Навасёлкі, і замяшчаў старшыню, ведаў, што казалі даяркі пра сваяка Пагуляйскай у час праверкі. Коля Бортнік, член рэўкамісіі, з якім Вілюевіч нават не параіўся, ствараючы з Ванем Касавокім «лёгкую кавалерыю», таксама абурыўся.

Пасля ўрачыстай часткі, калі ішоў перакур, яны «націснулі» на Вароніча.

— За што Вілюевічу пішам працадні? — запытаўся Саковіч.

— Ён замяшчае брыгадзіра будаўнічай брыгады,— адказаў старшыня.

— Дык і няхай замяшчае, а не соўвае нос туды, дзе не трэба.

— Ён па майму даручэнню. Дарэчы, мы, Сцяпан, яго выбралі ў рэўкамісію. Сам галасаваў.

— Дарэмна прагаласаваў,— сказаў Саковіч і плюнуў на свой недакурак.

— А ці не здаецца вам, таварыш старшыня, што вынікі яго праверкі нічога не дадуць? — заўважыў Коля Бортнік.— Я, як член рэўкамісіі, скажу. Ён непрынцыповы чалавек. Ермалай справядліва падмеціў.

Вароніч на момант сціх і задумаўся. Пасля разважліва зазначыў:

— Вы не церпіце, што ён умее віляць і падлізвацца?

— А ты бачыш? — кінуў Саковіч.

— Бачу, не сляпы...

— То на ліха яму патакаеш? — абурыўся стары палявод.

— Уся бяда ваша, мае дарагія калегі і памочнікі, што вы, апроч яго ліслівых выхадак, нічога практычнага ў ім не заўважаеце... А дзелавітай акуратнасці, гаспадарчасці Вілюевіча чаму вы не бачыце?.. Хто нам расстараўся акоранага лесу? Хто зараз на жняяркі афармляе заказ у Мінску? А цвікі?.. Можа, ты, Бортнік, здольны штурхаць нашы гаспадарчыя паперы? Сваяк Пагуляйскай паваротлівы, з-пад зямлі дастане... Такой хваткай, прызнайцеся, не кожны з нас валодае.

— Пра слізкі шлях гутарыш, Вароніч,— сказаў старшы палявод.— А ці трэба мне такая хватка?

— Ну, згодзен,— падумаўшы, адказаў Вароніч.— Вілюевіча не блага будзе папраўляць. Сямтам строга асадзіць!.. Але і давяраць можна... Можна і трэба на дадзеным моманце.

Да іх далучыўся Дубовік:

— Я катэгарычна супраць. Адкуль прыехаў Вілюевіч? Дзе ён быў? Трэба праверыць... Па ўсяму відаць, ён якісьці аферыст. Мне здаецца, няхай едзе туды, адкуль прыехаў! — горача прапанаваў Андрэй.

— Вілюевіч у маім распараджэнні,— спакойна стрымаў гарачую спрэчку старшыня.— Зарабляе працадні Пагуляйскай. Сваёй цётцы. Яна мяне папрасіла... Няма чаго хвалявацца. Я сказаў вам, ён — да зарэзу на дадзены момант. А там — будзем бачыць... Праверу! Усяму ёсць пара і свой час.

Тут да ўсіх падышоў — лёгкі на паміне — Стась Вілюевіч, галоўны распарадчык сённяшніх сталоў.

— Апанас Іванавіч, усё гатова!

Навасёлкаўскія дзяўчаты і жанчыны запарыліся, пакуль падрыхтавалі вячэру, вядома, не без удзелу «майстра на ўсе рукі» Вілюевіча. То тое —

не гэтак, то гэта — не так. Бегалі дамоў па талеркі, па нажы і відэльцы. Малую Гэлю Стась паслаў да цёткі Пагуляйскай прынесці «падарункавыя» прыборы. І паклаў іх на абрус перад тым месцам, дзе будзе сядзець старшыня. Усё каб выглядала, як у сапраўдным рэстаране.

— Прывыкайце, дзевачкі, да культуры! — павучаў сваяк Пагуляйскай.— Сяло, не адставай ад горада!

Сталы, расстаўленыя ў школьным класе (ад заняткаў у вучняў было два майскія святочныя дні), выглядалі літарай «П». На кожную персону выпадала па бутэльцы піва і па шклянцы чырвонага віна. Хапала на закуску і варанага і смажанага...

— Калі толькі хто дастане з кішэні пляшку чамяргесу,— папярэджвалі жонкі мужоў,— будзе вам добры наганяй і штрап! Стась Пагуляйскай гразіўся. Далажу, кажа, Варонічу. А старшыня, ведаеце, не будзе цацкацца...

Жанчыны Стася таксама пабойваліся, але ён ім наогул падабаўся. У ветлівым абыходжанні, у павучанні, якіх яны не чулі і не бачылі.

Калі застолле напоўнілася людзьмі і ўсё загудзела, як у вуллі, старшыня калгаса ўзняўся і пастукаў відэльцам па звонкай шклянцы. Словамі ён не раскідаўся. Яшчэ раз павіншаваў перадавікоў з Першым маем і прапанаваў выпіць за шчаслівае, заможнае жыццё.

Усе дружна запляскалі ў далоні.

Следам — устаў Вілюевіч. Шклянку з півам ён узняў высока над сабой.

— Узнімаю тост, як кажуць на гарадскіх, інтэлігенцкіх банкетах,— загаварыў Вілюевіч,— і прашу ўсіх, ударнікаў, навасёлкаўскіх працаўнікоў, жанчынак і мужчынаў, дружна, разам выпіць за таго, хто ваяваў і цяпер, не шкадуючы здароўя,

аддае ўсе свае сілы калгасу... Пад кіраўніцтвам каго мы павінны яшчэ больш ударна змагацца, старанна і добрасумленна... Вы, думаю, ведаеце за каго... за здароўе нашага Апанаса Іванавіча! Няхай жыве ён!.. Ура!

Вароніч, седзячы пасярэдзіне, у акружэнні аднавяскоўцаў, неяк зморшчыўся, нібы хацеў сказаць: «Загнуў, загнуў, Вілюй! Ты не на маіх імянінах. Мог бы без гэтага».

Навасёлкаўцы пераглянуліся, але «ўра» не падтрымалі. Толькі, каб згладзіць няёмкае маўчанне ў прысутнасці свайго старшыні, сям-там у згодзе пахвалілі:

— Правільна!

А Ермалай не вытрываў, выскачыў, нібыта Піліп з канапель, і закрычаў:

— Падхалім!

Сёння ўсе ўжо наслухаліся пацешных дзедавых рэплік і новую не палічылі за знявагу Вілюевіча. Засмяяліся. Вясёлая вячэра загудзела.

Дзед Ермалай сядзеў побач з Дубовікам. Андрэй нават не прыгубіўся да шклянкі.

— Яно лазой пахне,— казаў ён.

Ды яму яшчэ трэба было выходзіць на сцэну, выконваць ролю камандзіра Кулагіна...

Андрэй тут пачуў увесь расказ, як дзед пугай адсцябаў Вілюевіча. Рагатаў. Але прасіў Ермалая больш сабе не дазваляць самавольства, не буяніць. Хоць неяк ад радасці, прыяючы дзеду, нават аддаў сваю шклянку чырвонага віна... Пасля павёў Ермалая за сабой, каб пасадзіць яго на першым радзе перад сцэнай. Супакойся, дзед, пара глядзець спектакль, сёння хопіць выкідваць жартаўлівыя конікі!

Але хіба мог Ермалай спакойна ў зале прайсці ля сваяка Пагуляйскай. Зачапіўся языком:

— Дык гэта ты мне такую прыдумаў міравую, падліза?

— Братко, дзед, зноў абражаеш? — папярэдзіў Вілюевіч.— Не абрыдла?

Вілюевіч таксама глынуў ужо не адну шклянку, зачырванеўся. Андрэй, каб не дапусціць спрэчкі, стаў паміж імі.

— Скажы мне, чаму ты, Вілюеўчык, дзе трэба і дзе не трэба без мыла ў... лезеш?

— Я зараз паклічу старшыню. Вароніч загадаў захоўваць парадак, а вы што робіце?

— Не палохай бабу... гэты самы, не палохай!.. Дзед пачынаў лаяцца, і Андрэй Дубовік, як ні намагаўся, не мог іх развесці. Ермалай ужо браўся за каўнер Стася, а той позіркам шукаў паратунку і крыкнуў:

— Апанас Іванавіч, таварыш Вароніч! Гэта ж яўнае хуліганства.

Вароніч тут жа падышоў да іх, сказаў:

— Ермалай, ты прыкусіў бы свой язык.

— Не, Вароніч! Ты, старшыня, скажы, за каго заступаешся? Я не буду маўчаць.

— Значыцца, хочаш першамайскі вечар сарваць?

— А што ж мне, цярпець падхалімаж сына Качара?

Андрэй Дубовік не ўмешваўся, але сваім дужым плячом загароджваў Вілюевічу праход. І ўсё ж сваяк Пагуляйскай прарваўся і кудысьці знік.

— Ішоў бы ты, дзед, спаць,— памяркоўна параіў старшыня.— Другім разам пагаворым, ідзі адпачывай!

Дзед Ермалай пасля такой гаворкі з Воранічам, мармычучы праклёны невядома каму, паплёўся да выхаду. А старшыня сеў на лаўку — чакаць адкрыцця занавеса.

Андрэй накіраваўся на сцэну грыміравацца. Толькі распарадчык застолля, мабыць, усё яшчэ гаспадарыў з кабетамі на сталах, дзе заставалася недапітае віно і піва...

Апошняя палова святочнага вечара была ў Андрэя Дубовіка нейкім чаргаваннем урачыстасці з уласным невясёлым одумам. Ён выходзіў на сцэну ў ролі баявога камандзіра палка. Пасля яго слоў часамі чуліся апладысменты.

Вечар, наогул, атрымаўся прыстойны і цікавы. Самадзейны спектакль як спектакль. Але Андрэю было не па сабе. У зале ён не знаходзіў Лоры. Украдкі з-за шырмы выглядаў — няма. Не адшукаў позіркам і ў апошні раз, калі зачыніліся сшытыя посцілкі. Усіх артыстаў разам з настаўнікам Гарасімчыкам доўга прасілі выйсці да рампы.

Выйшлі. Андрэй паказаўся. Вароніч задаволена пляскаў у далоні, а Лоры сярод усіх, радасных, шчаслівых,— не было.

У канцы — хлопцы і дзяўчаты наладзілі гульні пад гармонік, дзе Вілюевіч, як заўсёды, камандаваў парадам.

Дубовік не сцярпеў, гледзячы на гэта. Ён першы пакінуў клуб.

Першамайская ноч стаяла халодная і зорная.

Андрэй блукаў адзін. Ён думаў пра тое, што здарылася з Лорай. Не прыйшла, чаму? Адгадка была, і не было яе.

Ён доўга думаў пра Вілюевіча. От ёсць яшчэ такія, як гэты чалавек. І маладым яго не назавеш, і пярэстаркам таксама, але маладосці ў яго ўжо няма. Ён збэсціў яе і страціў. Цяпер пакасціць другім, маладым, хоча засмуціць іх светлыя пачуцці, жаданую мару юнакоў імкнецца захмурыць, усё забрудзіць. Каб ні ў кога не было яснай мэты. Ніякай яснасці! Хоць у гаворцы паўтарае «яснень-

ка»... Яму пара сыходзіць з дарогі, а ён чапляецца, блытаецца, бач, свае погляды імкнецца навязаць другім. (Андрэй помніў Вілюевічаў пошлы рогат у кабінцы.) Чужы боль — яму радасць. Імкнецца яшчэ стаць прыкладам для іншых, лічыць сябе модным, павучае ўсіх. Такія разуменні, як праўда, прыстойнасць, сумленне — для яго не што іншае, як пустая выдумка. Бач, «на тым свет стаіць!.. Так было, так ёсць і так будзе...»

«Не, Вілюеўчык, як кажа Ермалай,— так не жджы — не будзе!» — думаў Андрэй.

## XIV

Каму свята, а каму, здараецца,— будны дзень. Клопаты, турботы бясконцыя.

У Ларысы Вароніч часамі бывала: нядзеля — выхадны, а то і вялікае свята, а не адрозніш ад звычайнага, штодзённага дня. Напярэдадні ўсе рыхтуюцца да сустрэчы, і яна з трапяткім прадчуваннем чагосьці радаснага чакае, а прыйдзе яно — усе бестурботна гуляюць, святкуюць, усім весела, а ў яе ўсё з рукваліцца. Быццам хтосьці насуперак падладзіў. То плацце не сыскала з пашывачнай майстэрні — не гатова — няма чаго адзець і на гулянне не выйдзеш, то перад самым урачыстым вечарам або дэманстрацыяй — набегаешся, прастудзішся — ляжыш хворая... Або хто-небудзь настрой сапсуе... Ва ўспамінах такое свята часамі застаецца як пакутлівае засмучэнне.

Вось і сёння. Чуецца гармонік, ідуць дзяўчаты ў клуб, спяваюць, а ёй не да спеваў. Лора дома. Пасля пазаўчарашняга здарэння з Вілюевічам не хочацца нікуды... Бярэ кнігу — адкладвае, канспекты гартае — нічога не запамінаецца.

Маці пячэ аладкі — даносіцца смачны пах.

Бацька абувае хромавыя боты — збіраецца ў Дубовы Гарадок на мітынг.

Брацік, нахапаўшыся абмаканых у смятану аладак, дзесьці гойсае на вуліцы.

Надышоў Першамай. Ва ўсіх свята, а ў Лоры...

Якраз у такім сумным настроі Ларыса пачула брэх Босага. Сабака аж заходзіўся, гаўкаючы на двары.

— Цю-цю... свой-свой, цю-цю!..— пачула Ларыса і нервова ўздрыганула.

Чаго ён ішоў, гэты назойлівы чалавек? Можа, каб яго тут частавалі?.. Ну, а ёй што цяпер рабіць? Куды падзецца? Куды схавацца?

Ларыса выбегла на кухню. Маці, паставіўшы патэльню ў печ, на вуголле, з чапялой адхінулася да акна. Расчыніўшы насцеж, яна пачала сварыцца на сабаку:

— Босы, пайшоў у будку!..— І ветлівым тонам: — Дзень добры, заходзьце, заходзьце!

— Мамачка,— паціху папрасіла дачка,— зачыніце акно! Не завіце яго ў хату!..

А Вілюевіч ужо кланяўся са двара:

— Дзякуй, дзякуй! Я на хвілiначку... Апанас Іванавіч яшчэ дома, не ў канторы? Як яго здароўечка?

— Дома, заходзьце.

— Мама!

Маці вярнулася да печы і, пакуль Вілюевіч, апасліва выціраючы на ганку ногі, казаў Босаму сваё «цю-цю», на кухні між маткай і дачкою адбылася такая размова:

— Сваяк Пагуляйскай нішто не праміне... Усё, што трэба — прыкмеціць, нічога не гавары, уважлівы. Я надоечы хадзіла ў калгасную кладоўку, мяса давалі на працадні к святу,— дык і ён там быў.

Выбраў мне ладны кавалак свініны, ад кумпяка і сам узважыў. Без чаргі... Не разумееш, кажа кладаўшчыку, што перш-наперш трэба адпускаць тым, у каго няма часу!

— І вы ўзялі?

— Узяла.

— А сумленне дзе?.. Хіба ў другіх вольнага часу многа? От ён ужо бярэцца за клямку — запрасіце яго на аладкі, пачастуйце свінымі адбіўнымі!..— Ларыса пайшла ў залу, села за стол і раскрыла кнігу. Маці не паспела адказаць разгневанай дачцэ, як у дзвярах паявіўся ў наваксаваных джымі Вілюевіч. Лора чула ўсю яго лепятлівую скорагаворку.

— Са святам! Са святам і поўным шчасцем у добрым доме... Ах, як смачна пахнуць бліны!.. Як гаворыцца... няхай жыве Першае мая!.. Апанас Іванавіч, надзеюся, сёння адпачне... як належыць, па-людску!

— Яму ніколі няма адпачынку. Збіраецца ў сельсавет... Вы праходзьце, ён там!..

Ларыса нават не глянула на ўвайшоўшага. Яе абурала: як гэты ранні няпрошаны госць так бесцырымонна заходзіць у дом. Страціў усялякі сорам, забыўся пра свой пазаўчарашні ўчынак і зараз вольна, па-панібрацку звяртаецца да бацькоў Ларысы. Калі ў сакавіку, як ён прыходзіў прыставіць пячатку на нейкі там дакумент, і Ларыса спаткала яго разгублена, насцярожана, то цяпер — з нянавісцю.

— Здаецца, вы, Лора Апанасаўна, пакрыўдзіліся? — наблізіўся да стала Вілюевіч.— Не сярдуйце... Я з добрым намерам... з дарагой душой!.. Даруйце мне. Вось ваша мілая брошачка. Я адшукаў яе там жа і ад самай душы прашу: не крыўдуйце на мяне. Вось!..

— Пакіньце яе сабе,— непрыветліва сказала дзяўчына.

— З вялікай радасцю!.. Я прыму яе на ўспамін як падарунак за маё нясмелае, але сардэчнае да вас пачуццё...

Дзяўчына кінула на яго гнеўны позірк.

— За ваш хамскі ўчынак!

Вілюевіч атарапеў. На яго шчасце, выйшаў у дабрадушным, святочным настроі старшыня і весела прывітаўся. Ён быў у гуморы.

— Здароў, Вілюй!

— Яшчэ раз — са святам, братко, Апанас Іванавіч! — павярнуўся да яго ашаломлены Вілюевіч і па-вайсковаму казырнуў.

— Аб чым спрачаецеся? Абмяркоўваеце ўчарашні спектакль? Малайцы, добра паставілі спектакль!.. Ці, можа, у вас тут сакрэт, які не ўсім дазваляецца чуць і ведаць?

Ларысе здалося, што бацька жарт закончыў зусім недарэчна.

— Тут няма сакрэту, Апанас Іванавіч. Мы ўспамінаем не ўчарашні, а пазаўчарашні вечар. Калі была генеральная рэпетыцыя спектакля... Тады таксама было вельмі цікава!.. І шкада, што праз гэтыя кнігі, канспекты ўчора Ларыса Апанасаўна не змагла яго паглядзець!..

— Штудзіруе!..

— Канешне, братко, Апанас Іванавіч,— апошняя, самая адказная сесія!.. Але ж і для адпачынку трэба неяк знаходзіць час. Павесяліцца, патанцаваць не лішне... А я ведаю, як ваша Ларыса Апанасаўна танцуе. І факстрот, і румбу...

— Моладзь! — хутчэй самому сабе растлумачыў Вароніч.— Мы ўжо старыя. Пад намі яшчэ дрыжыць зямля ад полечкі... А румба — не па мне!..

Ну што ж, мода такая, а Лора ад моды адставаць не хоча...

Гэта была няпраўда, і Лора пакрыўдзілася на бацьку.

— За граніцай, братко, усё, усё толькі па модзе! Без моды жыць нецікава! — узгарэўся Вілюевіч.— І ў нас так будзе. І Ларыса Апанасаўна — малайчына. Яна мяне зразумела. Я з ёй танцаваў факстрот з захапленнем. З ёю прыемна, чароўна, Апанас Іванавіч...

Няхай Вілюевіч быў у хаце запрошаны і сто разоў шаноўны госць — такія звычаі ў сям'і вяліся,— Ларыса больш не магла цярпець балбатню гэтага цыніка.

— Дзядзька Вілюевіч хлусіць! — перабіла яна рашуча.— Ён робіць культурны, інтэлігентны выгляд, а пляце глупства. Брэша!.. Як у вас язык паварочваецца гаварыць пра пазаўчарашнія танцы?! Няўжо не сорамна вам? Яшчэ ў такі дзень прыходзіце, паганіце настрой, мелеце глупства іназаляеце людзям...

— На свята да нас хто ні зойдзе — госць,— строга заўважыў Вароніч.— І Вілюевіч прыйшоў да мяне. Сядай, Вілюй!

— Дык чаго ён прыстае да мяне?

— Гм! — яшчэ ў вясёлым настроі здзівіўся Вароніч.— Нічога не разумею... Я і сапраўды перашкодзіў вам? Ці не пакінуць адных...— І цераз сілу засмяяўся.

— Гэта брудны, непрыстойны чалавек! — кінула Ларыса.

Яна ўся сціснулася, быццам азябла. Апусціла галаву над кнігай, каб ніхто не бачыў, як сутаргава скрывіліся яе губы. Уткнулася тварам у старонкі і ўсхліпнула. Ды і як было не заплакаць? Ларысе здавалася, што нарэшце бацька абароніць яе, а ён...

Можа, гэты паскуднік зараз пачне гаварыць пра Андрэя?..

Ларыса кінулася ў сенцы, а там — у пакой, дзе ўвосень захоўвалі ігрушы і яблыкі, а летам у духатлівыя ночы яна спала на драўляным палку з сеннікам, як на ложку. Тут можна было выплакацца. Ніхто не пачуе...

— Скандал!..— развёў рукамі Вароніч.— Грубіянства, гарачлівасць у цяперашняй моладзі звычайная справа... Ну нічога, усё пройдзе, пагарачылася — астыне... Не снедаў? Сядай за стол!

Але Стась Вілюевіч не сеў. Ён адчуваў, што гэта не гарачлівасць. Ларыса тонка дацяла яго. Цяжкі камень кінулі ў яго агарод. З дачкой Апанаса Іванавіча атрымаўся разлад, калі яшчэ не горш...

Вілюевіч падзякаваў Вароніча, сказаў, што прыходзіў да старшыні — ёсць гаспадарчы інтэрас,— але «абмазгуем» другім разам. Свята — ёсць свята, ці да клопатаў у гэты дзень? Снедаць — ён паснедаў у цёткі. Ветліва развітаўся і ціхенька зачыніў за сабой дзверы.

А сняданак Вароніча астываў на стале.

— Маці, пакліч Ларысу! — нездаволена загадаў бацька.— Што гэта за выбрыкі ў яе?

Заплаканая, дачка ўвайшла ў хату.

— Ну, чаго ты? Хто цябе пакрыўдзіў?

— Гэты нягоднік.

— Калі ён цябе пакрыўдзіў?

— Што вы не бачыце, чэпіцца штодня. Ён не дае мне жыцця ўсюды, куды ні пайду,— выціраючы слёзы, паскардзілася Лора.— Хіба вы самі не можаце разабрацца, што гэта за чалавек...

Бацька павольна жаваў і слухаў, як дачка гаварыла; раптам, праглынуўшы, абурыўся:

— Ліха ведае што! Усё роўна бытта згаварылі-

ся — і Саковіч з Бортнікам, і Ермалай з Дубовікам, усе ў адну дудку. А цяпер яшчэ і дачка...

Пачуўшы пра Андрэя, Ларыса крышку ўзрадавалася.

— Тата, ён прыліпае, як смоўж. Ён прайдзісвет і яшчэ вам такое зробіць у Навасёлках, што потым не разблытаецеся.

— Факты!.. Трэба мець факты.

— Падлюга, яго без фактаў праганяйце ад сябе.

Бацька з'еў аладку і сказаў:

— Нічога новага і асаблівага. Але хвалю, дачка, што разбіраешся ў людзях, здорава рассудзіла... Толькі гэта ўжо не твайго розуму клопат. Не сунь нос не ў свае справы! Ты, канешне, блізіцца той час, будзеш самастойна працаваць, сама разбірацца і ўжо, можа, здольна вылечыць чалавека, але і я ўмею распазнаваць і лячыць людзей, не турбуйся! Што тычыцца гэтага Стася Вілюевіча — то папярэджваю цябе: у гаворцы пры ім падбірай словы!..

— І я дзіўлюся,— умяшалася маці.— Гэты сваяк Пагуляйскай, здаецца, нам зла не жадае. Чаго ты ў вочы яго так бэсціш?.. Няйначай, не з тае нагі ўстала. Няма чаго дрэнчыцца.

Апошняе слова маці балюча ўкалола сваёй бяссэнсіцай. А тут яшчэ бацька павысіў голас:

— Ты свае капрызы не выстаўляй! Будзь з розумам. Хто б ні прыйшоў да мяне ў хату, ён прыйшоў у хату старшыні, і будзь ласкава прымаць яго як належыць. Ты ведаеш — людзі ёсць людзі. Можа, хто для чаго спатрэбіцца. Каму ўваж, каго трэба — папраў, а каму зрабі выгляд, што не чуеш, калі ён табе не па нутру. Да гэтага Вілюевіча звяртайся як выхаваная дзяўчынка, ласкава...

— Не буду! — сказала дачка, устала, пайшла за шырмачку ў спальню і лягла на ложак.

Навошта гэта недарэчная і жорсткая бацькава натацыя? Ніхто не разумеў яе крыўды. Родныя, самыя блізкія, рабіліся чужымі... Уткнуўшы твар у падушку, яна зноў ціхенька заплакала. Потым пачула голас маці:

— Ідзі есці, дачушка.

— Не хоча — не трэба! — буркнуў бацька.— Не ідзе, і не кланяйся!

...Ларыса засталася ў хаце адна, да паўдня праляжала, падкурчыўшы ногі, на ложку. Яна ўзнімала галаў, бачыла праз акно, як шпацыруюць па вуліцы прыгожа апранутыя хлопцы і дзяўчаты. Яна ж і не думала прыбірацца.

Рашэнне нахлынула нечакана, як прыліў крыві ў скроні. І добра, што ў хаце нікога не было: бацька ў Дубовым Гарадку, маці — у суседкі. Браціка сёння дамоў сілком не зацягнеш.

Яна хуценька пачала збіраць свае кнігі, сшыткі і звязваць у клунак. Узяла з сабой акрайчык спечанага пірага і загарнула ў газету кавалак сала.

...Кіравалася цераз сад, каб ні з кім не бачыцца, ні з кім не загаварыць.

Свяціла сонца. Як зелянела майская зямля! На сцежку асыпаўся рэдзенькі кляновы цвет. Быццам хтосьці нацерушыў пад ногі жоўценькіх крошак і ты ступаеш па светла-салатавай мярэжцы, сатканай яркімі промнямі сонца.

...Спачатку клён цвіце, а потым ужо выпускае лісцейка.

А вось ліпа, пад якой яны ўпершыню сядзелі з Андрэем,— ліпа з голымі чорнымі галінкамі, нерухомая і маўклівая, нібы мёртвая. Вядома, ліпа распускаецца пазней...

Якой радасцю поўнілася яе сэрца, калі яна пазаўчора набліжалася да святочных Навасёлак!

Колькі было надзей, як чакала сустрэчы!.. А сёння пакідае роднае сяло, адзінока, як уцякач...

Ларыса ў роспачы азірнулася. Вочы яе затуманіліся ад слёз.

## XV

За вокнамі позняя ноч. Цётка з Гэляй даўно ўжо спяць. А Стась пры святле газавай лямпы (электрычнасць ён, каб не рабіць вялікага бляску, патушыў) сядзіць за сталом над лістом паперы. Двайны ліст ён вырваў з агульнага сшытка, падараванага калісьці Гэлі. Узяў Гэліну школьную ручку, абмакнуў у чарніліцу і задумаўся.

Думаць было пра што. На Вілюевіча пасыпаліся непрыемнасці. Косыя позіркі людзей яшчэ нішто сабе, мірыцца можна. Дык жа яўныя непрыязныя адносіны, грубіянскія кепікі. Амаль штодня, на канюшні, на вуліцы. Так і асцерагайся калючай зачэпкі. Зранку пачуеш такую насмешку — ходзіш потым да вечара з кіслым настроем. А злыбядных языкоў на сяле станавілася больш і больш. Абставіны ствараліся небяспечныя і нязносныя...

Былі ў Стася і памяркоўныя людзі. Яны давяралі яму і не разносілі розныя чуткі пра яго. Нават заступаліся за Вілюевіча перад кляўзнікамі, бо сяму-таму ў Навасёлках хацелася б утапіць яго ў лыжцы вады, зжыць са свету.

Але Стась не дазволіць зневажаць сябе, затаптаць і змяшаць з гразёю. Ён не будзе склаўшы рукі сядзець і маўчаць, чакаць з мора пагоды. З сённяшняга дня ён пераходзіць да актыўнай абароны і каму-небудзь адаб'е ахвоту лезці да яго. І так адаб'е, што задзіра дзесятаму закажа!..

Хіба Вілюевічу невядомы ўсе хады і выхады?!

Тут Стась успомніў Браніслава — вернага свай-

го сябра,— які рэзонна павучаў: «Цяпер пільнасць кругом. Актыўней выступай і змагайся за пільнасць дзе толькі можна. Ты будзеш на кані, ніхто не зачэпіць, цябе будуць баяцца!»

Чаго ўз'еўся гэты Дубовік, «смаркач, марынаваны ў салярцы»? З-за спадніцы... Бач ты, малакасос, і ён падлабуньваецца да старшынёвай дачкі...

У здарэнні з Ларысай Апанасаўнай ён сам, бадай, на ўсе сто вінаваты. Паспяшаўся ўзяць чарку і не вычакаў моманту — дзяўчына і адвярнулася. Яшчэ невядома, чым гэта закончыцца...

Што ўжо да Ермалая Ламакі, то тут, як кажуць, каса трапіла на камень. Дайшло да таго, што гэты скамарох замахнуўся на яго пугаўішчам. Гэта хуліганская выхадка, замах! І паўтарыў у клубе — перад урачыстым вечарам. Пакасная знявага пры патуранні Дубовіка. Што было б, каб не падышоў старшыня? Сварка закончылася б бойкай. Не, досыць цярпець, маўчаць больш нельга! І першую ж аплявуху атрымае зацяты злыдзень, прыдуркаваты дзед. Бач, прытварыўся на святочным сходзе, нібы з глузду з'ехаў. Дурненькаму лягчэй жывецца... Пачакай, пабачым, што ты цяпер заспяваеш? Можа, апомнішся і падабрэеш.

Пяро высахла. Стась яшчэ раз абмакнуў у чарніла і пачаў пісаць. Уверсе вывеў буйнымі літарамі адрас міліцыі і прозвішча начальніка. Усю сутнасць выклаў у заяве так:

«30 красавіка гэтага года грамадзянін в. Навасёлкі Ламака Ермалай уварваўся ў калгасны клуб, дзе камсамольцы і вучні ўкрашалі сцэну да міжнароднага свята 1 Мая. Вучні павівалі вянкамі нашых правадыроў У. І. Леніна і І. В. Сталіна, на падлозе малявалі на матэрыі рэвалюцыйны лозунг. Грамадзянін Ламака Е. быў п'яны, растаптаў лозунг і ўстроіў дэбош. Біў і выкрыкваў: «Вот табе!..

Вот табе, Савецкая ўлада!» Гэта могуць пасведчыць Касавокі Іван, а таксама вучні, якія прысутнічалі ў клубе.

Грамадзянін Ламака Е. праводзіць чужую агітацыю, нецэнзурнымі словамі абзывае актывістаў калгаса, у том чысле і старшыню т. Вароніча А. І. На першамайскім вечары ўсе ў клубе чулі, як т. Варонiч А. І. гнеўна патрабаваў: «Грамадзянін Ламака, прыкусі язык!» Але азвярэлы падкулачнік прадаўжаў хуліганіць. Вось я і пытаю ў Вас, таварыш начальнік міліцыі: «Ці можа такі чалавек з нутром класавага ворага быць калгаснікам і палучаць да ўсяго гэтага прэміі?»

Вілюевіч падкруціў кнот у лямпе, яшчэ і яшчэ раз перачытаў. Потым запісаў:

«Царскім правіцельствам гр. Ламака Е. награждзён Георгіеўскім крыжам. Хавае яго».

Было ўжо запоўнач, калі Стась у канцы паставіў свой віціевата-пакручасты подпіс. Што датычыцца пісьменнасці, чысціні мовы і знакаў прыпынку, то са сваёй адукацыяй за іх ручацца ён не мог.

— Няма табе, Стасёк, ні сну, ні адпачынку,— прачнуўшыся, паспачувала Пагуляйская.— Зноў звесткі?

— Звесткі... Заўтра павязу ў раён. Спіце!

І ён лёг спаць, але, як бывае ў нервова-напружаную хвіліну, доўга варочаўся. Вілюевіч не пісаў яшчэ такіх папер. Ён умеў пісаць заяву, каб прынялі яго на работу... Пісаў касацыю аб памілаванні ў абласны суд... Любоўныя лісты да дзяўчат пісаў... Але такога адказнага пісьма — мала даводзілася...

«Заслужыў! — нарэшце заспакоіўся ён.— Так яму і трэба...» І заснуў.

Раніцай — гэта ўжо настаў рабочы дзень — у Вілюевіча раптам з’явілася новая думка: паказаць

напісанае старшыні. Дзеля падтрымкі, у якой ён не сумняваўся. У заяве старшыня адзначаецца са станоўчага боку.

І тут жа — адумаўся. Пры ўсёй пашане да Вароніча і добрых узаемаадносінах закралася сумненне: Ларыса, як ён быў на свята, плакала, дзяўчаты кажуць, што яна тады ж украдкі сышла з дому — раптам закапрызіць Вароніч? І рашыў, што гэта яго асабістае пісьмо — не калектыўная скарга. Ніхто пра такі ліст не павінен ведаць. Толькі адпаведныя органы. Праўда ці няпраўда ў заяве — няхай там разбіраюцца. Ваня Касавокі — сведка надзейны, дый школьнікі пацвердзяць.

Ідучы да старшыні, Вілюевіч асцярожна абмінуў яго дом. Ён дачакаўся Вароніча ў канторы. Старшыня ўгледзеў яго заклапочанага, нейкага сумнага і, каб падбадзёрыць, пaздароўкаўся за руку.

— Што скажаш, Вілюй? Чаго нос павесіў?

— Мне, Апанас Іванавіч, трэба ў раён... Хачу пахадзіць там па інстанцыях. Я ж абяцаў, братко, аформіць запчасткі, дастаць цвікоў. Час бяжыць, марудзіць нельга... Як кажуць, зімой рыхтуй калёсы, а летам — сані!

— Безумоўна! — горача падтрымаў Вароніч.— Задумка правільная і своечасовая. Адпраўляйся, Вілюй, калі хочаш. Ці ты зараз ужо сабраўся?

— Святкі адгулялі. Цяпер там у раёне ўсе на месцы... Я гатоў!

— Не затрымліваю. Пакінь за сябе каго-небудзь. Няхай канчаюць аддзелку праварын і рымарню... А табе — ні пуху ні пяра!

Вілюевіч крышку пачакаў.

— Можа, у раён, братко, якія асабістыя даручэнні будуць?

— Якія такія — асабістыя?

— У інтэрнат медтэхнікума нічога не трэба?

— У інтэрнат?..— старшыня ўпарта і доўга паглядзеў на Вілюевіча, які нясмела муляўся перад сталом.— Пра інтэрнат ты, Вілюй, нагадаў дарэчы. У інтэрнат мне трэба. Хоць пасыльнога шукай... Толькі чаго табе ён карціць?

Хуценька моргаючы павекамі, Вілюевіч амаль прашаптаў:

— Так сабе, Апанас Іванавіч.

Вароніч з насупленымі бровамі — ён не крывіў душою, заўсёды проста — пасля кароткай развагі сказаў:

— Ты шукай сабе пару па свайму ўзросту. На Ларысу не надзейся.

— Братко, я з дарагой душой...

— Ну вось, а ў яе душа ад цябе наўцёкі. Нават я і маці не прыкмецілі, як збегла... Ты за што яе пакрыўдзіў?

— Братко, ні за што... Не можа быць! Толькі танцы...

— Глядзі, Вілюй, каб гэтага больш я ад яе не чуў!

— Ясненька, братко.

Вароніч задумаўся, седзячы за сталом.

— А харчы ёй, дурніцы, трэба пераслаць. Там якраз экзамены пачынаюцца. Ад голаду змарнее... І людзей у абрэз... Як тут выкруціцца?

— Дык я ж кажу, Апанас Іванавіч. Я магу... Што, мне цяжка? Торбачку за плечы і гайда!

— Тады вось так зробім,— паклаўшы рукі на стол, рашыў Вароніч.— Зайдзі да мяне, вазьмі ў маці спакаваныя харчы і перадай!.. Толькі перадай не ў рукі, а дзяжурнай пры ўваходзе ў інтэрнат. Ларысе не пападайся на вочы!

— Есць, Апанас Іванавіч! — казырнуў Вілюевіч, дастаў насовачку з кішэні і выцерся ад поту.

— Ты пойдзеш пяшком?

— Пяшком. А што, Апанас Іванавіч? Толькі да Пяцеўчыны. А там па гасцінцы машыны часта ходзяць. Прагаласую!

За галасок паслухмяны, спацеласць нейк шкада стала Вілюевіча — яму ж і на базу яшчэ паспець трэба,— Вароніч расчуліўся:

— Пяшком з мяшком. Доўгая мітрэнга. Так і быць! Дам табе Варанога. Скажы на канюшні Батоўкіну — ад майго імя. Я загадаў асядлаць!

Такога павароту ў паездцы Вілюевіч не чакаў.

Рысак Вараны лічыўся найлепшым канём, хадзіў толькі пад сядлом самога старшыні. І то не кожны дзень, а толькі пры выключных выпадках — як перазімавала рунь, аб'ехаць далёкія палеткі: дзе якія пасевы, ці паспела жыта, тэрмінова падскочыць у сельсавет, у райком — на нараду. Летам у вольную гадзіну старшыня сам купаў рысака. Стоячы па пахі ў рэчцы, часаў скрэблам яго, мыў са шчоткай. Конь — таварыш з армейскай пары, а набытая звычка, як вядома,— другая натура.

У канюшні даглядаў Варанога толькі Батоўкін, дзядзька з шырокай рыжай барадой. Пачуўшы ад Вілюевіча загад: сядлаць рысака, упарта запярэчыў:

— Такому франту, як ты, не дам! Прынясі ад старшыні паперку.

Яны доўга спрачаліся, пакуль Батоўкін вывеў асядланага рысака.

— Асцярожна, не тузай! — папярэдзіў конюх.

Але Стась Вілюевіч як сеў на каня ды крануў бакі Варанога мяккімі абцасамі сваіх джымі, той адразу ўздыбіўся. Аж коннік перапалохаўся. Батоўкін тут жа грозна паківаў на яго пальцам, строга папярэдзіў ездака, каб не фарсіў так і не муштраваў.

За сялом конь бег трушком. Ляжала наўкол шырокае роўнае поле. За полем — лес. Майскі ветрык даносіў гудзенне трактара. Водгулле яго ўперамешку са спевам жаваранкаў напаўняла ўвесь абшар ад пабараванай чорнай раллі да папярова-белых воблакаў у небе. Хмаркі плылі над полем. Сонца нырцавала ў іх, то выплывала на глыбока сінія прагалы. Выгляне з-за воблачка і Стася прыгравае ў плечы. Яму падабалася ездзіць верхам. Абцасамі джымі «прышпор» — брыль капітанкі націскай на вочы...

За грэбляй узгорак. На ўзгорку Вілюевіч спаткаў баранавалокаў. Чатыры паркі баронамі «зігзаг» разрыхлялі зямлю. Калгаснікі думалі, што едзе старшыня, нават хацелі прыпыніцца. Але Вілюевіч крануў Варанога, і вецер засвістаў у яго вушах.

За Пяцеўчынай развілка. Адна дарога — у райцэнтр, другая — на Кайнаўскі лес. І Ціханавічы. Там на лясной палянцы — леснічоўка Браніслава... Хутаранскі прасіў не забывацца, не мінаць яго.

Не, Стась Вілюевіч спачатку споўніць свой абавязак.

У гарадку ён не адразу пад'ехаў да міліцыі. Смеласці не хапала. Аб'ехаў местачковых людзей, засольшчыкаў, садоўнікаў, якія цяпер садзілі бульбу, разганялі плугамі грады... Потым рашыўся... Злез з Варанога, прывязаў яго да штыкетаў, зайшоў у прыёмную. Там сядзеў дзяжурны вайсковец. Запытаўся: чаго зайшоў, таварыш?

Вілюевіч працягнуў яму складзены ліст.

Дзяжурны прачытаў і запытаўся:

— Пашпарт пры вас?

— Не,— халадзеючы нутром, адказаў Вілюевіч.— Я не ведаў... што патрэбен пашпарт?

— Дзеля рэгістрацыі заявы... Адрас? — і, перагарнуўшы ліст, дзяжурны заўважыў яго, сказаў: — Добра. Праверым.

Стась развітаўся і з лёгкасцю на душы выйшаў. Усё было так, як задумана.

Да інтэрната Стась ехаў таксама не спяшаючыся. Мяшок намуляў яму плячо. І радасці, што ён едзе да Ларысы Апанасаўны, харчы вязе, не было. Што ж, ён не будзе больш назаляць. Залішняя слодыч робіцца горкай і прытарнай. Ён рашыў зрабіць перапынак, перачакаць, калі ўсё непрыемнае між імі забудзецца. Тады зноў самі сабой наладзяцца прыязныя адносіны... Навука вопытнага халасцяка: час найлепшы лекар, гоіць любыя раны.

— Ларысе Апанасаўне Вароніч! — падаў Вілюевіч клунак бабульцы, якая дзяжурыла за столікам у вестыбюлі інтэрната. Каб ні хвіліны не затрымлівацца, яшчэ дадаў: — Вы мяне помніце і ведаеце, але не гаварыце ёй, хто перадаў...

## XVI

Здаецца, і бачыліся яны не так даўно, а як цягне спаткацца зноў, пагутарыць ад душы. З Браніславам прыемна адпачыць, выказаць і крыўду, і радасць. З ім Стась дзяліўся ўдачай і няўдачай, поспехамі і ўсялякімі нягодамі.

Вараны скакаў паслухмяна і лёгка. Як дамчаўся да гравійкі, што ля Пяцеўчыны, рука Вілюевіча сама пацягнула повад налева. Да лесу. Да Браніслава Хутаранскага... І неўзабаве рысак хрумстаў пад павеццю канюшыну, якой Клаўдзя прынесла добры ахапак, а Вілюевіч з Хутаранскім сядзелі за сталом. У Браніслава заўсёды хапала на стале ўсяго ўволю. Ды і Вілюевіч, каб не прыехаць з

пустымі рукамі прыпас з раймага дзве бутэлькі «Тайфуна»...

Прыяцелі ва ўсе гады іх знаёмства прывыклі абменьвацца ўзаемнымі пачастункамі і дзяліцца пароўну. Калі хто з іх частаваў больш і смачней, то другі сябра гэта запамінаў, як свой доўг удзячнасці на будучае.

—Будзь здароў!

— На мілае здароўечка і табе, братко!

Пілі яны ўдвух. Жонка Браніслава — напячэ, нарэжа, наставіць, а сама адсутнічае. Клаўдзя адчувала сябе лішняй між мужчын. Не, яны з Браніславам жылі ў згодзе. Ён яе не крыўдзіў. У іх быў лад. Адно аднаму верылі. Аб дзецях чамусьці ні разу муж і жонка не вялі размову. Ён сваіх, мабыць, не хацеў. А Клаўдзіны, ад першага мужа, якога забіла сасна пры бураломе, параслі, выйшлі ў свет: хто ў арміі служыць, хто на вучобе... Ёй лясное адзіноцтва падабалася. Яна была кабета руплівая і спакойная. Цяпер вось упынялася на агародзе, наглядала за канём Вілюевіча. А сябры — яна ведала, што лішняга не возьмуць,— сядзелі ўдвух.

— Ці не дзік гэта? — закусваючы, пытаўся Вілюевіч.— Здаецца, братко, скварка дзічыны?

— Ён, вяпрук!.. У мой агарод зачасціў. Пасадзілі мы з Клаўдзяй бульбу ля арэшніку, а ён абнюхаў. Штоноч прыходзіць і лычам капае. Дык я падпільнаваў і з двухстволкі бабахнуў...

— А-я-яй, адзін смак!.. Здэцца на від, як свойскае сала, а пакаштуеш — не, дзічына! Тугое, хрумсткае. Ясі — не наясіся!.. Ну, братко, за што ж мы цяпер яшчэ падымем?.. За нашы жаданні, за шчасце!

— За тваю, Стась, удачу!

І Браніславу і Стасю здавалася, што ў іх аднолькавыя думкі, аднолькавыя жаданні. А ці так гэта?

Чаго яны жадалі, аб чым марылі? Разважаючы наконт гэтага, некаторыя кажуць: якасць і вартасць чалавека можна вызначыць па яго жаданнях, па яго патрэбах.

Што ж вяло сяброў па жыцці, чаго хацелі яны ад яго?

Спрадвеку людская дабрыня і мудрасць лічыліся найвышэй і найдаражэй за ўсё.

Мы з маленства помнім казку пра жадлівую скнару-бабу, якая ў рэшце рэшт засталася каля разбітага карыта. Прырода адвечна закладвае ў чалавека дабро і зло. І чалавек — не белы ліст паперы, на якім невядома хто адвольна можа пісаць невядома што. Ты нарадзіўся і расцеш у сям'і. Дома з першых крокаў бацька і маці навучаюць: гэта можна, а гэта няможна, ты вучыся рабіць так, як добрыя людзі робяць, нават лепш за іх; табе далі — і ты дай, не будзь жміндай, не бойся, і табе дастанецца кавалачак. Старайся для ўсіх, людзі ў дружнай працы кожнага прыкмецяць... Навучаюць так або... або зусім наадварот, як некалі было ў Хутаранскіх. Ды і Вілюевічы не прывучалі дабрыні. У Хутаранскіх ад маленькага Броніка часцей чулася: «Дай! Дай! Дай яшчэ!..»

Якая сям'я была ў Браніслава?

Яго бацька быў селянінам, а потым працаваў стрэлачнікам на чыгунцы — тады толькі што пайшлі цягнікі па Лібава-Роменскай чыгунцы, — а якое жалаванне ў стрэлачніка, вядома. Гаравалі. Брата і сястрычку — тыф лютаваў — з калыскі адразу аднеслі на могілкі. Бронік застаўся ў бацькоў адзін. Можа, таму дарослыя нічога і не шкадавалі маломy: «На! На яшчэ!..» Бо раптам нечакана разбагацелі. Не было шчасця, дык няшчасце памагло. Бацька не па сваёй віне, па віне наймальніка скалечыўся. Паравоз адрэзаў нагу да калена. Прыватная

кампанія чыгуначных дарог выплаціла кампенсацыю — вялікія на той час грошы. Што рабіць з імі аднаногаму маласямейнаму чалавеку? Жонка, жанчына праворная, параіла купіць краму, заняцца гандлем. Былы стрэлачнік так і зрабіў. Купіў домік ля дарогі ў мястэчку, адкрыў крамку. Хто ні едзе з рынку, спыніць каня, загляне ў крамку і купіць тое, што кульгавы прывёз з Мінска.

І мала-памалу, з году ў год, пачаў расці прыбытак. Грошы! Крамнік разбагацеў, куксы ў калошы з-пад прылаўка не відно, а залаты гадзіннік з ланцужком blішчэў у кішэньцы на грудзях дарагога пінжака з англійскага сукна. Бронікаў бацька ўжо марыў мець дзве яшчэ не такія крамы...

Але тут грымнула рэвалюцыя, і ўсё пайшло прахам. Усё паляцела дагары нагамі разам з царскімі «кацярынкамі»... Не сказаць каб крамнік быў варожы да перамены, касавурыўся на новую ўладу, не!.. Ён першы згадзіўся пераехаць у адзін з пасёлкаў, якія стварaліся тады. Працаваць сам не мог, калека, наймаў людзей, бо грошы меў. І ператварыўся з крамара ў Хутаранскага. Ён не дажыў да калектывізацыі. Бацька Браніслава памёр, калі руйнаваліся межы прыватнай уласнасці на вёсцы. Ад разрыву сэрца. Неўзабаве і сканала маці.

Браніслаў набыў даведку, што ён член калгаса — сапраўды, ён усю маёмасць, і жывёлу, і будынкі абагуліў у калгасную гаспадарку,— і накіраваўся на вучобу, як сірата, у горад. У Мінску пазнаёміўся з Вілюевічам.

Чым кіраваўся Браніслаў Хутаранскі, што вяло яго па цяперашніх жыццёвых дарогах? У бацькоў ён рос адзін як палец, і хапала ўсяго — і ежы, і адзення. Ён не хадзіў, як яго аднагодкі, у саматканых портках, а ва ўсім крамным, куплёным, навенькім. Чаго тут яшчэ жадаць?.. Можна падумаць, што

ў заможнай сям'і, на ўсім гатовенькім Броня рос дармаедам, гультаём. Не, кульгавы бацька прымушаў вучыцца і працаваць, і не абы-як, а да сёмага поту. І калі Бронька ленаваўся рабіць урокі, бацька гнаў яго з вуліцы папругай, сілай прымушаў садзіцца за кніжку. Асабліва пільна сачыў, каб сын рашаў задачкі: аднімаць, складаць, дзяліць, памнажаць... Настаўляў, што з грошай — робяць грошы. Па волі бацькі Бранілаў некалі закончыў царкоўнапрыходскую школу. Так з цягам часу бацькава мара стала мараю сына, але зараз ён, Браніслаў Хутаранскі, дарослы чалавек, коратка сфармуляваць яе, бадай, і не змог бы...

Ёсць адна закавыка ў жыцці Браніслава: у новую пару ён не здолеў стаць прадаўжальнікам бацькавых замыслаў. Як ні прымяраў свае здольнасці, а ён жа год павучыўся ў гімназіі, усе яны не мелі практычнай прыгоднасці. Атрымлівалася нейкая бязглуздзіца. Бацькава навука нікому была не патрэбна, яго марам не суджана было збыцца, і гэта мучыла Браніслава.

Канечне, ён і цяпер жыў у дастатку і раскошы. Жаніўся выгадна, з разлікам. Ён у юнацтве быў залётны, асабліва да багатых дзяўчат. Дык і ўзяў жа ад жыцця ўсё, што хацеў. Але нейкі чарвяк тачыў нутро, затоеная скруха не пакідала душу. Хутаранскі быў нетаропкі, удумлівы, ён імкнуўся зразумець сэнс усяго, што адбывалася навокал. І ў яго было сваё меркаванне, патаемныя думкі, якія выказваць ні Клаўдзі, ні, божа барані, Вілюевічу асцерагаўся. Праўда, Стась даверлівы і па праву маладзейшага вельмі слухаўся Хутаранскага яшчэ з даўняй, мінскай пары. Браніслаў лічыў сябе, калі можна так сказаць, «павучальнікам» яго. А ў «павучальніка» хіба не развязацца язык часам?

У мінулы раз пад чаркай Хутаранскі расчуліўся і кажа Стасю:

— Мне нічога і ніхто не страшны... Мне бацька пакінуў поўны гладыш, закапаны ў адным месцы на хутары... І я ведаю дзе...

— Які, братко, гладыш? — жартаўліва пацікавіўся ахмялелы Стась.— З кіслым малаком ці са смятанай?

— З жоўтымі гузічкамі.

— Якія такія жоўтыя гузічкі? Пляцеш ты, братко, нейкую лухту... Вып'ем яшчэ!..

Назаўтра Хутаранскі каяўся за «павучанне», якое рабіў Стасю. Успаміны пра застольныя, няхай не зусім сакрэтныя гутаркі прымушалі Браніслава пакутаваць, дрыжаць за нястрыманасць языка. І ён хадзіў насуплены, незадаволены ўсім на свеце. Вядома, і балела галава ад выпіўкі, але пакутлівае ўсё ж было не ў гэтым. Усё востра ўпіралася ў тое, што «павучальніцтва» Браніслава, па сутнасці, ператваралася ў пустую балбатню, бяссэнсавую і небяспечную, і Хутаранскі, учора яшчэ такі ўпэўнены, сёння адчуваў сябе буркатлівым, азлобленым чалавекам і падбухторшчыкам...

Таму ён прысягаў сабе і заўсёды асцерагаўся — не піць гарэлкі ні з кім пабочным, лепш маўчаць у кампаніі, нікога не чапаць, быць далей ад усіх, з кім ён мала знаёмы...

...А Вілюевіч Стась — быў зусім інакшы, «з дарагой душой», як ён прызнаваўся. Здаецца, сакрэтаў у яго не было. І сцерагчыся, здаецца, ён нікога не асцерагаўся. Яму не было што берагчы. Стась увесь быў навідавоку. У адрозненні ад прыяцеля да ўсіх лез знаёміцца, нават да тых, хто пагардліва адварочваўся ад яго, прыставаў са сваёй помаччу, даваў усім парады, якіх ніхто ў яго не прасіў. Усім дагаджаў і прыслужваў. Любіў занадта гаварыць.

У гурце мужчын — пачынаў жарты, каб паказаць сваю простую, бясхітрасную таварыскасць, сярод кабет і дзяўчат — культурную ветлівасць. Праўда, анекдоты і жартачкі яго гучалі часамі непрыемна, без пачуцця меры. Але ў вясковым коле, дзе селі адпачываць, пакурыць, усё даравалася. Хто не жадае павыскаляцца і парагатаць?..

Вілюевіч — не Хутаранскі, хоць і знайшлі між сабой інтэрас.

Сям'я ў Стася была вядома якая, і не магла яна даць яму пэўны малюнак на яго чыстым лісце паперы. У доме панавала галеча — бацька, адмыслловы стальмах, прапіваў усё. Змайструе каму-небудзь малатарню ці збудуе дом, як звон, з аканіцамі, атрымае ад гаспадара добрую капейку і не стыкаецца паўгода дома, гуляе. Пакуль усё не прап'е. А жонка з дзецьмі жыві як хочаш...

Стась рос самадумна. Што ён хацеў, тое і рабіў. У школе вучоба давалася цяжка. Арыфметыка — нішто сабе, а граматыка, гісторыя, геаграфія — у трэцім і чацвёртым класе сядзеў па два гады. Затое прайшоў поўны курс панадворкавых і хатне-сварлівых навук: лаянкі, бойкі, п'янкі...

Змалку навучыўся хлусіць, красці. Вельмі яму хацелася займець ножык, дзе былі паасобна вялікае і маленькае лязо, штопар, свярдзёлачак, шыла, напільнік,— украў і дасягнуў жаданай мэты. Жаданні — мізэрныя. Але яны пабольшалі і выраслі, калі ён стаў праваднікам на чыгунцы. Адзенне, вопратка замежных пасажыраў, усё тое, што было пры іх, ён асцярожна кратаў і быў ад яго ў захапленні. І страшэнна хацелася мець такія рэчы. Магчыма, таму прачнулася і развілося ў Стася зайздроснае жаданне апранацца шыкоўна, па апошняй модзе і ва ўсё дарагое і моднае...

Тады ў Мінску былі модныя мужчынскія гарні-

туры-чарлі, потым тройкі. У атэлье па Ленінскай вуліцы, непадалёк ад рэстарана «Еўропа», ужо звечара займалі моднікі чаргу — яна расцягвалася на паўквартала. Стась ахвяроўваў і адпачынкам, і сном, але пашыў сабе чарлі. Потым надышла чарга джымі. А як даставаў шапку-капітанку, або кубанку з аплічкамі — цэлая эпапея...

Вілюевіч любіў фарсіць, пахваляцца чым-небудзь замежным, асабліва перад жанчынамі. Хто не бачыў Вілюевіча, калі ён купаўся ў трусіках, той не ўявіць, што на аднае руцэ ў яго вытатуіраваны якар, а на другой — сэрца, пранізанае стралой Амура; а на ўсе грудзі — голая прыгажуня з распушчанымі валасамі.

Каму чагосьці хочацца, той да гэтага «чагосьці» ўсё жыццё і імкнецца, імкнецца і дасягае. І ўсялякі знаходзіць таго, хто яму патрэбны. Як знаходзіў Вілюевіч, так знаходзілі і Стася Вілюевіча.

Запытайцеся: што ж цяпер, дзе ж цяпер яны? Недзе растуць нашчадкі ад гэтага палкага з лысінай Амура. Але Стась імі не цікавіўся і не шукаў, забыўся, як і яго самога (ён дзякуе богу!) не расшуквалі спакушаныя ім жанчыны.

Што датычыцца работы, то Стась яе не цураўся. Але і тут не абыходзілася без выхвальства — і здольны ён, як ніхто іншы, і рукі, як у залатога майстра, ён дзесяццю спецыяльнасцямі валодае!.. Аднак наконт апошняга — гэта праўда, за якую ён работу ні браўся, да канца не даводзіў. І прафесіяй ніводнай па-людску не авалодаў.

Акрамя, магчыма, сталярскай. Спрытны быў працаваць з сякерай, з рубанкам, з гэблікам, з пілкай. Ці то гены адгукнуліся, ці то пераняў, налаўчыўся сам, бачачы, як працуе бацька, Уладзіслаў Качар... Канечне, жыць і камандаваць, кіраваць па-

дабалася больш, чым на рабоце абліваецца потам. Лёгкі хлеб яму заўсёды быў смачнейшы.

Што вяло Стася па яго цяперашніх сцежках — ужо ж, здаецца, паспелі яго жаданні ў жыцці?

Пасля адбыцця судовага пакарання ў калоніі Вілюевіч ехаў да цёткі адпачыць. Адпачыць у Навасёлках, і душэўна, і фізічна. Думалася пачаць усё па-новаму.

Але ў Навасёлках у ім прачнуўся зноў Вілюевіч. Мабыць, усяму прычына: былыя мары ці як тут інакш растлумачыць?.. Магчыма, закасцянелая прывычка віхляння — віляць, дагаджаць, прыстасоўвацца — па інерцыі накіравала яго і ў сяле жыць па-ранейшаму.

Нават падштурхнула: «Ты ж ліслівае цяля, а яно — сам ведаеш... Ты ж умееш ласкава паставіцца перад Воранічам, перад Ларысай Апанасаўнай, перад сваёй цёткай, ды перад усімі, нават перад упартым і заядлым Ермалаем Ламакам... Што, баішся прынізіць уласную годнасць? А дзе яна без лёгкага хлеба?»

Стась даўно не маладзёнак. Магчыма, калі задумацца глыбей, у душы яго сядзеў пакорлівы раб, былы ціхмяны парабак, які прымушаў і цяпер — у наш час — гнуць спіну, як некалі гнуў яго прадзед перад панам. Стась прыслужліва згінаўся перад кожным, хто быў старшы, хто меў улады, пасаду, сілу, нарэшце, грошы, розныя сувязі,— згінаўся, каб прыстасавацца, як-небудзь і да чаго-небудзь прыладзіцца, каб яму і ўсяму — усё добра было!..

Выключэннем з гэтага быў толькі сябра Браніслаў. Узаемныя падарункі і пачастункі сведчылі аб роўнай вазе. Даўняе знаёмства рабіла Стася сваім чалавекам у Броніка. Здаецца, яны лічыліся роўнымі і ўзаемазалежнымі.

Вось, хоць бы просьба Вілюевіча акоранага лесу

для Навасёлак. З аднаго боку — таварыскі, шчодры жэст Хутаранскага, а з другога боку — удзяка Стасю за маўклівасць. (Былі ў Броніка даўнія грахі!) Ну, хоць бы той выбалбатаны Хутаранскім гладыш з «гузічкамі»!..

Ого, каб гэта ў даўнюю, колішнюю пару — то былі б два арлы! А пры сучасных умовах абодва — у сваіх мэтах і марах — птушкі невысокага палёту. Але ў асяроддзі, дзе яны аселі або кружыліся, ад іх можна было чакаць усялякіх і непрадбачлівых учынкаў, бо крылы гэтых птушак яшчэ не стаміліся і былі не падрэзаны... Бач, сабраўшыся ўдвух, як яны размахвалі на ўсю сілу, лапочучы імі, як пеўні, перад: «ку-ка-рэку...»

Вілюевіч ужо расказаў, што ён вяртаецца з райцэнтра. Пра заяву, якую напісаў у міліцыю, не прызнаўся. Ён з радасцю расказваў пра старшыню (хлусіў, вядома!), што даў яму свайго любімага каня-рысака, каб Стась падвёз гасцінцы дачцэ Ларысе Апанасаўне, якая вучыцца ў медтэхнікуме. І што Ларыса яму падабаецца.

— Колькі ёй год? (Стась адмаўчаўся.) Дык, можа, з дачкой старшыні вяселле згуляеш? (Стась жаваў.) Калі яна канчае свой тэхнікум?

— Сёлета.

Стась узняў напоўненую чарку і, наколькі мог лепятаць яго язык, пачаў прасіць:

— Дружа, братко, не паможаш дастаць латных цвікоў... Такіх, каб дошкі прыганашваць, цалёўкі, ну, дзюймовыя!.. Паўлатных і простых цвікоў трэба да зарэзу...

— У мяне, ты ж ведаеш, лесаматэрыялы, а не цвікі.

— Але ж ты, братко, аднойчы намякаў, што ў каго лесамацяр'ялы, у таго ў руках усё!.. Ты ж — вышэй Саўнаркома!

Хутаранскі з прыемнасцю засмяяўся.

— Умееш, чорт, падлабуньвацца... Колькі табе?

— Скрынкі тры, чатыры... Чым больш, братко, тым лепш... Закінеш на базе слоўца патрэбнаму чалавеку... і гатова! Ну, братко, я чокаюся гэтай чарачкай і жадаю табе, як сабе... усяго, чаго душа жадае... чаго табе хочацца!

— Не ўсё збываецца, чаго хочацца.

— Дык не паможаш з цвікамі?

Браніслаў па-сяброўску паляпаў па плячы Стася: не хвалюйся!

— Братко, дзякуй! Сто раз дзякуй!

Яны зноў выпілі і закусілі.

— Ты, Стась, перада мной не хітры! Ты не сказаў, што ў цябе з дачкой Вароніча наклёўваецца?

— Ларыса Апанасаўна будзе доктар, дальбог! І ты не смейся!.. Але яна кардыячыцца!.. І я сам сабе думаю: не гарачыцца! Пажывецца — утрасецца...

— Пажывецца — утрасецца? Згодзен... Але яшчэ ты не адказаў на такое пытанне... У Навасёлках думаеш асесці назусім?.. Хочаш кінуць сваё цыганскае бадзянне?

— Я табе, братко, так адкажу. Навасёлкі — сяло. А ў сяле, як ты ведаеш, людзі ўсялякія. Ёсць такія, ад зайздрасці зубамі скрыгочуць. Руку на чалавека гатовы падняць. Горшыя за хуліганаў ці бандытаў. Хоць бы сабе гэты Ермалай... Ламака!.. Я ўжо табе гаварыў пра патасоўку з ім у клубе. Не знаю, як разыдземся. Такі задзірысты дзед. А язык — джала гадзючае! І там, як прыгледзішся, многа такіх... Чуе маё сэрца, братко, што там надоўга не атабарышся. З'едуць!

— Стань горкім! Будзь калючы, не паддавайся ўсялякаму. Помніш, я табе раіў.

— Дык а я што? Я і раблю, як ты мне, братко, казаў. Адкравенна прызнацца, я і заехаў да цябе, каб заявіць... Іду козырам. Рашуча! За пільнасць! Пакуль усё між намі, маўчок!.. Але прыйдзе дзень, і я на Вараным прымчуся да цябе, братко, далажу... пра мой верх. Будзь упэўнены! Братко, бярэм гэту светленькую кроплю, не апошнюю. Будзь здароў!..

— Даўно б так!.. Трэба, каб цябе баяліся.

— Будуць! Будуць баяцца!..

Крыху памаўчалі, і зноў загаварыў Стась:

— Ведаеш, паехаў я сёння цераз увесь гарадок. І каля рэчкі пабываў, дзе засолачны пункт... Глядзеў на сады, яблыні... На роўненькія грады ў агародах. Вясна... Кожны на сваёй сялібе гаспадарыць. Арэ, садзіць. Люба глянуць! І думаў сабе... Знаю, знаю, чаго ты ўсміхаешся і зараз скажаш... Зловіш! Да ўласнага кутка гарнуся?.. Халасцякаваць абрыдзела. Старасць на носе...

Браніслаў па-таварыску засмяяўся:

— Нарэшце адумаўся. Зайздросціш мне.

— Не, братко! Дальбог, не! Абсалютна, дружа, не зайздросціў ніколі і не зайздрошчу... Ты сабе лінію маеш і сваю рахубу, а я хачу мець сваю!

— Халасцяку, як ты, Стась, калі пераваліць за трыццаць, трыццаць пяць, ён ужо вечны бабыль! Сабакам сена косіць!..

Абодва зарагаталі.

— Ты ж, братко, не стаў бабылём, хе-хе-хе!

— Кожны чалавек імкнецца да шчасця. Шукае, як шукальнік залатую жылу. Зможаш ты адшукаць сваю залатую жылу? Не спазніўся?

— Я — Вілюевіч, братко, сам — хіба не жыла?

— Не падлівай больш! — Затрымаў бутэльку Хутаранскі.— І кажы ясней, чаго ты аглядаў сады ў гарадку?

— Ага, ды ехаў я сёння цераз гарадок... Усюды сады... домікі... Паглядзеў і падумаў... На які лях грызціся з навасёлкаўцамі?.. Што, мне свет клінам сышоўся?.. Ты ведаеш, братко, я з дарагой душой!.. Я ўсё магу...

— Кажы канкрэтна.

— Канкрэтна! Заехаў я ў МТМ. Прыслухаўся, разгаварыўся. Як жывецца? Як работа ідзе? А рамянцёры хлопцы свае. Чаму не ўладзіцца мне да іх? У распараджэнні машыны. Скажам, дзве ў рамонце. Адна гатова. Рамонт закончан. Яе трэба, напрыклад, абкатаць!.. Я бяру ў кузаў халтурку і абкатваю. Абкатваю кіламетр, сто... колькі хачу... Рэйс — трыццаць, сорак рублёў. А то і болей. Дурны даход! Глядзіш, праз паўгода свой домік. У садочку. Каля рэчкі...

— Хопіць, Стась, не падлівай, ты п'яны!.. Гаечнага ключа ніколі ў жыцці ў руках не трымаў, а разважае пра халтурку ў МТМ і сніць пра домік у садочку!..

Вілюевіч памкнуўся да бутэлькі.

— Стась, папярэджваю як старэйшы за цябе... Глядзі, каб не апынуўся там, адкуль зімою з чамаданікамі прыехаў.

— Браніслаў, дружа мой, за каго ты мяне прымаеш? Будзь упэўнены!.. Ну, яшчэ па адной...

Хутаранскі ўгаворваў спыніцца на гэтым — бутэлька пустая,— але Стась Вілюевіч не паддаваўся ўгавору. Ён лез абнімацца, быў надзвычай вясёлы, за ўсё Браніславу дзякаваў з пацалункамі.

Папрасіў яшчэ бутэльку ў Клаўдзі. Ён ведаў, што ў яе ёсць медавуха. Але Клаўдзя сказала:

— Вы, Станіслаў, не спозніцеся?

— Не!

У Вілюевіча з'явілася такое ўпартае жаданне: усё рабіць наперакор, наадварот. Смела і рашуча.

Прапануй зараз Бранiслаў: «Хопiць!» — Стась запярэчыў бы: «Не! Давай, братко, яшчэ! Яшчэ!»

Яны пiлi, пакуль за акном сцяна лесу густа пачарнела. Над ёю павiсла вячэрняе зарыва. Там, дзе схавалася сонца, расплылася чырвань, як над велiзарным пажарышчам.

Толькi цяпер Стась апамятаўся ехаць.

Прыяцелi расцалаваліся. Вiлюевiч, трымаючыся за сябра, выйшаў з хаты. Пад павеццю чакаў Вараны.

Iшлi ўтраiх i спрачалiся. Клаўдзя госця не пускала. Пара позняя. Куды спяшацца? Вiлюевiч — слухаць не хацеў. Прыкмецiўшы, што Стась не можа трапiць наском джымi ў стрэмя, абурылася:

— Куды вы на ноч гледзячы? Заставайцеся ў нас, праспiцеся! Бранiслаў, не пускай!

Хутаранскi, сам пад моцным хмелем, учапiўся за Стасева галiфэ, сапраўды не пускаў. Але Стась ускарабкаўся на сядло i з насунутай на вочы капiтанкай фальцэтам крыкнуў:

— Дзякуй, братко!.. Дзякуй, Клаўдзя! Ал-люр, Вараны!.. Ал-люр!

Вараны адразу кiнуўся наўскач.

Навокал — цёмна. Лес маўклiва прыслухоўваўся да тупату капытоў.

Конь, адчуўшы волю, iмчаўся галопам, нiбы сам ведаў, куды яму трэба. I ён, сапраўды, кiраваўся вернай дарогай наперад — хутчэй дадому!..

Выскачылi з лесу. На полi стала вiдней. Вось электрычнае асвятленне над кароўнiкам у Навасёлках.

Цi гэта здалося?.. Вiлюевiч не ў такiм бываў хмельным настроi, а ўсё памятаў i распазнаваў. Нiчога не блытаў i не забываўся. Яго не маглi прыкмецiць нават кантралёры па вагону. А сёння ён як нiколi — у норме!

«Гэта Навасёлкі! — падумаў Стась.— Тут днём я спаткаў на полі баранавалокаў».

Раптам з-за ўзгорка затрымцелі невялічкія водбліскі. Нібы хтосьці з-пад зямлі асвяціў дарогу і патушыў святло. Потым гэта паўтарылася. Пачулася гудзенне, але Вілюевіч яго не ўлавіў. Толькі Вараны стаў бегчы трушком, стрыгчы вушамі і захроп...

— Н-э-э! — крыкнуў Вілюевіч.— Алюр!

Наперадзе паказалася машына. Яркія фары яе асляпілі каня і конніка. Вараны звычайна не баяўся гулу матора. І машыну мінаў, крыху касавурачыся ўбок.

— Смялей, алюр!

Відаць, каню перадавалася нервовасць самога ездака. Гаспадар стаў муштраваць яго. Рысак, збіўшыся з дарогі, збочыў на ўзараную раллю. Пад капытамі яго штосьці звякнула.

Машына са сляпучымі промнямі фар наблізілася. Матор гыркацеў у густой цішыні сцямнелага вечара.

— Н-э-э! — злосна тузаючы за павады аброці, ён упарта прымушаў каня. І ўдарыў пад бакі.— Смялей!

Вараны дыба затанцаваў па ўзараным мяккім полі. А потым нібы ўскочыў на жалеза.

...Вілюевіч успамінаў. І ўспомніў... У нейкі момант тады яму памярэшчылася, што на зямлі ляжалі бароны. Пад капыты Воранага яны быццам трапілі і зазвінелі, як ланцугі. Рысак, ратуючыся ад гэтай жалезнай пасткі, уздыбіўся і рвануў наўскач.

Машына, у якой ехалі вайскоўцы і вольна маглі размінуцца, спынілася. Яны бачылі ўсё, што адбылося: капрызны коннік вываліўся з сядла і, павіс-

шы галавой уніз, цягнуўся, пакуль ступня бота не вызвалілася са стрэмя.

Вайскоўцы не пакінулі бедалагу. Яны паднялі яго і адвезлі ў Пяцеўчынскую бальніцу.

Каня адшукаць не маглі. І часу не мелі.

## XVII

Конь стаяў асядланы каля варот сваёй канюшні, пакуль яго не заўважыў вартаўнік. Ужо світала. Калі Вараны прымчаўся дадому, ніхто дакладна не ведае. Вартаўнік упусціў яго ў стайню. Месца сваё ў другой палове канюшні, якую будаўнікі ўжо закончылі, Вараны, накульгваючы на заднюю нагу, адшукаў і сам зайшоў у праварыну.

Не здымаючы сядла з каня, не зачыняючы праварыны, вартаўнік пабег, разбудзіў Батоўкіна:

— Хадзем у канюшну, Вараны кульгае! Штосьці здарылася з рысаком...

— Учора мне ёкнула вось тут, не давай каня гэтаму франту! — зашпіляючыся, бурчэў стары Батоўкін, ідучы да канюшні.— Няўжо бяда?

Стары барадаты конюх, які клапаціўся пра сваіх стаеннікаў і ведаў кожнага, можа, лепш, чым некаторых суседзяў-аднавяскоўцаў, быў вельмі ўстрывожаны. Ён любіў Варанога. Конюх пачухаў за шыю каня, стаў крытаць заднюю нагу. Капыт быў акрываўлены — усе пальцы і далонь запэцкаліся... У Батоўкіна захоўвалася аптэчка «хуткай дапамогі». Разам з вартаўніком яны памылі капыт, асцярожна яго забінтавалі, абматалі вафельным ручнікам.

— Тут рана глыбокая,— уздыхнуўшы, сказаў конюх.— А дзе ж ён, яздок?

— Нікога не было,— нібы апраўдваючыся, адказаў вартаўнік.— Адзін Вараны стаяў перад варотамі.

Агледзеўшы сядло — яно было цэлае,— Батоўкін павесіў яго ў рымарні і накіраваўся да старшыні.

Ужо зусім развіднела. Пастухі гналі скаціну на пашу.

Праз некалькі хвілін расхрыстаны Вароніч, ступаючы шырокімі крокамі, шыбаваў на стайню. Пажылы барадаты Батоўкін ледзь паспяваў за ім ісці.

Вараны, пачуўшы свайго гаспадара, ласкава і прыветліва захроп. Вароніч пагладзіў рысака па круглай спіне, палашчыў пяцярнёй — ён толькі адзін умеў так лашчыць свайго гадаванца,— пачаў разглядаць капыт. Ручнік ужо быў мокры ад крыві. Вараны не датыкаўся нагой да подсцілу, які са свежай саломы конюх ужо растрос на падлозе.

— Нашто развязваць, таварыш старшыня? — параіў Батоўкін.— Нага прабіта з-пад нізу ў капыце чымсьці вострым. І не цвікам. Ад цвіка рана была б маленькая і кроў перастала б сачыцца... Тут рана глыбокая, на пальцы паўтары. Ражном нейкім...

— Вілюевіча няма? — скрозь зубы запытаўся Вароніч.

— Не ведаю, не бачылі,— адказаў Батоўкін.— Учора я не хацеў даваць яму Варанога. Я казаў: прынясі распараджэнне...

— Як паявіцца ці ўбачыце — адразу да мяне! — загадаў Вароніч і такім жа шырокім крокам накіраваўся ў кантору.

Вілюевіч тым часам чыкільгаў па балоце.

Ён прыйшоў да памяці ў Пяцеўчынскай бальніцы. І ўсё гэта — не ад удару, што зваліўся з каня, а ад таго, што быў смяртэльна п'яны. І калі ачомаўся,

яго апанаваў страх. Мутны позірк блукаў па белых дзвярах, белых вокнах, белых сценах і пабеленай столі.

Здагадаўся, што ён не на ложку ў Хутаранскага і жанчына ў белым, што ціхенька ступае па пакоі, не Клаўдзя Хутаранская... Пры думцы аб тым, што ўчора здарылася, боль праця́ў яго ад мазгоў да пят. Асабліва аднае ступні.

«Божухна, дзе конь і сядло? — падумаў Стась.— Дзе цяпер Вараны?»

Ён устаў, сеў на ложку. Жанчына ў халаце папярэдзіла, што яму ўставаць няможна, пакуль не прыйдзе доктар і не зробіць агляд. Але хворы нічога не хацеў слухаць. Ён зірнуў у акно — світала... Дзе яго джымі? Дзе яго пінжак? Дзе капітанка?

Яму не патрэбен доктар. Ён здаровы. Ён адзенецца і зараз жа пойдзе адсюль. А перавязку зрабіць — можна. Бінтаванне пакладзіце далікатна. Ваты многа не трэба. Дзякуй! Каб не была бухматая галава, як цурбан... Стась баяўся, што людзі, з якімі ў дарозе будзе сустракацца, звернуць увагу на тоўстую наматаную павязку і распухлую шчаку. Спытаюць, што здарылася? А ён ужо ведаў, што адказаць: пчолы пакусалі... А ад чаго крывяныя падцёкі на скулах? Але — вось гэта ліха!

Было рана-раненька. За акном у садзе ля бальніцы над копанкай плыў туман. Сонца з-за клёнаў яшчэ не паказвалася. Пакуль няма людскога тлуму, Стась рашыў змыцца... Хутчэй! Хутчэй дабрацца да Навасёлак!

Адзяваць рубашку было яшчэ сяк-так. А вось галіфэ і джымі... правая нага не лезла ў калошу, у халяву. Шчыкалатка за ноч распухла і галаступкам ледзь улезла ў бот...

Не дачакаўшыся ўрачэбнага агляду — яму не трэба ніякай даведкі! — Стась знік. Навошта да-

ведка? Каму яна цяпер патрэбна? Ды яшчэ такая сапраўдная...

Накульгваючы, ён выйшаў з бальніцы, калі яшчэ над сажалкай слаўся туман.

...Стась выбіраў сцежкі ціхія, бязлюдныя.

Страх перамагаў боль... Ён дачыкільгікаў у Навасёлкі, калі яшчэ не ўсе калгаснікі выехалі ў поле.

Думаў адразу — на канюшню,— даведацца пра Варанога. Але насупраць Пагуляйскай завярнуў на паўмежак. Перапалоханым да смерці цётцы і Гэлі сказаў, што Вараны ашалеў па дарозе, скінуў і ўцёк. Нічога снедаць, ні пераабувацца не стаў, выпіў конаўку сцюдзёнай вады — зрабілася лягчэй,— папрасіў чаго-небудзь на галаву, каб марлевыя бінты прыкрыць. У Пагуляйскай знайшлася паношаная, пакамечаная кепка. Нічога, якраз добра — схаваўся з вушамі. Хоць кульгай, але фасон трымай!..

Конюх Батоўкін, той пажылы дзядзька з барадой, што ўчора перад паездкай сварыўся на Вілюевіча, спаткаў насуплена. Ні пра Варанога, ні пра сядло не хацеў гаварыць. На скаргу пра боль зірнуў на забінтаваную галаву пад кепкай і адвярнуўся. Вілюевіч з просьбай пачаў скардзіцца: гэта ж конь спудзіўся машыны з асветленымі фарамі, скінуў Стася і цягнуў яго па дарозе, мабыць, нагу выкруціў. Хоць бы не горш!

Што Вараны спудзіўся, уздыбіўся, спаткаўшы ўначы машыну, гаспадарліваму старому конюху цяжка верылася. Батоўкіну, наогул было горка на душы, бо ён любіў сваіх коней, асабліва рысака. Моўчкі падвёў Вілюевіча да стойла Варанога. На заднім капыце — наматана прамоклая чырвоная ануча, якую час ад часу конь асцярожна прыўзнімаў над мяккім саламяным подсцілам. Канюшына ляжала перад ім амаль не кранутая...

Стась Вілюевіч зусім абмяк ад страху. Потым пачаў таропка апраўдвацца, расказваць, як ён трымаўся за павады, але незакілзаны рысак яго не паслухаўся. Пужлівы, уначы ўгледзеўшы машыну, як звар'яцеў. Вайскоўцы ехалі. Яны не дадуць схлусіць. Гэта яны адвезлі Стася ў бальніцу.

— Не ведаю, як было ў вас і хто там вінаваты,— задуменна пагладзіўшы сваю шчаціну на твары, сказаў Батоўкін.— І ты з павязкай, і Вараны — з павязкай. Капыт у каня прабіты на ражон або на кастыль, што ў шпалы забіваюць...

— Я не быў на чыгунцы! Я не быў у Ціханавічах! Не выдумляй, братко!..

— Нічога я не выдумляю. Я нічога не ведаю,— гнеўна перабіў Батоўкін.— Ведаю толькі, што наш выставачны конь, рысак, цяжка пакалечаны.

— Братко, і я скалечаны. Хадзіць во не магу!.. А ён, можа, дзе-небудзь гойсаў, як скінуў мяне... Можа, дзе накалоў нагу?..

— Хто з вас вінаваты, ён ці ты, я яшчэ раз гавару, не ведаю!

— Братко, дык што цяпер будзе? Што мне рабіць?

— Прыедзе ветэрынар, агледзіць і вырашыць, што рабіць. Яму відней. Палечыць, а не палечыць — складзе акт. Няхай суд разбіраецца.

Стась ад гора хацеў прысесці на калодку, але Батоўкін гнеўна сказаў:

— Старшыня загадаў, каб вы зараз жа былі ў яго.

Ён выйшаў з канюшні і пабаяўся ісці ў кантору. Ледзь-ледзь дайшоў да цёткі.

А ў абед баранавальшчыкі вярнуліся з поля і прывезлі Стасеву шапку-капітанку. Яна валялася на раллі непадалёк ад баронаў, перавернутых зубамі ўгору. Наўкол конскія свежыя сляды. На ад-

ным зубе бараны кроў... Учора ўвечары калгаснікі, як збіраліся вяртацца з работы, пакінулі бароны, каб перацягнуць раніцай на суседні ўчастак.

Вестка пра шапку, знойдзеную ля барон (яе прымчала Гэля дадому), даканала Стася. Выдумляць нейкую версію: конь сам вінаваты,— не мела сэнсу. Яўныя доказы супраць яго. А тут трэба ісці да Вароніча. Хутчэй!..

Лепш бы не спяшацца, пайсці да яго не сёння. Не ў дзень бяды, калі Вароніч ад яе кіпеў. Стась добра сабе ўяўляў старшыню. Няўжо іх памяркоўныя ўзаемаадносіны — з чалавекам строгім, але даверлівым і чулым — прапалі назаўсёды? Няўжо?..

Тлумачэння з вока на вока ён чакаў з жахам. Няўжо іх сустрэча будзе безнадзейнай і канчатковай?.. Апранаючыся ісці, ён намацаў у кішэні галіфэ заўсёдашні ратунак — партабак «Памяць з Каўказа»... І ўпершыню крыва, балюча ўсміхнуўся.

Стась Вілюевіч збіраўся расказаць Вароню амаль усю праўду. Коратка, па магчымасці без хітрыкаў. І ўсё ж пачаў са сваёй хворасці. Скінуў капітанку (кепку адразу вярнуў цётцы), паказаў гузакі, напухлыя скулы на твары і зноў насунуў бліскучы брыль на вочы... Стась не апраўдваецца. Толькі такога, як з-пад зямлі, шалёнага налёту легкавушкі, у якой ехалі вайскоўцы, ён не чакаў. Вараны вельмі спалохаўся...

Вароніч не прывітаўся, сядзеў панурыўшыся, слухаў моўчкі. Калі ж Стась назваў Варанога, старшыня ўсхапіўся, раз'юшана пачаў хадзіць каля стала.

— Я вінаваты, Апанас Іванавіч, я затрымаўся дацямна на базе. Заседзеліся там. Выпілі. Выпілі з гэтым, каторы заведуе... Самі ведаеце, братко, не паставіш бутэльку, дулю палучыш з маслам. І пачалося... Ты яму — паўлітра, ён табе — скрынку

цвікоў! Другую — ён яшчэ скрынку... Апанас Іванавіч, братко, я вінаваты! Я не магу даказаць, што Вараны параніўся не па маёй віне... Судзіце строга, але чутачку майце літасць. Дальбог, братко, тут і я інакш не мог. Я хацеў як найлепш. Я вечна стараюся з дарагой душой...

Варонiч сеў, сурова ўтаропіўшы позірк на свой канторскі стол. Усіх пабочных ён перад гэтым папрасіў выйсці і пакінуць з Вілюевічам адных. Слухаў, а на ўказальны палец нервова накручваў посілачку-завязку ад кісета. Кісет не для тытуню і не для грошай, а Ларыска пашыла яго бацьку насіць і хаваць калгасную пячатку. Варонiч думаў, што Вілюевіч ласы прыгубіцца да шклянкі. Чаго прытварацца беспамятным? Ведаў... Стукнуў дакор і самому сабе.

— І колькі ж ты скрынак цвікоў такім чынам выжлукціў? — не ўзнімаючы позірку, спакойна спытаўся старшыня.

— Чатыры. Чатыры скрынкі.

— Чатыры скрынкі? Па колькі кілаграмаў?

— Па дваццаць пяць, братко... Калі паеду яшчэ, можа, удасца і пятую расстарацца.

— Паўлатных?

— І паўлатных, і латных... Я прасіў, як вы казалі. На дошкі-цалёўкі... Што вы, братко, загадаеце, Апанас Іванавіч. Скажыце, любых выберу... Цяпер задача — падвода!

Варонiч насупіўся, аж пераносіца з гарбінкай зморшчылася. Потым спыніўся накручваць на палец кісет з пячаткай і з шумам уздыхнуў:

— Задача... Задаў ты, таварыш Вілюевіч, задачу. Галава кругам ідзе... Цвікі — гэта добра. Усё, што для грамадскай справы, для калгаса робіцца, я табе заўсёды казаў, гэта — добра!.. Але вось як расцаніць твой хабар з паўлітэркамі і ў выніку

ўсяго — калецтва Варанога?!. (Вароніч хапіўся сабе за скроні.) На ўвесь раён слава была!.. Вілюй, няўжо ты так наклюкаўся, як карась гразі, што без памяці ўзагнаў рысака на барану?..

— Вінаваты, братко, Апанас Іванавіч... Я казаў, як было. Можа, яшчэ нічога страшнага... Вылечым!

Старшыня схаваў пячатку ў кішэню і, пагрозліва ківаючы ўказальным пальцам, на які накручвалася вяровачка кісета, сказаў:

— Вілюй, лячы мне Варанога! Сёння ж даставай хоць з-пад зямлі ветэрынара, урача, доктара, прафесара — чорт ведае каго — і лячы! Не вылечыш — не насіць табе галавы на плячах. Усе твае прыгоды раскалупаю і падшыю. Пад суд аддам! Маё слова будзёнаўца запомні!

Вароніч пачаў гневацца і павышаць голас. Дастаў з шуфляды паперу, надрукаваную газетным шрыфтам — на ёй толькі прозвішча старшыні чарнілам,— паклаў перад сабою і прыстукнуў кулаком.

— Во, бачыш! Выклікаюць у Мінск на нараду калгасных кіраўнікоў, перадавікоў веснавой сяўбы. Трэба ехаць... А ты? Ты разумееш, што ты натварыў? Варанога ведаюць па выстаўках не толькі ў нашым раёне. Што мне паведаміць? У каго мне вочы ўзяць, каб спаткацца з таварышамі? Якую ж ты свінню мне падклаў, га!..

Вароніч выскачыў з-за стала і, як сядзеў Вілюевіч, злосна хапіў яго за грудзі...

— О-ё-ёй, братко-о,— загаласіў той.

Неяк пагардліва Вароніч апусціў рукі, павярнуўся, дыхаючы шырокімі ноздрамі, вярнуўся на месца.

— Паслязаўтра я еду,— ахрыплым голасам сказаў старшыня,— калі закончыцца нарада, не ведаю. За мяне будзе старшы палявод Саковіч. Папярэджваю, пакуль я вярнуся, каб Вараны пайшоў на па-

праўку... Доктара, любога лякарства за свой кошт шукай і лячы!.. Што дастаў цвікі — пакуль аб гэтым каб ні адна муха не загула... Ідзі, Вілюй, бачыць цябе не хачу...

— Братко, Апанас Іванавіч, я пастараюся, каб было добра. Ветэрынара сёння дастану. Вылечу! Разаб'юся, а дастану, дальбог жа!.. Няхай усё будзе, як дагэтуль было!..

— Ідзі!

Вілюевіч пракульгаў да парога, а потым спыніўся. Павярнуўся і неяк жалабна, ледзь не загаласіў:

— Апанас Іванавіч, будзьце ласкавы... дазвольце ўзяць падводу.

— Нашто?

— Нага баліць... Мамантальна ў Дубовы Гарадок, на ветпункт, не дабяруся.

— Аднойчы я табе ўжо даваў каня.

— Дык я, Апанас Іванавіч, разумею гэта, сам я дабяруся як-небудзь, няхай!.. Але назад? Я ж хачу ветэрынара хутчэй прывезці. І можа, з Пяцеўчыны... Там, кажуць, лепшы. А сваім ходам у Навасёлкі ён ці згодзіцца...

Вароніч зірнуў праз акно і гнеўна кіўнуў галавой у бок кароўніка.

— На Ермалаевай Жаўтабрушцы даедзеш, з бітонамі... І звярніся да дзеда ласкава, каб ён, як здасць малако, заехаў па цябе... з ветфельчарам. Прасіць ты ўмееш. Не мне вучыць цябе.

Пры гэтых словах брыль капітанкі ў Вілюевіча панік. Стась моўчкі выйшаў з канторы. Яму насустрач уваходзілі рахункавод, кладаўшчык і да яго — ні слова!

Пасля такой размовы з Варонічам Вілюевічу, акрамя болю гузакоў, вывіхнутай нагі, што нясцерпна тузала ў боце, яшчэ танюсенька пачаў пранікаць

ныючы боль у сэрца. Вароніч стаў не той. Вароніч перамяніўся...

Што ж рабіць сёння? Ужо за палудзень. Ісці на ветпункт у Пяцеўчыну — пакуль дакульгае — будзе позна. А як назад?.. Ісці прасіць у Ермалая Жаўтабрушку?.. Ён ужо вярнуўся з сыраварні. Не, гэта здзек над Стасем. Мабыць, сёння трэба дачыкільгаць дадому, разуцца і налажыць кампрэс. Цётка ўжо абяцала прыкласці з нейкімі зёлкамі. Спачатку сам палячуся.

Так і закончыўся першы дзень няшчасця... Што назаўтра яго чакала?

«Не, няпраўда, што бяда ідзе і за сабою другую вядзе»,— думаў Стась раніцай. Пасля сну паспакайнела нага. І раніца яму, наогул, прынесла калі не радасць, дык задавальненне. Стасевага ворага не стала. Няшчасце нібы адступілася. Галава нібы сціхла балець. Яе перабінтавалі цётка з Гэляй.

Калі Стася нечаканая вестка падбадзёрыла, дык Пагуляйскую і ўсіх суседзяў напалохала, абурыла. Яна грукнула як гром сярод яснага неба.

Цётка зайшла ў хату і, трымаючы аберуч гладыш з сырадоем — рукі яе трэсліся,— таямніча прашаптала:

— Ермалая забралі...

— Куды забралі? — спытаўся Вілюевіч.

— Прыехала міліцыя на машыне і забрала... Толькі хлеба ў торбачку ўзяць дазволілі...

— Калі арыштавалі, было за што.

Вілюевіч задаволена пазяхнуў і пачаў абувацца.

— Куды ты, Стасёк? — здзівілася цётка.— Ляжы, не ўставай. Я новы кампрэс прыкладу.

— Па ветэрынара трэба ехаць. Вараны дужа кульгае.

Толькі так перамовіліся, як у хату Пагуляйскай,

ляпнуўшы клямкай, зайшла даярка Анэта, цётка Андрэя Дубовіка, і сказала:

— Старшыня загадаў вам, таварыш начальнік, малако адвезці на сыраварню...

Каб яшчэ пазаўчора Вілюевічу, намесніку брыгадзіра будаўнічай брыгады, кааптаванаму члену рэўкамісіі, прынеслі такое распараджэнне, ён напомніў бы свае правы і даў бы як належыць адказ. (Хутаранскі вучыў: «цябе павінны баяцца».) Дзверы за Анэтай ён сам зачыніў бы... Але сёння Стась прыняў Анэціна паведамленне, як важнае, неабходнае і тэрміновае.

— Зараз буду на ферме,— сказаў Стась і не без радасці падумаў: «І ветэрынара адтуль прывязу».

Усё раптам завярцелася, як у калейдаскопе або ў сапраўдным, нечаканым для Стася, дэтэктыве.

Людзі бачылі, што Жаўтабрушка, як звычайна, везла воз з бітонамі, але цяпер у перадку сядзеў і лейцамі кіраваў сваяк Пагуляйскай. У сваёй любімай шапцы-капітанцы. Кабылка дробненька перабірала нагамі, памахваючы хвастом, і навасёлкаўцы, гледзячы праз вокны ў хатах, дзівіліся: бач, новы малакавоз! Адны ўсміхаліся, наглядаючы такую перамену, другія — а іх было большасць — недаўменна пыталіся адзін у аднаго: дзе Ермалай? Што здарылася?

Падзеі разгортваліся. І ўсё ж Вілюевіч, на ўдачу ці не, можа, к горшаму, імкнуўся іх прыспешваць. Характар такі ўжо меў. І наказ Вароніча помніў кожную хвіліну.

...Здаўшы на сыраварні малако, аформіўшы накладныя, Вілюевіч пагнаў Жаўтабрушку да ветэрынарнага пункта. Пяцеўчынскага ветэрынара ўсе хвалілі як вопытнага спецыяліста. Прыехаў — не застаў. Параілі ехаць да яго дадому. На ганак

выйшла жанчына і Стасю адказала, што гаспадара няма з пазаўчарашняга дня і яна не ведае, калі ён вернецца. Усім патрэбен ветэрынар. І карову лячы, і свінню лячы, і авечку лячы, а ён адзін. На ўсіх не разарвешся!.. І кожны ставіць магарыч. Хутка ён, ветэрынар, у свае вароты не патрапіць, ідучы з работы.

Вілюевіч парашыў чакаць. Чакаў, чакаў... Потым надумаўся з'ездзіць у бальніцу. Няхай агледзяць сёстры нагу і абновяць павязку, перабінтуюць лоб. Вось тут Стася чакала ўдача. Яму зрабілі ў бальніцы ўсё, што ён прасіў, і пацешылі: болькі на галаве хутка загояцца. А нагу трэба пашанаваць, таксама нічога небяспечнага.

З бальніцы зноў падаўся да пяцеўчынскага спецыяліста. Можа, вярнуўся? Дзе там!.. Вілюевіч мусіў напісаць алоўкам на лісце паперы просьбу, што, маўляў, ён з Навасёлак, дзе закульгаў конь, рысак, на капыце сур'ёзная рана і калі доктар сёння не зможа наведацца па адрасу, няхай заўтра пачакае Вілюевіча ў гэты ж час дома. Ён, Вілюевіч, па яго заедзе. Просьбу пакінуў жонцы ветэрынара.

Па дарозе дадому Стась абмяркоўваў яшчэ адзін варыянт. У Дубовым Гарадку ёсць таксама ветэрынар. Можна заехаць і да яго. Але з забінтаваным тварам не хацелася паказвацца ў родным сяле. Там свае. Не хацелася дубаўчанскаму лекару прызнавацца, што здарылася.

Сіняя хмара плыла на даляглядзе. Яна расла непрыкметна, павольна. Прыпарвала... Будзе дождж!

«Ну, бываюць жа дні і тыдні,— думаў Вілюевіч,— усё ідзе навыварат. Проста як у прыгодніцкіх гісторыях. Не ўгадаеце, што будзе сёння, не то што — заўтра ці паслязаўтра».

Вось пад гарою Вілюевіч напаткаў веласіпедыста. Яго веласіпед, відаць, сапсаваўся. Спусціла камера, і чалавек надзімаў кола.

Параўняўшыся з чалавекам, Жаўтабрушка спынілася. Мабыць, былы яе фурман у такіх выпадках закурваў, заводзіў гутарку. Стасю ж зараз не хацелася пачынаць размову з невядомым чалавекам. Але выгляд незнаёмага прыцягнуў да сябе ўвагу. На абочыне ляжаў партфель, а падарожніка з партфелем зараз рэдка дзе сустрэнеш. Ад напружанага старання паголеная галава незнаёмца блішчэла ад поту. Год яму было ўжо за сорак. Па ўсім адчувалася, ён — нетутэйшы, няпросты чалавек і спяшаецца. Стась спачатку позіркам акінуў партфель (канешне, начальніцкі!), а потым веласіпед.

— Аварыя? — з абыякавай цікавасцю запытаўся Вілюевіч.

— Але,— напампоўваючы кола і не звяртаючы ўвагі на малакавоза, адказаў чалавек.

— Далёка яшчэ ехаць?

— А вам?

— Мне да Навасёлак.

Веласіпедыст не хацеў траціць час на размову і неахвотна адказаў:

— Мне таксама ў ваш бок.

Жаўтабрушка, смірна чакаючы, калі мужчыны закураць, хвастом і галавой адганяла мух.

— Можа, у наш калгас, у Навасёлкі? Калі да нас, магу падвезці.

— Дзякуй вам.

— Мая не шыкоўная павозка, але кожнаму, не ведаю, хто вы будзеце, у дарозе пры бядзе трэба не мінуць, памагчы...

— Дзякуй, шаноўны! У вашым калгасе абавязкова буду, але пазней.

Гэты заклапочаны і не надта гаваркі чалавек, відаць, меў важнае заданне. Вілюевіч яшчэ раз пацікавіўся:

— Адкуль вы? Не з раёна?

— Не, не з раёна.

— Браць вышэй?

— Ага, бярыце вышэй.

— З Мінска?

— Я з Наркамзема.

— Калі не сакрэт, братко, па якой такой справе ці галіне ў нашы калгасы? Наконт пасяўной?

— Наконт жывёлагадоўлі.

— А ў прыватнасці?

— Я правяраю стан спраў з пагалоўем жывёлы. Кароў, коней. Наогул, усяе цяглавай сілы.

— І хваробамі жывёлы займаецеся?

Веласіпедыст спыніўся пампаваць і пільна паглядзеў на малакавоза, на яго Жаўтабрушку.

— Разумеецца. У першую чаргу!

Стась Вілюевіч неяк падабрэў, часцей засоп носам.

— Дык вы, канешне, кваліфікаваны спецыяліст па каняводству? Я так магу зразумець вас?

— Так, я прыехаў у ваш раён як упаўнаважаны Наркамзема. Наогул, у мяне дыплом Віцебскага ветэрынарнага інстытута.

Вілюевіч саскочыў з калёс.

— Давайце сюды ваш самаход! Мы яго на воз!.. Пакладзем за бітонамі, а самі ў передку сядзем.

— Дзякуй, таварыш,— зноў сціпла адмовіўся чалавек.— Веласіпед амаль гатоў... не турбуйцеся.

— Давайце, братко, давайце! Чаго длубацца сярод поля? Во хутка дождж пойдзе. Бачыце, сунецца хмара!..

— Я не хачу вам, таварыш, рабіць турботы. Вам самім цесна.

— Гэта вы, братко, напэўна, пры ўсёй вашай адказнасці, мусіць, не можаце сесці з бітонамі. Саромееcеся?

Упаўнаважаны засмяяўся.

— Я ўсё магу,— сказаў ён.— І нікога не саромеюся.

— Тады, братко, давай да мяне!.. Веласіпед прымосцім тут... Во, а самі сядайце са мной побач. Памірымся ў цеснаце. Я з дарагой душой! Вы, братко, зусім замарыліся. Замучыліся.

— А вы, таварыш, бачу... — усміхнуўся ўпаўнаважаны,— кульгаеце, і павязка гэта... Што з вамі?

— Усё ў дарозе здараецца. (Вілюевіч заклапочана акінуў позіркам неба.) Хмара, бачыце! Пойдзе дождж... Але гэта добра. Якраз на пасевы. Усё просіць вільгаці... Смягне!

Жаўтабрушка зноў дробненька мясіла пясок прасёлкавай дарогі. Цяпер Вілюевіч і не думаў скіроўваць на Дубовы Гарадок да ветэрынара.

На возе падарожнікі па-сяброўску разгаварыліся. Стась, вядома, пытаўся пра тое, што яго цікавіла. Ён даведаўся, што ўпаўнаважаны Наркамзема будзе аглядаць ва ўсіх калгасах коней: будзе іх лячыць, рабіць прышчэпкі.

— Конегадоўля — справа сур'ёзная і складаная. Асабліва ў сучасны момант. У некаторых калгасах яна занядбана. А дзе халатнасць, безгаспадарчасць, туды і трапляе рука класавага ворага... Той, хто не шануе, не беражэ калгасную жывёлу, кароў, коней, калечыць іх, той шкоднік!..

— Правільна, братко, правільна! — патрапляў Вілюевіч, а сам думаў: «От жа добра! Як мне пашанцавала дагнаць яго і ўзяць на воз».

— Нядаўна, таварыш, у Лепельскім раёне я складваў акты на нядбайнікаў і перадаў у суд. За масавы памор коней!..

— У газетах пісалі... Чуў, братко, чуў! Там пошасць, эпідэмія была...

— Дык вось, дзесяць год — такому шкодніку.

— А як жа, братко, заслужыў, палучай!

А сам Вілюевіч думаў: як яго, гэтага начальніка і дыпламаванага ветэрынара, запрасіць да сябе.

— Вунь нашы Навасёлкі!

— Вы, таварыш, спыніцеся тут каля мосціка. Я злезу,— сказаў упаўнаважаны.— У Дубнікі гэта дарога давядзе? Можна даехаць?

— Можна, братко. Але... але ж веласіпед ваш яшчэ няспраўны?

— Работы з ім — адна дробязь. На хвілін дзесяць. А хмара пайшла бокам.

— А чаму вы, братко, не хочаце заехаць да нас? Там і дакончым рамантаваць гэту дробязь. Я з дарагой душой. Паехалі да мяне!

— Я сёння павінен быць у Дубніках. Мяне туды па плану накіроўваюць,— сказаў упаўнаважаны.— Да вас, у Навасёлкі, я прыеду праз дзень-два. Работа мая пачынаецца спачатку ў Дубніках.

— Хіба так важна, дзе пачынаць? Давайце, братко, спачатку з нас, з Навасёлак. Паехалі ўжо разам! Я з дарагой душой хачу вас запрасіць. Пераначуеце ў мяне!.. Во, і дожджык капнуў!.. Хмара павярнула, ідзе сюды, бачыце?..

Ветэрынар або ўпаўнаважаны, словам, таварыш з Наркамзема па конегадоўлі, паглядзеў на неба, потым на свой наручны гадзіннік і, усміхнуўшыся, сказаў:

— Вы, як бачу, сапраўды прыветлівы таварыш!.. Ну, што ж, паехалі спачатку да вас. Значыць, гэта Навасёлкі!..

## XVIII

На ветэрынара, які спаў у мяккай пасцелі ля акна, праз расчыненую фортку дыхнула свежае паветра раніцы. Пахла бэзам. Расплюшчыўшы вочы, ён угледзеў ля хаты ў агародчыку той водарны куст, а прыўзняўся на локаць — касачы на градцы, якія роснымі зялёнымі шаблямі цягнуліся амаль да падаконніка.

Спаў ён моцна. Пасля ўчарашняй стомленасці яго пачаставалі як нідзе, нават з чаркай. Паслаў яму пасцель сам гаспадар Вілюевіч, лепшую, чым у якой-небудзь гасцініцы. Ён, як і ўсім, апавядаў, што служыў правадніком на экспрэсе.

Хіба можна быць няўдзячным за гэта, за клапатліва адкрытую фортачку акна? Адно толькі выклікала здзіўленне ва ўпаўнаважанага: якая прычына такой выключнай увагі і пашаны? Ветэрынар хоць і з Мінска, але ці варты такога багатага і раскошнага прыёму?

На снеданне цётка Вілюевіча паставіла яешню з сялянскай каўбасой.

— Можа, братко, як учора, для апетыту падмацуемся жыватоўкай? Па мале-енечкай... — ветліва прапанаваў Стась, але ветэрынар адмовіўся:

— Не магу, таварыш,— служба, ведаеце...

Наогул, ветэрынар трымаўся паважна, сапраўды як прадстаўнік са сталіцы, звяртаўся да Вілюевіча не інакш, як «таварыш», хоць Стась яшчэ ўчора адрэкамендаваўся, назваўшы сваё імя і па бацьку. Прыезджы не адрэкамендаваўся. Гэта было натуральна. Стась разумеў, адчуваючы аўтарытэт госця, які не можа апускацца да панібрацкай фамільярнасці.

Загадкавасць ласкі гаспадара ветэрынару стала яснай, калі ён пабываў на канюшні і агледзеў хво-

рага каня-рысака. Вілюевіч адразу павёў яго туды, нават мінуў кантору. Упаўнаважаны нават быў здзіўлены, чаму Вілюевіч спачатку не пазнаёміў са старшынёй калгаса. Ён жа будзе рабіць агляд жывёлы...

— Вось бяда ў нас,— прывёўшы ў канюшню, пачаў скардзіцца Вілюевіч.— Я прашу вас, у першую чаргу паглядзіце нашага Варанога. Ён скалечыўся. Вы, як высокі знаўца свае справы, скажыце: гэта вельмі небяспечна?.. Выбачайце, старшыня вельмі хвалюецца за рысака. Зараз, калі патрэбна, я прывяду і старшыню. Што мы адразу сюды прыйшлі, ён сам прасіў і рады будзе...

Вілюевіч так упрошваў, што ветэрынар-упаўнаважаны хоць і прыехаў з іншай мэтай, без афіцыйнага звароту калгаснага кіраўніцтва згадзіўся паглядзець хворага каня. Што там такое?

У канюшні іх спаткалі конюх Батоўкін і калгаснікі. Яны збіраліся на працу. Вілюевіч можа для таго, каб прысутныя звярнулі ўвагу на яго і аўтарытэтнага чалавека з ім, які нясе надзвычайную адказнасць, голасна аб'явіў:

— Гэта, таварышы, доктар па жывёлагадоўлі, упаўнаважаны Наркамзема. Прашу праходзьце. Таварыш Батоўкін, кальласка, спачатку пакажыце доктару Варанога!

Доктар прывітаўся з конюхам, і той накіраваўся з ім да стойла хворага. Ветэрынар зняў свой саламяны капялюш і працягнуў Вілюевічу. Партфель прытуліў да сцяны. Агледзеўшы рысака кругом і ў роце зубы, ён пачаў размотваць закарэлую анучу на капыце. Доўга разглядаў рану, устаў і, пазіраючы ў вочы то конюху, то Вілюевічу, сказаў, нібыта сам сябе заспакоіў:

— Нічога асаблівага... Траўма! Лячыць трэба.

— Лячыць, лячыць, лячыць! — чамусьці абрада-

ваўшыся, бадзёра залепятаў Вілюевіч.— Я збегаю далажу старшыні. Няхай не хвалюецца.

Калі Стась танцуючай, з чыкільганнем паходкай пайшоў, ветэрынар падрабязней распытаў пра ўсё, што здарылася з канём.

— На барану «зіг-заг» каня ўзагнаў,— стаў тлумачыць Батоўкін.— Гэты во, што быў з вамі... З кім прыйшлі... Вілюевіч!

Выслухаўшы здарэнне, упаўнаважаны нахмурыўся, нездаволена паківаў лысай галавой.

— Безадказнасць і нядбайства,— уздыхнуў ветэрынар.— Зараз жа трэба лячыць.

Ён дастаў са свайго партфеля інструменты, лякарствы. Яму старанна памагаў барадаты конюх. Ветэрынар пачысціў капыт скальпелем, змазаў ёдам рану, заклаў туды тампон з прымочкай, папрасіў яшчэ чыстых анучак і зноў забінтаваў. Потым ён паказаў конюху, як рабіць перавязкі. Але Батоўкін і сам гэта ўмеў.

Вілюевіч з'явіўся без старшыні. Старшыня паехаў на станцыю, а там — у Мінск. За яго цяпер — Саковіч, а ён дзесьці з калгаснікамі ў полі.

Вілюевіч і ўпаўнаважаны пакінулі канюшню, адышліся пад вярбу. Моўчкі прыселі. Ветэрынар загаварыў першы:

— Рана глыбокая і вельмі сур'ёзная. Шануючы вас, таварыш, я не стаў гаварыць аб гэтым перад усімі. Капыт скалечаны на зуб бараны «зіг-заг». Пачалося заражэнне крыві.

— Я вінаваты, я вінаваты! Па маёй віне параніўся Вараны.

— Ведаю. Мне расказалі. Вельмі небяспечна з вашага боку.

— Братко, таварыш, што ж мне рабіць? Я вас прашу — памажыце мне, вылечыце Вараногa! Брат-

ко, зрабіце так, каб ён найхутчэй паправіўся. Да вас я з дарагой душой...

Ветэрынар зноў задуменна зняў свой саламяны капялюш — галава выглядала нібыта саспелы на сонцы гарбуз,— далонню пагладзіў патыліцу.

— Трэба, канешне, паспрабаваць выратаваць каня. Лячыць і лячыць не адыходзячыся...

— Памажыце, братко! І я так думаю... не адыходзячыся...

— Але гэта доўгая песня, а ў мяне, таварыш, ведаеце, часу няма. Я павінен ехаць у суседні калгас, там трывога, тэрмінова рабіць прышчэпку коням. Тэрмінова! Вы разумееце мае абавязкі? Я ж казаў вам, у Навасёлках не магу заставацца...

— Братко, таварыш! — ледзь не плакаў Вілюевіч.— Уважце, пабудзьце тут, палячыце Варанога! Я вам аддзячу... Усім жыццём буду абавязаны, з дарагой душой!..

— І ўсё роўна, таварыш, мне прыйдзецца складаць акт — як і калі адбыўся няшчасны выпадак, пры якіх абставінах?.. Хто вінаваты?

— Трэба дык трэба! Але я прасіў бы... Складайце, братко, але зрабіце ласку... Я раскажу вам, калі і як гэта здарылася. Вы будзеце жыць у мяне! Я ўсё па парадку раскажу. Зрабіце заключэнне, братко, памяркоўнае.

Ветэрынар насупіўся і надзеў капялюш.

— Таварыш, што вы гаворыце? Вы даеце сабе адказ за такія словы? Вы хочаце, каб я жыў у вас і, прабачце, за вашы пачастункі падпісаў фальшывы дакумент? Гэта ж хабарам пахне!..

— Я толькі прашу, братко. Гэта не хабар. Станоўчае заключэнне — не фальшывы дакумент. Я прашу мякчэйшай фармуліроўкі, братко. Для мяне...

— А вы тады, мякчэй кажучы,— у раён! Пака-

жаце копію акта, дзе і без акуляраў убачаць, што мне праз вас трэба садзіцца на лаву падсудных. Так, шаноўны таварыш?

— Ніколі-ніколі, братко! — пляснуў і адмахаўся рукамі Вілюевіч.— Клянуся, усё будзе толькі між намі. Магіла, ні гуку!..

Ветэрынар хмура, пранізваючы Стася наскрозь, паглядзеў, падумаў, агляну ўся — вакол вярбы на выгане пасліся са свіннямі парасяты,— сказаў:

— Я адразу, таварыш, зразумеў, хто вы такі і што ў вас ёсць да мяне асабісты інтарэс. Я здагадаўся, чаму вы да мяне такі ветлівы. Яшчэ ўчора, як спаткаліся... Ваша становішча, як я паглядзеў і мне расказаў конюх, вельмі незайздроснае... Я вось думаю сабе, што вам параіць? Чым памагчы? У вас, таварыш, да мяне, здаецца, сардэчная шчырасць, вы — добры, даверлівы... І гэтыя рысы прымушаюць мяне быць, як вам сказаць, не памагатым, а пайсці на выручку. Не саўдзельнікам стаць гэтай, трэба сказаць дакладна, злачыннай і бруднай справы!

— Памажыце, братко... таварыш!

— Спадзяюся, што і вы будзеце зычыць узаемнасцю?

— Братко, клянуся! Паверце, я з дарагой душой!.. Я паслухаюся любога вашага слова, заўсёды памагу. На ўсё жыццё — толькі памажыце вылечыць каня...

— Запомніце, што вы паабяцалі!..

— Запомню. Не толькі, братко, абяцаю — прысягаю!

— Тады згодзен,— устаючы, сказаў ветэрынар.— Я застаюся ў Навасёлках. Буду лячыць вашага каня і адначасова, за адным заходам выконваць свае абавязкі, дзеля якіх ехаў у раён.

— Дзякуй, я ж так і хацеў...

— Трэба агледзець усё пагалоўе ў Дубніках, у

першую чаргу, ну, і ў вас, у Навасёлках — папярэдзіць магчымыя хваробы, зрабіць уколы супраць анеміі. Такое распараджэнне нашага кіраўніцтва пасля таго, як на Лепельшчыне здарылася трагедыя.

— Калі трэба, то трэба,— ідучы ўслед за ветэрынарам, радасна згаджаўся Стась.

— І вось ад вас, таварыш, у гэтым мерапрыемстве чакаецца дапамога. Так сказаць, першая!

— Кальласка, братко! — узрадаваўся Вілюевіч.— Памагу! Кажыце, што мне рабіць!

У будучага памочніка ветэрынара прачнулася столькі спрыту, што, пабачыўшы, як Стась закасвае рукавы сарочкі, той усміхнуўся:

— Так, так, таварыш, давядзецца і рукавы засукаць... У вашым калгасе якая колькасць цяглавай сілы?

Вілюевіч не ведаў і адказаў няўпэўнена:

— Шмат... Але здужаем, братко!

— Ну, вядома!.. Работа наша не на дзве і не на тры гадзіны. Парайце выбраць найлепшы час, калі ўсе вашы коні ў зборы.

— Днём іх прыводзяць на канюшню. Братко, тады і пачнём. Што канкрэтна буду рабіць я? Які мой абавязак?

— Я спачатку агледжу ўсю чараду. Хворых ізаліраваць, а астатнім буду рабіць ін'екцыю сывараткі... (Ветфельчар прыўзняў свой партфель з медыкаментамі.) Ну, як ад воспы!.. Вы будзеце маім асістэнтам. (Ён усміхнуўся.) Толькі спачатку схадзіце ў кантору праўлення калгаса і, хто там за старшыню, пастаўце да ведама пра маё заданне. Скажыце, такая работа праводзіцца па ўсім раёне... Загадчык КТФ няхай паклапоціцца, каб усе коні былі ў стойлах... А я тым часам змяняю павязку і зраблю свежую прысыпку хвораму каню.

Дамоўленасць была ясная і канкрэтная.

— Добра! — сказаў Вілюевіч.

Аднак ім насустрач спяшалася даярка Анэта — Стась адчуў: не з добрай весткай.

— Таварыш начальнік,— весела звярнулася яна да Стася,— я вас шукаю ўсю раніцу. Вароніч, ад'язджаючы, загадаў перадаць, каб вы ехалі ў Пяцеўчыну з малаком. І каб вазілі дзень у дзень, пакуль не вернецца Ермалай... Жаўтабрушку я ўжо запрэгла...

«Адкуль яму знаць: калі вернецца Ламака?» — падумаў Вілюевіч... Ну і клопаты наваліліся на яго! Ён не мог прадбачыць: дзе, адкуль яны цікуюць і падпільноўваюць? Куды паверне і закружыць наступная гадзіна?.. Няйнакш — нечаканыя прыгоды! Без прыемнасці...

Вось і ліхаманка высыпала на ніжняй губе. (А ён старанна сачыў за сваёй знешнасцю.) Мала было гузакоў, сінякоў на лбе, дык яшчэ на губах высыпалі балькі. Нарывалі. Стась мусіў увесь час трымаць адкрытым рот. Цяпер не толькі пры сваёй звычайнай усмешцы, а бесперастанку віднеўся зуб з залатым абручыкам. Адно яму слова двайное «калькаска» лёгка было губамі вымаўляць, а іншыя — прыкладна, дакляруючы ветэрынару «добра, братко» — ён асцярожна сваім шурпатым языком слініў ніжнюю губу. Нібы са злосцю, Анэце, не аблізваючыся, Вілюевіч скрозь зубы працадзіў:

— Зараз ыду!

Ад смеху тая хікнула ў жменю. Вілюевіч не заўважыў.

Абставіны — вось як раптоўна — змяніліся: трэба было разлучацца з упаўнаважаным, які ратаваў Варанога. А Стасю хацелася пры гэтым прысутнічаць, памагаць.

Іх дамоўленасць заставалася цвёрдай. Стась абя-

цаў хутчэй адвезці бітоны з малаком, вярнуцца і ў абедзенны перапынак затрымаць на канюшні коней, каб распачаць прышчэпкі... Упаўнаважаны паўтарыў, што ён перавяжа, агледзіць хворага каня, але паколькі Вілюевіч адлучаецца, то і ён не можа затрымацца ў Навасёлках. Яму трэба з'ездзіць у Дубовы Гарадок. Там у сельсавеце яго чакае таварыш, з якім яны разам прыехалі з Мінска. У яго, дарэчы, ёсць найноўшыя прэпараты для лячэння жывёлы.

— Тады мы зробім так, братко,— па-змоўніцку прапанаваў Стась.— Пачакайце хвіліначку, і я падвязу вас да павароткі на Дубовы Гарадок.

— Навошта? Не, таварыш, дзякуй! На сваім веласіпедзе я хутчэй. А дарогу вы мне ўжо растлумачылі. Да пабачэння!

«Што гэта? Нейкім халадком дыхнула. Ветэрынар не той, якім быў учора,— падумаў Вілюевіч, ідучы на кароўнік, і, засаромеўшыся, ляпнуў даланёй па лбе: — Стась, ты проста — доўбня! Ці ж дасціпны клопат: саджаць на воз з бітонамі ўпаўнаважанага з Мінска? Ехаць цераз усё сяло на Жаўтабрушцы?.. Будзь лаўчэйшы, Стась! Вельмі паспешліва ты ўваходзіш у хаўрус з такой асобай. Асцярожна — не тая велічыня».

* * *

Аб усім гэтым, і наогул аб усім, што робіцца, разважаў Вілюевіч, калі ў яго за плячамі стаялі поўныя бітоны. Калымага сунулася, і пясок шыпеў, асыпаючыся з шын у каляіны. Клыпала Жаўтабрушка, а ён падганяў яе. Праўда, вяртаючыся з сыраварні, ён ужо размахваў сукаватым дручком...

— Но-о, каб цябе ваўкі!

Вілюевіч — малакавоз. Падумаць толькі! Адно

заспакаенне, што былога ўладальніка калымагі ў дажджавіку няма... Мудрая прымаўка пра касу і камень... Хто — каса, а хто — камень?! От, няхай пасядзіць! Там яму і месца... А калі задумацца, выконваць абавязкі малакавоза — няблага. Вароніч са злосці яму ўсырычыў іх. Але яны — недарэмныя, сёе-тое каштуюць. У часова выпісанай працоўнай кніжцы штодзень будзе ставіцца штатная аплата — семдзесят пяць сотак працоўнага дня... Няхай радуецца цётка!

Эх, каб не Вараны!..

А ветэрынар-упаўнаважаны, здаецца, пачынае сабе цану набіваць. Ці не чваніцца сваёй пасадай у Мінску? Стась да яго з усім сэрцам!.. За лячэнне каня гатоў усё аддаць.

Вілюевіч, распрогшы Жаўтабрушку, накіраваўся да намесніка старшыні Саковіча.

— Вы ўжо ведаеце, братко Саковіч, што ў нас, у Навасёлках, упаўнаважаны Наркамзема,— спаткаўшыся ля кузні, ветліва звярнуўся ён.— Павінен папярэдзіць, я яго ўчора прывёз з сельсавета. Сёння раніцай хацеў, каб вы сустрэліся, але я вас не знайшоў. Вы, братко, былі ў полі.

— Што яму трэба ад мяне?

— Нічога, братко. Ён будзе рабіць прывіўку жывёле ад пошасці. Пачне з коней. То трэба, каб усе коні зараз, у абед, былі сабраны ў канюшню.

— Дазвол у яго на гэта ёсць?

— Ёсцека, братко! Ён упаўнаважаны Наркамзема. Не адзін — іх два. І такую работу праводзяць па ўсім сельсавеце. Зараз ён у Дубовым Гарадку.

— Сёння цяглавую сілу зрываць з поля я не буду,— спакойна сказаў старшы палявод.— Мы намецілі закончыць сяўбу бульбы і, каб не ганяць двойчы скаціну, накормім яе там, у Лісіных горах. І калгаснікі там паабедаюць.

— Дык а як жа прывіўка?

— Вось усё, што ёсць на стайні, і Ермалаеву Жаўтабрушку, няхай бярэ, а рабочых коней не дам.

— Дык, братко, гэтага мала, яму трэба ўсё пагалоўе.

— Заўтра, паслязаўтра будзе вальней... А вечарам, пасля работы нельга?

— Не ведаю, братко. Толькі па плану яму заўтра ў Дубніку быць трэба. Ён і так сюды заехаў, каб Варанога паглядзець. Ён сам ветэрынар.

— Як нага ў Варанога?

— Лечыць, братко...

Саковіч ужо адыходзіў, як Вілюевіч затрымаў:

— Братко, а калі ён возьме ўзлуецца, што не ўсё пагалоўе, або — завернецца ды паедзе ў другія калгасы? Гэта ж начальства!

— Няхай едзе! Трэба будзе, вернецца,— на хаду адказаў старшы палявод.

Вілюевічу гэта было не па нутру. Ён, накульгваючы на балючую ступню, першым з'явіўся на полудзень да цёткі. Хоць, здаецца, і затрымаўся па часе. Дзіўна — ветэрынара яшчэ ў Пагуляйскай не было. Дзе ён пазніўся? З'явіўся без веласіпеда. Спацелы — значыць, ішоў. Ад абеду, які быў так старанна цёткай прыгатаваны, адмовіўся. Сказаў, што ў Дубовым Гарадку ў сталоўцы абедаў. Адразу загадаў Вілюевічу ісці на канюшню.

У канюшні ветэрынар порстка ўзяўся за работу, спачатку аглядаў коням зубы, а потым рабіў уколы. Яму памагаў Вілюевіч. Прысутныя калгаснікі верылі ў таямнічую сілу прышчэпак. Неахвочых Вілюевіч падганяў. Ён, як афіцыянт, у белым фартуху бегаў вакол упаўнаважанага, трымаў на падносе шпрыцы і ампулы са светлай, як сляза, вадкасцю. Здаецца, больш за ўсіх рупіўся. Калі на

мужчын пакрыкваў, то да непаслухмянай жывёлы звяртаўся ласкава:

— Т-п-р-у, стой, каб ты гладкі быў!

Калгаснікі задаволена ўсміхаліся,— каму не хочацца, каб яго конь быў гладкі?

— О, востры на язык сваяк Пагуляйскай. Чуеш, як умее размаўляць з тваім Мышастым?

— Дзіва што! — бурчаў конюх Батоўкін.— Увязла кашуля... От і хоча выслужыцца. Не вылечыць мінскі ўрач Варанога, дык ён як міленькі пад суд пойдзе.

Коней, прайшоўшых агляд і прышчэпку, забіралі аратыя і ехалі ў поле. Усіх было тры паркі.

— Усе? — здзівіўся ветэрынар.

— Не, яшчэ на полі, на рабоце,— адказаў Батоўкін.— Гарачая пара! Бульбу садзім.

Ветэрынар, нервова выціраючы ручнічком валасатыя рукі, памытыя ў вядры, якое стаяла ў маленькай рымарні — там нікога не было,— злосна зірнуў на свайго памочніка, што паліваў яму ваду з конаўкі.

— Бульбу садзім...— хрыпла перадражніў барадатага конюха ветэрынар і з дакорам накінуўся на Стася: — Чаму не ўсе коні ў зборы? Усяго тры паркі? Смех! Вы ці не зразумелі, ці прыкідваецеся добранькім і паслухмяным, але нічога не выконваеце?

Стася гэта пакрыўдзіла.

— Братко, навошта гарачка?! — адказаў ён таксама пaціху, каб ніхто не пачуў.— Заўтра дакончым! Не заўтра — дык паслязаўтра. Прымаўка кажа: паспяшыш — людзей насмяшыш...

— От вы, таварыш, з тых, хто зрабіў наадварот гэтай прымаўцы. Не думаў я, што вы такі арганізатар. А яшчэ абяцалі памагаць...

Ветэрынар не стаў аглядаць Варанога, скоса толькі зірнуў, праходзячы каля стойла. І гэта абы-

якавасць уразіла Вілюевіча. Чым Стась не дагадзіў упаўнаважанаму? Ён жа так стараецца...

«Што з ім? Куды ён таропіцца? У Дубнікі? — задумаўся Вілюевіч.— Чаму ён вярнуўся з Дубовага Гарадка без веласіпеда? Як жа ён паедзе?»

У цёткі іх чакаў некрануты абед. Закончыўшы яду, ветэрынар сказаў:

— Смачна. Пад'еў на тры дні наперад.

Чарку яны не бралі — ветэрынар піць адмовіўся. Усхваляваны Стась не знаў, з чаго пачаць сваю таямніча балючую гаворку. Расказаць назбіралася пра што.

Ветэрынар сам пачаў. Толькі папрасіў Стася, каб ён спачатку паслаў дзяўчынку пагуляць. Калі ж Гэля зачыніла за сабой дзверы, патаемна звярнуўся да Вілюевіча.:

— Мой таварыш казаў, што хоча сустрэцца з вамі. Ён мае пасаду вышэй за мяне... Трэба, каб ён, вы і я спаткаліся разам. Тады вырашыцца канчаткова заключэнне акта, якога вы просіце. Подпіс майго старшага больш важкі... Не бойцеся, я яму расказаў пра вас. Ён згодзен. Адна толькі задача. Ваша хворая нага? Ці зможаце дайсці да Дубовага Гарадка?

Дайсці — Вілюевіч дойдзе! Гэта не цяжкасць. Вось другая акалічнасць яго не пускае... Вілюевіч расказаў пра яе ўпаўнаважанаму. Ён, Стась Вілюевіч, родам адтуль, з Дубовага Гарадка. Там жыве бацька з мачыхай. Бачыцца са сваімі блізкімі і вяскоўцамі, асабліва ў такім выглядзе, які ў яго цяпер, Стасю не пажадана. З бацькам ён даўно не размаўляе, наогул, не мае кантакту, а мачыхі Стась не ведае зусім.

— Вось такое маё становішча,— закончыў Вілюевіч.— Я б дайшоў, мне стала лягчэй, але я не

хачу і не буду ні з кім у Дубовым Гарадку сустракацца... Гэта ўмова — мой зарок.

— Таварыш, дык усё зробім, як вы хочаце... Так, як вам зручней. Мы меркавалі, як гэта гаворыцца, нібыта ў ваду глядзелі. Мой калега, паколькі ён заняты,— дзень па мінутах распісаны,— просіць вас прыйсці ўвечары. Сустрэцца з ім на ўскраіне Дубовага Гарадка. Згодны вы з такім варыянтам?

— Кальласка, братко! Вы ж ведаеце, я з усёй душой!

Яны выйшлі так, каб з прыходам у Дубовы Гарадок пачалося сутонне. Стась ведаў карацейшую сцежку, зімнікам. Ён кульгаў паперадзе, а ветэрынар за ім.

Ветэрынар-упаўнаважаны быў задаволены. Як чалавек высокаадукаваны, ён шмат ведаў, асабліва што датычылася ветэрынарыі, пра яе развіццё за мяжой. Пра яе поспехі ён апавядаў усю дарогу. Стась уважліва слухаў, моўчкі чыкільгаў, але сэрца яго білася няроўна.

Часамі ён перабіваў там, дзе трэ было ўслужліва парадзіць:

— Асцярожненька, братко! Абапірайцеся кіем, без яго тут канаву не пераскочыце...

Не даходзячы з паўкіламетра да роднага Стасевага сяла, там, дзе дарожка пятляла каля густога алешніку — за высокай сцяной зарасніку бегла рэчка,— ветэрынар папрасіў спыніцца. Сам зайшоў Стасю наперад і лугам накіраваўся ў бок поля.

— Цяпер вы памаленьку крочце за мной,— сказаў ён.

Сонца хавалася, але на палявым узгорку, дзе віднелася кудзерка могілак, яго промні яшчэ асвятлялі верхавінне бяроз.

— Куды мы, братко?

— Пайшлі, пайшлі! Мы ідзём правільна.

— Дык, а дзе чакае ваш таварыш? — здзівіўся Стась.

— Зараз убачыце. Пайшлі, пайшлі, не адставайце! Ніхто з аднасяльчан вас тут не сустрэне. Хіба не гэтага вы хацелі? Мы ж так з вамі дамаўляліся?

«Пра што дамаўляліся? Дзеля чаго такая таямнічасць? У чыстым полі?» — хацеў запытацца Вілюевіч. Паспрабаваў спачатку аблізаць больку на ніжняй губе, але ў роце перасохла і язык зрабіўся шурпатым.

Яны ішлі да могілак. Упаўнаважаны-ветэрынар азіраўся.

Могілкі!.. Пад рабінкай ляжыць Стасева маці. Тут, ад жалобнага дня, ён ні разу не быў. Ці дагледжана тое месца? Уяўляючы, што курганок, мабыць, зарос дзірваном, яго ногі самі падкашваліся. Ён нехаця чыкільгаў за гэтым загадкавым саламяным капелюшом.

«Куды ён мяне вядзе? — думаў Стась.— Хто ён, гэты ўпаўнаважаны? Я нават не ведаю яго прозвішча. Дзе яго старшы? Тут жа нікога няма».

Але ступіўшы на край магільна ціхага садка для нябожчыкаў, Вілюевіч раптам убачыў незнаёмую постаць. Таксама ў капелюшы. На пляц, дзе стаялі помнікі, пахіленыя драўляныя крыжы, ляжалі надмагільныя камяні, яны з ветэрынарам наблізіліся ўкрадкі. Між кустоўя на змярканні Вілюевіч не мог разгледзець твар чалавека. Ды і не да таго яму было. Невядомы пачціва працягнуў яму руку і сказаў:

— Будзем знаёмы... Мне вас хвалілі. Сядайце!

Вілюевіч як сеў на халодную надмагільную пліту, дык і душа пахаладзела. Яго схапіў калатун.

* * *

Вяртаўся з Дубовага Гарадка, а ўсё не пераставала калаціць. Дрыжаў, не мог супакоіцца. Ішоў, як збіты з панталыку. Ветэрынар, ступаючы за ім, наадварот, разважаў весела, апавядаў пра розныя здарэнні ў сваім жыцці, каб падбадзёрыць Стася. А той маўчаў.

Потым Стасю нейк зрабілася абыякава. Ён, падыходзячы да цётчынага паўмежка — ужо зусім сцямнела,— адчуў сябе, нібы ацярпеўшыся ў халоднай вадзе. Ён нібыта раптоўна боўтнуўся ў рэчку, а потым — сціх калатун — памаленьку асвойтаўся. З умовай, з абставінамі... Яго вядомы дэвіз: «Дзе служыць, каму служыць — усё роўна,— абы табе выгадна было».

Яны, зайшоўшы ў хату, не палілі святла. Стараліся не грукаць, не стукаць. Ветэрынар вобмацкам лёг на прыгатаваную пасцель, а Стась прыладзіўся на палку, пакрыўшыся цётчыным кажушком, зношаным і кароткім. Было душна.

Стась у галаве перабіраў усё, што здарылася. Сон не браў. І нязручна варочацца. Ныла навярэджаная нага.

І, можа, у дрымоце, можа, у пакутлівай бяссонніцы, у думках яго ўзнікла выйсце, якое выкрышталізавалася ясна: паступіць у гэтай сітуацыі палавінчата — і так, і так... Ён жа канчаткова не даваў згоды. Той, старшы, казаў: «Падумайце, не адразу адказвайце. Даю вам суткі тэрміну. Рашайце, але помніце, каб потым не каяліся. Мой калега сказаў, і я сам бачу: вы наш, надзейны чалавек. Згодзіцеся — і ў хуткім часе вас чакае забяспечанасць да канца дзён. Там, за мяжой». Стась Вілюевіч спачатку згадзіўся. А пад канец размовы завагаўся... «Ну, з вамі будзе мой калега,— сказаў на развітанне старшы.— А тэрмін вы ведаеце».

У душы Стася заўсёды жыла дваістасць — і так, і так,— нейкае раздваенне часамі апаноўвала яго. Даваць згоду, а потым адмаўляцца. У вочы гаварыць адно, а за вочы — другое...

Раніцай Стась падняўся зусім хворы. Сэрца калацілася. Косці ламала, пакуль расхадзіўся з балючай нагой. Вядома, няўдала ляжаў, скурчыўшыся ў закутку.

«Добра, я не вазьмуся за іхняе даручэнне,— чыкільгаючы па хаце, разважаў ён.— Тады ці будзе ветэрынар лячыць Варанога? Пра акт на могілках нічога не гаварылі. Як сустрэцца з Варонічам, калі прыедзе?.. Стась даклераваў яму вылечыць каня. Як найхутчэй!..»

Застацца з ветэрынарам сам-насам не ўдавалася. Усе тапталіся ў хаце, нікуды не выходзілі. Пагуляйская смажыла яешню з каўбасой (па-вясковаму гэта — першы далікатэс!). Гэля памагала ёй. А ветэрынар, гледзячы ў люстэрка, галіў бараду, потым усю галаву, абшкрабаючы шумавінне на гладкай патыліцы.

Вілюевіч далонню павёў па сваіх зарослых шчэццю, шорсткіх шчоках і ўздыхнуў. Галіцца Вілюевічу, былому элеганціку, не дазвалялі болькі на твары. Ну, што ж — адэкалон ён шчодра прапанаваў госцю, на яго бліскучы самавар, а «рапейнае» масла — нашто яму? — засталося ў бутэлечцы на паліцы.

Тым часам стрэлкі на ходзіках бягуць, бягуць...

Моўчкі паснедалі. Хоць снедалі ўдвух, але блізка былі цётка і Гэля: па сакрэту не пагаворыш. Госці, як вядома, на вёсцы заўсёды сядзяць на покуці.

— Ну, я павёз малако,— аб'явіў нарэшце Стась.— Сёння трэба раней управіцца.

Каму гэта было сказана: ветэрынару, цётцы, Гэлі — невядома. Ён надзеў капітанку і выйшаў.

Вілюевіч ехаў у Пяцеўчыну памаленьку. Ён слухаў, як ціха шуршыць пясок пад коламі.

Толькі думкі яго не цяклі павольна, як пясок. Яны мітусіліся, кружыліся, а як выехаў за сяло, узбунтаваліся. Нібыта не ў калёсах ён сядзеў, а ў клетцы.

Падзеі так хутка і нечакана для яго набягалі адна на адну. Што рабіць?..

У небе заліваўся жаваранак, а сэрца ў грудзях білася самотна... Эх, каб вярнуцца назад! Немагчыма! Усе яго мары, якімі пахваляўся ў Хутаранскага, рухнулі. І па сутнасці за нішто?!.

У тым месцы, дзе спаткаў ён веласіпедыста, зашчымела пад сэрцам.

— Но! — крыкнуў Стась на Жаўтабрушку. Лепш бы не спыняцца было. Гэта яна, старая клята, сама затармазіла. Як па патрэбе...

Вяртаючыся з Пяцеўчыны, Стась ехаў як сам не свой. Ветэрынар недзе лечыць Варанога, а ён едзе, каб пры сустрэчы сказаць, што адумаўся. Перадумаў. Не згодзен!

Наўкол ляжалі палеткі. Зялёна-стальным дыванам прасціралася азімае жыта. Ды і ярына ўжо выскачыла вострымі шылцамі... А Вілюевіч, як ні кіне вокам, адразу трапляе на кудзерку дрэў на даляглядзе, нібы сінюю выспу ўдалечыні. Могілкі ў полі! Учора ён там сядзеў на пліце... Стась павернe ўбок. На развілцы. Абміне Дубовы Гарадок, могілкі. Але чаму так холадна робіцца ўнутры?

За плячыма назойліва брынчаць пустыя бітоны.

«А што, калі развітацца з усім і ўсімі? — падумаў Вілюевіч.— І з гэтым сорамам, што барабаніць на возе... І з цёткай... І з добрым чалавекам Вароні-чам, якога ён стаў баяцца... І з гэтымі новымі ўча-

рашнімі знаёмымі... Не хачу я нічога, ні іх пасады, ні грошай, ні абяцаную замежную раскошу».

Стась распрог Жаўтабрушку. Адвёў яе на стайню. Яго пацягнула да праварыны, дзе стаяў Вараны. Бакі ў каня ўпалі. Нага, як і раней, не дакраналася подсцілу.

Стась адшукаў Батоўкіна і запытаўся, ці рабіў сёння агляд і перавязку доктар.

— Не,— сярдзіта адказаў стары конюх.

Вілюевіча гэта моцна затурбавала. Як выйшаў з канюшні, увесь свет памутнеў. Усё зрабілася нямілым. Ён пайшоў не вуліцай, а загуменнямі. Кульгаў, але ўжо нічога не чуючы. Не прыслухоўваўся да болю.

Цётка Пагуляйская была ў агародзе. Стась запытаўся ў яе, ці дома ветэрынар? Яна адказала, што госць кудысьці пайшоў з партфелем.

Гэта яшчэ больш прыдало яму рашучасці. Нават абрадаваўся. Спяшаючыся адчыніць дзверы, Стась і не звярнуў увагі на Гэлю ў сенцах. Тая ў куточку крышыла ў рукавіцах крапіву.

Стась, як убег у хату, пачаў таропка даставаць свае чамаданы з-пад ложка. Дастаў. Расчыніў... Дзе яго рэчы? А можа, узяць самае неабходнае?..

Ён не ведаў, за што перш ухапіцца. Стаў пасярэдзіне хаты, і раптам яго, як маланкай, асвяціла: ключ за абразамі! Падбег, дастаў ключ і адамкнуў куфар. У прыкуфэрачку ляжаў кітайскі веер, а пад яго падарункам цётцы (ён добра ведаў!) стаяла шкатулачка. Стась забраў адтуль залаты ланцужок з медальёнам, пярсцёнак і дрыжачымі пальцамі паклаў сабе ў «Памяць з Каўказа». Пстрыкнуў партабакам і схаваў ва ўнутраную кішэню... Ціхенька замкнуў куфар. Зноў паклаў ключ за абразы.

Нячутна адчыніліся дзверы — на парозе з'явілася Гэля ў рукавіцах.

— Ты дома, Гэля? — спалохана здзівіўся Стась і падумаў, ці не пачула яна яго мітусню і звон ключа ў куфры?..

— Я крапіву крышу цётчыным свінням,— адказала дзяўчынка.

— А я вот збіраюся ў Мінск. Па справах...— І заклапочана дадаў: — Што я хацеў табе сказаць... даручыць?!. Ага, ты павінна зрабіць гэта, пакуль я вярнуся. Чуеш, Гэлечка?

Тым часам у хату зайшла Пагуляйская. Што пляменнік амаль штодня збіраецца ў паездкі, дастае свае рэчы, пераапранаецца, ёй было не ў навіну. Ён усё жыццё ў паездках. Неяк шкадуючы яго і адначасова крыўдуючы, Пагуляйская сказала:

— Зноў ты, Стасёк, у дарогу. Проста ў хаце не стыкаешся. Паспрабаваў бы ты як-небудзь адмахнуцца ад гэтых паездак... Я даўно хачу прасіць цябе нечага, ды не адважуся.

— Што, цётачка?

— Свіння, халера на яе, гудзе. Прагрызла загарадзь. Можа на вуліцу вылезці. Работа невялікая.

Не сабраўшы ўсе свае рэчы — гэта магло выклікаць у Пагуляйскай недаўменне,— Стась зашпіліў большы чамадан і паставіў на лаву. Адмовіць цётцы было б так бессардэчна... Ён разгубіўся: трэба спяшацца, пакуль не заявіўся ветэрынар, але і просьбу цёткі трэба ўважыць. Яна так многа дала яму, прыняла, больш чым ён ёй са сваёй часовай працоўнай кніжкай. Трэба памагчы!..

— Ну, добра. Ты, Гэлечка, пачакай!.. Я потым табе скажу,— звярнуўся Вілюевіч і ласкава да Пагуляйскай: — Хадзем, цётачка! Дзе наша сякера?

Ад загарадкі ў хляве, сапраўды, засталася адна назва. Пакуль Стась шукаў дошку ці аполак, чым прыбіць, пакуль стругаў і латаў загарадзь, часу прайшло нямала.

Гэля з конаўкі палівала яму ваду на рукі каля ганка, і ён казаў ёй:

— Я дам табе працоўную кніжку. Сходзіш у кантору, няхай рахункавод дапіша працадні. Мне зараз не да падліку. Даручаю табе — схадзі, правер, няхай дапішуць, пакуль я вярнуся...

Стась спіной адчуў, што яны не адны. Узняў позірк і ўгледзеў ветэрынара. Той усё чуў... Калі з сенцаў зайшлі ў хату, ветэрынар пакратаў ручку чамадана. Прыўзняў — ці цяжкі? — і зноў паставіў. У хаце іх было трое. Пагуляйская пынілася ў хляве.

Наступіла напружанае маўчанне.

— На! — працягнуў Вілюевіч працоўную кніжку Гэлі.— Абавязкова зрабі! А зараз бяжы на двор!.. Пагуляй дзе-небудзь!..

Гэля пабегла.

— Вы, Вілюевіч, сабраліся знікнуць? — пачаў ветэрынар, калі яны засталіся ўдвух.— Дзе ж ваша абяцанне памагаць мне? Дзе ваша слова?

Ветэрынар упершыню звярнуўся да яго па прозвішчу, а ён, Стась, да гэтага часу таго нават імя не ведаў. Хоць Саковічу казаў, што правяраў яго накіраванне з Наркамзема... Вілюевіч, як ні разу раней не злаваўся, закрычаў:

— А ваша дзе абяцанне?

— Якое?

— Лячыць Варанога.

Гэта была сярдзітая размова.

— Не крычыце. Сядайце. Без істэрыкі. Пра каня я скажу пазней... Адказвайце на мае пытанні. Значыць, адмаўляецеся ад таго, што ўчора абяцалі?

Амярцвелы Стась сеў, як на допыце. У роце яго перасохла. Загаварыў цішэй:

— Я абяцаў... абяцаў, праўда! Але мала што я

сказаў. Я, братко, не магу... Гэта ж супраць... супроціў улады!

Ветэрынар, таксама седзячы на табурэце, нібы ў надакучлівай самоце, пазяхнуў.

— Дарэмна, Вілюевіч!.. Без нашага дазволу вы і кроку не зробіце.

— Я, братко, не магу... Адпусціце мяне...

— Куды? Вы самі рызыкуеце. На першай станцыі будзеце затрыманы органамі НКВД? Хто такі? Вас запытаюць, адкуль, з кім вы супрацоўнічалі? Якое вы знойдзеце апраўданне на допыце? Як вы дакажаце, што вы не дзейнічалі са мной, не памагалі мне?.. А значыць, у змове супраць улады?

Без капелюша ветэрынар пальцамі гладзіў сваю паголеную галаву. І, свежапаголеная, яна прыкметна блішчала жаўцізной, як на чэрапе...

— Братко, пры чым тут я? Чаго вы мяне ўмешваеце да ўсяго? Навошта блытаеце?

На застылым абліччы «ўпаўнаважанага» ляжала помслівая зацятасць.

— Я, Вілюевіч, вас не блытаю. І не пляту на вас нагавор. Яно так і ёсць! Усе Навасёлкі пасведчаць, што вы невядома адкуль прывезлі невядома каго, прытулілі ў сябе і памагалі яму рабіць тое, што трэба.

— Навошта, братко, вы гэта? Ахвота вам так абвінавачваць? Я ж нічога не ведаў... Я спаткаў вас і быў другой думкі, з дарагой душой!.. Ці ж гэта сумленна? Ці ж гэта справядліва?

— Будзе справядліва.

Вось дзе Вілюевіч спужаўся, аж заенчыў:

— Я... я не знаў! Я не хацеў.

«Упаўнаважаны» нібыта не чуў, спакойна і пагрозліва працягваў:

— Я вас не магу нікуды адпусціць. Нават не збірайцеся.

Вілюевіч ледзь не плакаў:

— Думаў, вы чулы, літасцівы чалавек. Дапаможа ў бядзе!.. Я ж ніколі нічога нікому не рабіў кепскага. І не хачу! І вам дагаджаў. Даруйце, братко!..

Вілюевіч выглядаў такім нікчэмным перад «ўпаўнаважаным». Сагнуўся. Скрыўлены твар пахіліўся на плячо...

— Будзьце мужчынам! — патрабавальна загучаў голас «упаўнаважанага».— Супакойцеся! Вазьміце сябе ў рукі. Што вы распусцілі нюні?.. Вы толькі паслухайце! З вамі заключана выгодная для вас умова...

Вілюевіч далей слухаў і не слухаў. Панурыўшыся, маўчаў. Бледнасць ад сполаху лягла на аблічча. Нібыта яго абсыпалі мукой. Крывіліся ад жалю засмяглыя губы. Блішчаў залаты абручык... Ходзікі на сцяне сваім ціканнем, здаецца, сцвярджалі: ці так — ці так! Ці так — ці так!.. Паступова ўсю яго істоту скоўвала панылая абыякавасць.

— Схавайце вашы чамаданы! — закончыў «упаўнаважаны».— Акрамя таго што ўжо атрымалі, вазьміце яшчэ... Вось!

Вілюевіч неахвотна павёў вачыма на пачак новенькіх чырвонцаў, напэўна, толькі што з банка, склееных крыж-накрыж папяровай істужкай, на якой стаяла выдрукаваная лічба: «1000 руб.».

— Бярыце, бярыце. Вам, Вілюевіч, на днях мае быць дарога... І не блізкая. Бярыце.

Вілюевіч працягла паглядзеў на ветэрынара. Словы «ўпаўнаважанага» прагучалі так, нібы «будзеце каяцца, ды нішто цяпер ужо не вернецца...». Растапыранымі дрыжачымі пальцамі ён узяў са стала грошы, падумаў і схаваў у кішэню.

— Цяпер наконт каня... Хто вам гаварыў, што я не лячу яго?

— Конюх.

— Ну, а я вось толькі з канюшні. Не верыце!.. Схадзіце туды самі, пераканайцеся! Я вашу просьбу выконваю. Лячу!

— Пабачым, братко,— раптам схамянуўся Вілюевіч.— Вараны павінен паправіцца.

Ён спакойна, паслухмяна схаваў пад ложак чамадан і, нічога не гаворачы, накіраваўся да выхаду.

— Не баўцеся! Я вас чакаю,— папярэдзіў «упаўнаважаны».— Сёння ўвечары даканчым усю работу. І суткі нам трэба тут затрымацца.

Вілюевіч цераз двор, далей вуліцай накіраваўся на канюшню. Павольна ішоў у роздуме. Брыль капітанкі ўніз — ён ні на кога не глядзеў і ні з кім — ні слова. Пагонкай звярнуў да будынка, дзе ўсю вясну працаваў... Не дайшоў — спыніўся, агледзеўся. Каля вярбы, што расла на выгане, збочыў на балота. Цераз балота сярод вербалозін нацянькі бегла сцежачка. Ён шпарка, накульгваючы, пашыбаваў у кусты.

Толькі ў лазняку Вілюевіч азірнуўся: можа, хто сочыць за ім? На выгане пасвілася Жаўтабрушка, рыліся свінні. І больш нікога.

Апошні раз ён паглядзеў на Навасёлкі, сваё, магчыма, апошняе прыстанішча на роднай бацькаўшчыне. Ён прыехаў сюды, як на адпачынак. І вось яго ад'езд: тут ён усім чужы.

Бранiслаў Хутаранскі — адзіны, хто мог яго ўкрыць і выратаваць. Верны, даўні сябра.

За гарою Вілюевіч ужо не аглядаўся. І нічога не шкадаваў. Пашпарт пры ім. Грошай хапала. Чамаданы? Рэчы?.. На гэтыя грошы, што ў кішэнях, ён не такое адзенне, вопратку і абутак зможа справіць... Чым далей, тым ён кульгаў шпарчэй. Аж крывым подбегам...

Браніслаў Хутаранскі! Ён Стася выручаў, пама-

гаў. Асабліва разумным, павучальным словам, як старэйшы. Ён даваў парады. І не адны парады...

Змораны, мокры ад поту, Стась Вілюевіч стаяў на ганку леснічоўкі. Навокал — цёмна, хоць пальцам у вока...

Стась ледзьве дастукаўся.

Браніслаў выйшаў заспаны, збянтэжаны.

— Што здарылася?

— Уліп,— прашаптаў Стась.— Уліп, братко.

Вілюевіч у спешцы расказаў дружбаку і пра скалечанага каня, і пра «ветэрынара-ўпаўнаважанага», які нібы на галаву зваліўся, і наогул, пра пастку, у якую ён трапіў.

— Парай, братко, як быць? Грошы ў мяне ёсцека,— амаль плачучы, папрасіўся Вілюевіч.— Схавай мяне!

Стась думаў, што сябра, як заўсёды, павядзе ў пакоі, дасць перакусіць (Стась галодны як воўк!), а потым паспрабуе разабрацца ў абставінах, пачне разважаць пра яго няўдачу. Але Браніслаў моўчкі выслухаў Вілюевіча да канца. Тут, на ганку. Упоцемку не стаў разглядаць сінякі, на якія, скардзячыся, паказваў Вілюевіч.

Адхінуўся ад Стася і пагардлівым баском кінуў:

— Ты тут быў і — не быў... Можа, па тваіх слядах ужо ідзе сочка ці пагоня?.. Усё! Мы — квіты!

І, увайшоўшы ў сваю леснічоўку, грукнуў завалай з таго боку дзвярэй.

## XIX

Андрэй Дубовік пачаў асабліва наглядаць за паводзінамі свайго аднавяскоўца яшчэ тады, калі даведаўся, што міліцыя забрала дзеда Ермалая. У чым віна дзеда? Што ён нашкодзіў? Такія

пытанні хвалявалі многіх навасёлкаўцаў, але нічога талковага ніхто сказаць не мог. Ніхто Андрэю нічога не гаварыў. Вароніч у ад'ездзе. Тым больш што на сяле не заведзена было весці роспыты пра гэта. Арыштавалі — значыць, вінаваты. Андрэй хацеў спецыяльна ехаць у міліцыю, каб дазнацца прычыну.

Ён думаў і разважаў. Калі за грубіянства перад старшынёй на першамайскім вечары, дык гэта ж глупства. Вароніч сапраўды гразіўся: «Пасаджу абодвух хуліганаў: і старога, і маладога». Апроч сваркі Ермалая з Вілюевічам, які мог папомсціцца, ні цётка Анэта, ні ніхто іншы нічога Андрэю не мог растлумачыць. Значыць, Вілюевічава помста!.. Яму яшчэ здавалася, што старшыня мае нейкае дачыненне да арышту. Вароніч жа абараняў Вілюевіча. Аднак пасля размовы перад вячэрай на Першага Мая, пасля таго як Вароніч загадаў фарсістаму сваяку Пагуляйскай замест дзеда барабаніць з бітонамі на возе па вуліцы, у Андрэя адпала падазронасць.

І ўсё ж ён — Андрэй Дубовік быў упарты — пачаў сачыць за кожным крокам Вілюевіча. А потым і за ветэрынарам, які як з неба зваліўся. Жыве разам з Вілюевічам, які скалечыў Варанога. Хто памог бы яму знайсці адгадку ва ўсім, што здарылася і што адбываецца?..

Як ні дзіўна, уся раскрутка пачалася з ціхай Гэлі, унучкі Пагуляйскай.

Аднойчы, спаткаўшы яе на вуліцы, Андрэй запытаўся:

— Чаму ты, Гэлечка, тут і не едзеш у Русілавічы? Школа ж ужо не працуе. Вучэбны год скончыўся.

— Бабцы трэба памагчы. Просіць, каб яшчэ пабыла з ёю.

— І нават з'ездзіць на дзень дадому не хочаш? Пабачыцца з мамай, расказаць, з якімі адзнакамі закончыла навучальны год?

— Хачу.

— Заўтра я еду на машыне цераз ваша сяло, на Русілавічы. Адпрасіся ў бабулі, раніцой устань, не заспі і прыходзь у гараж. Падвязу цябе. А пад вечар, калі буду вяртацца, забяру. Пагасціш дома і зноў сюды...

...Калі раненька Андрэй прыйшоў у гараж, радасная Гэля ўжо чакала. Пагуляйская яе на дзень адпусціла. А ў паездцы яны шмат чаго гаварылі.

Гаварылі пра ўсё. Бабка яе не крыўдзіць. Яны дружаць. От было хараша, як стаялі доўгія зімнія вечары. Яны ўзлазілі на печ. Печ цёплая. Вешалі на цвічок у бэльцы лямпу. І Гэля чытала кніжку пра Маўглі. Позна-позна. Аж да сну. Бабка любіць слухаць.

Як прыехаў дзядзька Стась, у бабкі прыбавілася клопатаў. Бабцы перадыхнуць некалі. Асабліва цяпер з гэтым новым пастаяльцам. Бабка патрацілася, у даўгі залезла. Што ні дзень пазычае ў суседзяў яйкі, сала, каўбасу... Толькі не кажыце нікому — самагонку гнала!.. Каб не яна, Гэля, бабцы адной не ўправіцца. Сям'я пабольшала.

Што адбылося ў клубе перад святам?

Яна малявала першамайскі лозунг. Прыйшоў дзед Ермалай і пачаў пугаўём біць дзядзьку Стася. Дзядзька пісаў нейкі ліст усю ноч, але куды — яна не ведае.

Высадзіўшы ў Русілавічах Гэлю, Андрэю было пра што падумаць. І пра Ермалая, і пра Вілюевіча. Ён, як і ўсе навасёлкаўцы, ведаў, што Вілюевіч узагнаў Варанога на барану. Потым прывёз ветэрынара, каб палячыць каню нагу. Навошта ж прымушаць Пагуляйскую ставіць на стол усялякія пачастункі?

Вілюевіч — вінаваты, хоча задобрыць ветэрынара? Хоча замесці сляды. Якія? Ці не хаваецца ў гэтым яшчэ якая прычына ганебных учынкаў Вілюевіча? Якія наладзіліся адносіны між ім і ветэрынарам? Ці не хабар дае Вілюевіч? А можа, хеўра?

Забраўшы Гэлю ў Русілавічах і везучы ў Навасёлкі, Андрэй, між іншым, гаварыў:

— Калі дзядзька прывёз гэтага ветэрынара, што ў саламяным капелюшы?

— Не ведаю. Але дзядзька Стась яго баіцца. Ён вельмі благі. Злы.

— І мне ён не падабаецца. Мабыць, ён вымагае чагосьці ў дзядзькі Стася?

— Што?

— Ну, што яны гавораць між сабой?

— Яны нешта шэпчуцца. Як прыйдуць, дык і шэпчуцца. А на мяне кажуць, выйдзі, пагуляй!

Гэта насцярожыла Дубовіка.

— Ведаеш што, Гэля? — сказаў Андрэй.— За дзядзьку Стася — і ты глядзі — трэба заступіцца. Можа, саламяны капялюш хоча яго пакрыўдзіць... Ты шкадуеш дзядзьку Стася? Шкадуеш... От і я заступаюся за яго. Добра?.. Усё, пра што яны спрачаюцца або сварацца, перадавай мне. Што пачуеш ці прыкмеціш — адразу да мяне! Шукай у гаражы ці ў цёткі Анэты... Толькі глядзі, каб ніхто не ўведаў, што мы дамовіліся. Ні бабка, ні дзядзька Стась!.. Яны самі баяцца яго, гэтага ветэрынара з уколамі. І табе нічога не скажуць.

Андрэй Дубавік казаў шчыра, і Гэля ахвотна згадзілася.

А ўжо на другі дзень Андрэй ведаў ад Гэлі, што ў дзядзькі Стася і прыезджага была нейкая работа ўначы. Пайшлі пад вечар і вярнуліся позна. Леглі ўпоцемку, не палілі святло. Дзядзька Стась спрасонку мармытаў, нешта гаварыў. Не разабраць.

Прыезджы злуецца і сварыцца на дзядзьку. Патрабуе хутчэй уколы зрабіць усім коням.

Вестка насцярожыла Дубовіка. Куды яны хадзілі ўначы? Яны — заадно! Хто такі ветэрынар? Ці ўпаўнаважаны? Андрэй пазваніў у сельсавет. Там пра «ўпаўнаважанага» нічога не ведаюць... Сказаць аб гэтым — каму? Андрэй спачатку падзяліўся сваімі думкамі з Колем Бортнікам. Гэта яго напарнік... Удвух у гаражы яны падоўгу разважалі. Сакратар сельсавета, што адказаў Андрэю, сапраўды, мог і не ведаць прыезджага ветэрынара. Кажуць, ветэрынар з Мінска. Але чаму ён з Вілюевічам ходзіць ноччу? Куды? Тут штосьці хаваецца, сапраўды падазронае. Можа, у ветэрынара з Вілюевічам якая зацея? Час, кажуць, небяспечны.

Рашылі абодва сачыць. Коля Бортнік, як і Андрэй, камсамолец.

...І вось тым надвячоркам, калі Стась Вілюевіч апошні раз аглядаўся на Навасёлкі, збянтэжаная Гэля прыбегла да Андрэя Дубовіка і, заікаючыся, расказала:

— Дзядзька Стась аддаў мне працоўную кніжку. Во! Хоча ехаць у Мінск. Яны зноў шапталіся, мяне выправадзілі на вуліцу. Але я чула ў сенцах, як дзядзька Стась плакаў. Прыезджы даў яму грошы. Гэты прыезджы нядобры чалавек. Калі я вярнулася, ён быў адзін у хаце. А дзядзька Стась пайшоў на канюшню. Як пайшоў, дык няма і няма. Тады гэты прыезджы кажа мне, каб я схадзіла, паклікала дзядзьку. Я пабегла на канюшню, а конюх кажа, яго там няма і не было. «Тут твайго дзядзькі і бачыць не бачылі...» Куды ён падзеўся?.. Што ж гэта будзе?..

— Ты сказала аб гэтым саламянаму капелюшу?

— Сказала... і... і ён напалохаўся. Цяпер ходзіць па хаце. У акно паглядае. Сказаў, калі дзядзька

Стась зараз не вернецца, то сам пойдзе шукаць яго.

— Не хвалюйся, Гэля! Дзядзьку Стася адшукаем. Ён, мабыць, схаваўся ад прыезджага. У яго ёсць веласіпед? У прыезджага?

— Не, няма! Быў, але як ездзіў пазаўчора, ён вярнуўся пешшу.

Андрэй тут жа скеміў.

— Гэлечка, ты малайчына! — пахваліў ён.— Хуценька бяжы ў гараж. Знайдзі там Колю Бортніка. Ведаеш Колю? Ведаеш! Скажы яму тое, што мне перадала... Скажы, што я саламяны капялюш буду пільнаваць. У вішэнніку, ля вашай цёткі. Сама вернешся дамоў і чакай, пакуль я не прыйду з дзядзькам Стасем...

Гэля пабегла. Андрэю разважаць доўга не было калі. На ўсякі выпадак захапіў у кішэню свой шафёрскі складанчык. Зброя — не надта якая, але абараніцца — абаронішся. Гэты ножык у дарозе быў надта спадручны. Ім і адкруціць, і закруціць, і прапароць можна.

Андрэй адразу заспяшаўся ў вішняк. З-за дрэўцаў, якія ўжо дацвіталі, добра відаць хата і двор Пагуляйскай. Паўмежак цераз сад і агарод.

Сэрца Андрэя як чула. Крышку прачакаў і заўважыў у садку ветэрынара. У сваім капелюшы ён важна крочыў з партфелем. «Што ў гэтым партфелі?» — мільганула думка ў Андрэя. Ён стаяў на дарожцы за вішнямі і гадаў: куды паверне ветэрынар? Ці на канюшню — шукаць Вілюевіча, як перадала Гэля (тады ён трапіць на выезд з Навасёлак), ці сюды, да Андрэя (дарожка вяла да рэчкі). Калі скіруе на канюшню, ад вішняку далекавата давядзецца даганяць. А бегчы следам — напалохаць можна. І затрымаць трэба, абавязкова, пакуль не падаспее Коля Бортнік...

На шчасце ці на няшчасце хлопца, ветэрынар накіраваўся дарожкай да Андрэя. Значыць, начхаць на Вілюевіча, значыць, да рэчкі! Тут між каляін і чакаў яго Андрэй. Стаяў, а сэрца выскаквала з грудзей.

«Магчыма, ён сапраўды ўпаўнаважаны, адказны работнік, за каго сябе выдае,— думаў Андрэй,— але я лічу сваім абавязкам выказаць свае сумненні. Няхай правераць, разбяруцца дзе трэба — упаўнаважаны ці не ўпаўнаважаны? Сумленны ці несумленны? Калі я акажуся залішне руплівым, перастараюся, папрашу прабачэння, і ён зразумее. Павінен зразумець — час такі...»

Ветэрынар заўважыў Андрэя. Яму даводзілася сустракацца з многімі ў Навасёлках, але гэты хлопец неяк упарта глядзеў насустрач. Яго можна спакойна абысці, абмінуць. Але не — ён камандзіраваная асоба, і з усімі ў сяле звяртаўся пачціва.

— Добры вечар! — падышоўшы, прывітаўся з вяскоўцам.— Хоць яшчэ і відна, аднак ужо хіліць к вечару... Вечар добры вам!.. Не параіце, як прамей прайсці да рэчкі, а там — да саўгаса «Антонава»?

— Вось так! — рукой паказаў Андрэй.— Хадземце, я вас правяду. Тут па лузе шмат сцежак. І кладка ў нас не адна, можна не так выйсці.

«Вельмі ахвочы хлопец»,— падумаў ветэрынар і падзякаваў:

— Не турбуйцеся, я патраплю. Вам, напэўна, няма часу...

— Не, я ўжо сваю работу закончыў... Правяду, бо да кладкі цераз рэчку можаце блукаць.

— Ну што ж, дзякуй,— паціснуў плячыма ветэрынар.— А хто вы будзеце?

— Шафёр.

Яны пайшлі, лагодна размаўляючы, Андрэй Дубовік — адной каляінай, ветэрынар — другой.

— Добрая спецыяльнасць. Зайздрошчу вам. А я хто, знаеце?

— Знаю. Бачыў вас на канюшні. Уколы давалі коням. Вы ўпаўнаважаны з Мінска, ветэрынар.

— Так, так! Ніколі не зайздросцьце маёй прафесіі, маім абавязкам у камандзіроўках... Я заўсёды павінен быць напагатове, як земскі ўрач. Ці ноч, ці дзень, дождж ці снег... От і зараз пазванілі з Антонава — там бяда, карова падавілася бульбінай...

«Мажа, і праўда,— сумеўся Андрэй.— Гаворыць ён зусім пераканаўча».

— Чаго ж яны машыну не падаслалі? У саўгасе машыны ёсць... Давайце вернемся, я на сваёй падвязу.

«Аднак ён нейкі назойлівы»,— падумаў ветэрынар і сказаў:

— Куды вяртацца! Дзякуй! Спачатку я хацеў у Саковіча папрасіць, але ведаю, як у яго ўсе коні змардаваны... і бензіну ў вас, чуў, малавата. Антонава ж недалёка. За рэчкай, вунь, на ўзгорку кляны. Так?

«Ён усё добра ведае і добра арыентуецца: дзе, што? Чаму ж пытаўся, як прайсці?» — падумаў Андрэй і сказаў:

— На лузе за рэчкай выкапалі асушальныя канавы. Там небяспечна, я вас крышку правяду.

«Але, прывязаўся да мяне гэты шафёр,— падумаў ветэрынар.— Як ад яго адчапіцца».

І ён загаварыў, што быць шафёрам — гэта цудоўна, але яшчэ недастаткова. Трэба далей вучыцца. Пачаў расказваць, як ён вучыўся ў інстытуце. Пакуль малады, трэба паглыбляць кваліфікацыю, ехаць на вучобу ў Мінск.

«Дзеля чаго ён клапоціцца пра мяне?» — хацеў

зразумець Андрэй і аглянуўся наўкол. Ніхто за імі не ішоў.

Пачыналася нізіна на сенажацях. А сонца ўжо зусім хавалася за гару. Над лугам, над рэчышчам, не ўзнімаўся туман. Па прыкметах заўтра можа быць перамена надвор'я. Неба над гарой, куды апускаўся чырвоны акрайчык, нібыта разбілася і рассыпалася на дробныя залатыя аблачынкі. Яны астывалі, як вуголле. Потым з іх утварыўся шырокі барвовы пласт, які расцягнуўся па даляглядзе над усім гарыстым полем саўгаса «Антонава».

На лузе пракаціўся нізка прыземлены скрып драча.

Яны ішлі сцяжынкай, якая агінала вербы і лазовыя кусты. За кустамі, воддаль ад сяла, цякла рэчка.

Між алешын і вербачак цераз рэчку ляжала кладка. У дзве таўставатыя жэрдкі, нібы з плота. На два праслы. Адно, першае, канчалася на сярэдзіне, дзе канцы жэрдак прымацоўваліся на пярочку, якая была прыбіта да казла з чорных паляў... Кожную вясну паводка зносіла жардзяную надбудову, а тоўстыя палі, глыбока забітыя ў дно, заставаліся. Другая палавіна кладкі, таксама з дзвюх жэрдак, была перакінута ад пярочкі на казле да таго берага, антонаўскага, як яго празвалі ў Навасёлках... Па гэтых жэрдках, вядома, лепш было пераходзіць завідна. Яны гнуліся і вагаліся. Каб трывалей ступаць, нават уначы, навасёлкаўцы прыбілі зверху ў рост чалавека на чатырох коліках тоненькія, абструганыя, жардзінкі — парэнчы, каб ямчэй абапірацца, пераходзячы цераз кладку... Але хтосьці, мабыць, малыя падшыванцы, ля таго берага кавалак парэнчы адламаў.

Плынь на бродзе надта хуткая. З навасёлкаўскага берага — мелкая, а ля антонаўскага, ускочыўшы,

можна схавацца з галавой. Яна імчалася ў вір, які разліўся на паваротцы, за метраў пятнаццаць ад пераходу па кладцы. Паверхня віру ўвечары ціхая, роўная, а ўдзень можна заўважыць віхрастыя ямкі на вадзе.

«Някепска было б яго тут затрымаць»,— падумаў Андрэй (у абодвух адначасова з'яўляліся аднолькавыя думкі, а размова ўголас ішла зусім пра другое, наадварот) і сказаў:

— Кладка ў нас недагледжаная. Кожным летам яе ладзяць, а вясной паводка зносіць... А там дзеці купаюцца. Бачыце, ля таго боку парэнчу зламалі.

— Ну не вяртацца ж! — выгукнуў ветэрынар.— Як у народзе кажуць, не пашанцуе. Дзякуй, малады чалавек, як-небудзь перабяруся... Можаце ісці дамоў.

А сам думаў: «Адчапіся хутчэй! Досыць! Што табе ад мяне трэба?»

— Дык а як жа цераз канавы? Не, я ўжо вас праведу па лузе аж да антонаўскага поля.

«Трэба канчаць з гэтым шафёрам. Але як? — рашаў ветэрынар.— Стрэл пачуюць у сяле... Во, даносіцца бляянне авечак на вуліцы!..»

— Не турбуйцеся, малады чалавек. Дзякуй, неяк дабяруся. Колькі тут да саўгаса? Паўтара кіламетра?

— Але гэтыя паўтара кіламетра між канаў. Адны вы не дойдзеце без праваднікa.

«Ён наўмысна мяне затрымлівае, гэты правад-нік»,— мільганула ў галаве ветэрынара, і, ставячы партфель ён сказаў:

— Яшчэ раз вам вялікае дзякуй! Сядзем на шчасце перад тым, як разысціся...

Ветэрынар сеў і пачаў расшпільваць партфель. Думаў:

«...як прысядзе побач, з ім лягчэй будзе справіцца. Без шуму! Толькі няхай сагнецца...»

Андрэй пачуў, як у партфелі ветэрынара штосьці цвякнула. Ён насцярожыўся і не прысеў, а сказаў:

— Вы разуйцеся! Жэрдкі гнуткія, можна зваліцца ў ваду... Скіньце чаравікі! Бачыце, я босы. Босаму спрытней ступаць па кладцы.

«Не, ён проста дурань. Або яшчэ наіўны хлапчук. Не сядзе побач... Што ж, не хочаш прысесці — ідзі за мной... Да першай канавы!»

— Я, малады чалавек, на грамадзянскай вайне не такія — чортавы масты пераходзіў, а вы гаворыце — кладкі! — зашпіліўшы партфель і беручы яго пад паху, сказаў ветэрынар.— Давайце ідзіце за мной, калі ўжо вам так хочацца.

«Назад па гэтай кладцы ты, смаркач, ужо не ступіш...»

«Як добра, што ён пайшоў па кладцы першы, а я — за ім».

— Можна, я пайду наперад? І руку вам падам,— Андрэй ступіў следам.

— Стойце на месцы, пакуль я сам не перайду на той бок!

«Пакуль агледзяцца, дзе Вілюевіч, я ўжо апынуся далёка... Марудзіць некалі! А гэты, што прывязаўся, няхай!.. Між канаў стрэл будзе глухі... А калі і пачуюць, мяне ўжо не дагоняць».

«Плаваць я магу. А як ён? Кажа, быў на грамадзянскай вайне... Што ў партфелі ляснула?.. Не, мабыць, тут!.. Далей ісці небяспечна... Напэўна, Гэля не знайшла Колю Бортніка».

— Асцярожна! — крыкнуў ветэрынар.— Я сказаў, стойце на месцы!

— Я хачу памагчы вам ля таго боку,— ступаючы па жэрдках, сказаў Андрэй.— Не бойцеся!

— Не трэба! Стойце, дзе стаялі!

Але Андрэй якраз у той момант, калі ветэрынар дайшоў да таго месца, дзе абламана парэнча, быццам несумысля гайдануў зыбкія жардзіны кладкі. Адзін раз, другі!.. Ветэрынар закрычаў. Ён спыніўся, хацеў збалансаваць хістанне, працягнуўшы партфель убок. Каб ураўнаважыць сябе і хоць кінуцца і схапіцца за галіну алешыны на тым беразе. Але не здолеў. І не ўстаяў, нязграбна пахіснуўся і зваліўся з кладкі... Узнімаючы пырскі, плюхнуўся на самай быстрыні. Андрэй тут не раз купаўся і ведаў, дзе вобмель, дзе глыбока. Ён знарок выбраў гэту кладку.

Вынырнуўшы, спадарожнік гнеўным позіркам зыркнуў на хлопца і, горнучы пад сябе ваду аднае рукой (правай беражліва туліў да сябе партфель), пачаў боўтацца да «антонаўскага» берага. Той бераг быў абрывісты, з нахіленымі вольхамі, але «ўпаўнаважаны» не вяртаўся назад, на мель, і, відаць, не збіраўся прасіць паратунку, а імкнуўся туды, пры гэтым ён і пляваўся, і лаяўся... Андрэй падсвядома адчуў, што не памыліўся ў сваіх прадчуваннях да прыезджага.

Тады хлопец сам рашыў з размаху скочыць у рэчку. Марудзіць нельга! З кладкі, а яна спружыніла, з усяе сілы юнак падскочыў угору і гэпнуўся на партфель. Хацеў усё гэта разам прытапіць у вадзе... «Упаўнаважаны» неўзабаве вынырнуў і пальцамі пачаў заграбаста хапаць Андрэя за кашулю на грудзях. Канечне, яму, абутаму, у плашчы, было нязручна аднае рукой душыць хлопца за горла, а другой — яшчэ паспрабаваць ударыць важкім партфелем. Праўда, ногі, каб уперціся, дно крыху даставалі.

Андрэю ж — з вольнымі рукамі, босаму — было прасцей. Ён, не выпускаючы свайго спадарожніка,

хоць галава ў таго была паголеная і цяпер слізкая, імкнуўся адплысціся з ім яшчэ ніжэй, на глыбейшы крут... Двое то ўсплывалі на паверхню, то знікалі...

Ішла барацьба. Капялюш «упаўнаважанага» ўжо іх апярэдзіў і кружыўся на віры.

* * *

Вароніч раніцай дабраўся са станцыі Ціханавічы і, не заходзячы дадому, адразу накіраваўся да Саковіча, хто яго замяшчаў. Што чуваць? А галоўнае, дзе Вілюевіч? Чамусьці гэта яго больш за ўсё хвалявала.

Калі ж Саковіч расказаў пра здарэнне на кладцы з «упаўнаважаным» ветэрынарам, што Коля Бортнік падаспеў у пару і ён павёз Андрэя Дубовіка і гэтага, што з партфелем, у раён, Вароніч спахмурнеў.

— Мне сказаў рахункавод, машына пайшла ў раён. Я званіў са станцыі... Што яшчэ?

— Ну, бульбу закончылі. Усеяліся!.. Расказвай, што ў цябе?

— А-а! — махнуў рукой Вароніч.— Дзе падзеўся Вілюевіч? Саковіч замарудзіў з адказам.

— Яго нідзе няма. Даяркі шукалі... Малако няма каму везці.

— У Пагуляйскай ты быў?

— Не.

— Давай сходзім! Пайшлі!

Саковіч хацеў адмовіцца — яму, старшаму паляводу, маўляў, няма калі. Ён таксама не забыўся, як перад Першамаем, калі Саковіч дакараў старшыню за паблажлівасць сваяку Пагуляйскай, Вароніч тады ўзяў пад абарону свайго «даручэнца». Вось няхай цяпер і шукае яго! Відаць, старшыня

штосьці дачуўся ў цэнтры пра свайго спрытнага забеспячэнца...

— Ну, чаго я пайду? — запярэчыў Саковіч.— Анэта сказала, яго ў Пагуляйскай няма... Ты от скажы каму, каб бітоны везлі.

— Сёння няхай Анэта адвязе, а там каго-небудзь прызначым. Пайшлі, Сцяпан! Мне аднаму цяжка пытацца... Во тут дрыжыць,— ён паказаў на сэрца.

Пайшлі. І не вуліцай, а загуменнямі — так бліжэй.

На паўмежку, не даходзячы плота, якім быў абгароджаны садок удавы Пагуляйскай, яны заўважылі на слупку каршуна. Шэры кручкадзюбы забіяка цікаваў курэй ці куранят на панадворку. Ён не падпусціў людзей на сотню крокаў. Устрапянуўся і замахаў крыламі.

— Каб стрэльба была? — звярнуўся Вароніч да таварыша.— Ён, драпежнік, дзесьці на другім двары задзярэ куранё.

— Але, хітры, каб ён здох! — праводзячы позіркам каршуна, згадзіўся Саковіч.

Пагуляйская палола грады. Старая адзінокая жанчына нібы чакала прыходу старшыні. Яна разагнулася і, трымаючы пустазелле ў прыполе, разгублена паглядзела на прыйшоўшых.

— Дзе ваш сваяк, цётка? — запытаўся Вароніч.— Дома?

— Не, няма.

— А дзе ён?

— Не ведаю,— дабрадушна прызналася жанчына.

— А ветэрынар-пастаялец? — спытаўся Саковіч.

— І пастаяльца няма. Ён толькі начаваў і сталаваўся... А сёння дык і не начаваў. Учора, гэта было пад вечар, сказаў, што пойдзе ў канюшню па

пляменніка Стася... Як пайшоў, дык і не вярнуўся. Я чакаю іх... Стась збіраўся ў Мінск. Чамадан спакаваў, стаіць у хаце...

— А сам ужо недзе ў Мінску,— шэптам сказаў Саковіч, але старшыня гэта пачуў.

Размову іх з бабуляй слухала Гэля ў сенцах, але ўмяшацца без дазволу Андрэя, як было з ім дамоўлена, не пасмела.

— Знайду! — пагрозліва сказаў Вароніч Сцяпану.— Дзе ні прыліпне Вілюй, адшукаю!

— Позна,— адказаў Саковіч.

Яны выйшлі з двара і на вуліцы пачулі: старшыню клічуць да тэлефона ў кантору.

У канторы старшыня кінуўся да апарата, але рахункавод папярэдзіў:

— Загадалі чакаць. Яны самі пазвоняць.

З раёна, сапраўды, неўзабаве пазванілі. Вароніч нервова схапіў трубку, прыціснуў яе да вуха і прымушаў сябе затаіць дыханне. Слухаючы, ён стаў пальцамі вольнай рукі соваць у рот кончык вуса, каб закусіць яго зубамі. Усе насцярожана сачылі за ім.

Павесіўшы тэлефонную трубку, старшыня, як пасля бегатні, аддыхаўшыся, сказаў, што Андрэй Дубовік і Коля Бортнік там, у райцэнтры. Коля зараз прыедзе дадому, а Дубовік і «ўпаўнаважаны» ў бальніцы...

Потым, падумаўшы, стаў пытацца ва ўсіх: дзе Вілюевіч? Хто яго бачыў апошні раз? Ім цікавяцца з раёна. Неабходна знайсці сваяка Пагуляйскай! Прыедуць таварышы, ім патрэбна дапамога. Вызначыць людзей на пошукі!

— Шукай у полі ветру,— казалі старшыні.

У Вароніча дрыжала рука, якой ён толькі што павесіў трубку.

...Нахлынула бяда. Бяда на ўвесь калгас. Яна пачалася неўзабаве.

Першай ахвярай стала гнедая кабыла Рыгора Пенчука. Рыгор Пянчук ехаў у поле, і гнедая паваліласе ў аглоблях. Знясіленая, спацелая, не магла ўстаць. К вечару яна акалела.

Так было з усімі тымі коньмі, якім «упаўнаважаны» зрабіў уколы.

Вароніч выклікаў пяцеўчынскага ветфельчара. Той быў ветфельчар свой, мясцовы. Ён агледзеў жывёлу і загадаў: коней, якім прышчапілі хваробу, асобна трымаць і даглядаць...

— Усіх шэсць... І Вараны? — размаўляючы з Саковічам, паныла запытаўся Вароніч.— Кажуць, усіх коней сабраць не дазволіў ты?

— Сваяк Пагуляйскай тут стараўся,— усміхаючыся адказаў старшы палявод.— «Упаўнаважаны» ў Дубнікі спяшаецца ехаць!.. А я яму: няхай едзе! Трэба будзе — прыедзе. Тут Андрэй Дубовік пазваніў у сельсавет, а там сакратар кажа: ні пра якога ўпаўнаважанага з Мінска ведаць не ведаюць...

— У Дубніках усё пагалоўе затраўлена. Да аднаго каня,— беручыся даланёй сабе за лоб, пакутаваў Вароніч.— Магло б і ў нас такое здарыцца...

Саковіч хацеў сказаць аб пільнасці — змоўчаў. Усё і так было зразумела.

Выпадкі, як з гнедай у Рыгора Пенчука, пачалі паўтарацца. У каня пачыналася гарачка. Усё тулава калацілася. Бакі часта ўздымаліся, рабіліся мокрымі. Конь падаў вобземлю і хроп. Раптоўна паміраў.

Старшыня прыйшоў і бачыў, калі канчаўся Вараны... Рысака любіў не толькі Вароніч. Гэта быў гонар усяго калгаса. Конюх надта шанаваў яго. Старшыня загадаў Батоўкіну вывесці каня на двор,

павадзіць па свежым паветры. Можа, Вараны акрыяе. Перад тым як надзець аброць, каню змяніў павязку, узяў за павады і павёў да варот. Калісьці Вараны, паказаўшыся з канюшні, мог затанцаваць на задніх нагах. Цяпер ён ледзь ступаў. Не ступаў, а кульгаў. У варотах ногі заблыталіся. Ужо на двары ён, ускінуўшы ўгору галаву, тузануў на сябе повад і з глухім ёкам у жываце рухнуў. Усе бачылі, як рысак доўга ў сутаргах біўся галавой аб зямлю.

Калгаснікі сярдзіта гаварылі:

— Усё Вілюевіч! Ён прывёз ветэрынара, а мы і паверылі.

— Бач, вільнуў Вілюеўчык, а мы кусай сябе за локаць.

Мёртвую скаціну пяцеўчынскі ветфельчар загадаў звозіць у адно месца і закопваць.

Калі Варанога цягнулі пастронкамі за заднія ногі, старшыня ўгледзеў, і яму, конармейцу, стала не па сабе. Зашчымела сэрца. У вачах памутнела. Ён пахіснуўся і асеў на бервяно ля канюшні...

...А Пагуляйская тады, як наведалі яе двор старшыня са Сцяпанам Саковічам, пакінула градкі і ўстрывожаная падалася ў хату. Гэля паказала ёй сіненькую кніжачку. Працягнула. Бабка ўзяла з рук Гэлі часовую працоўную кніжку пляменніка. З удзячнасцю ў сэрцы яна рашыла пакласці яе ў куфар. Стасеў дарагі рахунак.

Але адамкнуўшы вечка куфра, Пагуляйская здзівілася — там усё перавернута. Хто мог туды наведацца? Ветэрынар? Пра схованку ключа ведалі Гэля і пляменнік. Гэля спакойна стаяла побач. Яна таксама верыла і паважала дзядзьку Стася. А між тым шкатулка ў прыкуфэрачку была пустая...

Гэля кінулася ў парог, зачэрпнуць конаўкай вады, бо бабцы стала кепска. Яна асунулася ля куфра на падлогу.

## XX

Сонца стаяла высока. Палявой дарогай ішла дзяўчына. Ішла, а абапал, амаль датыкаючыся да рукавоў вышыванай белай кофтачкі, падступала рослае жыта. Налятаў ветрык, і яно хвалявалася, густа шумела. Каласы выпусцілі вусы і горда пазіралі ў сіняву нябёс. Ад подыху гарачага ветру з далёкіх прастораў яны хіляліся шырокай лавай па ўсяму абшару. Хіляліся, хваля за хваляй, а пры самай дарозе кланяліся зялёна-шэрай сцяной. Не нізка, а, здаецца, так пачціва віталіся з тымі, хто ішоў або ехаў.

«Падрасло!» — радавалася дзяўчына. Колькі ўжо мінула часу, як яна, нібы ўцякачка, пакідала гэта поле? Тады жыта яшчэ рунела... Цяпер вось якое буйное! Непрыкметна, але хутка бяжыць дзень за днём, а яно таксама спяшаецца расці ўгору. Скора будзе красавацъ...

Яна быстра ішла і ўжо змарылася. Але хто ведаў яе і каб зараз спаткаў, падумаў: яшчэ больш папрыгажэла. Не пазнаў бы дзявочай стомленасці. Пунсавелі шчокі. Над чорнымі, крута выгнутымі бровамі выступілі, нібы пры ўсходзе сонца расінкі, кропелькі поту...

Вось толькі чамадан і важкі клунак з кнігамі адрывалі рукі.

Няхай вецер сушыць гарачы твар! Яна крочыла яму насустрач. А ён, варушачы кудзеркі валасоў на галаве, палошчачы чорную спаднічку, часамі дужымі парывамі, здаецца, хацеў узняць дзяўчыну,

але бяссільны быў панесці назад ад родных мясцін...

Яна ішла подбегам. Упарта, паспешліва мерала шлях. Босымі нагамі скарачала адлегласць дадому. Бліжэй падыходзіла да сяла. Ёй хацелася хутчэй дайсці, хутчэй даведацца, што ў доме?.. Вось гэты ўзгорачак, там яшчэ адзін, а там — Навасёлкі!..

Бляшаны звон дробненька затарахцеў і прымусіў дзяўчыну аглянуцца. Яе даганяла фурманка з пустымі бітонамі. Наставіўшы башлык дажджавіка (ад спёкі!), дзед Ермалай пераможна сядзеў у драбінках і дратаванкай сярдзіта паганяў Жаўтабрушку. Параўняўшыся з дзяўчынай, перастаў падганяць. І дагадлівая кабылка — ведала, што дзед з кожным, каго сустрэне, распачынае гаворку,— пайшла ступой. Бітоны сціхлі бразгацець.

— Т-р-р-р! — зусім спыніўся дзед.— Ці не Ларыса?.. Ношу сваю давай сюды, на воз. І сама сядай! Не саромейся.

Ларыса прывіталася, падзякавала дзеду.

— Тут недалёка ўжо, дайду.

— Сядай, кажу! — загадаў Ермалай.— Я платы не бяру. А што без канфорта, выбачай!.. Ад самага раёна пехтурой брыдзеш?

— Да Пяцеўчыны спадарожная падвезла.

— Чаму ж ты на сыраварню не зазірнула? Я там заўсёды да полудня... Хіба забылася? Цягнуць на сабе такія клункі, бацюхны!

Абодвум — даўно не бачыліся — хацелася гаварыць-гаварыць... Ларыса ўсю дарогу думала пра бацьку, пра Андрэя. Яна спрытна ўскочыла і прымасцілася каля дзеда. А дзед гадаў, кім цяпер пасля вучобы стала дзяўчына? Ён першы загаварыў і, як заўсёды, з падыходам:

— Но, паехалі!.. От, дзяціна, гора мне з гэтай нараўлівай жарабіцай. На хвілiначку сёння адхі-

нуўся да Еськаўскага Парамона. Закурыць. Пакінуў ля плота не прывязаную. Над ахапкам свежай атавы. Сам ранічкай накасіў... Не паспеў словам перакінуцца з добрым чалавекам, чую, гэныя бітоны тарарам з воза!.. Пустыя былі, дзякаваць богу! Як яна, памаўза, у тую канаву палезла? От, неслуш! Но-о!

Дзед Ермалай хоць лютаваў, сварыўся на кабылку, але дратаванкай толькі сляпнёў адганяў, палохаў.

— Твае экзамены закончаны ці не? Кім ты, як вучэнні закончацца, будзеш?

Ларыса пахвалілася Ермалаю, што вучоба скончылася. Яна адбывала практыку. Аж у Мінску. Цяпер будзе акушэркай. Накіравалі на працу ў медпункт пры сваім сельсавеце.

— Дзе ён? Яго ж няма, таго пункта.

— Будзе! Адкрыюць... Цяпер я ў адпачынку, цэлы месяц. За гэты час адкрыюць.

Ермалай слухаў і дзівіўся. Яго цікавіла кожная навіна. Быццам падсумоўваючы свае працяглыя назіранні і думкі, ён сказаў:

— Правільна гаворыш. Добрае рашэнне будзе. Калгасам трэба мець сваіх дактароў, аграномаў, механікаў. Ліквідзіраваць недахоп такіх спецыялістаў на сяле! От, каб ты раней прыехала, сама палячыла б Андрэя. Не спатрэбіліся б раённыя дактары...

Ларыса аж уздрыганула. Не змагла ўтаіць хвалявання...

— Божачка, а што яму такое? Дзеду, я не ведаю нічога ад майскіх святаў. У Мінску я спаткалася аднойчы з Марусяй Агапавых. Тая казала пра Андрэя. Але яна сама толкам не ведала. І гаварыла, нібыта вас арыштавалі. Гэта праўда?

— Андрэй Дубовік малайчына! — зноў зводдаль,

як наогул, пачаў дзед.— Як працаваў, так і працуе ў Навасёлках. Сёння вы пабачыцеся... Ён чакае цябе. (Ларыса яшчэ больш заружавела ў твары, бліжэй прыгарнулася да дзеда.) Праўда, ходзіць з павязкай на руцэ. Забінтаваная. Дзіверсант укусіў... Зубы, як у ваўка. Андрэй паказваў. Во тут! (Дзед кіўнуў на свой локаць.) Не хвалюйся! Кажу табе смела. Яго могуць узнагародзіць... Дадуць, можа, як майму Паўлу, ордэн... Чула, як Паўла ордэнам Чырвонай Зоркі ўзнагародзілі? На граніцы з боем затрымаў самураяў.

Ермалай распачаў вядомыя ўспаміны, як і ён калісьці ваяваў. Як ішла вайна руска-японская. Толькі дзед прыкмеціў, што дзяўчыну больш цікавіць, што робіцца ў Навасёлках.

— Як здарылася, Андрэй сам раскажа. Мяне ж не было. Дзіверсант, а яго аднекуль у сяло прывёз Вілюеўчык, уцякаў. А Андрэй дагнаў і выкупаў у рэчцы. У віры. Коля Бортнік памог... Выцягнулі на бераг, звязалі рукі папружкай. Ён табе сам раскажа да макулінкі.

— Божухна! — жахнулася Ларыса.— Адкуль ён, гэты дыверсант?

— Шпівон,— спакойна адказаў дзед.— Дзе яго выкапаў гэты Качараў сукін сын, ніхто не ведае. Прывёз бытта лячыць рысака Варанога. Ён жа яго скалечыў. Узагнаў на барану. От, і ўзяліся напару лячыць. Не лячылі Варанога, а коням прышчэпку давалі. Заразу! Ад уколаў загінула шэсць галоў. І Вараны... Хацелі, недавяркі, усёй скаціне хваробу прышчапіць, але Саковіч памяшаў. Не дазволіў. Андрэй раскажа падрабязна, як ён ветэрынара падпільноўваў. У партфелі таго ветэрынара быў яд і рэвальвер...

— А мой тата? Дзе быў мой тата?

— Старшыня быў у камандзіроўцы.

Наконт старшыні ў дзеда існавалі ўласныя меркаванні. Асобыя. І дачцэ ён не хацеў іх выказваць. Наступіла маўчанка.

— Яго некаторыя людзі папярэджвалі. Казалі, хто такі Вілюеўчык. Ён не паслухаўся.

Жаўтабрушка апынулася ля апошняга ўзгорка. Адсюль як рукой падаць сяло... Што гэта? Дзяўчына са сполахам прачытала на дошчачцы, прыбітай да слупка: «Праезд забаронены. Эпідэмія. Каранцін».

— Глупства! — сцябаючы пугай па слупку, супакоіў дзяўчыну Ермалай.— Цяпер можна. Мне дазволілі ездзіць. Я зноў Жаўтабрушку адводжу ў канюшню на стойла. А вот калі я вярнуўся, між кароў начавала... Но-о! Бачыш, дзіцятка, якія пісягі на баках, а на спіне?.. Такія і дручком не зробіш. Усё ён, Вілюеўчык, дубасіў. Знайшлі мне падмену. Таго, што жывёлу губіць...

— Значыць, з вамі гэта ўсё праўда? — нясмела запыталася дзяўчына.

Дзед памаўчаў. Ён, як і Андрэю, давяраў Ларысе. Не раз памяркоўна разважаў аб ёй з Андрэем. Уздыхнуў і пачаў:

— Як у народзе гавораць, ад торбы і турмы не заракайся. Сядзеў. Па заяве сваяка Пагуляйскай. Мая Кацярына галасіла, нібы па нябожчыку, як я ад'язджаў. А я ёй — чаго ты, дурная, галосіш? Разбяруцца і адпусцяць. Так і выйшла. Разабраліся і адпусцілі!

— Дык за што?

— Па заяве Вілюеўчыка.

— Дык а за што? — паўтарыла дзяўчына.

— Там у заяве паклёп. Што я падкулачнік! Які ж я падкулачнік? Што маю Георгіеўскі крыж. А я заслужыў, як і мой Павел, свой ордэн... Наш, кажу, дзвесце чатырнаццаты Макшанскі полк атлічыўся

ў баю з японцамі. У гісторыі значыцца. Мне і павесілі крыж, за храбрасць! Паміраць буду, няхай у труну яго пакладуць. І ў міліцыі гаварыў, і табе гавару.

— А дзе ён цяпер, Вілюевіч!

— Збег! Нават чамадана ў спешцы адрокся. Прыехалі таварышы яго арыштаваць — толькі чамадан арыштавалі. А самога і след прастыў... Можа, у другім сяле або горадзе цяпер хвастом віляе... Такі прайдзісвет! Ён усюды дапне і прыліпне, паслугач! Да ўсякага, ліслівец, падліжыцца... Ведаеш, дачушка, я так надумаўся аб ім і табе кажу. Яго, Вілюеўчыкава, віхлянне не ў нашым людскім характары. І не наша манера... Чужога поля гэта... Я сказаў бы, чужы грунт, дзе сеецца і расце рознае пустазелле. Пакасць! Бач, яго паскудства ў шкодніцтва ператварылася... Шпівону дагаджаў, памагаў... Ну, от мы і дома!

Дзед дапамог Ларысе зняць з воза.

— Што перадаць Андрэю? Ён мой сусед. Я яго раней убачу...

Ларыса засаромелася, а потым шчыра, даверліва, з тым пачуццём, якое выказаў ёй Ермалай, проста сказала:

— Перадайце Андрэю, што я, сёння, увечары, буду чакаць там, дзе ён ведае... На нашай лавачцы. Няхай прыходзіць!

...Першай дома Ларысу спаткаў, канешне, Босы. У сенцах сустрэла маці. Абняўшы дачку, яна заплакала:

— Няхай ён галаву падверне, гэты паскуднік! Як я рада, мая дачушка, што ты дома. Зусім вярнулася?.. Я ночы не спала, думала, ты прагневалася на нас... Мы ж не ведалі, дзе ты?

— Я ў Мінску была. У мінскай бальніцы практыку праходзілі. Не плачце, мамачка... Я на

выдатна здала і экзамен і практыку. Атрымала пасведчанне. І накіраванне.

Маці ласкава прыгарнула да сябе дачку.

— Бацька наш хварэе. Вельмі цяжка. Ляжыць.

Бацька, сапраўды, з падвязаным цёплай хусткай падбародкам — толькі тырчэлі вусы,— ляжаў на ложку і пакутліва войкаў. Балелі грудзі. З дачкой ён вінавата неяк прывітаўся і жаласна пачаў скардзіцца:

— Я, дачушка, здароўе сваё на грамадзянскай паклаў... Ці ж спадзяваўся я, што гэта такой бядой закончыцца... Я ж хацеў, каб усё ў гаспадарцы толкам ішло, усюды парадак быў, о-ох!.. А пільнасць занядбаў... Добра, якраз ты прыехала. Во, тут баліць!

Бацька войкаў танклявым галаском. Дачка расшпіліла яму нацельную кашулю і, прытуліўшы вуха да грудзей, слухала доўга, як доктар. Сэрца грукала няроўна. Ларыса хуценька са свайго чамадана дастала бутэлечку з каплямі. Але бацька, глынуўшы лекі, войкаць не перастаў. Ён быў хворы. А хвораму сэрцам патрэбен спачынак. На першай пары дачка так і парашыла. Супакоіла. І лякарства дала ад сэрца, якое ў старога будзёнаўца скакала галопам.

...Увечары Ларыса выйшла ў садок. Андрэй ужо чакаў пад ліпай. Ніякай павязкі на руцэ не было. Мабыць, зняў. Падаўшыся насустрач, ён баязліва запытаўся:

— За намі ніхто не цікуе?

— Не.

— Як бацька?

— Хворы.

Яны абняліся і пацалаваліся.

Селі побач, як некалі, і, шэпчучы, пачалі рас-

казваць адзін аднаму, што было з імі за час разлукі.

У клубе над ганкам у Навасёлках прымацаваны радыёрупар. І да сялібы Вароніча адтуль данасілася песня. Яе чулі па ўсім сяле:

> Если завтра война, если враг нападет,
> Если темная сила нагрянет...

Неўзабаве ўсё сяло заціхла...

Яны сядзелі пад ліпай на лавачцы ў абдымках. Іх сэрцы біліся моцна, сугучна. Андрэй з Ларысай прытуляліся так, быццам баяліся, што нехта іх зноў разлучыць!..

Хто? Хто мог не дазволіць сядзець удваіх? Хто мог перашкодзіць быць разам?..

А хоць бы світанне! Новы працоўны дзень. Ён светла-ліловай палоскай свяціўся на ўсходзе... Дзень ужо збіраўся ўставаць.

Шкада, што кароткая ноч!

# ХЛЕБ-СОЛЬ

Старшыня калгаса Аляксандр Пятровіч, пажылы дзядзька, з яршыстым кусцікам белых вусоў, сядзеў за сталом задаволена і заспакоена, хоць унутры яго не сціхаў, цікаў нейкі заведзены механізм. Ён паклікаў да сябе ўсіх, хто знаходзіўся ў праўленні: брыгадзіраў, бухгалтараў, якія трапіліся пад руку,— на пяць хвілін. Каб паведаміць: званілі з раёна, быць напагатове. Прыехалі госці. З-за мяжы. Паслязаўтра ранічкай сустракаць... Не раз збіраліся, раіліся пра гэта, дэтальна абмяркоўвалі, што наладзіць, што паказаць, дзе і як спаткаць прыезджых.

— Вось так. На гэтым усё,— паклаўшы далонямі рукі на стол, скончыў «пяцімінутку» старшыня.— Перадайце тым, хто за што нясе адказнасць.

Здаецца, у думках першачарговае перабралі, пералічылі і, калі засталіся якія дробязі, то па ходу сустрэчы самі выкантуюцца. Аляксандр Пятровіч, зірнуўшы ў той бок, дзе сядзела Нона, масавік калгаснага Дома культуры, жартам кінуў:

— Цеста яшчэ не замясілі? Хлеб-соль смачны будзе?

— Будзе,— адказала метадыст-масавік.

Прыгожая, у стыльным джынсовым касцюмчыку, яна, нібы дакладваючы, устала. Нона пасля

заканчэння інстытута культуры нядаўна прыехала ў Явароўшчыну. І ўжо спадабалася моладзі: пасучаснаму развітая, вясёлая, энергічная, паспела арганізаваць вакальна-інструментальны ансамбль пад назвай, праўда, не для ўсіх зразумелай, «Задыякі». Аляксандр Пятровіч, часам мыляючыся ў назве, імянаваў іх «забіякі». Але ініцыятыўныя пачынанні масавіка падтрымліваў і ўхваляў.

— Як толькі госці выйдуць з аўтобуса,— пачала рапартаваць Нона,— наша харавая група заспявае віншавальную. Песню мы развучылі... Тут нашы дзяўчаты на вышываным ручніку паднясуць пірог...

— Хто паднясе?

— Таня, Люда і Лёдзя. З харэаграфічнай групы. Яны пад бурныя воплескі выступаюць на канцэртах.

«Таня і Люда — на кароўніку даяркі»,— прыпамінаў Аляксандр Пятровіч. Ён іх ведаў. А дзе працуе Лёдзя, не мог успомніць, пачаў дапытвацца:

— Хто з іх пячэ каравай?

Дзяўчаткі ў гурце з Нонай захіхікалі. Пачалі пераглядацца, перамаўляцца, збянтэжыліся.

Выяснілася — ніхто!..

— Гэта не пытанне, Аляксандр Пятровіч,— бойка адказала Нона.— Мы закажам, нам спякуць!

— Каму закажаце?

— Сядзем на электрычку і ў Мінск! У рэстаране «Патсдам» ці ў «Журавінцы». Калі няма гатовых, мы ўжо думалі, пачакаем... Я ведаю, там выпякаюць торты, пірагі. Любога гатунку.

Пакуль слухаў масавіка-метадыста, старшыня сабе разважаў. У Яварoўшчыне спакон быў звычай: шаноўных, здалёку прыезджых вітаць сваім хлебам-соллю. Явароўцы задушэўныя, гасцінныя —

уласным сустрэнуць, пачастуюць і, праводзячы, свайго гасцінца дадуць з сабою... Баба Волька адразу кінецца ў камору, што-небудзь вынесе ў дарогу. І не адна яна такая.

— Хіба мы самі не можам спячы каравай? — насупіўся Аляксандр Пятровіч.— Хіба ў нас пытляванай мукі няма або куры не нясуцца?

Дзяўчаткі зноў захіхікалі. Вось табе — на, першая дробязь!..

Калі сур'ёзна задумацца, які тут жарт? Што, ніхто з дзяўчат не ўмеў спячы каравай? А некалі ж гэтак любілі пячы пірагі. А зараз?.. Вядома, цяпер яны, дзяўчаты, знойдуць апраўданне, чаму некаторыя неахвочыя да кулінарнага майстэрства. У Явароўшчыне ж ёсць гандлёвы цэнтр. А ў тым цэнтры хлебны магазін, дзе можна купіць бохан жытняга, сітняга хлеба, батон. Навошта ж пячы ўласнымі рукамі, калі ўсё ёсць гатовае, свежае, духмянае, за некалькі капеек.

— Можам і мы, таварыш старшыня,— раптам нясмела адгукнулася Таня.— Ёсць у мяне дома электрычны прыбор «Цуд», што пячы пірог...

— А вы бабу Вольку, Хведарыху, ведаеце? — радасна штосьці ўспомніўшы, загаварыў Аляксандр Пятровіч.— Тут жыве, на цэнтральнай сядзібе, у доміку з сінімі ліштвамі. От нешта яе не бачу, ужо старэнькая, можа, занядужала... Яна партызанскі хлеб нам пякла... Дык вы зайдзіце да яе, праведайце і папрасіце, толькі па-шчырасці, ад душы. «Баба Волька, навучыце нас спячы каравай. Гасцей будзем сустракаць. І вы з намі... Бяром у кампанію...» Ласкава ўгаварыце, яна вам такі цуд спячэ, што, як кажуць, ніводзін рэстаран Парыжа не дакажа... А згодзіцца толькі павучыць ці паказаць, не адмаўляйцеся. Занатуйце сабе на памяць. Ну, вядома, падрыхтуйце, каб усё было пад рука-

мі. Муку выпішыце ў бухгалтэрыі. Я распараджуся. Цукар, яйкі там, розныя спецыі, што яна вам закажа. Пра дровы, канешне, музыку з ансамбля няхай пастараюцца. Печ распаліць самім трэба будзе... Гэта вам і палітэхнізацыя, і свой час сэканоміце. І на білеты на электрычку, туды і назад, не патраціцеся...

Слова старшыні, як казалі ў Явароўшчыне, спачатку — развага, просьба, а потым — загад. Кемлівым дзяўчатам не чакаць жа апошняга.

Нона не ведала бабу Вольку. Хто такая Хведарыха? Ідучы да яе, сяброўкі расказвалі пра бабу, але ў Ноны мроіліся свае думкі. Масавіку-метадыстцы не хацелася адступаць ад спланаванага — паездкі ў Мінск. Нона гадала, каб усё выйшла на высокім узроўні, шыкоўна. Каб выглядала прыгожа, па-гарадскому. Што там вымудрыць старая вясковая кабета? Як яно будзе глядзецца на ручніку ў руках дзяўчат? Нона таксама перагаворвалася з райцэнтрам па тэлефоне і даведалася, што прыедзе асвятляць сустрэчу многа карэспандэнтаў, а галоўнае, фотакарэспандэнтаў. Нават апаратары з тэлебачання і кінахронікі. Ёй, масавіку, трэба несці адказнасць за арганізацыю, за ўсё. Як яе навучалі: неабходна мець сцэнарый усёй масоўкі. Яна і думала, што сказаць у прывітальным слове, пра віншавальную песню, пра вяночкі і стужкі, пра нацыянальныя ўборы. Каб дзяўчаты выйшлі прыгажунямі. Гэта ж экран! Трансляцыю будуць паўтараць на ўсю рэспубліку. Затрымка і закавыка з гэтым традыцыйным караваем — хлеб-соль!..

Домік бабы Волькі, невялікі, стаяў, сапраўды, з перафарбаванымі ў сіні колер вокнамі. Пабудаваць яго, дзяўчаты казалі, памог калгас. Баба адзінокая. Прозвішча Кісялёва. Па-вясковаму Хве-

дарыха. Яе гаспадар, Хведар, не вярнуўся з фронту. А яна з усёй дзятвой была ў партызанах. Старэйшага сына, Міколу, і дачку Просю фашысты забілі. Засталіся двое. Сымон, які зараз дзесьці служыць у арміі, палкоўнікам, а мо ўжо і генерал. І Міхась — у горадзе, на трактарным заводзе працуе. Баба Волька летуе тут, у Яварбўшчыне, з Міхасёвымі ўнукамі. Зімою ў сына гасцюе. Гэта Нона, ідучы, слухала і не слухала, думаючы сама сабе, чула і не чула.

Як зайшлі дзяўчаты, баба ад нечаканасці здзівілася. Ветліва запрасіла на тапчанчык. Нона, як села, позіркам абвяла наўкол. Лабастая печ з прыпекам, куплёны ложак ля акна, галерэя партрэтаў на сценах, вазоны з падстаўкамі на падаконніках, тэлевізар на покуці, некалькі крэслаў са спінкамі — сучасная абноўка,— а ў парозе шырокая доўгая лава на ўсю сцяну, як у старадаўніх вясковых хатах. У куточку стаіць нейкая круглая кадушачка, накрытая белым абрусам.

Бабка Волька таксама насцеражылася. Яна села якраз насупраць Ноны, на крэсле. Ражкі малой квяцістай кашміроўкі паправіла і разгладзіла іх на грудзях, упалых, атуленых мешкаватай вязанай шэрай кофтай. Рукі, нібы пры адпачынку, вольна паклала сабе на калені.

Нона строга разглядала ўсё позіркам фотакарэспандэнта. Вочы гаспадыні шэрыя, як асфальт. Нос прадаўгаваты. Бледныя, маршчакаватыя шчокі, з дробненькімі складачкамі ля вугалкоў тонкіх губ. Набіваныя вяргіні на рожках хусткі натапырыліся абапал бурштынавых гузікаў на кофце. Зашпіленай, каб цяплей было. Але што надта ўразіла — рукі бабы Волькі. Спрацаваныя, з крывымі пальцамі рукі, на якіх сінімі вузламі набухалі буйныя жылы. Ад хворасці і старасці.

«Не, яна не падыходзіць на святочную ўрачыстасць,— думала масавік-метадыстка.— Зусім нядужая, кволая, слабая. Чаго Аляксандр Пятровіч рашыў браць у нашу кампанію. У яе нефотагенічнае аблічча. Ну, куды такую сухенькую старую з хлебам-соллю выстаўляць перад аб'ектывам кінакамеры? Ад знакамітага калгаса-мільянера!.. Яна сама, бадай, не згодзіцца. І добра, што не згодзіцца».

Але баба Волька, выслухаўшы просьбу дзяўчат, да неўспадзеўкі Ноны, якая — новы і нетутэйшы чалавек — сядзела задуменна і моўчкі, раптам сказала:

— Я думала каравай каму-небудзь з вас на вяселле,— і ўсміхнулася вельмі ветлівай усмешкай.— Ды гэта можна. Было б з чаго!..

Баба Волька — негаваркая, нават заўсёды насупленая, але, як і ўсе жанчыны, калі пад настрой, магла разгаварыцца, расчуліцца, нават пажартаваць. Дзеля бяседы настрой чалавеку патрэбен. А явароўскія дзяўчаты абнімалі яе, так ласкава шчабяталі, што прыйшліся ёй да настрою. Яны пазнаёмілі з Нонай, сказалі, што яна кіруе самадзейнасцю і музыкай у Доме культуры.

А тая раптам нечакана, нібы пры допыце, сур'ёзна спыталася:

— Вы, кажуць, партызанам, хлеб пяклі?

— Пякла,— адказала баба Волька, патупіла вочы і ўмомант жвава падхапілася з крэсла. Яна выглядала не па гадах рухавая і руплівая. Дзе толькі таілася дужасць? Нона тут зразумела, што пытанне яе было не дарэчы. Бабе, сапраўды, не хацелася варушыць успаміны, шмат розных думак не ўтаймоўвалася пра мінулае; нібыта распоранае гняздо восаў, таму яна змаўкала, не адказвала на такія запытанні.

— Калі вам трэба пірог? — звярнулася яна да дзяўчат.— Госці калі прыязджаюць? Паслязаўтра... Тады давайце за дзела!

Калі сабраліся, ужо вечарэла, працоўны дзень канчаўся, прыйшлі талакой. Ледзь не ўсім ансамблем. Прыйшло больш, чым трэба. У хаце Хведарыхі стала цесна. Зайшлі, хто памагчы, хто паглядзець, паслухаць. Каму не цікава, як спячы смачны каравай? Узялася за яго не абы-хто — Хведарыха! І хоць пячыся яму было не сёння, цеста яшчэ не гатова, але ж пэўна, што ён, пірог, поўны, як гэты круглы месяц, што заглядае праз акно, заўтра палезе ў печ, таму хіба не цікава прасачыць за падрыхтоўкай, паслухаць гаспадыню.

Хата цяпер нагадвала краму, ці то пякарню, або кухню. На лаве стаялі розныя, вялікія і малыя, міскі. На стале — талеркі з яйкамі. Каму з гасцей не было дзе сесці, стаяў. А на двары за акном звінела піла і раз-пораз грукала сякера. Хлопцы з ансамбля рыхтавалі распалку, калолі дровы.

Баба Волька кругом ладкавала, ходзячы між дзяўчат, пыталася:

— Цукровую пудру прынеслі? Дзе яна? Не пераблытайце са сваёй, што на шчокі... І цукар няхай будзе, але і цукровая пудра спатрэбіцца.

Таня мігам працягнула ў рукі бабе невялічкі, нібы з чаем, пачачак. Увішная баба старанна паспявала ўпынящца, з усімі размаўляць, і, як бачна, не без гумару.

Больш за ўсіх распытванне вяла Нона, і гэта ансамблеўцы разумелі. Хведарыха таксама ўжо прызвычаілася да яе. Нават, як яна прынесла муку, пахваліла гарадскую Нону. А што цікаўная — ведама, навенькая.

— Дзеля чаго тут стаіць такая бочачка? — паказала Нона на кадушку на лаве, накрытую чыстым абрусам.

— Дзяжа,— прызналася старая.— Хоць я зараз хлеб не пяку, няма для каго, дзежачку набыла... Аж у Стоўбцах. Пасля вайны... Тады пякла боханы, а цяпер... Няхай будзе!.. Некалі яна ў сельскай хаце на відным месцы была. Бачыш, зачыняецца ліпавым вечкам з абячэйкай. А зверху засцілаецца надзежнікам. Пустая ці з цестам, усё роўна накрываецца абрусам. Хлеб пячы — не толькі ўмельства гаспадыні.

— Вы ўмелі смачны хлеб пячы?

— Усялякі. Як удасца.

Баба Волька перайшла на згадку, не збіраючыся ўспамінаць, загаварыла, як удаецца смачны хлеб. Вядома, трэба ўмець спячы. Ён удаецца і ад рошчыны, і ад памолу, і закваскі. З няякаснага памолу хоць сабе пры найлепшай і свежай заначцы-заквасцы, хоць сабе ў сярэбранай дзежцы, цеста не падыдзе. Не дагледзіш — перакісне... Ацеслівым спячэцца. З закальцам на ніжняй скарынцы. Які тады смак?.. А пячы даводзілася на чэрані. Чарэневы хлеб выпякаюць на кляновых лісцях. На дубовых. На аеры. Яе Хведар любіў печаны хлеб на дубовых лісцях. З кменам. Як ішоў на вайну, Волька паклала любімы акрайчык у торбу... У вайну, бывала, хлопцы-партызаны прыйдуць, прынясуць мяшок жыта і кажуць: «Ну і смачны хлеб, цётка Волька. Яшчэ такога спячыце». А яна ўмела пячы. На язык спачатку каштавала сырое цеста. На смак. Ну, як жа?!. А тут, помніць, пячы і асцерагайся! Прыносілі хлопцы жыта нячаста. Раз у два тыдні, а то і радзей. Яна ж, Волька, сама яго малола, на жорнах. Адна. Пачне і баіцца, каб клямка ў дзвярах неляснула.

Хто ідзе? Чаго?.. Сына Сёмку выпраўляла на вуліцу. Папільнаваць. Каб хто не вынюхаў...

Адзін раз Сёмка прыбег і кажа, што староста Мікіта пытаўся, чаму маці так часта хлеб пячэ. Пахне з коміна. А другі раз: адкуль маці муку на хлеб дастае...

— От так, дзевачкі, хавалася, кідалася, а пякла боханы,— сказала баба Волька і, нібы закончыўшы свой цяжкі расказ, уздыхнула. Успамінаючы пра партызанскі хлеб, уздыхаецца нялёгка. Каб спыніцца на тым, баба Волька ўсміхнулася вінавата, але добрай, матчынай усмешкай.— Партызанам у лесе мае боханы падабаліся. Хвалілі іх. Я і на скавародках пякла. На скавародках хутчэй. У мяне ў вайну была адна скавародка глыбокая, шырокая, бохан выходзіў на кілаграмы чатыры... І ў прыдатак яшчэ маленькія скавародачкі. Па кілаграмы два...

На парозе паявіліся музыкі-дрывасекі. Адзін нёс бярэма дроў вышэй сваёй чупрыны. Прысеў, па паленцу асцярожна скінуў каля прыпека. Другія ўціраліся ад поту. Нехта сказаў, што дроў цяпер хопіць да зімы. Баба Волька падзякавала.

— Мне, як прыязджае Міхась,— пахвалілася яна,— усю гаспадарку даглядае. Ён мае рукі надта шануе.

Баба Волька, можа, успомніўшы меншага сына Міхася ці мо яшчэ што, зноў уздыхнула. Села на канапку. Хіба яна магла ўсё перажытае расказаць? Усе нягоды і пакуты. Але гэтыя юнацкія шматлікія пары вачэй пазіралі на яе шчыра, спачувальна і дапытліва. Ніхто з моладзі не разыходзіўся. Усе быццам ад яе чагосьці чакалі.

— Дык нехта прасачыў, падгледзеў і выдаў вас? — запытаўся хтосьці.

— Ну, хату ж маю спалілі,— умасціўшыся на

канапцы, адказала баба Волька.— Стаяла яна на тым канцы старога сяла. Самая крайняя. Каля лесу. Можа, я і выратавалася, што жыла бліжэй да лесу.

...Помніцца, аднаго вечару прыйшоў брат Максім. Ён быў у партызанах. Прыйшоў не адзін. Сябры, што былі разам, засталіся ў садку. Як на варце. Максім з мяшком зайшоў у хату. Паставіў жыта і паклаў на лаву сумку, у якой нешта металёвае цвякнула. І сказаў, што ў ёй патроны. «Па іх зойдуць хлопцы з Высокага берага. Цераз дзень. Спячы хлеба да іх прыходу,— загадаў ён.— Можа, я і сам прыйду. Але ў нас заданне. Чакай мяне ці хлопцаў. Ты іх ведаеш... Хацеў бы Сёмку ўзяць з сабою. Ты не супраць? Ён мне трэба». Сёмка, вядома, абрадаваўся. Ён даўно прасіўся да дзядзькі Максіма... І яна, памятае, засталася з маленькім Міхаськам. Яму тады ішоў трэці годзік. Сама змалола жыта. Учыніла хлеб. А на другую ноч, на досвітку, пачала пячы. Напаліла печ. Падцягнула дзяжу да прыпека. Нагатавала вялікую і чатыры малыя скавародкі. Стаўкла ў ступе прыгаршчы канапель. Гэта ў вайну такі каштоўны скарб — тлушч! Подмазкай макнуў у яго, у канапляную масляністую вадкасць на сподачку, працёр чэрствую скавародку, і бохан да дна не прыстане, не прыгарыць. Памажаш скарыначку зверху — зробіцца жоўценькай, блішчыць... Пакуль засланіла печ, сонца паднялося. Як кажуць: качаргой не дастанеш. Міхаська прачнуўся. Корміць малога, а сама ў акно паглядае. Можа, хто ходзіць, цікуе. Тыя разы Сёмку пасылала пільнаваць... І раптам чуе лямант на двары. Яна расчыніла фортку. Бачыць, бяжыць суседка Наста цераз вуліцу і крычыць: «Хавайцеся, едуць!» Хто едзе? Адкуль? Волька не паспела запытацца. Але

то — сігнал! Нешта ў грудзях адарвалася. Пасадзіла Міхаську на ложак. Перахавала сумку з патронамі пад сяннік. Хоча супакоіцца, думае...

Падышла, адчыніла засланку... У печы за шэрым прыскам боханы раскашуюцца, падрастаюць. Яна яшчэ павярнула чапялой крайнія скавародкі, зноў засланіла. Няхай яшчэ пасядзяць у печы: патрэскаюцца скарыначкі і смачна запякуцца па краях... Што там за трывога? Волька выйшла на ганак. З неспакоем у дрыготкім сэрцы накіравалася да варот. Чаго палохацца? Чаго баяцца гітлераўцаў? Гітлераўцаў яна ўжо сустракала. Неаднойчы. Казала ім, што салдатка. З малымі дзецьмі. Ёй верылі. Вось толькі на гэты раз, калі пачнуць трэсці ды знойдуць патроны? Трэба закапаць сумку на градзе... А хлеб?..

Волька ўзялася за верхнюю пярочку варот і, перахінуўшыся, зірнула ўздоўж сяла, па вуліцы. А потым у поле. Ёй з канцавога двара віднеўся на пагорку бальшак, па якім звычайна рухаліся войскі. Зірнула і ўся акамянела. Рукі пашэрхлі. Бегчы да ганка, схавацца ў хату, позна. Выкліча падазронасць. Яна смела, як стаяла, так і застыла, упарта гледзячы на бальшак. Адтуль, па дарозе ў сяло, прама на яе імчаліся машыны з гітлераўцамі. Паперадзе адкрытая легкавушка. За ёй грузавыя. У легкавушцы сядзеў гітлеравец са срэбнай кукардай на шапцы, гіверам выгнутай спераду. Афіцэр. Ён і пачаў, як машына прыпынілася якраз насупраць Волькі: «Здесь дом Кіселёф? Ты есць Ольга Кіселёф?» На той момант у яе адняўся язык. «Навялі,— бліснула думка.— Гэта ж на яе. Яна — Волька». Смерць глядзела халоднымі вачамі. І ты нідзе не дзенешся. Яна цябе пытаецца, шукае твае хаты, адказвай! Волька, не моргаючы, атарапела, уставілася на сваю пагібель. По-

тым скіравала позірк на тых, хто сядзеў за плячыма афіцэра, на задніх сядзеннях. Там быў адзін, як і ўсе немцы, а другі — у лапавухай шапцы, зашпіленай на макаўцы. У Волькі закружылася галава. Нейкай загадкай здаліся вочы лапавухага. Ён нібыта варочаў зрэнкамі — не прызнавайся! Ва ўсякім выпадку, тады ёй здалося, што тры гітлераўцы ўставіліся, як пуставокая смерць, а чацвёрты — з нейкай загадкай. Волька, нібы аслупянелая, нехаця кіўнула галавой: «Не, не! Кісялёва хата крайняя, з таго канца сяла. Вунека!» І паказала яшчэ пальцам. Спакойна і ўпэўнена. Мільгнула надзея: можа, крыху расцягне наканаваны час. Машына фыркнула, памчалася, за ёю другія. Вольцы чамусьці запомніўся позірк таго, што ў лапавухай шапцы. Гэта нейкая загадка.

Яна кінулася ў хату. «Міша, сынок, дзе твая світка? — звярнулася да малога.— Пабяжым у лес. Далёка-далёка». Адчыніла засланку. Пачала даставаць хлеб. Хлеб! Там у атрадзе яго чакаюць. Гэтых свежых, духмяных боханаў. Хіба можна іх кінуць і пабегчы? Хоць бы ратуючыся ад смерці. Хутчэй! Але ж надта гарачыя. Усю агністасць чырвоных вуголляў напаленай печы — не кранучь — яны захавалі ў сабе пад румянымі скарынкамі. Бывала, дастаўшы чапялой патэльні, Волька выкульвала іх з пасудзін у прыпол. Несла да акна і роўненька ставіла побач на зэдліку — гарачыя, гарбатыя круглякі. Няхай аддыхаюцца і астудзяцца. А зараз? Калі ж было астываць? Такія пульхныя ўдаліся, як ніколі, аж не лезуць у мяшок. Памацала праз мешкавіну, усё роўна пякучыя. Ускінь на плячо, нібы агнём апячэш цела. Волька разаслала посцілку на падлозе. Дамотканую, у чорна-зялёную кветку, каб не кідалася ў вочы, як будзе несці. І праз мяшок, праз тоўстую

посцілку пячэцца рука. Якую ж яшчэ прыдумаць пракладку? Падушка! Дастала з-пад сенніка сумку з патронамі. І патроны трэба забраць! Яны, можа, каштоўней, чым хлеб. Не, і тое, і другое дарага... Спачатку на разасланую посцілку склала боханы, на іх сумку з патронамі і наверх падушку з пер'ем. Звязала рагі клятчаткі крыж-накрыж і ўзваліла на плечы, прасунуўшы рукі пад вузлы. «Сынок, хадзі ка мне, сядай на руку! Абнімі маму за шыю». Праз дзверы расчыненыя ледзь праціснулася. Такая была вязанка. Як ні мяркуй: столькі напакована. І ўсё панесці: падушка з пер'ем, патроны ды пяць буханак хлеба... Толькі Волька не чула на сабе цяжару. Садком, праз агароды, паўмежкам бегла да лесу. Не дабегла з гоні, як у сяле пачалася страляніна. Яна аглянулася. Гэта быў апошні позірк на сваю хату. І заўважыла: не адна яна ўцякае. Схавацца ў лес беглі многія. Бегла Наста. Між град кульгаў стары Пракоп. Бурчаў на жанчын: «Згінайцеся, паўзком». Волька паспрабавала на чацвярэньках між бульбоўніку, нібыта выбіраючы бульбу. Вязанка-горб насоўвалася на карак. Пот цурком заліваў вочы. З ілба кроплі сыпаліся на шчокі, сцякалі ў раскрыты ад задыханасці рот. Салёныя, цёплыя. Яна, дзе подбегам, на ўвесь рост, дзе рачкуючы, як з паклонамі да сосен, мерала гоні зямлі. «Сынок, мацней абнімай»,— прасіла яна Мішу. Вось і кусты. Кусты яшчэ не дрэвы, але за імі льга ўкрыцца...

Стралялі ўжо на абодвух канцах сяла. Бабахнулі тут, адкуль яна выскачыла. Волька яшчэ аглянулася на Явароўшчыну, а пад нагамі карэнне, сухое ламачча... Зачапілася — упала грудзьмі, навалілася ўсім целам на дзіцё. Толькі Міша, малайчына, не заплакаў. Шчыльней прытуліўся да

маці. Міхаська маўчаў. Увесь час маўчаў. Між высокіх дрэў стрэлы загрукаталі, нібыта з усіх бакоў. Мо гэта рэха? Страляніна ішла з берага лесу, а адгукалася з глыбіні. Волька спынілася ў непакоі. Куды ж ёй? Ёй трэба звярнуць направа, а справа чулася чарга за чаргой. Там кірунак да Высокага берага, аб якім гаварыў Максім. І туды патыкацца нельга, не рухацца — таксама. А хіба не выпусцяць за ёй гайню-пагоню? Што рабіць? Не, трэба спяшацца ў Высокі бераг. Там яе чакаюць. Туды яна нясе ношу. Вузлы ўрэзаліся ў горла. Ну, проста здушыла, як пятлёй. Дыханне займае... Падушка, мабыць, калі падала Волька, ссунулася ўніз, і цяпер бохан хлеба не толькі ціснe, цёпленька грэе праз кафтанік. Хлеб не скора стыне... Вось прасека. Лінія ад вёскі — у глыбіню лесу. Папаратнік, вываракі, пні. Прасека прасвечваецца, і з берага, адкуль ідзе страляніна, усё відаць. А Вольцы трэба яе пераскочыць. Не змаўкаюць аўтаматы. І, здаецца, забубнеў кулямёт. Волька з ношай перад лініяй прыпынілася. Прысела, як на шчасце. Паварушыла плячамі, спацелымі, упрэлымі пад вязанкай. Пераменіла руку з дзіцем. Паглядзела туды, адкуль заядла гыркалі стрэлы. Прыслухалася: ці яны набліжаюцца, ці чуюцца на адным месцы? Здаецца, не набліжаюцца. Прасека нешырокая, некалькі метраў, але... Як перабегчы, каб не заўважылі? Паўзком. Ціхенька. Не інакш... Волька разлічыла, што будзе паўзці лукаткай: ад гэтага пня — да таго пня, а потым да куста. З прыпынкамі. Падняцца — небяспечна. І праўда. Каля шэрай карчагі яна затрымалася, прытаілася на хвілінку. Вельмі загыркалі аўтаматы з боку бальшака. А суседка Наста — ажно яна следам за Волькай прабіралася — зусім побач была забіта. Волька бачыла, як Наста крочыла цераз прасеку на

ўвесь рост і адразу ўпала, як падкошаная. Яна яшчэ паклікала: «Наста!» Ні слова... Тады Вольцы стала боязна. Не за сябе. За маленькага Міхаську, які туліўся да матчыных грудзей. Адтуль, дзе стралялі, здаецца, утаропіліся пустыя вачніцы смерці. У той шапцы, з кукардай. Здаецца, вышуквалі яе. Волька, засланяючы ўсім целам сына, бокам папаўзла. І тут адчула, нібы хтосьці рэзка таўхнуў вязанку на плячах. Са спіны — на каўнер, на патыліцу. Раз, другі раз!.. Яна шчыльна прылягла з Мішам да травы з шышальнікам. Зрабілася нерухомай. Пакуль не прыціхлі стрэлы. Ляжала і думала: «Зараз гітлераўцы набягуць і схопяць. Можа, мінуць, не прыкмецяць?»

Лежачы ніцма, востра пачула гарачынь боханаў. Асабліва на шыі. Да гэтага яны не надта пяклі. Цяпер ад іх зашчымела нясцерпна... Але вось Міша разняў абдымкі мамы, зацiснутыя на яе патыліцы — дзіцячыя ручкі здранцвелі пад учэпістымі, туга завязанымі краямі посцілкі — і Волька ўгледзела на яго пальчыках кроў. «Сыночак, дзе боля? — спалохана запыталася маці.— Пакажы, дзе баліць?» Але Міша толькі сапеў носікам. Маўчаў. Яна слінай змачыла ліпучыя дзіцячыя далонькі і выцерла іх аб свой кафтанік. Ніякай раны. І тады стала зразумела. Шыю і плячо пякуць не боханы хлеба. Ёй на грудзі з потам сачыўся клейкі ярка-чырвоны струменьчык... Яна ўсхапілася і, не помнячы сябе, не адчуваючы стомы, пабегла. Ужо не думала пра частыя стрэлы. Дагоніць куля — дык дагоніць. Яна ўжо нічога не баялася. Толькі крыві не хацелася бачыць. Бегла, бегла... Пакуль не натрапіла на балота. Балота з вокнамі лясной вады яе супакоіла — Волька трымаецца вернага кірунку. Максім казаў, што Высокі бераг — за невялічкімі азёрцамі, потым за дрыгвяністым бало-

там бугор, куды, не ведаючы сцежкі, ніхто не дабярэцца. Волька пасадзіла Мішу ля елкі. У лясной лужыне са светлай вадой змачыла сабе гарачы твар.

Яна ішла, нібы ў сне. І дайшла. Яна не помніць, калі дабралася да стаянкі партызан. З хлебам яе спаткалі як чакануе. Толькі развязаць вузлы посцілкі, зняць яе з сябе яна ўжо не магла. Асунулася на зямлю, прыціскаючы да сябе малога...

— Вось такія былі пірагі-боханы... Як цяпер гаворыць і прыгаварвае мой Міхась, калі на машыне прыязджае з Мінска,— закончыла ўспаміны баба Волька.

— З таго дня вы і засталіся ў партызанах? — парушаючы цішыню — усе ўважліва слухалі,— запыталася Нона.

— На мяне па сёлах розыск аб'явілі. Дык я на кухню пайшла, у гаспадарчым узводзе работу далі,— адказала баба Волька.— Рана доўга не зажывала. Лякарстваў не было. Раннікам прыкладала. Загаілася. Яшчэ добра, што куля наўскасяк прайшла. У мякіш,— баба расшпіліла бурштынавыя гузічкі сваёй кофты і паказала дзяўчатам плячук са шрамам на целе.— Во, фельчар кулю дастаў... Хлопцы казалі, мяне ад смерці падушка і Максімавы патроны зберaглі. Рыкашэт, кажа, палучыўся. А я ім: «Добры, кажу, рыкашэт. Што ж, каб у патронах капсулі з порахам пачалі ўзрывацца? На спіне». Хлопцы смяюцца. Потым яны сталі есці мой хлеб, а ў боханах кулі. На зуб папаліся некаторым... Ну, той немец, што мне запомніўся, не гітлеравец. У скорасці перайшоў да нас у атрад. Аказаўся свой чалавек. Чэхаславак! Звалі яго Здэнакам. Карміўся ў партызанскай сталоўцы. На заданні хадзіў. Я яго, як і ўсіх, карміла. Зваў мяне «пэкаш». Па-іхняму пекар. Казаў, што тады ня-

мецкага афіцэра знарок прытрымаў на тым канцы Яवароўшчыны. Каб я змагла ўцячы... Ну, заўтра буду пячы вам пірог. Прыходзьце памагаць. Вы нанеслі мукі, на тры пірагі хопіць. Бач, якая! Нібыта крухмал. О-го, каб такая была ў нас у партызанах!

— А якая там была? — цікавілася, не хацела разыходзіцца моладзь.

Баба Волька, зашпіляючы на ніжні гузік кофту, зноў цяжка ўздыхнула.

...Пачалася блакада. Перад вызваленнем. У лагеры заставаліся дзеці ды старыя. Вярталіся галодныя. Накармі! Дай хоць кавалачак хлеба. Спячы, гаспадыня! А з чаго?.. Як успомніць баба Волька, сумна і горка. Мукі ж не было. Яна старалася, каб тое, што шыпіць, смажыцца на скавародцы, не драла горла. Дык што рабіць? Па-народнаму звычаю мудравала-калдавала — выпякала з таго, што мелася пад рукамі... І ўсё, што збірала, назапашвала, сушыла, потым крышыла, таўкла ў ступе, малола ў жорнах. Малола і верасковыя крупы, і шчаўевае семя, і зялёную пацяруху з ліповых лісцяў, і беленькі мох, і тоўчанае бульбяное шалупінне. Выходзіла мука. З такой мукі рыхтавала рошчыну на хлеб. Канечне, у рошчыне заставаўся ржаны пачатак. Але колькі тае ржаной мукі? Хутчэй гэта не мука, а шэрая мякіна. Нічога. Учыняла. Мясіла. Пякла... Усім есці хочацца. Вадой сыты не будзеш. А яна, Волька, і старыя ў зямлянках, часамі тым і задавальнялі свой страўнік. Сухар, лепшы кавалачак аддавалі дзецям, пакідалі тым, хто прыходзіў з баявой аперацыі. Параненым.

— Пякла на скавародках. Выходзілі пляскатыя праснакі,— казала баба Волька.— Хлеб — не хлеб... Як успомню, усё роўна як мыла. Нават колер карычневы. Пакуль цёплы, нішто сабе, а як астыне, нібы клей на зубах.

— Баба Волька, вы і праснак заўтра спячэце,— раптам, шырока раскрыўшы вочы, узгарэлася Нона. У яе, метадысткі, паявілася нейкая ідэя.

— Выдумала яшчэ! — запярэчыла Таня, зыркнуўшы на Нону.

— А што тут такога? Натуральна, дзеля кантрасту. Пірог і гэта... Няхай ведаюць, якая была вайна. Самая сапраўдная!

Баба Волька ўстала.

— Не, дачушка, гэта ўжо будзе нейкая гульня ў хлеб-соль. Вы, як спектакль будзеце ставіць пра партызанаў, скажыце, я тады спяку... Дзе ж я к заўтраму назбіраю лясных траў... Лепш прыходзьце зранку сюды, будзем пячы з таго, што вы сёння прынеслі.

Дзяўчаты прыйшлі. У бабы Волькі ўжо гарэлі дровы ў печы. На ўсю хату пахла чымсьці кісла-салодкім, смачным. Гэта ўсіх захапіла і падбадзёрыла.

Баба Волька прыбралася па-сапраўднаму.

Пячы хлеб — свята ў хаце. Тым больш урачысты пірог. Жылістыя рукі бабы Волькі хадзілі ўparта і старанна. Усім знайшлася работа. Ноне, як кіраўніку, баба загадала:

— Ты, старшая, печ даглядай! Качаргой паварушвай дровы, згараць хай на вуголле, каб толькі сіні агеньчык пырхаў. Тады мне скажаш... Дзве пасудзіны рыхтуйце! Два пірагі будзе. Адзін гасцям, другі — вам. Бачыце, дзеткі, як трэба размясіць! У пальцах усё перацерці. Тады каравай уздымецца гарой... Хто пляцёначку круціць? Як будзеце ўпрыгожваць? Можна проста наўкол па краі ёю абвесці. А наверсе — аладачку, як спадачак. Для солі... Ці хочаце пяцікутную зорку. І лічбу «сорак». Сорак жа год!..

Дзяўчаты зрабілі і так, і так. Які пірог лепшы ўдасца, той і паднясуць гасцям. Калі міскі, поўныя

пасаджанага цеста, з выкрутасамі наверсе, апынуліся ў гарачай вясковай печы, памочніцы стомленай бабе мылі рукі. Лёдзя трымала ручнічок, а Таня цёплай вадой палівала з конаўкі.

— От так робіцца цуд,— задаволена казала баба Волька, пераможна ўмасціўшыся на крэсле.

Нона каторы раз пачала паўтараць свой сцэнарый. Прыедуць госці, як зайграюць музыкі «Лявоніху», а потым яны з бабай Волькай панясуць гасцям гэты «хлеб-соль»... Баба Волька, як пачула сябе, устрапянулася. Яна хапілася за галаву і замахала рукамі: «Чаго я?! Вы — маладыя і паднось-це пірог самі. Уручаць — гэта ваш абавязак. У мяне пальцы не служаць, трасуцца. Вы наша змена, вам гэта пачэснасць». Нона ўсё ўгаворвала, а сама думала пра аператараў кінахронікі і тэлебачання. Чамусьці ёй неяк соладка смылела на сэрцы і нават захацелася абняць бабу Вольку. Цырымонія ўрачыстасці адбудзецца так, як яна планавала.

Баба Волька ў дзень прыезду гасцей згадзілася пастаяць ля музыкантаў на ганку калгаснага Дома культуры. Там былі праўленцы, брыгадзіры, Аляксандр Пятровіч. Наглядалі, як падышоў і спыніўся на плошчы «Ікарус». І — толькі госці паказаліся з аўтобуса — дзяўчаты ў вышываных сукенках, з вянкамі, з велізарным пірагом на ручніку накіраваліся да іх. За дзяўчатамі пайшлі кіраўнікі калгаса. Набеглі фотакарэспандэнты, кіношнікі. Нона сказала завучаныя свае некалькі слоў віншавання, і ў яе ад шчасця закружылася ў галаве.

Яна бачыла: сярод тых, што прыехалі адзін у сінім плашчы, відаць, старшы дэлегацыі, вылучыўся між сваіх таварышаў, падаўся наперад, да явароўскіх дзяўчат, удзячна зняў капялюш перад Нонай, ушчыкнуў сонечны каравай, абмакнуў кавалачак у соль і працягнуў сабе ў рот. За ім падышоў другі,

сівы, хударлявы, і паўтарыў тое самае. Але сівы хваляваўся, позіркам шукаў кагосьці між явароўцаў. Пірог паплыў з рук у рукі па ўсёй дэлегацыі. Елі, смакавалі...

Гаварылі ўсхвалявана, радасна.

Нона апаматалася і разглядзелася, калі той сівы, хударлявы госць апынуўся ў натоўпе калгаснікаў каля бабы Волькі. Ля іх стаяў Аляксандр Пятровіч. Ён быў рады, шчасліва ўсміхаўся, туліў да сябе руку госця.

— Вы — пэкаш, пэкаш,— пачула Нона словы прыезджага.— Пяклі нам кісэлі хлэп.

— Праснак,— саромеючыся, прызналася баба Волька.— Не забыўся, Здэнак.

— Розумнет... Помню!

Па плошчы цэнтральнай сялібы ішлі ўсёй грамадой, размаўлялі, накіроўваючыся ў Дом культуры.

— Я ж хацела, каб баба Волька спякла і партызанскі праснак,— далучаючыся да гутаркі, сказала Нона Аляксандру Пятровічу.— Як памяць! Каб усе ўбачылі і пакаштавалі.

Старшыня Аляксандр Пятровіч згадзіўся:

— Добра, як пойдзем з гасцямі ў зямлянкі, па партызанскіх мясцінах, там і спячэм.

Баба Волька ішла са Здэнакам, але яна пачула гаворку метадысткі са старшынёй і сказала сваё:

— Спячы можна. Я магу. Толькі хлеб ды соль пячэцца ў мяне весялей, больш удала. Ён жа пячэцца для сяброўскай сустрэчы, для нашай дружбы. Ён і гасцінны пірог, і народны звычай. Прывет і мір!.. А калі смажыць гаротны праснак, каму яго захочацца? Нявесела на душы. Навошта калупацца ў горы? Нашто смакаваць вайну? Вайну смакаваць не варта...

# ЧАТЫРЫ САНТЫМЕТРЫ НАДЗЕІ

Смуглявы камлюкаваты хлопец ляжаў дагары на траве, прывольна раскінуўшы наросхрыст рукі. Ён толькі што вылез з вады і грэўся на сонцы. Крышку прыплюшчваўся, паглядаючы ў чысты блакіт летняй раніцы.

Ён выбраў сабе мясцінку каля разгалістай вярбы, знарок воддаль ад шумлівага і мітуслівага пляжа ў санаторыі.

Хлопец, лежачы на траве, не звяртаў ні на кога ўвагі, і я адразу пазнаў, што ён — не з санаторыя. Да вярбы прыхілены, стаяў яго веласіпед. На рулю вісела, нібы надзьмутая, сіняя сінтэтычная куртачка, а старанна згорнутыя джынсы, белая саколка былі роўненька пакладзены на сядле. Вопратка, як у звычайнага гарадскога юнака. Толькі з-пад куртачкі віднелася спражка шырачэзнай папругі.

Раптам ён узняўся, сеў і пачаў углядацца ўгору. Да валасоў на лбе, разбэрсаных, яшчэ мокрых, прыклаў далонь брылем. Канешне, я таксама ўзняў позірк.

У блакітнай вышыні, мы ўбачылі, срабрылася палоска. З поўначы на поўдзень ляцеў самалёт. Гуку не чутно, ды і пазней я яго не пачуў. А хлопец, які першы прыкмеціў зіхатліва-белую дарожку, пільна сачыў за ёю: страла самалёта ў небе, быццам пад лінейку, пісала роўненькую рыску, якая з цягам часу разрасталася істужкай дробненькіх воблачкаў. Даўжэла, шырэла.

Хлопец доўга глядзеў услед выведзенай самалётам дарожцы, што таяла ў сіняве.

Потым устаў і пачаў адзявацца. Усё больш і

больш нашых прыходзіла на пляж — самы пік загару, а юнак пакідаў такую сонечную пару і сваё месца. Вядома, мяркуючы па яго смугляваму выгляду, ні сонца, ні вада не былі ў яго далёкія і рэдкія сябры. І хвацкая сіла ў руках. Мяне аж здзівіла, што гэта ў яго за папруга? Вось дык папруга! Нібы патранташ. З патронамі. Здаецца, сапраўдныя патроны сядзелі ў скураных гнёздах патранташа і, бадай, непустыя. Гэта можна было ўявіць, калі ён, напружана сілячыся, зашпіляўся і згінаўся ад патранташа. А падперазаўшыся, неяк фасоніста раўняў свае важкія рэмянёвыя газыры на поясе.

Якая ўжо мода на рамяні ў маладых людзей ні здзіўляла, але такую папругу я не сустракаў.

— А дзе ж да патронаў стрэльба? — зацікавіўся я, бачачы, што апроч патранташа нічога з амуніцыі, патрэбнай для палявання, у яго не знайшлося.— Так без стрэльбы выпраўляцца, што ісці касіць без касы.

Юнак, апранаючы сінтэтычную куртачку, нічога не адказаў. Можа, не хацеў са мной размаўляць. Ці засердаваў за дакор сваёй нядбайнай несабранасці? Куртачку абцягнуў уніз, каб не відаць былі ні патранташ, ні што ў патранташы.

— Качэчы шрот? — з цікавасцю паляўнічага зноў запытаўся я, нібыта курэц курца пра тытунь у кішэнях.— На світанні вунь у тым чароце крыжанак лятала цэлая чарада, сам бачыў... Сёлетні вывадак... Хоць яшчэ, праўда, не сезон. На качку паляваць не дазволена.

— А мае зарады на мядзведзя,— сур'ёзна, амаль пагрозліва, адказаў хлопец, адштурхнуўся, закінуў нагу на двухколага каня і паехаў. Паехаў не міма пляжа, па асфальце, у санаторый, а ў бок гарадка.

Мяне наша незакончаная размова яшчэ больш зацікавіла. Нават заінтрыгавала.

Назаўтра з няўрымслівасцю я зноў падышоў да разгалістай вярбы, нават раней, чым учора.

Зноў грэла невысокае, ранняе сонца. Яшчэ зыбкі туман слаўся між берагоў, нібы вада парыла, нагрэтая занач. На тым баку між алешніку рыбакі-санаторнікі задрамалі над вудзільнамі.

Ага, вось і ён, мой ваяўнічы веласіпедыст! Адзінокая галава яго, як мяч, паказалася пасярэдзіне возера і ледзь-ледзь рухалася да берага. Рухалася нетаропка, нібы ён страшэнна змарыўся. Але, наблізіўшыся, мабыць, адчуўшы пад сабою дно, хлопец жвава, боўтаючы нагамі, пачаў вылазіць.

Сёння ён стаяў бліжэй да веласіпеда і бліжэй да мяне. Нашы вочы спаткаліся.

— Стаміўся? — як мага спачувальна запытаўся я.

— Не,— ціха адказаў хлопец.— Я пераплываю без адпачынку два разы. Туды і назад, туды і назад.

Я ўгледзеўся ў далеч возера, прыкідваючы ў думках адлегласць, потым на яго гладкае цела, як у спартсмена. Мабыць, будучы чэмпіён?.. Ужо намерыўся пачаць знаёмства са спорту, як хлопец кудысьці заспяшаўся. Прысадзісты, ён мігам улез у свае джынсы. Сёння я яшчэ ўважлівей, зблізку, прыгледзеўся, як ён з патранташам намагаецца падпяразваць паясніцу паверсе джынсаў. У гнёздах патранташа сапраўды сядзелі патроны матавага бляску. Няйнакш, баявыя патроны. Ён зноў абцягнуў полы курткі, нібы штосьці там схаваў патаемнае.

Хлопец ужо асядлаў веласіпед.

— І заўтра будзеш купацца на гэтым месы? Бачу, аблюбаваў ты яго? — імкнучыся неяк завязаць знаёмства, пацікавіўся я.

— Штодня тут купаюся,— адказаў ён.— Толькі

сёння ў дарозе паштовы аўтобус спазніўся. Спяшаюся па пошту.

Яшчэ з большай зацікаўленасцю я паглядзеў услед юнаку, як ён аб'ездам санаторыя паехаў у райгарадок. Паштальён? З патронамі?..

Разгаварыліся шчыра мы пры наступнай сустрэчы. На заўсёдашнім месцы, пад вярбой.

— Як цябе зваць?

— Сяргей.

Мы пазнаёміліся. Я сказаў, што палова мае пуцёўкі ў санаторыі ўжо за плячыма. Успомніў, што яго аднойчы бачыў у спартыўнай зале нашага корпуса, а ён, прызнаўся, мільгом згледзеў мяне. Пазіркамі, такім чынам, мы былі ўжо добра знаёмыя.

— Дык ты не паляўнічы?

— Не.

— І не вартаўнік, каму належыць мець стрэльбу?

— Не.

— І паштальёну, як ты прызнаўся, патроны не патрэбны?

— Не.

— Дык што гэта ў цябе за патранташ з патронамі?

Яму, бедалагу, здаецца, сорамна было прызнавацца.

— Гэта не патроны,— раптам адказаў ён.

— А што гэта?

Сяргей расперазаў патранташ і працягнуў мне ў рукі. Калі я ўзяў яго аберуч, то мой капялюш выпаў з рукі. Ад цяжару мусіў нахіліцца наперад. Вось дык папруга! Вага была такая, што я ледзь яе ўтрымаў. Я ўважліва разгледзеў скураныя гнёзды, у якіх сядзелі патроны. Але гэта былі не патроны. І не патроны, і не газыры. Чымсьці, як волавам, былі напоўнены гнёзды.

— Што гэта такое? — здзівіўся я.— Нашто ты яго носіш?

Сяргей не хацеў прызнавацца, а потым коратка сказаў:

— Доўгая гісторыя.

Гэта папруга — не папруга, гэта — нібы талісман. Ведаеце, што значыць талісман? Сяргей не называў яе так, але пэўны сэнс меў. Гэта папруга, без якой ён жыць не можа. Ні хадзіць, ні бегаць, ні ездзіць на веласіпедзе. Распяразвае, калі спаць кладзецца ці ў возера акунаецца. Яна нібы чароўная...

Я сказаў, што не разумею і што мне цікава, які тут можа быць сакрэт?

Мы з Сяргеем потым шмат разоў бачыліся, часам на хаду «добры дзень»— «добры дзень», часам падоўгу размаўлялі, разважалі, і ён так растлумачыў сакрэт свайго «патранташа».

— Я люблю авіяцыю! — горда вымавіў ён.— Я хачу лятаць!

Пачуўшы гэта, я стаіў дыханне: якая можа быць сувязь між марай, жаданнем лятаць і цяжкім алавяным «патранташом»?

Расказваў ён «гісторыю» не адразу, тады, як мы бачыліся і калі ён не быў заняты на пошце або яшчэ дзе-небудзь. А час «гісторыя» ахоплівала немаленькі.

Жыла яго сям'я не ў дастатку, на невялічкім пляцы зямлі ў гарадку, ва ўласным доме. Бацька калісьці быў майстрам і настаўнікам у раённай школе механізатараў. Вярнуўшыся з фронту паранены, ён доўга не пажыў, пакінуў іх сіротамі, Сяргея і яшчэ старэйшага на тры гады брата, Юрку. Маці працавала на сваёй гаспадарцы з агародам і хадзіла на заработкі.

З Юркам яны вучыліся ў адной школе. Вучыліся і старанна памагалі маці.

І вось, яшчэ ў дзесяцігодцы, Сяргей захапіўся авіямадэлямі, а потым і авіяцыяй. Ён і сам добра не прыпомніць, калі ў яго з'явілася жаданне лятаць. Бадай, Юрка прышчапіў яму гэту «хваробу». А Юрка, старэйшы, хварэў на авіяцыю. Толькі ён найбольш цікавіўся тэхнікай. У шостым класе арганізаваў гурток авіямадэлістаў, куды і Сяргей пішчом прыстасаваўся. Пераймаючы забавы брата, і ён стаў майстраваць мадэлі.

Разам з Юркам, а яны ўдвух дружылі, удвух марылі і надумаліся ўзняцца ў паветра аж да хмар, палятаць у небе. Як яны лятаді на сапраўдным самалёце — гэта незабыўная старонка іх жыцця, і пра яе ніхто не ведае, нават маці... Каб сесці на самалёт і паляцець, патрэбен білет. Білет можна купіць за грошы ў касе аэрапорта. Вось і пачалі яны цішком, украдкі, назапашваць рублі. Хадзілі на заработкі, дзе ішло будаўніцтва санаторыя — падносілі цэглу. Сабралі амаль дваццаць рублёў. У час летніх канікул — Юрка якраз перайшоў у дзесяты клас, а Сяргей у сёмы,— нікому нічога не кажучы, выправіліся ў паветранае падарожжа, каб у той жа дзень вярнуцца дамоў. Раненька аўтобусам паехалі ў Мінск, каб у касе аэрапорта набыць білеты. У сваім гарадку аэрадрома, вось бяда, не было. Прыехалі ў сталіцу. Да касы па білеты! Але спачатку трэба паглядзець у расклад руху самалётаў. Які выбраць самалёт, каб на сходны кошт білетаў? Вядома, толькі можна раздабыць білет на мясцовыя лініі. Ніякага значэння, які рэйс і куды маршрут, завідна вярнуцца б. А летні дзень — год! Управяцца... Як успомніць Сяргей той клопат, дык і смех, і сумна робіцца... Куды ляцець? Хоць куды! Толькі б падняцца ў неба. Падумалі і выбралі білеты па кішэні: два да Навагрудка. «Мінск — Навагрудак»! Прыкінулі, што яшчэ хопіць некалькі рублёў апош-

нім аўтобусам дамоў вярнуцца... Купілі білеты. Выйшлі, дзе пасадка. Глядзяць, як грымяць, узнімаюцца магутныя лайнеры ТУ-124, ТУ-134 (Юрка казаў, што іх называюць «тушкі»), а навагрудскага АН-2 нідзе няма. Ён невялічкі, па здымках хлопцы яго ведалі. Яны нічога не палохаліся, адчувалі сябе бадзёрымі, але Сяргею чамусьці падсілкавацца захацелася. «Ты перакусіць не хочаш?» — запытаў ён у брата. «Мы ж нядаўна снедалі». Усё, што хлопцы бралі з сабой у школьную сумку, едучы, той кусане, той кусане — увесь запас расходавалі. Цяпер, як аб'явілі пасадку на мясцовыя самалёты, у Сяргея раптам пад лыжачкай нібы голад засмактаў. Пайшлі ў буфет. Што купіць, калі ў дарозе ўсё трэба ашчаджаць. «Вунь таннае піражнае. Возьмем па адным»,— прапанаваў Сяргей. Юрка заказаў у буфетчыцы адно з заварным крэмам, а сам, як старэйшы, толькі праглынуў сліну. «Падзелімся»,— прасіў яго Сяргей, але Юрка адмовіўся. Між іншым, гэта эканомнасць у палёце не пашкодзіла Юрку, а Сяргей толькі адпакутаваў... АН-2 маленькі. Пасажыраў мала. Ляцеў ён супраць ветру. Яго кідала, як на паветраных узгорках і нізінах. Юрка пазіраў у акно, разглядаў навокал, а Сяргей і наглядаў, і неспакойна круціўся. А потым самалёт кінула, нібы ў якуюсьці яму, то ўсё, што Сяргей праглынуў у буфеце, палілося з яго, і ён раптам затуліў твар прыпалом кашулі... Прызямліліся ў Навагрудку. Пасажыры разышліся, а Сяргей лёг на травяністым полі, бледны, з мутнымі вачамі. Юрка пабег у будынак прынесці брату вады, хацеў нават выклікаць доктара. Але хворасць Сяргея хутка прайшла... Устаў і павесялеў.

Не зусім удаўся першы палёт. У дадатак да ўсяго сапсавалася пагода. Наплылі нізкія хмары. Пачаўся дождж, ды такі несціханы, што аб'явілі: рэйс

адкладваецца на заўтра. Дзе хлопцам начаваць? Няма дзе. І харчу няма. Яны мусілі ехаць назад у Мінск аўтобусам. А ён перапоўнены. На сілу ўціснуліся. А з Мінска апошнім рэйсам ледзь дабраліся дадому ў свой райгарадок. Дзядзька-сваяк ехаў разам на гэтым аўтобусе і пазычыў хлопцам два рублі — столькі не даставала на білеты.

Толькі праз дзень браты ўспомнілі сваё паветраплаванне... «А чаго? — з захапленнем нагадаў Сяргей.— Я думаў, хмары плывуць на адной вышыні, сцелюцца, як столь. А над гэтымі ж хмарамі плывуць яшчэ хмары. Прыгожа! А над тымі — яшчэ. Ой, як хораша!» — «А ты не бачыў сенажацей, палеткаў жыта,— радасна падхапіў Юрка.— Дарогі, павозкі, людзі вось як на далоні. Так цікава».— «Вельмі хораша».

Браты дзяліліся сваімі жаданнямі, прысягалі адзінай надзеі — толькі навучыцца лятаць.

А Юрка паступаў праз год у лётнае вучылішча — ведай, што спаткае наперадзе,— не паступіў. Сяргей туга рос, каранасты, снапаваты. Юрка — на галаву вышэй, спрытны, стройны, значкіст, так доўга рыхтаваўся — і не прынялі. Дзіва, дый толькі! Дактары знайшлі «шумы ў сэрцы». Вярнуўся дадому паніклы, засмучаны.

...Цяпер вучыцца ў фізкультурным інстытуце. Наперакор дактарам ці, можа, наадварот, каб «шумы ў сэрцы» заціхлі.

Няўдача старэйшага брата зажурыла і Сяргея. Ён не мог ставіцца да гэтага абыякава. Знайшла медыцына загану! Быць таго не можа, каб і яго, Сяргея, забракавалі! Сяргей не адчуваў ніякіх «шумоў». Ён не расчараваўся, не перадумаў і не змяніў свайго намеру. Стаць авіятарам — не інакш, абавязкова!

Юркавы кніжкі — той назбіраў амаль бібліятэ-

ку, пра авіятэхніку, пра лётчыкаў-герояў Айчыннай вайны, была там і кніга Юрыя Гагарына,— забраў сабе. Купіў кніжкі пра герояў-землякоў Клімука і Каваленка. Чытаў і зноў перачытваў. Такой літаратуры стаяла поўная этажэрка.

Ён гартаваў характар. І сваіх сяброў-выпускнікоў падгаворваў. «Вы толкам разбярэцеся,— казаў ён Грышку і Генадзю,— навукова-тэхнічны прагрэс. Век космасу. Усё чалавецтва павінна лятаць. Ну, хворыя, інваліды, калекі — тыя не сядуць на касмічны карабель. А мы? Ты, ён і я можам скласці каманду экіпажа. Што, у нас няма дружбы, псіхалагічнай сумяшчальнасці?» Пра псіхалагічную сумяшчальнасць Сяргей вычытаў у касманаўтаў і цяпер тлумачыў пра гэта сябрам.

Хлопцы сябравалі. Вучыліся яны роўна, без двоек. Грышку не цяжка ўгаворваць. А Генадзь — упарты і задзірака. Ён мог няпэўна паабяцаць. Ваганўся... Але нарэшце пагадзіўся.

Ужо ў пачатку дзесятага класа дружбакі пачалі думаць пра паступленне ў лётнае вучылішча. Схадзілі ў райваенкамат, параіліся з ваенкомам. Той паглядзеў на іх: камсамольцы, адзін — высокі, другі — сярэдні, трэці — так сабе. Усё роўна як згаварыліся, просяцца, асабліва меншы. Што ж? Паабяцаў рэкамендаваць.

Будучыя авіятары вясёлыя вярталіся ад ваенкома. Разважалі пра службу, якую выбралі сабе, захапляліся героямі-лётчыкамі, якіх яны ведалі або мелі ў сваёй радні.

У канцы ліпеня з рэкамендацыямі райваенкамата тры смельчакі паслалі свае заявы з дакументамі ў лётнае вучылішча. А праз нейкі час атрымалі паведамленні з'явіцца на камісію, прайсці экзамен на паступленне.

Сяргей ужо некалькі разоў распытваў старэйша-

га брата Юрку, як гэта бывае на камісіі, што патрабуюць і пытаюцца. Пра ўсё падрабязна цікавіўся і пра мажлівую няўдачу.

Брат казаў, што, апрача медыцынскай камісіі, яны яшчэ будуць праходзіць камісію па псіхалагічнаму адбору. Там іх будуць правяраць на ўменне правільна ўспрымаць на слых гукі, словы. Ім прыйдзецца пісаць розныя тры дыктанты. Запамінаць літары. Будуць на стэндзе запальвацца некалькі рознакаляровых лямпачак, а іх аднаго колеру трэба будзе адначасна, па камандзе, кнопкамі тушыць. І ўсё гэта дзеля таго, каб Сяргея і ўсіх праверыць на ўвагу, на хуткасць і рэакцыю.

Сяргей думаў, намагаўся, але больш за ўсё быў спакойны за сваё здароўе. Тут да яго не прыдзяруцца. Няхай правяраюць!

Хлопцы паехалі ў горад.

Рэгістраваў прыезджых старшы лейтэнант. Зарэгістраваў, выдаў прапускі на сталаванне, адвёў у сталоўку. У інтэрнаце, куды ён прывёў начаваць, сабралася такіх, як яны, добраахвотнікаў, з паўсотні. Грышка нават здзівіўся. А што, калі не хопіць вакантных месц?

— Не хвалюйся! — запэўніў Сяргей.— Нас нашы месцы чакаюць.

Раніцай — пад'ём. Паснедалі. Потым старшы лейтэнант аб'явіў: выйсці на пляц, на пастраенне. Пастроіў усіх па ранжыру. Выраўняў у адну шарэнгу. Тут, хочаш — не хочаш, сябрам давялося разлучыцца. Генадзь трапіў на правы фланг, Грышка — у сярэдзіну, а Сяргей апынуўся «замыкаючым». Старшы лейтэнант па-вайсковаму падаў каманды: «смірна», «раўняйся», «вольна» і пайшоў у двухпавярховы будынак на плошчы. Адтуль, з расчыненых дзвярэй, ён вярнуўся, суправаджаючы двух афіцэраў. З іх быў адзін палкоўнік, другі — пад-

палкоўнік. Зноў прагучала каманда: «Раўняйся, смірна!»

«Здрастуйце, таварышы! — прывітаўся палкоўнік і, пачуўшы ў адказ нядружныя галасы ўсяе пярэстай шарэнгі, абыякава, неяк ціха дадаў: — «Вольна».

Кожны стаяў у чым прыехаў: хто — у шапцы, хто — без шапкі, хто — у світэры, хто — у безрукаўцы, хто — у басаножках, хто — у красоўках.

Палкоўнік зрабіў пераклічку, так, як і рабілі ў школе перад першым урокам, потым загаварыў разважліва, але строга:

— Я старшыня прыёмнай камісіі. Гэта — мой намеснік,— кіўнуў на падпалкоўніка.— У нас з вамі першапачатковае знаёмства. Усе, хто будзе прыняты ў вучылішча, куды вы падалі заявы, ужо ведаеце, кім станеце. Военнымі лётчыкамі. Пасля заканчэння вучобы... І прыём, і вучоба, адразу хачу папярэдзіць, будуць нялёгкія і складаныя. Патрабаванне ў камісіі строгае. Я сказаў бы, надта строгае. Летуценнікаў такіх, разумееце, якія прыехалі з ружовымі марамі, лёгка палятаць, паплаваць у нябёсах, мушу сур'ёзна папярэдзіць. У каго ёсць вось такая рамантычная пазіцыя, ён павінен тут жа яе перамяніць. Рашуча адставіць! У сучаснай авіяцыі, як вы ведаеце, а калі — не, павінны ўведаць, велізарныя задачы і патрабаванні. І вучоба, і практыка пілатажа вымагаюць ад маладога чалавека моцных і высокіх якасцей. І фізічных, і разумовых. І псіхалагічных. Я паўтараю, і псіхалагічных! Вы павінны прайсці псіхалагічны адбор. Гэтыя якасці на камісіі вы павінны выявіць і прадэманстраваць. Чакаем ад вас адных пяцёрак... Тыя таварышы, якія атрымаюць тройкі, на жаль, не трапяць у вучылішча. Ну, бяда гэта невялікая. Хто не пройдзе на ка-

місіі, не здасць тут экзамены, можа паступіць у вучылішча грамадзянскай авіяцыі. На тэхніка, на штурмана, на пілота...

Пакуль гаварыў палкоўнік, хлопцы зацята маўчалі. І ў душы Сяргея штосьці шэрхла ад гэтых слоў, якія здаваліся жорсткімі, суровымі папярэджаннямі. «Ну, што ж, хутчэй выклікайце! — думаў Сяргей.— Памераемся, падужаемся! А калі на тое пойдзе, дык і паспрачаемся. Псіхалагічны — дык псіхалагічны адбор». Сяргея акрыляла мара, і яна не ружовая, а заўсёдашняя мэта, з пэўным намерам і са штодзённай падрыхтаванасцю. Юрка яго рыхтаваў. І ніякіх «шумоў» у сэрцы, як у брата, дактары не знойдуць!..

«Ёсць запытанні?» — пасля афіцыйнай прамовы звярнуўся палкоўнік. Пытанні ў шарэнзе былі. Старшыня камісіі і яго намеснік, падыходзячы да кожнага, спыняліся, гутарылі, тлумачылі. Палкоўнік памячаў нешта ў спісе.

Сяргей чуў размову з Генадзем, які стаяў, як вядома, правафланговым. Паказваючы на Генкавы доўгія, да каўняра, валасы, палкоўнік заўважыў: «Па палажэнню ўсе павінны мець кароткую прычоску. Яшчэ час ёсць, прашу ўсіх набыць належную форму».

Ні ў палкоўніка да яго, Сяргея, ні ў Сяргея да палкоўніка пытанняў не было. Хлопец толькі зблізку распазнаў: у падпалкоўніка пагоны медыцынскай службы. То ён, значыць, намеснік старшыні прыёмнай камісіі па медыцынскай частцы?

Як і папярэджваў Юрка, прыём адбываўся ў тры заходы. Спачатку агульнае азнаямленне. Потым медыцынскі агляд. Псіхалагічны адбор. Нарэшце, здача экзаменаў па алгебры, фізіцы, геаметрыі і сачыненне за сярэднюю школу.

Хлопцы не бачылі адзін другога і сустракаліся

толькі ў сталовай. Пасля вячэры маглі падзяліцца ўражаннямі.

«Ты да чала падстрыгся?» — зыркнуў на Сяргея Генадзь. «Калі трэба, дык трэба,— разважліва адказаў Сяргей.— А ты чаму? Цырульня побач, са двара — налева».— «Яна мяне чамусьці не прываблівае,— усміхаючыся, адказаў Генадзь.— Цяпер Сяргей, падстрыжаны, зрабіўся яшчэ карацейшы. Клава не пазнае».— «Не выскаляйся,— узлаваўся на Гену Сяргей.— Дзеля чаго прыехалі?» Але і Грышка, які заўсёды падтрымліваў Сяргея, маўчаў абыякава. «Я размаўляў з ад'язджаючымі,— нібы па сакрэту, дадаў ён, Грышка.— Адсейваюць кожнага другога. Хто з нас ходзіць пад шчаслівай зоркай?» — «Паступім! — упэўнена сказаў Сяргей.— Толькі не хныкаць і не хандрыць!» — «А я так думаю,— прашаптаў Генадзь.— Рана ці позна ўсё роўна апрануць нас у пашытыя шынялі. Куды спяшацца? Пагуляем! Прыехалі мы...» — «Ты — камсамолец! Не балбачы! Рабі, што загадалі»,— павысіў голас Сяргей.

Ён не хацеў камандаваць. Але адкуль хныканне між сяброў? Няўжо размякла воля загартаванага, дружнага экіпажа? Ці, можа, адсутнічае «псіхалагічная сумяшчальнасць», пра што ён чытаў ім ва ўспамінах аднаго касманаўта?

Гена, як у доказ гэтаму, ціха прапанаваў: «Мы прыехалі... і давайце пашастаем па тэатрах, па кактэйль-холах».— «Ты прыехаў шастаць па рэстаранах? Мала было гулянак дома ў кафэ «Лілея» над возерам? А што ваенком скажа, як даведаецца? Хадайніцтва нам пісаў»,— абурыўся на іх Сяргей.

Трое накіраваліся ў інтэрнат. Моўчкі ляглі. Але Сяргей не спаў. Было не да сну. Іх «касмічны экіпаж» развальваўся яшчэ да «старту».

Адзін ён, Сяргей, ішоў з пяцёркамі.

...Генадзь так і не трапіў у цырульню. Ён не мог пагадзіцца з тым, што прыедзе ў гарадок з падстрыжанай галавой. Хоць на некалькі месяцаў адтэрмінуе фінал свае моднай чупрыны...

...Грышка медыцынскую камісію вытрымаў, але на псіхалагічным адборы: на лямпачках, на колцах — увага слабая — «запарыўся». Не прайшоў.

Толькі Сяргей набіраў «балы». Медкамісія не прыдралася ні да сэрца, ні да слыху, ні да зроку. Якіх гэта прыбораў ні павынаходзіла медыцынская тэхніка! Сяргея ганялі па розных пакоях. І дзе стаяў рэнтген, і дзе віселі драбіны, і дзе зыбаліся гушкалкі, і дзе круціўся калаўрот. І ў баракамеры пабываў. Усюды добрасумленна перанёс свае цяжкія пакуты. Нейкую кружыліху: «уверх-уніз — галава-ногі» адолеў. Пасля кожнай працэдуры медсёстры слухалі ў яго пульс, змяралі крывяны ціск і тэмпературу. Так, як і гаварыў яму Юрка, Сяргей прайшоў і вытрымаў усе патрабаванні. Спірометрыя, дынамаметрыя, артэрыяльны ціск — усё было ў норме. Якой яшчэ можна было чакаць пагрозы ці перашкоды? Сяргей быў рад. Ужо на хаду прадчуваў: і ў яго, што ў той прачытанай кнізе, нібыта ў каня-пегаса самі вырастаюць крылы...

Псіхалагічны адбор — сам не спадзяваўся — вытрымаў.

Акадэмічныя веды на ўзроўні. На ўсе пытанні адказаў выдатна. Сачыненне напісаў таксама на пяцёрку. Яго знаёмства з літаратурай па касманаўтыцы і авіяканструктарскай тэхніцы не было лішнім.

І нарэшце, пасля ўсіх паходаў і адоленых выпрабаванняў, Сяргей апынуўся ля кабінета галоўнай камісіі, атрымаць заключэнне. У кабінеце сядзела пяць чалавек, тэрапеўт, хірург, яшчэ хтосьці. Пасярэдзіне палкоўнік. Падпалкоўнік медыцынскай службы, намеснік старшыні прыёмнай камісіі без

шапкі быў сівы-сівенькі, а на грудзях меў шмат баявых ордэнаў. За сталом яны рашалі лёс кожнага паступаючага.

«Та-ак,— працяжна сказаў старшыня камісіі, беручы справу Сяргея. Перагортваючы запоўненыя анкеты, лісткі, дакументы, ён нібы ўсцешыў: — Вы атрымалі выдатныя ацэнкі. У вас усё выдатна!»

І тут умяшаўся сівы падпалкоўнік. «За выключэннем аднаго надта важнага патрабавання пры паступленні на вучобу... Рост у вас сто шэсцьдзесят адзін сантыметр... А прымаюцца маладыя людзі з ростам сто шэсцьдзесят пяць сантыметраў!..»

Запанавала маўчанне.

Унутры ў Сяргея спачатку заныла штосьці, а потым у галаве зашумела, нібы пры палёце на АН-2 у Навагрудак... Як гэта ўцяміць? На рост ён, сапраўды, ніколі не звяртаў увагі. Няўжо гэта так важна? Няўжо так істотна? Ён намагаўся набыць сілу і дужасць у руках, а галоўнае, у грудзях.

«Я яшчэ вырасту»,— чырванеючы, сказаў Сяргей.

«Мы не сумняваемся»,— сказаў хтосьці.

Збянтэжаным позіркам Сяргей абвёў усіх, спыніўся на сівым падпалкоўніку і пачаў прасіцца:

«Я вельмі хачу лятаць. Прыміце!.. Адзнакі мае, бачыце, выдатныя. Прашу вас, прыміце навырост. Я падцягнуся».

«Вучылішча не крама, дзе падбіраюць гарнітур ці абутак, які потым можна падагнаць у майстэрні па росту»,— сказаў хірург.

«У вас няпоўных васемнаццаць год,— падбадзёрыў падпалкоўнік.— Яшчэ ўсё наперадзе... Прыняць вас мы не можам. Не маем права парушаць палажэнне».

«Я прашу вас».

«Вы супакойцеся, не трэба хвалявацца,— загаварыў старшыня камісіі.— Я папярэджваў усіх не рабіць з гэтага трагедыю. Хочаце, можам накіраваць вас у вучылішча грамадзянскага флоту. Вы экзамены вытрымалі, кончыце там вучобу і будзеце тэхнікам на аэрадроме».

«Я хачу ў ваеннае лётнае вучылішча».

Тады палкоўнік паглядзеў на лячэбную карту, з якой хадзіў Сяргей па дактарах, і, нібыта спецыяльна, як для яго, растлумачыў:

«Разумейце, даўжыня ног ваеннага лётчыка павінна раўняцца не менш як васьмідзесяці сантыметрам... а ў вас семдзесят пяць».

Зноў Сяргея разанулі па сэрцы гэтыя праклятыя, недастаючыя сантыметры.

«А ў Гагарына было восемдзесят сантыметраў? Ногі, ногі! Што ногі? Марэсьеў лятаў з пратэзам. І не адзін ён... Інваліды лcraталі ў вайну, і ім дазвалялі!..»

Гэты прысадзісты і задзірысты юнак чымсьці падпалкоўніку спадабаўся. Ён ледзь усміхнуўся і, пагладзіўшы сівізну на галаве, ужо не так катэгарычна, больш лагодна стаў тлумачыць, не закранаючы Сяргееў закід пра першага ў свеце касманаўта.

«Я, малады чалавек, таксама прайшоў усю Вялікую Айчынную вайну ў авіяцыі. І павінен вам сказаць, што на фронце яшчэ не такое здаралася. Былі выпадкі проста кур'ёзныя... Памятаю, у нашым знішчальным палку быў лётчык Падабед. Вашага росту, а можа, чутку меншы. Бадай, меншы! Педаль не даставаў. А рабіў вылеты кожны дзень.

У кабіне, каб вышэй сядзець, падкладваў пад парашут падушку. І павінен вам далажыць, Падабед збіў чатыры «юнкерсы» і «месершміты»... От як здаралася! То гэта ж было некалі на вайне. Вы, ма-

лады чалавек, на жаль, не прыгодны для вучобы на ваеннага пілота... Усяго вам добрага! Паклічце наступнага».

Сяргей выйшаў, якімсьці не сваім голасам прапанаваў заходзіць наступнаму і здранцвелымі нагамі пакрочыў з памяшкання. Не хацелася сустракацца з сябрамі, з тымі, хто яго распытваў: «Вытрымаў? Не прынялі?..» Не хацелася глядзець ні на неба, ні на зямлю. У вачах свяціўся нейкі разгублены позірк, нібыта ён быў накіраваны ў самога сябе, нібы Сяргей нікога і нічога не бачыць. Праўда, горкі адчай не смылеў на душы. Адчуваў, штосьці здарылася незразумелае. Што рабіць? Што рабіць?..

Сяргей, паблукаўшы па двары, рашыў яшчэ раз звярнуцца да падпалкоўніка. Ён пільнаваў, калі пасля пасяджэння той выходзіў з кабінета, затрымаў яго на калідоры. Як вайсковец ужо, згодна статуту. «Звяртайцеся»,— адказаў сівы франтавік. «Таварыш падпалкоўнік, я наконт майго прыёму... Няўжо гэтыя чатыры сантыметры мяне зарэзалі назаўсёды? Няўжо яны адабралі навек маю надзею лятаць у небе? Скажыце, ці ёсць магчымасць мне паўтарыць паступленне ў вучылішча?» — «І я вам паўтару як старшыня камісіі. Не рабіце непатрэбную трагедыю. Вы здаровы, прыгодны да службы ў арміі юнак, і знойдзецца для вас выдатнае месца і спецыяльнасць».— «Я іншага не хачу, таварыш падпалкоўнік. Я хачу ў ваенна-паветранае вучылішча. Я рыхтаваўся, вывучаў літаратуру. Я...» — «Па-першае, на сённяшні дзень з гэтым пытаннем ужо вырашана. Вырашана адмоўна. І рашэнне камісіі ніхто не адменіць. Па-другое, пра якую магчымасць вы разважаеце? Чаго вы хочаце?» — «Што, калі я праз год зноў падам заяву?» — «А што будзе праз год?» — «Калі праз год я адолею гэтыя нешчаслівыя чатыры сантыметры, якія так патрабуюцца

па закону. Хіба нельга?» — «Ваш выраз «па закону» няправільны. Пры чым тут закон? Рэактыўная тэхніка і «закон»... Я вам прыводзіў прыклад, як здаралася ў вайну. Калісьці. Цяпер так нельга! Цяпер няўхільнае, непарушнае патрабаванне. Сучасная рэактыўная авіяцыі, вы разумееце? — падпалкоўнік змераў позіркам Сяргея з галавы да ног і, чамусьці, без афіцыйнага тону, у роздуме загаварыў: — Рост маладога чалавека прадаўжаецца да дваццаці пяці год. Спадзяюся, вы гэта ведаеце? Як урач я магу яшчэ ўдакладніць. Хрыбетнік ваш расце. Ён падаўжаецца за кошт павелічэння храстковых прамежкаў, дыскаў. У хрыбетніку маладога чалавека між пазванкамі існуюць храстковыя дыскі. Яны расшыраюцца, павялічваюцца, калі знаходзяцца ў руху. Сціскаюцца, расцягваюцца... Дзеля гэтага неабходны штодзённыя спартыўныя заняткі. Сістэматычна! Калі хрыбетнік доўжыцца, даўжэе, чалавек расце... От, можа, гэта і ёсць тая магчымасць, пра якую вы надумаліся... ці захацелі ажыццявіць, звяртаючыся да мяне?» — «Так, гэта».— «Што ж, гарант ёсць. Маеце... Нялёгкі, але мажлівы. Выхад быць можа... Толькі — фізкультурай, практыкаваннямі, сістэматычнымі, пад кантролем урача».— «Я гатоў на ўсё! Я згодзен трэніравацца штодзённа, таварыш падпалкоўнік. Я на ўсё пайду, таварыш падпалкоўнік...» — «Паспрабуйце».— «То калі я перамагу сябе і ў будучым годзе зноў прынясу заяву, возьмеце яе разглядаць?» — «Паспрабуйце».— «А калі наш райваенкамат перарве мой год трэніровак, вясной датэрмінова выкліча на прызыў?» — «Скажыце ваенкому вусна, я на камісіі прасіў адтэрмінаваць».

Сяргей пайшоў ад падпалкоўніка спачатку з бадзёрым, радасным настроем, а потым задумаўся... Яму трэ было ехаць да брата.

«Братка, Юрась, ратуй, памажы! Гэта па тваёй спецыяльнасці і ведах»,— рашыў ён.

Старэйшы брат жыў у інтэрнаце фізкультурнага інстытута, і к таму часу ён перайшоў ужо на трэці курс.

Якая адбылася ў іх гаворка, мне Сяргей падрабязна не расказваў. Вядома, невясёлая. Абодва браты — аднаго лёсу. Хіба не горка на душы станавілася ім ад таго, што іх разбівалася мара, рабілася зусім недасягальнай. Ён казаў, што сядзелі на плошчы Якуба Коласа, шапацелі кроплі фантана, а над горадам угары недаступным купалам вісела хмарнае неба. Няўжо яно ніколі не будзе люба-блакітным, куды кожнаму з іх хацелася ўзняцца, як птушцы?..

Мабыць, з тае часіны Сяргееў выгляд стаў сурова-маўклівы. Можна было падумаць, што ён нейкі сярдзіты, злосны. Не, ён проста пачаў глыбока ўзважваць уласныя магчымасці і ўчынкі, узважваць сказаныя сабе словы. Апроч выхавання — ёсць яшчэ самавыхаванне. Намер яго заставаўся ранейшы. Ён вярнуўся ў гарадок, але жаданне лятаць, авалодаць паветранай машынай усё роўна не давала яму спакою.

...Я трымаў у руках яго «патранташ».

— Тады мне Юрка гэта пашыў па заказу ў прыватнага шаўца,— прызнаўся Сяргей.— У майстэрні пашыць не падрадзіліся. Ён, бачыце, не абы-які рэмень. Зроблены спецыяльна і адмыслова.

У мяне самлелі рукі, трымаючы гэту папругу. Сяргей усміхнуўся і забраў яе. Рэмень, сапраўды, быў унікальны. Як растлумачыў хлопец, не патроны, а прадаўгаватыя алавяныя гіркі сядзелі ў газырах папругі. Кожная важыла трыста грамаў. Сяргей напакоўваў імі гнёзды, так, як раіў брат. Дабаўляў, вымаў у залежнасці ад нагрузкі. Наогул,

паступова павялічваў іх колькасць. З месяца ў месяц. Як патрабавала норма. І падпяразваўся. Усіх гнёздаў у «патранташы» было дваццаць чатыры.

— Падлічыце, колькі ўсіх кілаграмаў?

— Што ж лічыць? — сказаў я, жартуючы.— Як мы знаёміліся, помніш, мабыць, я не памыліўся. Патроны тут сапраўды на птушку. Дакладней, каб авалодаць птушкай!.. Толькі такой, што з рэактыўным рухавіком...

Сяргей, напэўна, не зразумеў мой жарт. А можа, ён выйшаў не зусім дасціпны. Атрымалася ніякаватая, невялічкая паўза. Падпяразваючыся, ён, нібы нічога не скеміўшы, па-ранейшаму тлумачыў, як трэніруецца з важкай папругай. Бегае, скача, падцягваецца на турніку. Пасля такіх заняткаў ногі яго спружыняць, сярэдзіна спіны і паясніца нібы выпрамляюцца...

...Тады ж, вярнуўшыся пасля няўдалага паступлення, Сяргей падмяніў маці. Яна і з хатняй работай упынялася, і на пошце служыла. Сяргей у той жа дзень забраў сабе яе паштовую сумку. Не без мэты. Сумясціў, як кажуць, прыемнае з карысным. Стаў разносіць лісты, тэлеграмы. І разносіў, дзе падбегам, дзе бягом.

...Генадзь і Грышка шлындалі па гарадку, чакалі позвы з ваенкамата. Абазвалі Сяргея замест «касманаўт» — «марафонец», пакуль ён «марафоніў» і не купіў сабе веласіпед. Толькі Сяргей, можа, у душы і таіў засмучэнне, пачуццё прыніжанасці або крыўды, але выгляду нікому не паказваў. Сваю работу ён лічыў патрэбнай і неабходнай. І помач у доме. І кожную раніцу спартыўным трушком. Туды і назад. Хіба гэта не спрыяе росту хоць колечкі міліметраў. Ды яшчэ з чароўнай папругай? Ён прывык да яе, як конь да падпінка.

А калі Сяргей пазнаёміўся і падружыўся з фіз-

руком у санаторыі (аднойчы ён прынёс таму даўно жданае, заказное пісьмо), то большага ў сваіх замыслах — марыць не марыў. Трэніроўка, якую праводзіў калі-нікалі, зрабілася абавязковай, кваліфікаванай і штодзённай. Сяргей стаў заходзіць у зал, як свой супрацоўнік. Узброіўшыся секундамерам, фізрук камандаваў яму, а Сяргей скакаў цераз «казла» і «каня», куляўся на батуце, лазіў па драбінах і падцягваўся на турніку з талісманам на поясе.

Больш таго, фізрук параіў і дапамог атрымаць у доктара надта важную працэдуру: выцяжку пазваночніка. Сяргей клаўся на дошцы са спецыяльным прыстасаваннем, якое расцягвала яму хрыбетнік. Ён моўчкі ляжаў, а пясочны гадзіннік ціхенька сыпаў пясочак з верхняй шклянай пасудзінкі ў ніжнюю... І яшчэ. І так многа разоў.

Цяпер дзень праходзіў, як па раскладу. Раніцай Сяргей імчаўся па пошту, разносіў па гарадку лісты і газеты. Потым купаўся і адпачываў ля вярбы. Санаторнікі абедалі або млелі ў «паложаны ім мёртвы час», а Сяргей зноў прывольна гаспадарыў у спартыўнай зале. Пад вечар — шпацыр з напоўненым «талісманам».

— Дык гэты талісман, вялікі чарадзей, памог табе? — запытаўся я.— Цяпер які ў цябе рост?

Сяргей крыху памаўчаў. Ён старанна разгладзіў газыры, схаваў іх пад куртачку, паправіў педаль веласіпеда якраз да ступня, нехаця адказаў:

— Яшчэ год падпяразвацца буду.

...Чаму яшчэ год? Другі год? Я помніў паступленне Сяргея ў вучылішча і тэрмін, пра які ён дамаўляўся з падпалкоўнікам. Гэтым летам Сяргей паступаў ці не паступаў?.. Заўважыўшы маё збянтэжанае здзіўленне, хлопец апусціў вочы долу, потым узняў:

— І сёлета не прынялі мяне.

Я быў уражаны. Як так? Што магло здарыцца? Навошта тады па-ранейшаму практыкавацца, калі ўсе захады марныя?

— Дык што, леташнія трэніроўкі не далі ніякіх вынікаў?

— Пасля раскажу,— ён сеў і паехаў.

...Усё было так, як і ў першы прыём. Зарэгістраваўся. Той двухпавярховы будынак. Той пляц вучылішча. Тая сталовая. Толькі Сяргей, перш-наперш, узбег на паверх, дзе ён летась размаўляў з сівым-сівенькім падпалкоўнікам. Шыльдачка на дзвярах тая самая. Прозвішча падпалкоўніка тое самае. Сяргею зрабілася лёгка ад радасці.

Ідучы ўніз па прыступках, ён быў упэўнены: ну, цяпер ёсць гарант! Успомнілася гэта слова падпалкоўніка. Успомнілася, як ён дома, пакуль не падружыўся з фізруком санаторыя, на вушаку дзвярэй рабіў паметкі над сваёй галавой. Нібы ў маленстве, яшчэ як бацька жывы быў... Потым ён стаў змярацца ў спартыўнай зале... Міліметры прыбывалі. Раслі. Раслі. Але ж надта марудна. Павялічваліся ў сантыметры павольна... Часамі лінейка паказвала ранейшую адзнаку. Адкуль? З чаго гэта?

«Ты так часта не мерайся і не ўзважвайся! — сварыўся фізрук.— Часта змярацца не варта. Ты хвалюешся. А хваляваццa не трэба. Трэніруйся спакойна, а на паметкі не звяртай увагі».

Перад ад'ездам ён ляпнуў па крамяным у сакалцы плячы Сяргея і сказаў:

«Дацягнуў! Смела ідзі на камісію. Толькі не хвалюйся. Ад сполаху можаш калаціцца, сагнуцца... Рэфлекторна».

І Сяргей стараўся не хвалявацца. Тым больш усё было знаёмае, вядомае, як год назад. І чуў тое самае папярэджанне старшыні камісіі, што прыём і

вучоба будуць нялёгкія і складаныя... Тыя ж словы: «У каго рамантычная пазіцыя, павінен тут жа яе адставіць...»

А Сяргей, стоячы ў шарэнзе, думаў: «Што мне адставіць? З маленства была ў мяне мэта. Адзіная, простая і незаменная!.. Як дарога. Ён ідзе ёю, дасягнуць фінішу нялёгка. Але ён ніколечкі не зверне ўбок і не пахіснецца. Хіба ў яго не хапае настойлівасці або волі?.. Іншыя — як сабе хочуць! Вось Гену паклікалі — пайшоў у дэсантныя войскі... Грышка не спадзяваўся — трапіў на флот... А я?.. Колькі я марыў?.. Прылягу і, здаецца, наглядаю зямлю з вышыні. Нібы калісьці ў палёце з Юркам да Навагрудка. Плыве АН-2 між воблакаў, а ўнізе пад ім дарогі, палеткі... Як я хачу, каб гэта быў не сон. Каб гэта хутчэй бачыць не заплюшчанымі вачамі!.. Брат казаў: «Трэба валодаць целам, як цыркач». Хіба я не дасягнуў гэтага?»

Прайшоў камісію, паўторны псіхалагічны адбор — адказваў без запінкі. Ён ведаў цану сваім адзнакам.

«Паказчыкі выдатныя,— перагартаўшы Сяргеевы дакументы, як заўсёды, удумліва сказаў падпалкоўнік.— Вы атлет! Здаровы, дужы, цудоўна!.. Але заключэння даць, што годны быць пілотам на рэактыўным самалёце, не можам».

«Чаму?» — Сяргей аж усхапіўся.

«Росту не хапае... Адзін сантыметр».

«Не можа быць!»

«Ну, тут напісана... сем міліметраў. Амаль сантыметр. Усё роўна справы не мяняе».

«Летась чатыры не хапала,— абурыўся Сяргей.— Сёлета адзін!.. Я не згодзен вымярэннем... Я хваляваўся...»

І тут падпалкоўнік, нібы штосьці ўспомніўшы, яшчэ раз прагледзеў паперы Сяргея, штосьці доўга

стаў перамаўляцца са старшынёй камісіі, са сваімі калегамі.

«Нямнога засталося чакаць,— раптам сказаў старшыня камісіі.— Прадаўжайце падрыхтоўку. Жадаем такой жа настойлівасці. Мы вашу справу пакідаем у сябе, на асобым уліку. Чакайце паведамлення з райваенкамата!.. Паклічце наступнага таварыша!»

У Сяргея, калі ён вярнуўся дадому, у гарадок, маці запыталася: «Прынялі?» Ён адказаў спакойна: «На лета. Да поўнай меркі яшчэ не стае аднаго сантыметра».— «А божухна!» — паспачувала матуля. «Не турбуйцеся, мама,— сціскаючы да анямення зубы, сказаў Сяргей,— дарасту! І паступлю».

У гарадку чуткі хутка разносяцца. Яшчэ пасля таго, як у першы раз Сяргей без нічога вярнуўся з вучылішча, з яго пасміхаліся. Убачаць сябры дарожку самалёта між воблакаў і дражняцца: «Сяргей, ці не твой? Вунь, малюсенькі каля белай хмары».— «Акурат яго!» — падтакваў хто-небудзь.

У нядзелю, ды і ў будзень, яго спакушалі ў санаторную «Лілею», што пад ліпамі на беразе возера, дзе хлопцы (асабліва Валодзя і Гена перад прызывам у армію) забаўляліся вінoм. «Кінь ты свой марафон! — казаў Валодзя.— Пайшлі, возьмем па шклянцы «чарніла»!»

Аднойчы яго моцна дацялі пры Клаве, дзяўчыне, якая Сяргею падабалася. З ёю яны сябравалі яшчэ ў дзесятым класе. Цяпер Клава паступіла і займаецца ў гандлёвым вучылішчы. Можа, Сяргею трэба было больш настойліва запрашаць Клаву на танцы, але ён саромеўся свайго рэменя, які муляў пад сінтэтычнай куртачкай... Дружба з Клавай, як і з хлопцамі, халадзела. І вось, даведаўшыся, што Сяргею паўторна адмовілі, яна ўсміхнулася: «Чаму ты, Сярожа, імпартныя туфлі не абуў на высокіх

каблуках?» — «Дык там жа на камісіі рост не ўтоіш, патрабуюць разувацца, раздзявацца,— падхапіў хтосьці.— Нават штаны скідаць...».— «Ха-ха-ха!» — пырснула ад смеху Клава. «Добра, што ты ў гандлі і надзела боцікі на высокіх хадулях,— пакрыўджана адказаў Сяргей.— Баскетбалісту парай будзеш».

Якія нікчэмныя гэтыя сантыметры, што рашаюць лёс чалавека! Чатыры!.. Цяпер адзін!.. Сем міліметраў — і каля твайго прозвішча вырастае гарбаты пытальнік. Якая дробязь! Дробязь, калі параўнаеш з той мэтай, з тымі юнацкімі жаданнямі, якія нічым не вымераеш. Чым вызначыш даўжыню жорсткага цярпення, ці змераеш далечыню і вышыню пазірку ў прасторы нябёс? Прагнага, імклівага, натхнёнага... Ого, куды Сяргей дасягаў вокам! Колькі ён адолеў бягом і пешкі незлічоных кіламетраў! Крыўдна да болю. Адны яго ногі ведаюць... А вышыню паднябесся, якую не раз позіркамі пранізваў ён!.. На сёмых воблаках бываў у сне. Толькі юнацкія мары могуць прыблізна ўявіць тую адлегласць... Не, пакуль ёсць дужасць маладосці, яе намеры і надзея павінны збыцца!

Тэрмін мае пуцёўкі скончыўся. Пара было ад'язджаць, пакідаць шырокае рыбнае возера і гасцінны санаторый.

— Сяргей, хачу, як магу, табе памагчы,— сказаў я на развітанні.— Я чуў, сам чытаў у газеце, гэта ўжо дакладна, літоўскім медыкам удалося вынайсці унікальны прэпарат «гармон росту». Арыгінальны прэпарат, які памагае падрасці людзям. Называецца ён самататрапін. Доўга не ўдавалася атрымаць гэты гармон. Гадоў дзесяць назад гэты самататрапін быў выдзелены ва ўмовах заводскай лабараторыі. Цяпер асвоена яго вытворчасць. А гэта ж суседзі, наш гарадок з імі мяжуе. Мы зараз

на машыну і праз гадзіну ў Каўнасе. У Літве ў мяне ёсць франтавыя, вельмі блізкія сябры. Паехалі, Сяргей!

— Не! — рашуча адмовіўся ён.

— Чаму?

— Я шчыра дзякую вам, не!

Упартасць яго перамагчы не ўдалося. Сяргей даводзіў, што ў асенні набор ён усё роўна пойдзе ў армію. А там, з вайсковай часці, лягчэй трапіць у вучылішча. Ды, можа, і сівы падпалкоўнік не забудзецца на яго.

Развітваючыся, я прасіў Сяргея, каб ён паведамляў пра сябе. Я даў свой адрас і прасіў яго пісаць лісты.

...Але лістоў ад Сяргея не было. І мінула нямала часу. Я ўжо думаў, характар яго такі ці лёс — ліста не прышле...

Прыслаў!

Праз год прыслаў ліст, дзе ён апісваў, што, гадана — не гадана, апынуўся ў лётным вучылішчы. Яго надзея збылася.

Перапіска між намі, як і знаёмства, працякала павольна. На рэвалюцыйныя святы, на Новы год. Ды мне трэба было ўлічваць Сяргееву занятасць на вучобе. У кожным лісце я жадаў яму выдатнай баявой і палітычнай падрыхтоўкі.

...Пад старасць гады бягуць непрыкметна. Гэта ўсім пажылым і франтавікам добра вядома.

Не магу выказаць радасці, калі даведаўся, што Сяргей закончыў лётнае ваенна-паветранае вучылішча, збіраецца ў адпачынак і хоча прыехаць у родны гарадок.

Я сардэчна прасіў яго заехаць да мяне ў госці.

...І вось ён, Сяргей, у мяне на кватэры. Фуражка з залатой эмблемай пілота. Пагоны залатыя. Лейтэнант! У кіцелі, стройны, высокі. (Ці, можа,

гэта я стаптаўся?) На грудзях тры адзнакі: класнасць лётчыка, скачкі з парашутам і яшчэ якаясьці мцяпер мне незнаёмая адзнака ці ўзнагарода. Мабыць, лётчык-снайпер.

Вядома, мяне цікавіла ўсё: і сам Сяргей, і палёты, і як там яму на рэактыўным жадана лятаецца ў небе...

Пакуль жонка рыхтавала пачастунак, мы выйшлі на балкон нашага дзевяціпавярховага дома. На небе не было ні воблачка. Міжволі зірнулі ўгору. Зырка свяціла сонца. І ляцеў рэактыўны самалёт, пішучы срабрыстую палоску, роўненькую такую, як калісьці над возерам, дзе мы ўпершыню спаткаліся.

— Як там? — паказаў я ўгору.— Не забыў паветранае падарожжа ў Навагрудак?

Сяргей засмяяўся.

— Калі перафразіраваць Твардоўскага — за вышынёю вышыня... Прыгожа! Ведаеце, ноччу на зямлі агні гарадоў, а ў небе зоркі... Ляціш, і прыемна на сэрцы, цудоўна!

— Значыцца, не патухла юначая рамантыка? Любіш неба?

— Як вам сказаць,— усміхаючыся, прамовіў ён,— гэта ўжо — не любоў да неба, а любоў да палёту... Гэта ўжо не рамантыка, а штосьці такое... Ну, спачатку задавальненне закончаным палётам. Калі закончыш палёт, ведаеце, такая прыемная стомленасць... Задаволенасць, што дасягнуў, выканаў, патрапіў у цэль... Тэхніка ж мудрая. Вопыт! Пасля вучылішча ўжо не да рамантыкі... Баявая сталасць!

Сяргей быў увесь не той: не сярдзіты, не злосны, а вясёлы і гаваркі. Ён зрабіўся мужны і сталы, імклівы і спакойны.

— Калі падабаецца лятаць — ноччу ці днём?

— Ноччу. Ноччу сцішана. Наўкол прыгожа...

А днём, асабліва калі суцэльная воблачнасць, трэба заўсёды быць пільным.

— Дзе любіш лятаць? Над якой мясцовасцю — дзе лес ці поле?..

Адказ Сяргея мяне ўзрушыў.

— Люблю лятаць над Байкалам. Там летам сонца ледзь не цэлы дзень... А над Балтыкай — часта хмары ўнізе. Густыя, шэрыя, хмурныя...

— І гэту перамену можна адчуць, ну... усяго праз некалькі часу?

— А што ж тут такога? На рэактыўным, канешне!

Я, яшчэ раз паказваючы на срабрыстую палоску самалёта, здзівіўся:

— І ты так?

— Так!

— Не страшна там, на вышыні?

— Не! Вось тут, на балконе, калі стаіш на дзевятым паверсе, неяк страшна глядзець уніз... А ў палёце, не! Нічога не страшна.

Сядаючы за стол, я яшчэ ўспамянуў:

— Ну, а дзе падзеў рэмень з газырамі, як я празваў твой «патранташ»?

— Сыну падарую, каб насіў і яшчэ большы вырас.

ЗМЕСТ

**Аповесць**



---

Иван Иванович Громович

**Четыре сантиметра надежды**

Повесть, рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *І. І. Кананові*ч. Мастак *А. А. Смоліч.* Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Я. Ф. Харко*
ІБ № 2771
Здадзена ў набор 24.09.86. Падп. да друку 23.03.87. АТ 07581. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,32. Ум. фарб.-адб. 10,32. Ул.-выд. арк. 10,99. Тыраж 8500 экз. Зак. 2883. Цана 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.